№5 (126)
/верасень-кастрычнік/ 2023

# дзеяслоў

ЗМЕСТ

**Проза**

**Леанід Дранько-Майсюк.**
Хата і дом. *Проза з той кніжкі, якая можа быць.* / 5

**Віктар Казько.**
Бабка з сакрэтам. *З цыкла “Лёнькі, Ваські, Валодзькі”.* / 24

**Андрэй Федарэнка.**
Сцэнарыст. *Раман. (Заканчэнне).* / 66

**Міхась Зізюк.**
Шчарсоўскія сцежкі Адама Міцкевіча. / 127

**Фелікс Баторын.**
Баба Хайча. *Непрыдуманае апавяданне.* / 159

**Паэзія**

**Іна Снарская.**
Вясна прыйдзе! *Вершы.* / 16

**Сяржук Сыс.**
Ілюзія датычнасці. *Вершы.* / 59

**Алесь Дуброўскі-Сарочанкаў.**
Пешшу. *Вершы.* / 117

**Сяргей Чыгрын.**
Я за цябе буду маліцца. *Вершы.* / 154

**Дэбют**

**Алена Шаламіцкая.**
Шляхам адвечным, шляхам сваім... *Вершы.* / 163

**Пераклады**

**Франсуа-Анры Сулье, Мары Гюлля.**
Ровар дзеля свабоды. *П’еса. Пераклад Яны Гульцяевай.* / 168

**Мастацтва**

**Адам Глобус.**
Тата і мастакі. *Словы пра пісьменніка Вячаслава Адамчыка.* / 198

**Вытокі**

**Генадзь Лапацін.**
Варвара Грэцкая: “Пачытай мае песні... Ума набярэшся...” / 203

**Эсэ**

**Васіль Аўраменка.**
Чытаць ці не чытаць? *Пра “цяжкую” літаратуру ў нялёгкія часы.* / 229

**Юрась Зарэчны.**
Паэзія цішыні, *або Пра што маўчала Яўгенія Пфляўмбаўм.* / 233

**Сумоўе**

Анкета “Дзеяслова”.
**Усевалад Сцебуракa.** / 242

# проза



Леанід Дранько-Майсюк



...калі хочаш мець свой дах над галавою,
будзеш на яго і возам вазіць,
і ў торбе насіць...

## Хата і дом

***Проза з той кніжкі, якая можа быць***

*Прысвячаю сваймý бацьку Васілю*

**1**

Жанаты колішні чалавек, які да часу жыў у бацькі-маці або, тоячы прыкрасць у душы, блукаў па чужых кутках, ці не штодня думаў: «Хоць грошай бракуе, а будавацца трэба!»

А яшчэ ў яго і такая цвярдзела думка: «Хочацца спакою, а спакой можна прыдбаць у сваёй хаце...»

Абачлівы чалавек быў, ні ў што глыбока не лез і, як той дбайны бусел, адно яглі́ў[1] аб сваім кубле.

І ягоная клапатлівая жонка мела тое ж думанне.

Праўда, няпэўнасць палохала: «А як раптоўная нястача схопіць за каўнер! Што тады?!»

Так, нястача спрытная на ўсё, асабліва раптоўная, але розум супакойваў: «Трэба рабіць гэтак, як надумалі. Усё прыходзіць у свой час. А спакой даражэй за грошы!»

Гэта так, гэта ісціна (спакой даражэй за грошы!), але работу робяць грошы, грошы могуць амаль усё, нават ваду запаліць, але іх, каб вельмі, то і няма!

Грошы (колькі ўжо ёсць!) трэба глядзець гэтак жа, як пчаляр глядзіць свае пчолы, якія іншы раз разлятаюцца (калі без маткі?!) ва ўсе бакі, куды каторая, – шукай тады, някемлівы дурню...

Зрэшты, і дурань вучыцца, а раз так, то гэтыя чалавек і жонка не выглядалі на тое, што нехта дасць ім дзе жыць – самі будаваліся: як прынята казаць, ночы не спалі, узбіваліся на большую капейку, бралі пляц (пры гэтым і на тое зважалі, каб суседзі былі добрыя!), куплялі лес, прывозілі цэглу і сталярку, наймалі будаўнікоў.

І тут усё было важнае і неабходнае, і таму не проста цярпелі-чакалі, а цярпелі-чакалі з душою, бо лішне гаварыць: пакуль у сваю хату ўлезці – клопату ого колькі!

Жыццё ішло і паўз іх і праз іх – усяго накручвалася і такога, і гэтага; кажучы адстаронена, конь намульваў карак, свінню кароста ўкрывала, мак у макатры не цёрся, аднак жа, дзякаваць богу, сонца падымалася.

Нязменнае заставалася нязменным, і ў тым нязменным, звычайным, як і заўсёды, добрае шукала работу, благое з сярэдзіны тачыла нервы, а найбольш бліскаў страх: «Кішэня пусцее! Ці вытрымае?»

Грошы выходзяць, як іх ні прыціскай, таму хвілінаю страх ажно даймаў, каб на яго на́гла[2]!

Але роднае сонца вярталася, і трэ было нервы пільнаваць, як тых пчол.

І пільнавалі (што на душы крывянела – не паказвалі!), можна сказаць, рот сабе лапікам заціскалі.

А тым часам на пляцы ўвіхаліся і цесляры, і сталяры, і дахаўнікі́, і муляры, і тынкары – складалі сцены, крылі дах, устаўлялі вокны, вешалі дзверы...

А яны, чалавек і жонка, на вуліцы рабілі сыроўку[3]...

Прыходзіў пячкар, ляпіў печ і грубу...

А тады майстры ўрубвалі дубовыя лягары, клалі падлогу, слалі столь, тынкавалі...

Мінала лета, ішла восень, і з'яўлялася жаданае жыллё, і той ці гэты сусед зычыў радасным чалавеку і жонцы: «У сваёй хаце жывіце здаровыя!»

І хоць не бывае так, як здаецца, аднак жа ім, удачлівым, здавалася: з іхняй хатай неба над галавою змянілася!

## 2

Жылыя пабудовы ў Давыд-Гарадку здаўна падзяляліся на хаты і дамы, – знадворная розніца між імі кідаецца ў вочы і сёння.

Архітэктура хаты – падольная, гарызантальная; архітэктура дома – узвышаная, вертыкальная.

Хата нібыта ідзе па зямлі, дом нібыта ляціць у неба.

Але, нягледзячы на такую прыкметную адрознасць, іншы раз дом усё адно могуць назваць хатаю, а вось хату домам – ніколі.

Такая ўжо звычка склалася...

Доўгая, прысадзістая, з аканіцамі, ганкам, крыжам на шчыце, пад саламянай або чаротавай страхою, над якою, як праз рэдзь[4], невыразна цямнеў сціплага выгляду комін – гэта пастаўленая з дрэва хата.

У ёй магло яшчэ і падлогі не быць, а толькі гліняны ток, які, зразумела, не мылі, а мялі венікам.

Хата – з даўніны, а дом – з'ява новай гісторыі.

Кубічна ўзняты, высокі, без аканіц, з верандаю і, вядома, з падлогаю, знакам сонца на франтоне, пад бляшаным дахам, над якім віднеецца паглядны трывалы комін: так, гэта дом – драўляны, а часцей мураваны.

Шчыты хаты – два трохкутнікі, франтоны дома – дзве трапецыі.

Хата да вуліцы павернута шчытом, дом – схілам даху; зрэшты, бывала, што і хату да вуліцы ставілі схілам даху, а дом – шчытом, франтонам.

Амаль на кожнай хаце (не на доме!) значыліся намаляваныя на бляшках бусакі, сякеры, вёдры, капаніцы, драбіны (знакі яшчэ польскага часу!) – напамін кожнаму гаспадару з чым бегчы на пажар.

Вядома, хаты мелі не толькі саламяную або чаротавую страху, і тыя ж дамы стаялі не толькі пад бляшаным дахам – усялякія меліся дахавыя матэрыялы, так што занятыя ў Давыд-Гарадку былі не толькі страхары і бляхары, а дахаўнікі наогул...

Мілы мне гэты пералік – ток і падлога, ганак і веранда, шчыты і франтоны, крыж і сонца, чарот і бляха, страха і дах, дрэва і цэгла.

Словам, хата і дом...

Я жыў у хаце, жыў і ў доме, але толькі таму, што маленства маё пачалося і прайшло ў хаце, больш і пішу пра хату, і не даказваю, што ўсё добрае было раней!

Добрае і наперадзе чакае.

## 3

І яшчэ адна прыкметная адрознасць – хата мела простыя вуглы (на вуглах бярвёны заходзілі ў бярвёны, як пальцамі далонь у далонь!), а дом ставілі на роўны нямецкі вугал – ніводзін брус на вуглах не меў выступу, не вытыркаўся...

Памятаю: Давыд-Гарадок разбудоўваўся – тады скрозь патрэбны былі майстры, іх клікалі-зазывалі, як тых музы́каў на вяселле.

У розных канцах мястэчка адначасна чуўся вясёлы грукат і стукат – скажам, на Школішчах будавала брыгада Бондара, за Касеркаю завіхалася брыгада Шапецькі, у Лужку «горова́ла»[5] брыгада Шасцюка; у кожную такую брыгаду збіралася чалавек пяць, шэсць.

І хто б за іх работаю збоку ні глядзеў, хто б ні любаваўся іхнім спрытам, кожны ўсклікнуў бы: «Такія і сонца па галаве пагладзяць!»

Іншы раз кажу сабе: «Тое, што мінула, не знаю, як вярнуць, а да таго, што будзе, не ведаю, як ісці...»

Аднак жа, здаецца, і знаю, і ведаю, бо памяць падказвае і паказвае: вось на блізкім суседавым пляцы ляжыць лес; тут, на гэтай зямлі, толькі-толькі пачынаецца будаванне; расчырванелы і крыху ўстрывожаны сусед коратка і заклапочана (а каб жа ўсё добра было!) перамаўляецца з нанятымі работнікамі.

А на нейкім другім пляцы ў нейкую іншую пару чатыры мужчыны падважваюць брус, а два іхнія таварышы бараном габлююць дошкі на падлогу.

А на трэцім пляцы бервяно прыкладаюць да нізкага яшчэ зруба і, намеціўшы алоўкам што рабіць, здымаюць бервяно долу і сякераю выбіраюць у ім драчку – паз.

Гэта, калі так можна сказаць, адна драчка, а ёсцека драчка іншая, і каб яе абмаляваць, завітаю ў памяці на чацвёрты пляц.

Дык вось, на чацвёртым пляцы-агародзе зруб ужо вырас да вокнаў, і там брыгадзір загадвае: «Халімон, прыдраць трэба!»

Яшчэ адзін цяслярскі прыём!

З'яўляецца Халімон, прыкладае да драчкі (драўлянай лёстачкі з роўчыкам!) хімічны аловак і прыдзірае – гэта значыць, праводзіць па верхнім ці ніжнім бервяне рысу, або (калі трэба) робіць на абодвух бярвеннях дзве рысы, а пасля па гэтых рысах роўненька счэсвае («падлізвае»!) маленькай сякеркаю лішняе драўнянае валакно, і праз хвіліну якую бервяно прыстае да бервяна гэтак шчыльна, што можна сказаць, – ляжыць, як улітае.

А вось яшчэ адзін пляц...

Там ужо гатовы зруб, і з глыбіні яго разносіцца глухое і частае, адно за адным, пастукванне ясянёвай чакухі па ясянёвай канапатцы.

Гэта канапатчык ушчыльняе ў свежых сценах мох!

Зруб імшылі ў такі спосаб, што мох з пазоў больш звісаў у сярэдзіне зруба, чым знадворку, таму і канапатчыку больш работы было ў самім зрубе, а не з ягоных вонкавых бакоў.

## 4

Гэты нарыс невыпадкова я прысвяціў свайму бацьку Васілю.

Ён быў цесляром.

Ставячы хату, будуючы дом, умеў усё і мяне змалку прывучваў хадзіць каля сваёй работы і даваў мне работу.

Я слухаўся, запамінаў ягоную навуку, а найбольш мяне вабілі інструменты.

Змалку бачыў я ці не ўсе прылады цяслярскага і сталярскага рамяства.

Яны захоўваліся ў нашай, скажу так, цяслярні, займалі ў адрыне цэлы кут – вялікая сякера (і не адна!), маленькая сякерка, шархебель, струг, спуст, гэбель, адборнік, іншыя малыя гэблікі, фуганак, баран, зензубель, лучковая пілка, нажоўкі, падоўжная і папярочная пілы, долата, скобля, ціскі, цэ́нтэр...

Цэнтрам у нас называлі свердзел.

А яшчэ былі й цэ́нтрыкі – маленькія свярдзёлкі.

Усё ручное, нічога электрычнага – яшчэ ніякіх там электрапіл, электрарубанкаў, электрасвёрлаў!

Не кажучы ўжо пра электрамалаткі...

Кожны інструмент здаваўся жывым і нібыта спяваў сваю песню.

Усё было дагледжана, добра нагострана і ўсё было чыстае (а хоць бы дзе адна іржавая плямінка!), і ўсё іскрыста зіхацела, асабліва на сонцы – ажно вочы адбірала.

На паліцах я знаходзіў і канапатку з чакухаю, і драчку з алоўкам, і складны метр, і канапляны шнур.

Я трымаў гэты шнур, а бацька намазваў яго па ўсёй даўжыні вярбовай галавешкай і адбіваў ім простую чорную рысу па краях дошкі ці абкоранай калоды, і па гэтай чорнай лініі здымаў сякераю лішні слой дрэва.

А наслiненым алоўкам (ужо без драчкі!) выразна крэсліў, скажам, на белым брусе патрэбныя сабе чарнільныя меткі.

На тых жа паліцах ляжалі зашчапкі і завесы, клямкі і за́валкі, скобы і асялкі, малаткі і цыркулі, абцугі і напільнікі, навугольнікі і грунтвага.

А на падлозе ў скрынцы, пераплеценай дротам, н响ярка паблісквалі кароткія і доўгія цвікі; асобна ад іх ляжалі гантали – адмысловыя цвікі прыбіваць на даху гонту.

А ў мяшках чарнеў мох і шарэла клочча.

Сцены ў нас канапацілі не толькі мохам, ужывалі таксама і клочча – ільняную кастрыцу.

Мох дралі з «бэрэло́зу»[6], а клочча куплялі ў Альшанах, ці ў іншай вёсцы, дзе людзі перацiралі церніцамі лён, а значыць – заўсёды мелі поўна кастрыцы.

З маленства застаўся ў памяці і такі малюнак: пташкі выцягваюць клочча з пазоў і носяць у свае ку́блы[7]!

А вось мышы, здаецца, клочча баяліся...

## 5

Хату ставілі з сасновага дрэва, а часцей з больш таннага, чым сасна, алешніку.

Перад тым, як легчы ў зруб, алешнік некалькі гадоў мок у яме (былым глінішчы) ці ў сажалцы – дрэва цвярдзела ў вадзе, камянела, набывала ратунак ад шашаля.

Калі часалі такую алешыну, з-пад сякеры адшчэпліваліся, а то і адлётвалі чырванаватыя трэскі.

Даўней, зноў жа маючы брак грошай, жывучы до́дкі-нідо́дкі[8], людзі мусілі свае дамоўкі ўзводзіць не на цагляным падмурку (цэгла ж дарагая!), а на штандарах – на шасці дубовых слупках-калодках.

На нізкіх пляцах, якія вясной залівала прыбутной вадою, штандары ўкопвалі большыя, а на высокіх надзелах, да якіх разводдзе не даходзіла, скарыстоўвалі карацейшыя калодкі.

На штандары, лагі і падваліны-падрубы дуб вязлі з Турскога балоцістага лесу; часам бралі і з Мярлінскага лесу – праўда, гэты, мярлінскі дуб, цаніўся менш, бо рос на пяску і быў слабейшы за турскі.

Як і людзі, дубы таксама між сабою няроўныя...

На штандарах счэплівалі ніжні вянок зруба – падрубы (яны ж падваліны), і гэта было прыемнай адметаю таго, што гаспадар і гаспадыня ўвечары выстаўлялі гарэлку, частавалі майстроў; такое частаванне мела назву – справіць падваліны.

Тады нехта з мужчын, мыючы рукі, мог па-заліхвацку гукнуць:

– А п'яніцу добра і кропля!

Цесляры сядалі за стол, вынесены з адрыны, і з дарагой душою браліся за гранёныя шклянкі, у якіх ужо адсвечваліся першыя заранкі, а тым часам (і так не раз бывала!) маленькі хлопчык які, свой ці суседаў, падбягаў, дурэючы, да ніжняга вянка і мераўся з ім.

І што цікава: ці так яно задумвалася паводле цяслярных разлікаў, ці проста выпадала так, але ніжні вянок амаль заўсёды быў у рост хлопчыка.

## 6

А работа не стаяла, ішла сабе далей.

Абчасаўшы пад чорны канапляны шнур альховыя бярвенні, прыладжвалі першы вянок на дубовыя падрубы.

Заўважу: за дзень звычайна клалі адзін вянок.

Цэнтрам з натугаю, дзвюма рукамі, свідравалі адтуліны і тэблявалі – то-бок, забівалі ў адтуліны смаловыя тэблі.

У такі спосаб алешыну змацоўвалі з дубам, і, забягаючы наперад, скажу: гэтак жа (тэблямі!) злучалі бярвенне ў зрубе да апошняга вянца...

Зруб рос, і яго не забывалі імшыць.

Калі раптам выходзіў мох, ці з нейкай прычыны зусім не было моху, ужывалі, як ужо гаварылася, клочча, а бывала: кажучы звыкла, пускалі ў дзела і мох, і клочча.

Зарэ́звалі (рабілі!) простыя вуглы (ставілі ж хату, а не дом, таму – паўтаруся – й вуглы простыя!), – і маглі пры гэтым пакпіць з гаспадара: «Што́, вуглы на хату ў торбе нанасіў?!»

Але такія кпіны ўсё адно як пахвала.

Калі хочаш мець свой дах над галавою, будзеш на яго і возам вазіць, і ў торбе насіць!

Інакш нельга, бо калі інакш, – тады нічога не будзе.

Памятаю аднаго нашага дзядзьку: ён рабіў у леспрамгасе і штовечар, ідучы з казённага лесу, нёс на плячы кароткую калодку ці пук жэрдак.

Так за некалькі гадоў і нанасіў-нацягаў на сваю новую хату калі не вуглы, то ўсе ўнутраныя перагародкі.

## 7

О, каб жа не страціць розум...

О, каб жа не згубіць грошы...

Калі багата клопату, неспакою, то, напэўна, яно й думаецца гэтак, і тое добра, што гэтак думаецца – душа ўсё ж яснее, менш ные, а гэта шчасце.

А яшчэ і такое бывае шчасце – ведаць, што далей будзе добра...

Калі сцены падымаліся пад вокны, гаспадары зноў даставалі гарэлку.

Гэтае частаванне мела назву – «оке́ннэ»!

Яшчэ адна зручная хвіліна, каб даць свайму абліччу выраз прыкметнай асалоды.

А вось надыходзіла і тая памятная гадзіна, калі вакол зруба ставілі рыштаванне.

Работа йшла ўверсе, і над пляцам нібыта большала святла.

Паміж вокнамі цесляры, гаворачы па-іхняму, закідвалі самі́нцы (малыя бярвенцы!), а над вокнамі пускалі суцэльнае бервяно – «ошла́п».

І як толькі з'яўляўся «ошла́п», з рыштаванняў чулася раздольна ажыўленае:

– Ошла́пілі!

Будаўнікі тым самым нібыта ўзводзілі гаспадара і гаспадыню на патрэбную думку пра трэці, таксама шчодры, пачастунак – «шлаповэ́»!

Зрэшты, і без іхняга знарочыстага гукання «шлаповэ́» тут жа аздабляла ўвечары стол.

Гаспадар цешыўся: калі ўсё добра, той хай такім і далей будзе!

Гаспадыня радавалася: там, дзе робім, там і спакойна!

А яно, брахаць не буду, паволі-паволі й было такім – і добрым, і спакойным, таму прыходзіў дзень, а з ім і апошні (трынаццаты!) вянок – «ву́пуст».

## 8

Зруб на трынаццаць вянкоў – хата нізкая.

Мелася ў гэтым і выгада, свая рахуба.

Рахуба ў тым, што такая хата (з нізкімі дзвярмі і малымі вокнамі) зімою была цёплая; у такой хаце пад яе нізкаю столлю зімою ад печы і грубы заставалася больш цяпла, чым у высокіх дамоўках.

Але наогул жа вянкоў у зрубе магло быць і больш, гэта як у каго – пятнаццаць, напрыклад.

Пры гэтым варта памятаць: колькасць вянкоў часам залежала і ад шырыні (таўшчыні!) бярвення.

І тут арыфметыка простая: вузейшы брус – больш вянкоў, шырэйшы брус – вянкоў менш.

Дарэчы, габрэі ў Давыд-Гарадку выводзілі зрубы і на сямнаццаць, а то і на дзевятнаццаць вянцоў.

Таксама і тут была свая рахуба, – ноччу лягчэй дыхалася, цяжкі дух знізу падымаўся да высокай столі, а чыстае халоднае паветра адтуль, ад столі, ішло ўніз да падлогі...

Дык вось, трынаццаць вянкоў, пятнаццаць, сямнаццаць, дзевятнаццаць...

Любілі ў Давыд-Гарадку няцотны лік!

У нарысе «Боб-садун» я гаварыў, што калісь і пад квактуху клалі няцотны лік яек (сем або дзевяць), пэўныя ў тым, што з цотнага ліку квактуха куранят не выведзе.

І калі вясною садзілі той жа боб-садун, то ў кожную ямінку апускалі ці тры бабіны, ці пяць бабін, а не чатыры, напрыклад, ці шэсць, бо зноў жа верылі: менавіта няцотны лік зярнят лепей узыходзіць...

«Ву́пустам» завяршаліся чатыры сцяны зруба, – вулічная, падоўжная, плечавая і дваровая.

Наверх майстры ўсцягвалі бэлькі.

Калі бэлькі (ці балькі) былі пастаўлены, то зноў жа ўзнікала шчаслівая хвіліна, бо майстроў клікалі на чацвёртую чарку – «бальковэ́»!

## 9

Уверсе будаванне йшло і спарней, і весялей, і, сапраўды, неяк святлей, – прынамсі, так мне здавалася.

Зрэшты, не, не здавалася, напраўду ўсё рухалася і весялей, і святлей.

Усё ж пілы і сякеры, цэнтры і нажоўкі, і ўсялякія іншыя прычындалы няхай толькі на вышыню рыштаванняў, а да сонца бліжэй былі, таму адбівалі яго ярчэйшым агнём і давалі душы бо́льшую радасць.

Ці не спрадвеку яно так: чым вышэй, тым ярчэй...

Успамінаю і свайго бацьку: вось ён малады стаіць на высокім рыштаванні і, сціснуўшы тапарышча ля абуха, гострыць сякераю хімічны аловак, а сонца вакол ягонай галавы, нібыта німб...

Паміж бэлек на рэйках цесляры слалі «чорнопо́л» – аснову столі; на спод пускалі добрыя дошкі, а на верх аполкі; верх «чорнопо́лу» гаспадар пасля засыпле тырсай, кастрыцай або замажа глінай, таму сюды гадзіліся абы-якія дошкі.

Падлогу таксама ж масцілі на «чорнопо́л», так што ў хаце, гэтак заўважу, было два «чорнопо́лы» – ніжні і верхні.

Гэта як у той колішняй сарочцы – і ніз палатняны, і верх такі, абы даўжэй насілася!

Паміж бэлек па «чорнопо́ле» можна было хадзіць без апаскі – гэта ж не вузкія рыштаванні – і вось, вольна ходзячы, майстры садзілі на канцы бэлек мурлаты, а на мурлаты ставілі альховыя ці смаловыя кроквы.

Каб тыя кроквы не «танцавалі» ці – крый божа – наогул не раз'ехаліся, іх надзейна ўмацоўвалі путамі – адмысловымі планкамі, міжволі ператвараючы кожныя дзве кроквіны ў літару «А».

А тады ўпоперак на кроквы прыбівалі доўгія латы і браліся за шчыты.

Хата нібыта за ра́з набывала стромкую завершанасць, і свежы чалавек, які здараўся на вуліцы, тут жа падымаў галаву, глядзеў, здзіўляючыся: «О-о-о...»

Цесляры – у кожнага за халяваю складны метр, у роце тры, а то і чатыры цвікі, а за вухам аловак – зашывалі шчыты такімі ж, як і кроквы, альховымі або смаловымі дошкамі.

У шчыце, які ад вуліцы, пакідалі адно ці два акенцы, а ў тыльны шчыт устаўлялі нізкія дзверы – ход на хату, на ву́шкі[9].

## 10

Колішнюю хату крылі праві́цаю – прамой жытняй саломай або чаротам; саламя́ную і чаротавую страху па ўсёй даўжыні вільчыка прыціскалі прыкла́дзінамі – козламі; пры́ніцамі ж (лазовымі дубцамі) прывязвалі чарот і салому дзе да крoквіны, а дзе да лаціны.

Крылі таксама гонтаю – пры гэтым гонціну да гонціны іншы раз падганялі гэблікам.

Гонту часцей за ўсё дастаўлялі Прыпяццю і па Гарыні з блізкіх Сінкевічаў, іншы раз вязлі і з Мікашэвічаў, але адтуль па той жа Прыпяці і Гарыні ляжаў больш доўгі водны шлях.

У Сінкевічах і Мікашэвічах былі гантоўні, у якіх ля гантарэзак пільнавалі свой хлеб гантаўнікі.

А яшчэ для накрыцця ўжывалі і смаловую дранку, па якую ехалі ў Рубель, Цераблічы ці Аздамічы.

Цікава й тое, што ў тых жа Цераблічах жылі не толькі дра́ннікі, жылі таксама і рагожнікі, так што акрамя дранкі можна было для новай хаты прыдбаць і новую рагожу, а то і некалькі рагож.

Карціны колішняга жыцця і такія – рагожу слалі ў сенях, а ў хаце рагожай засцілалі падлогу ля парога, на рагожах нават спалі, а ўзімку дзеці, якія не мелі саматужак, нішкам, каб не ўбачылі бацька і маці, выносілі з хаты рагожу і коўзаліся на ёй з гары.

Дык вось, жытняя салома, чарот, гонта, смаловая дранка – усё, як і скрозь, і ўсё, як і скрозь далей (калі гаварыць пра дом!) – і ўжо называная бляха, і тая ж чарапіца, і, вядома, шыфер.

Да слова сказаць, калі гонтавы дах трэ было перакрыць шыферам, то гэты шыфер пускалі іншы раз паверх старой гонты, і такі дах быў даволі цяжкі, але кроквы з латамі заўсёды вытрымлівалі.

З лёгкага матэрыялу мелася па́па – так у нас называлі толь; праўда, па́паю больш крылі адрыны, але бывала і хаты.

Калі дах зроблены, вокны-дзверы ўстаўлены, печ і груба злеплены, комін выведзены – можна жыць!

Канец будаванню!
«Окончы́ны»!
«Доро́бшчына»!

## 11

Шчаслівыя гаспадар і гаспадыня апошні раз весела запрашалі за стол усю брыгаду, каб адсвяткаваць «окончы́ны», каб справіць «доро́бшчыну»; плацілі за работу шэсць тысяч парэформенных рублёў[10], – прыблізна за такія грошы тады і можна было паставіць хату!

А па разрахунку, які ўсіх зазвычай задавальняў, застольная гаворка ладзілася як найлепей і лёгка бегла ва ўсе бакі.

Першы хвацкі расказнік напачатку цаляў дробнымі пад’ялдычкамі то ў гаспадароў, то ў сваіх аднабрыгаднікаў, а тады раптам расказаў пра нейкую хітрую вараняку, якая адразу не магла раздзяўбці кавалак скамянелага хлеба, але здагадалася размачыць яго ў калюзе – зрабіла так, як робіць старая баба, у якой зубоў няма!

А другі расказнік сыпаў таксама, нібыта серп зубіў:

–...я пэрэстрэў ёго на своёй сыно́жаці і кажу: скідай з воза сено, ты мое сено ўкраў... Ні скіну, кажэ, бо я ёго ні краў... Як гэто ні краў, кажу, ты ж ёго з моёй сыно́жаці забраў! Шчо́, я свое сено ні знаю?!. А вон мне: я твого сена толькі трохі ўзяў под сраку подкласці, коб мякчэй на возі було ехаць... Тоды я ёму кажу: добра ў цабэ срака, шырока, з такою здоровой сракою можна сено ні робіць, а корову дзаржаць...

«Га-га-га!» – смех разлягаўся ад Казанскай царквы да Закаморскай.

Цікава святкаваць «окончы́ны», цікава спраўляць «доро́бшчыну»!

У людзей быў настрой гаварыць пра ўсё і пра любое дзіва, і гаварылі...

І трэці расказнік быў здатны на язык, ён даставаў з-за халявы складны метр, чухаў ім у сябе за каўнерам і ўспамінаў, як будаваліся за польскім часам у Мерліне.

Спілоўвалі вялізны дуб і, ставячы хату, гэтак прымяркоўваліся, каб шырокі дубовы пень круглеў пасярэдзіне зруба.

Пень падлогаю не закрывалі, наогул ніякага дашчанага насцілу ў хаце не было – толькі гліняны ток.

Дубовыя карані давалі цяпло, мяккаю зімою можна было нават і ў грубе не паліць.

Хто верыў трэцяму расказніку, хто не (як гэта і ў грубе не паліць, і холадна не будзе?!), а ён яшчэ больш здзіўляў, даказваючы сваё, – у такой (мярлінскай!) хаце і дзвярэй не было.

Замест дзвярэй служыла тоўстая рагожа, і зноў жа зімою ў такім мярлінскім жытле было цёпла!

О, як!

Хіба не дзіва?!

– Прыклёп коляда́[11]! – за сталом гулі, як у ступе таўклі.

Нагаварыўшыся і наслухаўшыся, развіталіся...

– Не хата, а кляштар! – паказвалі майстры на сваю работу.

– І драч ні трэба! – згодна ківалі ім гаспадар і гаспадыня.

## 12

«Не хата, а кляштар!» – так гаварылі, калі хвалілі хату.

«І драч ні трэба!» – так мовілі, калі любаваліся яе сценамі.

Майстры пайшлі, і на гэтым пляцы пачыналася іншае жыццё.

Мінаў час.

Яны (гаспадар і гаспадыня!) былі разам і ў мілаванні, і ў сварцы, таму і новая хата іхняя была жывая, і самі яны былі разумныя.

І што ім да таго, калі ў свеце рабілася шмат неразумнага, што нехта сцягваў на сваю галаву няшчасце?!

Хай сабе.

Пакуль дзеелася ў свеце паганае, яны ставілі хату, як гару падымалі!

І от паставілі, паднялі тую гару, хоць і баяліся, што грошы, як іх не прыцііскай, хутка выйдуць, аднак жа яны, чалавек і жонка, «уму́ліса» – то бок, гатоўкі ім хапіла.

І яшчэ мінаў час, і зноў жа яны не сядзелі, каб адно сядзець, рукі склаўшы – усё занятыя былі!

Пасля майстроў і год, і два, і тры каля новай хаты круціліся – то трэ было прызбу насыпаць, то (калі кішэня большала!) з Альпенскай цагельні гартоўку[12] прывезці і, разабраўшы прызбу, паміж дубовых штандараў зрабіць падмурак.

А то свежы падмурак закрыць новай прызбаю – яно і так бывала...

А яшчэ хацелі, каб знадворку іхняя дамоўка як цацка выглядала, таму шалявалі яе...

А што́, калі смутак набягаў?

– Нейкі дзень не такі! – уздыхаў тады гаспадар.

– Дзень такі! – папраўляла гаспадыня. – Гэта мы сёння нешта не такія!

Умела сказаць, а ён умеў слухаць, і ён умеў сказаць, і яна ўмела слухаць, а разам ведалі, што рабіць – вяртацца да таго, як было.

І вярталіся.

Колішнія людзі.

Гэта я ўжо не толькі пра герояў свайго нарыса.

Менавіта колішнія, бо верылі ў тое, што авёс бяжыць, а гарэлка гаворыць.

Падлогу малявалі, ніткі васкавалі, проса мялі на таку босымі нагамі, зімою шылі боты, вясною прадавалі ў далёкіх местах лёды[13] і, прыехаўшы дадому, фарбавалі цыбульнікам велікодныя яйкі...

У Вялікую суботу насілі іх у царкву свяціць, а на першы дзень Вялікадня старым бацькам прыносілі паску, – і ніколі хваробу (гэта значыць, непатрэбны клопат!) на сваю галаву не шукалі.

Заўсёды мелі патрэбны клопат, з якім у сваёй хаце, у сваім доме толькі і можна прыдбаць спакой.

«Дакуль трэба жыць?» – пыталіся, і адказвалі: «Жыць трэба да смерці!»

І да смерці спакойныя былі, бо работу любілі больш, чым саміх сябе – гэтаму і дзяцей вучылі.

Колішнія людзі...

Адно аднаму не саромеліся казаць у вочы праўду і праз дакоры, плач, лямант, лаянку былі бліжэй да праўды, чым праз малітву.

А то і зусім забывалі пра свае несамавітыя дакоры, плач, лямант і лаянку і прыслухоўваліся да таго, што раптам прачыналася ў душы, і пачыналі святлець:

«...калі разумны скажа: «Ты дурань!» – не злуйся, прымі спакойна пачутае.

І калі дурань гэтак жа рэкне пра цябе, таксама не гневайся.

Не слухай, што гавораць – глядзі, якую работу робяць.

Вучыся не злавацца, вучыся маўчаць і не гаварыць насторч.

А калі, злы на ўсіх, захочаш раптам закрычаць – крычы, толькі моўчкі, нячутным шэптам і самому сабе...»

Гэтаму навучыла свая хата, гэтаму навучыў свой дом.

*8 ліпеня 2023 г., субота, 16 гадзін 21 хвіліна; Менск –*
*30 ліпеня 2023 г., нядзеля, 16 гадзін 40 хвілін; Менск.*

---

[1] Яглі́ў (*давыд-гарадоцкае*) – вельмі хацеў.

[2] На́гла (*давыд-гарадоцкае*) – смерць.

[3] Сыроўка (*давыд-гарадоцкае*) – неабпаленая цэгла.

[4] Рэдзь (*давыд-гарадоцкае*) – рыбацкая сетка.

[5] «Горова́ла» (*давыд-гарадоцкае*) – вельмі шчыра працавала.

[6] «Бэрэло́з» (*давыд-гарадоцкае*) – вербалоз.

[7] Ку́блы (*давыд-гарадоцкае*) – гнёзды.

[8] До́дкі-нідо́дкі (*давыд-гарадоцкае*) – вельмі бедна.

[9] Ву́шкі (*давыд-гарадоцкае*) – гарышча.

[10] Паводле грашовай рэформы ў СССР 1961 г.

[11] Прыклёп каляда́! (*давыд-гарадоцкае*) – так гаварылі пра чалавека, які сказаў нешта дзівацкае.

[12] Гартоўка (*давыд-гарадоцкае*) – абпаленая цэгла.

[13] Марожанае.

Іна Снарская



...дзея з надзеяю
на перамогу...

# Вясна прыйдзе!

### *МУЗЫКА*

Адчыняю вакно ва ўсю шыр –
няхай у сад ліецца музыка...
і змерзлыя галінкі ажываюць,
і адроджваюцца кветкі,
і прачынаюцца пчолы...
няхай на імгненне,
няхай толькі на імгненне,
але гэта – агонь вечнасці,
вось сарцавіна...
і тады я выслізну
са сваёй вужынай скуры,
вузкай і шурпатай,
няхай пачакае ў кутку, –
танчу, танчу

пад музыку Шапэна,
пакуль гучыць музыка,
я лётаю птушкай,
дыхаю водарам кветак,
і кожнае пёрка зіхціць на сонцы...
пакуль гучыць музыка Шапэна,
пакуль свеціцца трава...

*16.01.2022 г.*

* * *

Падземныя рэкі ў нябёсах цякуць,
Сардэчныя сокі надзеі п'юць.
Вусцішна паўтараю «ау»,
Пёрка ляціць з аблачын на траву
Леташнюю, засмяглую,
Высыхаю ад смагі я.
Усе мае рэкі і вадаёмы –
Струменьчыкі незнаёмыя. Стома.
Тонкая, нібы нітачка,
Сардэчную грэю вытачку:
Ці прыйдзе вясна адтуль,
Дзе неба птушыных матуль?

*23.01.2022 г.*

## *НАДЗЕЯ*

Перад Вялікаднем мыю вокны,
як рабілі мая бабуля і маці, –
сонца няхай абцалуе хату,
каб жыць тут, доўга жыць.

На праменьчыку красы, чысціні
і нават немагчымага,
кажу вайне: «Не!»

Так рабілі мая бабуля і маці,
так раблю я.

Дзея з надзеяю на перамогу.

*22.04.2022 г.*

### ***ТОЛЬКІ ЖЫВІ!***

***1***

Ты прыйшоў на захад сэрца,
я на ўсход тваёй пяшчоты,
і цяпер не будзе смерці,
вер мне, любы, лётай, лётай!

А на захад – мілавіца,
а на ўсход – гарачы золак,
вер мне, любы, сцежцы віцца
цераз неба, аж да зорак.

Цераз вецер, цераз вечнасць
знішчу змрок, дапамагу:
я табе свячу як свечка,
у акенцы, скрозь тугу.

***2***

Будзе стаяць наша хата,
шчасце у ёй і свята,
світанак нішчыць тугу, –
да цябе я бягу.

Я паспею, вер мне, паспею,
бо крыжык надзела нацельны
і валасы ўкрыла мірам,
як Марыям, мілы мой.

Каб выраслі нашы дзеці
і мір панаваў на планеце,
да цябе я бягу,
бягу цераз ноч і тугу.

*17.05.2022 г.*

**** * ****

Слухаю музыку Гайдна,
побач кніга вершаў Марыны,
за вакном аблятае квецень...
і няма ў свеце смерці.

Боль свой схаваю ў далоні,
каб гарэла свечка грамнічная,

не віна – толькі бяссонне,
не вайна – толькі птушкі бяздомныя.

Марыначка, пасядзі са мной побач, –
заспяваем, заплачам...
Вершы – ад слова «вера»,
ды кожнаму Авелю – Каін прызначаны.

Ападаюць з вішняў пялёсткі
і адцвітаюць яблыні...
бачу... не плачу... але... ці прабачу?

Бог мой – бераг спакою...
Музыка. Вершы. Зара над ракою.

*9.05.2022 г.*

## ***ЛАНДЫШЫ***

Збіраю ландышы – чысціня і святло,
наталяюся пахамі – сонечнымі, святочнымі.
А за вакном вые сірэна і цвіце бэз,
такое неспадзяванае паяднанне.
Сэрца маё ўжо не плача, і жывыя ўсе, хто пайшоў.
Стаўлю букецікі ў кожным пакоі-спакоі,
як рабіла некалі ў дзяцінстве.
Родныя душы, ляціце сюды,
я вас не чую, але адчуваю...
І змаўкаюць сірэны, і пахнуць кветкі,
і няма вайны.

*11.05.2022 г.*

** * **

Заплюшчваю вочы, яшчэ раз заплюшчваю,
нібы снюся сама сабе:
там неба... такое глыбокае неба
нада мной, пада мной і ўва мне...
Ці ўратуюць душу маю вершы?
Разрэджаны подых вяршыняў,
сасновы пах лесу...
Няўжо гэта толькі сніцца?
Але я не герой, зусім не герой,
хоць і назвала сябе гарой,

я проста плыву ў чаўне адным
з краінай маёй, сям'ёй...
Разрэджаны подых вяршыняў
і васількоў у жыце...
Вось толькі гэты сон, што з ім рабіць:
на полі ляжыць салдат забіты і ўглядаецца ў цішыню.

*24.05.2022 г.*

* * *

*Калі пачынаецца паветраная трывога,*
*першымі пачынаюць званіць званы...*

Мы з табою пабрацімы,
Пабрацімы па вясне.
Горкі крыж маёй Радзімы
Прабіваецца і ў сне.

Родны крыж маёй Радзімы,
Адпяяная вясна...

* * *

Пчолы збіраюць ліпавы мёд,
рэчка грае на гуслях чароту,
чайкі кружацца над вадой...
але далёкія выбухі зноў і зноў
нагадваюць пра непрыроднае.
вочы мае ўглядаюцца ў далеч,
вушы ўслухаюцца...
плыву, плыву, плыву...
толькі калі я рыба,
не думаю пра вайну.

*20.06.2022 г.*

* * *

Крылы дажджу.
Прага жыцця.
Сеў на мяжу
Шэры бацян.

Цягнецца ўздоўж
Шнар ці ралля.

Месяц, як нож.
Стогне зямля.

Птушка-бацян,
Ціха хадзі,
Нечы сынок
Спіць на мяжы.

*22.06.2022 г.*

* * *

Кожны дзень прамаўляю да кветкі:
– Сніся мне, высь мая!
– Гэта ж я! – абдымаю вецер.
Вечар. Пад нагамі гарыць зямля.
Зялепухі ў садзе збіраю ў падол, –
Так рана яны паспяшылі да каранёў...
Птушыныя спевы, і сад, і дол
На крылах трымае мой сумны анёл.

*28.06.2022 г.*

* * *

Ляжу на спіне,
гляджу ў неба на ўзроўні травы,
скрозь траву...
станаўлюся кветкай і мурашкай,
якая паўзе па сцяблінцы...
мая палянка... мая...
усё, як і раней,
толькі птушкі чамусьці не спяваюць, –
недзе далёка за лесам,
за маім шчасцем, якое і не ведала,
што яно шчасце,
ка-на-на-да...
раней я баялася толькі грому й маланкі,
ставіла грамнічную свечку на падваконне,
як вучыла мая бабуля...
што ўратуе цяпер?
хто ўратуе?..

*4.06.2022 г.*

* * *

Ратуюся ў палях, нібы ў далонях маці,
Лячу, лячу... адчуй мяне, адчуй.
Тут белай хаты адзінокі страцім
На веях вербы сцішана начуе.

Пачуй мяне, калі дрыжыць трывожна
За сінім даляглядам далячынь,
І кожны крок па вечаровай пожні
Як падарунак дзвюх маіх айчын.

*13.07.2022 г.*

* * *

Там, у сне, ручнік радзінны
На стале і ля вакна.

А вясне такой дай, Божа,
Моцы дай і зберажы,
Каб сірэнай той трывожнай
спавіваць хаця б дажджы.

Спапяліць варожых крукаў,
Адрадзіць маю зямлю,
Каб званоў кляштарных гукі
Прамаўлялі: «Я люблю!»

*29.05.2022 г.*

* * *

А гэты верш я назаву – світанак,
Свяці яму, стамлёнаму ў дарозе,
Калі надзея сцішыцца ў аблозе,
І азвярэе час, і зверам стане.

Свяці яму, світанак! Птушкай ночы
Я прылячу, амыю яго раны,
І сем замкоў надзею не сурочаць,
Бо так узнёсла зацвілі каштаны.

*1.06.2022 г.*

## СЯСТРОНКІ

Вёска Сястронкі – вось жыцця,
высь мая, гэта ж – я,
вось стаю, паглядаю здалёк,
лёгкая сярод васільковых палёў.

Проста здымак маленства: лета, я...
чорна-белаю стала мая зямля,
бо гаруе громам разам са мной,
пашаю дыхае агнявой.

Шмат чаго яшчэ сказаць трэба...
ці пачуе... адчуе неба?
Трэсачка з дзіцячага трэбніка
роднай старонкі... Сястронкі.

*5.06.2022 г.*

## ВЯСНА ПРЫЙДЗЕ!

Адзін знаёмы пажартаваў:
– Усе твае вершы пра птушак,
можа, ты арнітолаг?
Сказаў з усмешкай,
нібы пра дзіцячую цацку-забаўку,
але мая птушачка сціснулася ад сцюжы,
падагнула пад сябе ножкі
і крыльцы разгублена склала.
Як жа мала паветра цяпер для палёту, –
усё пра вайну, вайною, на вайне...
Прывольна лётаць у дзяцінстве і маладосці,
а як жа цяпер? калі... калі... калі...
Ёсць рэчы, пра якія не хочацца гаварыць
і нават маўчаць.
Проста слова...
проста кінутае бяздумна слова...
А птушачка змаўчыць,
схавае крыльцы, сцішыцца, заінее...
але ўсё роўна дачакаецца вясны!
Вясна прыйдзе!

*10.01.2023 г.*

Віктар Казько



...трэба
чакаць
цуд...

# Бабка з сакрэтам

***З цыкла "Лёнькі, Ваські, Валодзькі"***

## 1. ЗАЧАТАК

### На падаконніку

Пасярод лета я стаю на падаконніку, усім целам прыліп да крыжа рамы. Лобам упіраюся ў нечакана гаючую прахалоду шкла. Хачу галавой разбіць яго. Але з усёй моцы стрымліваю сябе. Аднекуль ведаю – гэтага рабіць нельга. Небяспечна. Невядома, што першым трэсне: лоб ці шыба. І каму будзе больш балюча.

Хоць мне і так баліць. Усе мяне кінулі, усе адмовіліся ад мяне. Я адзін на белым свеце. Нават кот сышоў, зашыўся пад печ і хваста не кажа. І не трэба. Я хачу бачыць не ката, а чалавека, хачу людзей. Але іх анідзе няма. Ні ў хаце, ні на падворку і нават на вуліцы. Адразу апусцела ўся зямля. Усё навокал сумна зморшчылася і аціхла да таго, што я адчуваю як недзе ўсярэдзіне мяне нараджаецца, закіпае

і просіцца сляза. Ды такая горкая, кожнае імгненне гатовая прарвацца і заліцца плачам.

Толькі я трымаюся. Не такі ж дурны, цямлю, нявapтa плакаць, калі гэтага ніхто не ўбачыць і не пачуе. Нягожа плакаць толькі для сябе, непрылюдна. Калі б хоць хто-небудзь побач, я паказаў бы сябе, яны б зведалі мяне. А ў адзіноце, без мамы, бабы і ката паблізу, плакаць безнадзейна. Адзін я, адзін, і бацькі няма. Мо я пры ім і не заплакаў бы. Але ён далёка. Я дасведчаны, і не без гонару даводжу кожнаму, хто пытаецца, дзе ж ён. Нават немцам у вайсковай форме і пры зброі: бацька ў лес пайшоў, у партызаны. Яму вінтоўку далі, ён страляе і немцаў б’е. Вайны для мяне не існуе, мы з ёй аднагодкі, равеснікі.

Баба і мама спецыяльна пакінулі мяне аднаго ў хаце, каб я паразумнеў і не блытаўся ў іх пад нагамі. Не вымагаў свайго языком. Але чым я правініўся, што я не так зрабіў сёння? Чаму яны сёння са мной так? Баба ж сама яшчэ зранку паведаміла:

Скора ўжо гарох у гародзе паспее.

На такія рэчы і словы я чуйны. Адразу ж макітру вушкамі да сонейка. Таму што нічога не ведаў аб гаросе, што спее сёння ў агародзе. Сухі і вароны перападаў. А вось каб спелы, з грады і не ў куляшы ці зацірцы... І я гадзіны са дзве, а мо і цэлую адну гадзіну з горам напалам памоўчваў. А потым, як папікнула баба, сляпіцай прычапіўся да яе і мамы:

– Як там наш гарох? Скора ўжо прайшло. Не паспеў гарох?

– Не, яшчэ не, – адказвалі мне спачатку з усмешкай нават. Хвіліну-другую рот у мяне быў на замку. А потым я пачынаў зноў і здалёку:

– Як там наш гарох?

– Спеліцца, спеліцца, – разумна і па-людску даводзілі мне. Але хутка іх як падмянілі, пачалі злаваць суладна і, як заўсёды, галасна пакрыкваць у два-тры словы:

– Колькі табе казаць. Ды не ж яшчэ. Не!

Далей – болей. Пачалі тупаць на мяне нагамі ды выразна і аднaзнакава пазіраць у камешнік на камяню з ёмкай і дзяркач. А я ўсё роўна прагнуў гароху. Спелага, са свайго гарода. Неадкладна. Ён жа апоўдні ўжо спеліўся. І хто-небудзь іншы можа яго паспеліць. І ўсё: дзень добры і бывай, мой гарох.

Першым ацураўся мяне кот, таму што я забыўся з ім гуляць, не пацвельваў матузком з паперкай, нават не выкарыстоўваў замест цёплага і мяккага каўняра на шыю сабе. Не выключана, што ён быў рады гэтаму і знайшоў сабе хованку. Баба з мамай трывалі мяне долей, хаця таксама, як і кот, няўдзячна. Пазбягалі набліжацца да мяне, сыходзілі і знікалі ў самым нечаканым месцы. Але я паслядоўна адшукваў і выкорпваў іх адусюль.

– Вох, каб цябе з тваім гарохам... Ад гароху будзеш ср...ць патроху, – напоўніцу выказалася баба і знікла няведама дзе, толькі не ў хаце. Следам за ёй ступіла за парог і мама. І я застаўся зусім сірата. Без родных бабы, мамы і без надзеі на скоры спелы гарох, таму што мяне замкнулі ў хаце. Жаліцца некаму і плакаць не мела сэнсу. На практыцы зведаў: наша хата з вуліцы не праслухоўваецца.

Тады я і падзерся на падаконнік. Далося мне гэта надта і надта цяжка. Спачатку ж трэба было так-сяк ускараскацца на лаву каля вакна. Я даставаў да яе верху толькі падбародкам, таму вымушаны быў перакуліць вядро. Добра, што толькі напалавіну з вадой і пустое ўжо падцягнуць да лавы.

Але прыступка з вядра атрымалася няўстойлівай, хісткай. Вушкі і дужка шкодзілі. Тады я ўзяўся за чыгун, прыкаціў яго да вядра, перакуліў. Лёг мёртва, але ж і работы хапіла. Я ні ў чым не мог упікнуць сябе. Нават за тое, што па вушы мокры, ад вады і поту. А да ўсяго тыя мае вушы яшчэ і ў сажы ад чыгуна. Усё па справе, не дзеля ж забаўкі.

Управіўся з вядром і чыгуном, а далей усё далося працей. На лаву і падаконнік я залез кум каралю. І вось сам чорт мне не брат, як любіў прыгаворваць бацька. Я стаю на падаконніку, нібыта на вялізнай і цёплай далоні. Прыглядаюся да град у гародчыку па-за штыкетнікам на падворку. Недзе сярод памідораў, цыбулі і капусты ўжо саспеў мой гарох. Толькі зараз мне не шанцуе ўзяць яго на зуб. Няма чалавека, каб адамкнуць хату і запусціць мяне ў яго. Незразумела, чаму так адразу абязлюдзела ўся зямля. І не толькі абязлюдзела – птушак у небе і тых няма. І з-пад страхі вераб'ёў не чуваць. Вымерла ўсё, пуста, глуха, так што і мне ў жываце зябка.

І раптам праз гэтую аглавушную зябкасць і набягаючыя ўжо слёзы я адчуваю, як нехта сухой і цёплай даланёй нябачна дакранаецца да маёй галавы. Ад нечаканасці сціскаюся, прысядаю і, падобна, за ўсімі зніклымі і сам знікаю, што ніяк немагчыма. Як жа без мяне хата, кот і мама з бабуляй? Я, канечне, яшчэ зусім малы, але ж ёсць ужо.

Спакваля ціхенька распростваюся – нічога і нікога. Зноў прыпадаю макраватай ужо морквінай носа да прахалоды шыбы. Не, усё папраўдзе, як і мае быць, каля мяне нехта ёсць, жывы і з далонямі маці. Я, што мой коцік, калі сыты і вольны, аж муркаю і вуркачу ад задавальнення і, як з тым жа коцікам, пачынаю гуляць з некім лагодна невідушчым. Прыжмурваюся і зусім заплюшчваю вочы. Прысядаю, хаваючыся на падаконніку, усхопліваюся на ногі, затульваюся перакладзінай рамы. Яна няздольна схаваць мяне ўсяго ўшыркі. Ласкавая далонь расчэсвае на два бакі мае кароценькія валасы. Ураджанне, што нехта падміргвае мне і смяецца ўголас, ніколькі не здзеклівa. Наадварот.

Я прыглядаюся да панадворку і неба. Падобна, гэта яны смяюцца мне. Неба белым смехам хуткаплынных і ў скразных праёмах аблокаў. А за плотам зялёным смехам пацяшае прыселая, яшчэ маладзенькая, але ўжо з яблычным прыплодам яблынька, старая вішня з ягадамі, на якіх толькі выклікальна, сарамліва чырвоны намёк на спеласць. І бясконцасць нашай вуліцы, даляў за ёй.

Нябачная ласкавая рука неадольна цягнула мяне да сябе. І я ўжо быў згодны паверыць і паддацца яе моцы і дабрадзейнай цеплыні. І, падобна, ніхто і нішто мяне не ўтрымала б пакінуць хату. Вакно, шкло паміж мной і панадворкам, раскошай блакіту і лагоднасці, знікла, як высмактанае імі. Я, здаецца, ужо ступіў у гэты пяшчотны блакіт. Да абдымкаў працягнутай мне рукі. Толькі ў апошнюю хвіліну ачомаўся і ўспомніў, што так і не паспытаў яшчэ гароху. Успомніў і змусіў сябе застацца...

Ужо значна пазней я думаў, куды, прагнучы гароху, я зазірнуў улетку 1942 года, калі мне не існавала яшчэ аніякай вайны, смерці маці і сястры, і мае шматлікія паміранні былі далёка наперадзе. Сумняваюся толькі, ці былі пад акном хаты яблынька з вішняй. Я сам іх пасля вайны прынясу з лесу і пасаджу каля хаты. Пазней, пазней.

Але ж хто тады ўзяў мяне, замурзанага і смаркатага, і вывеў, выцягнуў з вайны ў лета?..

Свет, будучая памяць абудзілася ўва мне ад дотыку да маёй галавы сонца, сонечнага праменя. Я ўсё ж сцікаваў яго тады. Адчуў на сабе на падаконніку роднай хаты. Шырока адплюшчыў вочы, імгненна ўзняў у неба галаву і ўбачыў.

Сонца пераможна і весела смяялася мне разам з небам. Бадзёрылі і спачувалі ў хуткім часе наканаванай мне адзіноце. Хлопчыку, які ўпершыню адчуў, што ён жывы і жыве. І таму вельмі хоча гароху, канае без яго.

## Бабка з сакрэтам

*Баянь сорак пятага года*

Адбылося гэта ці не ў першы дзень пасля заканчэння вайны. Нічога, здаецца, у звыклым вясковым жыцці асабліва значнага, тым больш велічнага. Пасля паўсядзённай калгаснай працы, пасадкі ці прапалкі буракоў, а мо і акучвання бульбы працаздольныя жанчыны, у большасці ўдовы, блытаючыся ўва ўдовіных чорных і доўгіх спадніцах, прыбеглі з поля, дзе іх застаў старшыня калгаса на коніку. Разматалі хусткі, прыхарошыліся – жанчыны ўсё ж. Тое-сёе сабралі на стол і прыселі вакол яго. Спачатку моўчкі, задумліва сцішаныя пад цененькім звонам кілішкаў. У перагляд між сабой узялі па першай, другой. І прарвала. На трэцяй, хаваючы адна ад адной вочы, заплакалі, спачатку больш смарката і нема. А потым уголас і раўчакамі.. Але ж недзе пасля чацвёртай заспявалі, не сказаць каб весела, але ж і не зусім сумна, надоўга і працягла, па-чмялінаму, нізка і гудліва. Пад гэты чмяліны гуд, калі яго падзямельнасці пачало пагражаць заліцца слязамі і ўтапіцца ў іх, старая з унукам і пакінулі жалобна-святочнае адпяванне. Таму што баба ўжо перажыла гэту звычку, а ўнук яшчэ не дажыў да яе.

Жылі-былі старая баба пад дзевяноста гадоў ды малы ўнук пяці гадоў у адной хаце на бугры пасярэдзіне вёскі. Але ж была разам з імі яшчэ і курачка раба, пярэсценькая. Сапраўды была, як ацалела, і Богу, пэўна, невядома. Спраўна стракатка давала ўдзень па цёплым і белым яйку з жаўтком, калі перад гэтым яе добра пакармілі. Малы, старая ды курачка – больш ніхто не жыў у той хаце. Толькі не – чаканне яшчэ жыло. Сына бабулі, апошняга, малодшага і надта рахманага для вайны, што, па няпэўных чутках, згарэў жыўцом у танку пад Сталінградам. Чаму баба не давала веры. Вайна выбіла ўсіх яе пяцярых дзяцей, але гэта ўжо не лічылася. Яна сама развіталася з імі, адным сама закрыла вочы, бачыла іх мёртвымі, пра смерць другіх пераказвалі надзейныя людзі. Вось так і напладзіла баба сірот і сіротак па навакольных вёсках. Саму ж яе цягнула да жыцця надзея, таму што дасведчыцца на свае вочы ў смерці малодшага апошняга сына не давялося, а мо і не жадалася. І яна да скону жыцця заставалася няўпэўненай у сапраўднасці, што і ён ужо нябожчык. Чакала, абзавецца хаця б з таго свету. І ўнук цалкам падзяляў гэтае яе жаданне. Не даваў веры, што можа гарэць танк, ён жа жалезны. А яшчэ меў ён сваё чаканне – бацькі, які быў жывы і знаходзіўся недзе ў Берліне, дабіваў вайну.

І ў той памятны дзень, пасля застолля, баба з унукам выгодна і карысна парабілі. Яшчэ раней, па дарозе дамоў, баба змеціла, што да свірна, які стаяў, падобна хаце, на бугры на высокіх палях, каб не дыхаць зямлёй, а прадзьмухала ветрам, вельмі ж жвава наведваюцца птушкі і сакатліва горнуцца ацалелыя ў вёсцы куры.

Баба зайшла ў хату, але не затрымалася там. Ухапіла невялічкую мар-

левую торбачку, што колькі ўжо гадоў без патрэбы вісела на цвіку каля дзвярэй – для сцёку ў заможны час сыроваткі з адтопленага кіслага малака. Падала тую торбачку ў рукі ўнуку, павяла за сабой. І неўзабаве ён ужо пашыўся пад свіран, пад засекі, у якіх захоўваліся для сеяння ячмень з аўсом. У тых засеках меліся шчыліны, скрозь якія не-не ды і сыпалася долу зерне. Куры з птушкамі заграблі, змяшалі яго з пяском, але дзе-нідзе засталіся і не скляваныя імі зярняты. Унук нагроб тых зярнят разам з зямлёй і курынымі катыхамі поўную торбачку.

Хата панавала, святкавала спажыўна сытны дзень. І найбольш святкавала курачка раба, хаця і старая з унукам не хібілі. Усе трое выбіралі зерне з пяску і суладна дзяўблі яго. Баба асалавела і раздобрылася.

– Слухай, унучак, – сказала яна, – а ці не змайстраваць нам сапраўднае свята? Печ усё роўна прапальваць, дык ці не зварыць нам бабку?

– Вары, баба, бабку, – дазволіў унук.

І пачалі яны разам гатаваць бабку. Больш, зразумела, улягала баба. Унук толькі дапамагаў парадамі, калі яна запальвала печ і лупіла бульбу. І потым таксама, словам і ўдзелам. Карацей кажучы, хвосцікам соваўся за бабай, блытаўся ў яе спадніцы, лез пад рукі, цікаваў і цікавіўся, што, як і да чаго, таму што вельмі хацеў бабкі. Быў ахвочы і здольны нават сам палупіць бульбу, баба навучыла. Але ж яна не даручала рабіць гэта яму. Надта ж тоўстыя атрымліваліся ў яго лушпайкі. І гэта былі ягоныя хітрыкі. Амаль за дзесяць кіламетраў ад іх вёскі жылі яшчэ шасцёра бабіных унукаў. Адна толькі пры маці, а другія – поўнымі сіротамі. Бедавалі аднолькава, і раз на тыдзень хтосьці адзін з іх прыбягаў па лушпайкі. І бліжэй да лета баба ўсё часцей і часцей лупіла бульбу сама, як вось і зараз. Хутчэй шліфавала і паліравала, а не абірала.

І ашчадна лупленая бульба ляжала ў місе задаволена роўненькая і гладзенькая, адна пад адну, як курыныя яйкі. Бабуля дастала драчку і пачала дзерці яе. Тут унук ужо не вытрываў, работа цяжкая. Мужчынская, адабраў у бабы драчку. Да ўсяго, бабуля яшчэ скрывавіла пальцы, і падзёртая ўжо бульба, што сама па сабе на паветры крыху ружовая, рабілася ружовай яшчэ больш, і нават чырвонай. Заканчваючы церці бульбу, унук, зразумела таксама закрываваў пальцамі. Але гэта не пашкодзіла іх задуме. Баба, па ўсім, была таксама ахвочая да бабкі. Надзёртая і адстаялая ад вільгаці бульба пасля таго, як злілі ў другі посуд ваду – пад крухмал – трошкі выправілася, спалатнела і пасінела.

Бабуля пайшла ў камору ў сенцах, знайшла дзежку, выкарпала з парыжэлай ад старасці солі прыхаваны ёй цененькі шматок такога ж солева парыжэлага сала. Печ, таму што дроў у ёй было па-вясноваму ўжо зусім нічога, прагарэла да жару. Бабуля разагрэла патэльню і пачала падпражваць сала. Яно так запрашальна-смакоўна скварчэла, што ўнук не стрымаўся і прапанаваў:

– Баба, а давай мы бабку і сала з’ядзім паасобку.

Гэта, пэўна, у нейкай ступені было слушна. Бубуля на імгненне кінула завіхацца каля печы. Задумалася, перабіраючы сухімі вуснамі. Але ж есці паасобна бабку і сала не дазволіла. Не саступаючы ад печы, вынайшла, чаму:

– Хлеба ў нас мала, акрайчык толькі. А есці без хлеба проста так сала – грэх сёння. Мы ўсё ж прыгатуем бабку. Такую ўжо бабку. З сакрэтам.

– Ну, калі толькі з сакрэтам, тады добра, – пагадзіўся ўнук. – А дзе ж возьмем сакрэт?

– А вось якраз у гэтым і ёсць сакрэт, – як абрэзала, перапыніла гаворку баба.

І ўнук віўся камарыкам, сляпіцай лез старой пад рукі, пакуль яна ўпраўлялася ў печы. На століку каля вакна вышароўвала даўнавата гультаяваты, без патрэбы, шчарбаты гліняны гаршчок, спавіты з бакоў і пад гарлянку тонкім, ссінелым ужо медным дротам. Беражліва апускала ў яго надзёртую, зусім ужо сінюю бульбу і пражанае сала, што сварлівымі пырскамі не жадала туды. І яшчэ нешта, паварочваюся ад унука бокам і спінай, потайкам прарабляла. Брала з прыпечку і комінка нейкія сухія састарэлыя зёлкі, крышыла ў пальцах, сыпала іх у гаршчок, нешта сакрэтным шэптам па-змоўніцку прыгаворвала. І тройчы хрысціла яго. І плявалася пры гэтым. Праўда, не на гаршчок і не ў гаршчок – убок ад яго. Унук аж выпростваўся і на вачах падрастаў, пільнуючы кожны яе рух. І сам адчуваў, што расце, расце, набрыняе сілай ад бабінай сакрэтнасці. Са скуры лузаўся, каб выглядзець сакрэт, як ён вылеціць з яе рук і пырхне ў бабку. Толькі ўсё было дарэмна. Ці баба была надта сакрэтная і спрытная, не далася яго вачам, ці ён нешта прагледзеў. Паставіла гаршчок, пэўна, ужо з сакрэтам, у печ. Накрыла яго патэльняй. Зачыніла печ засланкай: няхай упарвае.

Унук з бабай паселі на лаву каля вакна, адначасова слухаючы печ і гледзячы на дарогу. Дарога была нецікавай ад шэрага прыскавага пяску, вераб'і, падобна, нават грэбавалі ім, зніжаліся, целяпаючы крыламі, але не садзіліся. І ім абаім надоўга цярпення і нерухомасці не хапіла. Нейкі час моўчкі сядзелі каля падвулічнага вакна, потым загаманілі. І няпроста, спрачацца пачалі, амаль біцца, даводзячы адно аднаму, упрэла ўжо бабка, ці не. Гадзіны ж са дзве стаіць.

– Перапрэе, – маркоціўся малы. – Страціць сакрэт і смак. Хата ўжо ад перастою млее.

– Вытрывае, адной так было, жывой засталася. Рана, – пярэчыла старая. – Бабка то можа і гатовая, а сакрэту яшчэ выстайка патрэбна. Яны трывушчыя і не надта варкія.

Невядома, як сакрэт, а бабка, унукава праўда, сапраўды ўжо ўпрэла. Гаршчок ажно распірала ад яе духу. Ён нават імкнуўся выказаць гукамі сваё задавальненне. Пнуўся наздраватым верхам, нешта вышэптваў, як надоечы баба над ім. Вуркацеў парай і вышэптваў ёю. Пэўна, прасіўся вонкі сакрэт. Унук, як заведзена, счакаў, пакуль старая зачарпне і з'есць першую лыжку. І толькі пасля гэтага абедзвюма рукамі аплёў уборыстую драўляную, з ліпы, лыжку, што намерылася, пэўна, ухапіць як не ўсю бабіну бабку разам. Але ён прымусіў сябе зачапіць з краёчку. І не сквапна. Раздумліва, па-даросла141у, прыглядаўся і нехапліва жаваў і каўтаў. Аблізваў лыжку, зазіраў у гаршчок. Старанна здымаў з краёў яго хрусткія прыгаркі.

Прыгаркі былі смачней за саму бабку. Але ж і бабка – за вушы не адцягнеш і нос упрысядкі. Яе акурат упору паспелі выхапіць з печы, не далі ацвярдзець, збіцца комам. Была ў меру густая і вадкая, злёгку рабенькая і шэранькая, як і іх карміцелька курачка. І ўнук з бабуляй не прыкмецілі і самі, як апрасталі гаршчок да апошняга прыгарку ў донцы – і мыць не трэба.

– Усё, – сказала баба, пераварочваючы лыжку, што сведчыла аб сытнасці. – Управіліся.

– Як усё, як управіліся? – здзівіўся ўнук.

– Ты ж сам бачыш, усё. Гаршчок пусты.

– А сакрэт? Сакрэт жа яшчэ. Забыла?

– З'еў, праглынуў, унучак, сакрэт і не прыкмеціў. Што ж гэта будзе? Што будзе?

Унук насупіўся і прыцiх. Толькі калі баба прыбрала са стала, спытаў:

– А што будзе, баба? Што бывае, калі з'ядаюць сакрэты?

– А я і сама не ведаю, – адразу ж адгукнулася старая, – не даводзілася мне іх самой есці, хоць і зажылася ўжо. Але, думаю, цуд будзе. Будзе цуд. Трэба чакаць цуд.

Унук порсценька споўз з лавы і выхапіўся ў двор. Уладкаваўся на прызбе, з вясны ўжо разварушанай, але не прыбранай яшчэ кастрыцы. Склаў рукі на каленях і ўтаропіўся ў далячынь, па-за вёску, лясок, за якім, пэўна, была ўжо іншая вёска, таму што з нябачных яму комінаў віўся рэдзенькі дымок. Засяродзіўся і пачаў чакаць абяцанага бабай цуду. І цуд нiколькі не затрымаўся. Адразу ж аказаў сябе. З пасівелай на сонцы кастрыцы, з-пад хаты, выпаўзла старая-старая, ржавая, мо бабінага веку і такая ж выпетраная вожычыха. А за ёй, як прыліплыя, пяцёра маленькіх яшчэ вожыкаў. Маці і яе дзеці, а мо і ўнукі, перажылі пад хатай зіму, а цяпер выйшлі на сонейка, каб пагрэцца. І грэліся, не баючыся сытага, але трохі пахмурнага хлопчыка, месца хапала. І хлопчык грэўся разам з імі, выпнуў сонцу голы і тугі жывот.

Вось такая была бабіна з унукам бабка. Бабка часоў, калі большай смакаты яшчэ і свет не ведаў. На той свет разам з бабай на сто трынаццатым годзе яе жыцця пайшоў і яе сакрэт. Калі ўнук толькі-толькі пачаў убірацца ў розум, нешта пазнаваць аб цудзе і яго сакрэтах.

## Пасынкі

Солтыс быў дакладны, як сапраўдны солтыс. З'явіўся па дамоўленым, хвіліна ў хвіліну. Разам з каровамі з ранішняй пашы на дзённую дойку. Пастух рогам агучыў час. Тройчы зацвердзіў яго, апераэаўшы дрымоту вясковай вуліцы з санлівымі курамі пад плотам пугай, жорстка прафесійным пастухоўскім бізуном са скарочаным, пад руку, пугавішчам і, дасягальна кожнай каровы, даўжэзнай плёткай з сырамятнай ялавічнай скуры з дадаткам дзеля хлёсткасці гумавай стужкі. А напрыканцы з пераканаўчым дробам свінца. Гэтым бізуном пастух уздоўж і ўпоперак, да самага нутра зрушыў вулічны прысак, сцебануў, што стрэліў. І яны абодва, Солтыс і Войт, нясцертай яшчэ памяццю адчулі і ўспрынялі яго як стрэл. А потым убачылі, як жахнуліся парэшткамі ўжо сваёй, курынай памяці падплотныя куры. Пэўна, забылі, што курыца не птушка і няздольная лятаць. Але ў некаторых цяпер атрымалася ўзняцца і пераляцець плот. Больш жа за курэй і Солтыса з Войтам жахнуліся каровы, асабліва прастрэльна мечаныя па бакавінах і азадку бялявымі пісягамі, пэўна ж, нядаўняй плёткі і кропак дробу. Падганяючы сябе хвастамі па змазоленых лытках, борздзенька порскнулі праз адчыненыя вароты і брамкі ва ўратаванне хлявоў. А некаторыя і ў хаты. Якраз з гэтых некаторых была і Карова Войта. Паперад таго, як схавацца ў сваім стойле ў хаце, ёй патрэбна было ўскараскацца і пераступіць ганак. Высакаваты і для Войта. Раз-пораз перабіраючы пярэднімі нагамі, карова ўсім тулавам, пазначыўшы яго двума не існавальнымі гарбамі, ускінулася на парог ўзнятай угару галавой. Амаль

тарчма, мядзведзявата перабіраючы цяпер і заднімі нагамі, нібы лезучы на дрэва, шуснула ў сенцы.

Вясковая вуліца, разамлелая ў нерухомай шэрані прыску, спала, ахопленая палудневым сонцам. Усталявалася ціша, якую парушыў Солтыс:

Вярблюд, верблядзіца, – мовіў ён, маючы на ўвазе карову.

Не абражай, – абараніў яе Войт. – Хатняя яна. Наша.

Разумею, што ваша, бачу, што хатняя. Чужыя так і па дрэвах не лазяць.

Скажаш яшчэ, што толькі коні па дрэвах лазяць?

Скажу. Калгасныя.

Чаму гэта?

Таму што яны калгасныя.

І на дрэва дзерціся ахвочыя?

Спытайся ў сваёй бабы, калі ў самога клёпак не хапае...

Нешта не ладзілася ў іх сёння апоўдні, пярэчылася на голым месцы. Хаця, падобна, на пярэчаннях зранку да вечара яны і схаўрусаваліся. З першай сустрэчы ў хаце Солтыса пачалі тапырыцца. Калі адзін казаў так, другі абавязкова аспрэчваў: не так, а толькі за грошы. Хаця сёння ні Солтысу, ні Войту не хацелася паглыбляцца ў нязгоду. Варагаваць у чаканні званага абеду. І Войт па абавязку запрашальніка на гэты абед, гаспадара, саступіў.

– Па дрэвах лазіць ні табе, ні мне не складана. Вучоныя.

– А як жа, прыпрэ, дык і чорту на рогі палезеш. Зімы вунь якія, а ў цябе ні хлява, нават хляўчука Маньца няма. Зломак, пустадомак?

– Ні зломак і ні пустадомак, – амаль прыміральна сказаў Войт. – Рукі-ногі адкуль трэба растуць.

– Тады будавацца трэба.

– Трэба, – пагадзіўся Войт. – А дзе ж на кожнае наша “трэба” капейчыну знайсці, каб таго лесу ўкупіць, хаця б на сабачую будку.

– Лес трэба ўзяць у лесе, – зноў пачаў набіраць павучальнасці Солтыс. – І калі немагчыма так, а толькі за грошы, украсці. Хто ў нашым лесе не злодзей, той і ў сваёй хаце не хадзяін.

Гэта было бясспрэчна слушна і нават мудра. Войт задумаўся, таму што меў здольнасць думаць таксама разумна, як і яго хаўруснік, хаця сцвярджаюць: вёска не трывае адразу двух разумнікаў, як і вар’ятаў, так ужо наканавана Усявышнім, але яны былі як выключэнне.

– Украсці можна. І лёгка, – пачаў заводзіцца цяпер ужо Войт. – І не вучы вучонага, лепей з’еш, сам ведаеш чаго, пячонага.

Дык ты мяне пазваў толькі на гэта пячонае?

І яны схапіліся загрудкі, паўтараючы выдзыганне каровы, пачалі тузацца на ганку, прысядаючы і вытыркаючыся стрыжанымі пад гаршчок галовамі. Солтыс, бясспрэчна, быў дужэйшы. Але Войту, пэўна, дапамагалі родныя сцены. Хаця ўвогуле гэта іх тузанне здавалася больш знарочыстым, спробай сілы. Войт зрабіў выгляд, што здаецца. І яны працягнулі гаспадарчую размову, з таго, на чым спыніліся.

Украсці можна, – сказаў Войт. – Гэта не цяжка. Цяжэй даставіць.

Калі ўкраў, то не кінеш. Гэта ўжо тваё. Даставіш.

Хіба ў кішэні ці за пазухай, – настойваў на сваім Войт.

– Чаму ў кішэні ці за пазухай. А навошта ж Манька, карова навошта? – хітнуў галавой убок сенцаў Солтыс.

– Спрабавалі, але карова не бык. Не трывае ярма, плача слязіма. А пасля дае малако з кроўю.

– Тут ты маеш рацыю, – памяркоўна мовіў Солтыс. Задумаўся і працягнуў: – У нас тое ж самае. Але мы яго хоць і з кроўю... Не выліваць жа. Грэх.

– Не, выліваць – грэх – пацвердзіў Войт. – Толькі і ў самога закіпае сляза, як у скоранай ярмом Манькі, што мімаволі патухлымі вачыма плача.

– Гэта так. Так. Тут і ты маеш рацыю. Нашы каровы плачуць. Пачынаюць плакаць і даіцца кроўю. А што?..

А што?.. – паўтарыў не агучанае пытанне Солтыса Войт.

І яны, надзьмутыя і натапыраныя, як вераб'і перад дажджом, прытоена ўздыхнулі. У ніводнага адказу на пытанне не было. Выручыла бабуля, адразу адказала на ўсе іх пытанні. І сама ж задала новае:

З пагосту?

Не з пагосту, а з пагону! – абурыліся абодва.

– Адзін чорт. Колькі тут валэндацца будзеце, напагосціліся і напагоніліся. Астывае ўсё на стале.

Астываць жа па іх пасляпагоннаму абедзеннаму часу было чаму. На першы прыкус кісель з лушчанага ў ступе аўса. Хаця і засерджаны крывымі трэшчынамі ў глінянай місцы, пахмурна збялелы зверху і да аскомы кіслы. Але для пачатку спажыўны і нават смачны. Войт адразу пацягнуўся да яго важкай алавянай лыжкай. І ўжо добра зачарпнуў ці не з самага дна. Але данесці да рота не дазволіла бабуля:

Куды паперад госця і лобу не перахрысціўшы?

І сваёй таксама адлітай з волава лыжкай гучна пазначыла яго неперахрышчаны лоб.

– Прыклад паказваю... – Войт не скіс ад болю, не выказаў і крыўды. Не было часу на боль і крыўду. На стале ў любасці і міласэрным чаканні яго, у чыгунку, да цукровага запрашальнага падміргвання крухмальна заходзіліся развараныя паронкі. Наверсе ж, над імі, што пячонікі ў прыску вогнішча, паблісквалі чорнымі капялюшыкамі яшчэ і гарэлікі. З-за адных толькі іх патрабавалася пакланяцца і паважаць бульбу. Гарэлікі – выпаленай чорнай галоўкай, куды ім прыпякала, набакір, ад бакавін жа – сухенька прапечаныя і аблізаныя кіпнем да рудзенькага. Хрусткага і крохкага, за якім не паспяваў нават радавацца язык – толькі да скурчанасці апечанае нёба ды ўдзячныя глотка, язык і зусім ужо задаволены жывот. Гарачынь можна было прытушваць квасам з мінулагодна нацертага хрэну, прыпраўленага дзеля слодычы, а больш – прыемнасці воку, бурачкамі.

І ўся гэтая раскоша аздаблялася тоўчаным у ступцы семем лёну. Шчодра, горкай высыпанага да гэтага на ўчарнелы ад свайго веку дубовы стол. Цяпер жа, у чаканні госця, ашпараны кіпнем і выскраблены да забытага самім нутра, скробелем – асколкам снарада, аж дубеў ад задавальнення заможнасцю, пра якую даўно ўжо забыўся.

У дадатак да тоўчанага лёну паблізу яго на жоўценька разамлелай стальніцы яшчэ і тоўчанае, зноў жа ў ступцы, семя канопляў. І мімаволі спатыкалася рука, губляючыся ад спакуслівай смакаты не вырашаючы, да чаго паткнуцца бульбінай. Жывот жа прыспешваў, прагнуў лёну і канопляў адразу, таму што гэта было толькі запеўкай. Наперадзе ж яшчэ кулешык з водарам лета і трошачкі пахам стайні. Таму што звараны з таго ж лушчанага аўса, пазычанага з торбы, падвешанай да шыі каня. А ў тым узвары кулешыка неспасціжная вяршыня смаку, звараны цалкам першы ў тым годзе грыб. Рашэтнік, якога высачыў і падняў на краі пагона Войт.

Нагнуўся і выдзер, хаця вёска грэбавала рашэтнікамі ў чаканні і пакланенні сапраўднаму маёва-міколкаваму грыбу-баравіку, што аказвае сябе пасля Міколы ўгодніка, калі пачынае красаваць жыта. Мікола мінуў, жыта закрасавала, а ён у самую сваю пору ленаваўся нават пазначацца. Раслі адны толькі раннія казлякі ды губа. Таму Войт не пагрэбаваў і рашэтнікам. На дзіва даросла-таўсматым, але вяснова-чыстым, што здаралася са сталым рашэтнікам толькі зрэдку. Гэты ж коранем – што конскі зуб і ў негрыбны час замаскаваны пад вартага грыба, дубовага ці берэзнікавага баравіка. Бялява жоўклы зверху, без здушана зморшчанага збегу на галоўцы, з капелюхом, прыхарошаным блакітам верасу і сухой травінкай – для моцы і таксама прывабнасці. Толькі спадыспаду – пад рэшатавую адметнасць сваёй пароды, у глыбокіх трубавых шчылінах хоць муку прасейвай.

Войт дбайна прынёс яго ў хату і паказаў бабе. Баба спачатку паморшчылася, але хутка адышла. Як пана пасадзіла рашэтніка на саломку ў печ, крыху раней прапаленую. І ў той гарачкавай печы ён развітаўся са сваёй рашэтнікавасцю. А ў кулешыку ўвогуле падобны быў на штосьці надта і надта прыстойнае. Солтыс з Войтам аддавалі яму належнае, спраўна па чарзе чэрпалі з міскі, сёрбалі, аблізваючы лыжкі. Елі нехапатліва, удумліва і сур'ёзна. Як аратыя ці касцы на полі ці лузе. На кожны кус – імгненны зацішны перапынак асэнсаванне, а мо і падзяка страве, зямлі, небу. Вымерхаліся за ранак на сваім пагоне. Ды ў гасцях жа, калі і не хочаш, мусіш есці, каб не пакрыўдзіць гаспадароў. Інакш што гэта за гасцяванне.

І яны так застольна шчыравалі, што нават забыліся, хто з іх госць, хто гаспадар, Нагарбузіліся, што болей нічога некуды было і месціць. П'яўкамі адваліліся ад стала.

Так есці нельга. Грэх, – задыхана прасоп Солтыс.

– Льга, льга, – хуценька запярэчыла бабуля, да гэтага больш наглядаючы за едакамі, толькі зрэдку задуменна ўкідваючы нешта ў рот сабе. – Мо і грэх, але патрэбны, каб людзі паразумеліся. А не так як у нас: сыты галоднаму не таварыш. Таму ўсе павінны быць сытымі ці ўжо галоднымі.

– Немагчыма, – разважліва адказаў Солтыс і адрыгнуў. – Немагчыма ўсім быць сытымі. Хлеба не хопіць.

Тады лепей галоднымі?

Солтыс задумаўся:

Не, усё ж сытымі. Толькі як наконт хлеба тады?

Бачыш, і ты як пад'еў – паразумнеў.

Войт зморана прыкархнуў за сталом, але чуў іх гаворку і не ведаў, каму даверыцца. І толькі калі яны замоўклі, запознена і не ў лад выгукнуў:

– Сыты грэх – не грэх. Асабліва калі пачынаць пасля сну, зранку. Каб на ўвесь дзень хапіла, да вячэры. І малако было без крыві...

А я і не ведала. Не ведала, унучак, які ты ў мяне разумнік.

Таму што з-за стала толькі. У чэраве яго розум, – пастанавіў Солтыс

– І нічога не паробіш, – замаркоцілася баба. – Што б я не казала, але: трымай галаву ў холадзе, жывот у голадзе, ногі ў цяпле і будзеш у дабрэ.

– Вось таму ўсе мы па буднях і не ў гасцях правільныя, – падсумаваў гаворку Солтыс. – Жыватамі прыраслі да хрыбта. Усе рабрыны на ўліку. Шкілетамі правільныя.

– А ты больш правільны, Солтыс. Калі з галадухі навешваеш пендаля па адным месцы. А сыты ж, як па тым жа месцы па галоўцы гладзіш.

Абодва, Войт, мы правільныя, толькі даць нам нічога і няма каму.

Нічога і няма каму, – як убачыла нешта і некага баба.

На што яны таксама напружана азірнуліся, згодна хітнулі ацяжэлымі ад застолля галовамі і падаліся на вуліцу, аддыхвацца. Прыселі на жэрдцы каля хаты, углядаючыся ў аціхлую перад імі неспазнанасць акаляючага свету, вуліцы, зямлі і неба. Вуліца такім часам у два канцы была пустой. Неба бясконцым і невымерна высокім. Зямля відавочна саступала яму, хаця таксама бясконцая, але ўсё ж абмежаваная з трох бакоў. Наперадзе са два, а мо і болей, кіламетры –абсаджанае ніцымі вольхамі балота. Нягрузкае, шчаўлевае, хаця і тарфянае. Праз невысокія вольхі ў хмарны дзень праглядвалі паныла і насата навіслымі па-над стрэхамі хатаў чырвона і ўчарнела коміны. А пры чыстым небе і сонцы – слепа, без зрэнак, за наваколлем назіралі абыякавым шклом цьмяныя здалёку абыякавыя вокны. Па правы бок, жах бярэ, без канца і краю могілкі пад аховай учарнелых крыжоў і насупленых, як прыпнутых да зямлі, хвояў. Адразу за могілкамі памерлая, разбураная вайной школа, на цэглава ацалелых сценах якой утульна і задарма можна было глядзець кіно, што надаралася, казалі, на белай прасціне класнай дошкі.

Па левым баку спачатку як пад прыглядам падлеску, а потым і вартай сталага лесу, ураджэнцы іх палескага краю; каржакаватыя і брываста-пахмурныя, як дзяды палешукі, урослыя камлямі да глыбу зямлі хвоі. У працяг за імі, не прапускаючы позірку, непраглядна і стоена хавалася інакшае, неспазнанае імі жыццё. Гэта інакшае жыццё, што аббегла іх і вёску старымі могілкамі, балотам, разбуранай школай-сталінкай, ніколькі іх не тычылася, хаця падсвядома яны імкнуліся пранікнуць і пранікалі ў яго. Адчувалі рух чужога ім часу, як рассоўваецца і доўжыцца свет, акрэслена працягваюцца далягляды крокамі і ступой зімой і ўлетку абутых у чобаты і чаравікі ног, апранутасцю кожнага ў магазіннае. Працінаюць і колюць неба поклікам паравозаў, нутраным гудам дроту і на ўсё наваколле галасамі з яго. А тут толькі імкнецца абвесціць і дацягнуць у гэта зрэдку пралётны аэраплан-кукурузнік. Але не дацягвае, рэхам чапляецца за аблокі і патанае, глухне ў іх, вяртаючыся да свайго, аэрадромна-інакшага жыцця, ацуранага ад крытых саломай і чаротам хат, адвечна паглынальнага балота.

Апрыгоненыя смугой і сумам сваіх вольхаў, лазнякоў, бароў і дуброў, яны ўсё ж прымалі, адчувалі скурай аббеглае іх жыццё. Але ніколькі не зайздросцілі яму. Зайздросцяць таму, што зведаў, меў ды страціў, накшталт апусцела-ўчарнелага чыгуна на штыкетніку. А іх існасць была запоўненай і вольнай у няўхільнай роўнасці заможнасці і незаможнасці. Таму што валодалі непазбыўна-вечным. Кожны дзень ім узыходзіла і свяціла сонца, штогод радзіла зямля, а калі не яна – то лес і вада. І хаты стаялі не ў разбег, а прыязна побач адна каля адной.

Але гэта побач. Калі ты спраўны і хуткі на нозі. Ніякая адлегласць табе не замінае сустракацца з сябрамі, равеснікамі. Больш у хаце Солтыса, што спрыяла хаўрусу. Стаяла яна якраз пасярэдзіне вёскі, палавініла тую частку вуліцы, дзе той хаўрус вёўся, не зведзены яшчэ на дзяцей. Хата ж Войта – канцавая ў гэтым вулічным падзеле вёскі на дзве амаль роўныя часткі. Месцілася на бугры, нібыта вырастала з яго, каб прыглядваць, назіраць за абедзвюма часткамі вуліцы. З узвышанасці трымаць у сваім воку могілкі, разбураную сталінскую школу. Па-за яе плячыма бязвокай глухой сцяной акурат і праходзіла мяжа існавання двух вясковых жыццяў. На першы погляд амаль такіх, як іх з Солтысам. Такіх, але трошкі і інакшых. Не

выключана, што там, падобна, інакш нават дыхалі. І ім дыхалася інакш, калі даводзілася забягаць туды. Зрэдку. Таму што тая палавіна вёскі дзяцей амаль не мела. Не было з кім знацца, да каго чапіцца, з кім біцца Хаця, дзеля праўды, не-не ды і пракідваліся і там іх равеснікі. Адзін. Павулічнаму Чыгіль дваццаць капеек. Празваны так па бацьку, які меў адну толькі нагу. Другая ж была драўляная. Нават невядома з якога дрэва. Ён быў старшынёй іх калгаса імя Чапаева. Таму да сына ставіліся ці не так сама, як да яго бацькі, і біцца з ім было не з рукі. Асабліва не цураліся, але і не хаўрусавалі.

Больш-менш сыходзіліся і трывалі, калі на яго палавіне вуліцы працавала кузня. З'яўляўся каваль, сам падобны на кавадла. Такі ж металёва шырокі, толькі з шыяй і пляскатым, падзёўбаным, прыпечаным рабаціннем тварам. Як пад пячонікі, распальваў вычакальна астылы горн, гартаваў ліставое, больш рэсорнае, парэшткі тэхнікі вайны, жалеза пад сярпы, капаніцы ды калёсныя абады. Надаючы імпэту ўжо зыркаму вогнішчу, пачынаў прастуджана і хрыпата хапаць вулічнае паветра падобным на вялікага і азызлага апалоніка скураным мехам з адпаліраваным мноствам рук дзяржальнам. Іменна тады Чыгіль дваццаць капеек з сына старшыні калгаса пераўтвараўся ў чалавека, іх равесніка. Дазваляў і ім пампаваць, жывіць тымі скуранымі мяхамі языката кідкае сполахамі вогнішча горна.

Апроч кузні іншым разам на другой палавіне вуліцы прыцягваў да сябе выгараджаны аскрэблымі жэрдкамі і стаптана аголены да пяску калгасны падворак. Асабліва калі выпускалі на прагулянку ўжо аднятых ад вымяў маці цялят. Бычкоў. Яны ганяліся за тымі бычкамі, як самі бычкі, наровячы ўхапіць за па-сяброўску запрашальна ўскінуты ўгару хвост. Бычкі брыкаліся маладымі касцянымі капытамі. Надаралася, давалі ў грудзіну, што ў бубен. І трэба было ўстояць на нагах, захаваць твар, не пусціць слязу і не страціць дыханне.

А неяк, як упаў з неба, на той калгасны падворак завітаў нават ніколі да гэтага не бачаны імі трактар. "Націк". Бліскучы, як вылізаны ў роце за шчакой медны грошык. Не вельмі гучны, больш дымава чадны і з усіх бакоў прывабна смешны, як і кіроўца гэтага жалезнага дзіва – конь не конь, але нечым падобны. І ўладальнік пасаваў яму. Паджары і невысокі, у скураной куртцы і скураных рукавіцах да локцяў з усімі пяццю пальцамі. У чорна замурзаных акулярах не толькі на вачах, але і да самога лба. У наваксаваных да асляпляльнага бляску хромавіках па самыя калені ўражваў не толькі сваім жарабячa дрыготкім стаеннікам, "націкам", але і сабой. Аж вочы рэзала. Не верылася, што абодва яны такія ніштаватыя, але здольныя рабіць і сялянскую работу. Араць, касіць, жаць. І мімаволі хацелася, што гракам па свежым ворыве, хадзіць следам за імі і дзівіцца. Нядоўга. Доўга не мела сэнсу, надакучвала б аднастайнасцю і простасцю, што хавалі не толькі мінулае, але і надзённае, сённяшняе. У тым ліку і іх.

А яны мелі бясконцасць таго, што ніколі не прыядаецца. Сваю зямлю, што падсвядома ўсцешвала і прыцягвала кожнага з іх да сябе. Пагон, па іх меркаванні, што мора, не абмежаванае ў часе і прасцягах, пустку белага, жывога і сыпкага пяску, дзе амаль ніхто не жыў. Апроч непрадказальна вёрткіх, мядзяна-зялёных і бурштынава ў крапінку наскрозь прасвечаных хвастатых яшчарак. Ды і тыя то прыкідваліся памерлымі, а то адкідвалі хвасты, калі гэтаму не верылі і чапляліся да іх. Бязхвоста ўжо, узорна плялі свае асцярожныя сцежкі. І болей нідзе і нікога.

Пясок прывабліваў неспасціжнай імі старажытнасцю, спеўным нават пры малым павеве ветру подыхам даўніны, яе белым сумам і смуткам. Здольнасцю плынява рухацца так, што ў ім па калена тапіліся ногі. Мо таму дарослыя абыходзілі іх пагон бокам. У ім хавалася мноства сваіх і чужынскіх неразарваных мін, снарадаў і нават бомбаў. А там, дзе яны ў свой час выбухалі – варонкі пад тры, пяць, а то і ўсе сем метраў, як вялікія і маленькія вушы скалечанай зямлі і лейкі ўглыб яе, праз якія, калі дадждыла, часам хваравіта прасочваліся вонкі нейкія шумы накшталт стогнаў. А пры настоенай на сонцы марыўна дрыготкай плаўкай цішы – нават і галасы невыразнай, таму што чужой, мовы. Гаворка іншага свету, адрозная ад іх, падвяселена захмялелая і ў той жа час жалобная. Нібы на тым свеце балявалі ці правілі трызну. Не выключана, што гэта быў сум і плач зусім свежа і колісь забітага на іх пагоне жыцця. І яно старажытнай мовай і памяццю нязбыўнага смутку белага пяску скардзілася ім, вымушанае развітацца пахаваннем на вечным пагосце зямлі. Ці не гэтым тлумачылася іх прыцягненне да пагона, не цямячы нават чаму, калі так названым. Пагон і ўсё. І гэты пагон не толькі прывабліваў і прымаў іх, але і помсціў. Помсціў створанымі рукой чалавека варонкамі. Невядома чаму і за што менавіта ім. Чаму на іх долю выпала пахаванне неперажытага імі мінулага, а часам і саміх сябе. Хаця менавіта іх пакуль Бог мілаваў, не зважаючы на тое, што яны напрошваліся. На сваім пагоне каля варонак, а часам, тоячыся, і ў саміх варонках, рабіліся мінёрамі. Палілі вогнішчы, вытоплівалі з мінаў тол, са снарадаў здабывалі порах, асабліва цаніўся – чорны і доўгі, з дзірачкай. Запалены і тырчма кінуты падпалам з печы на падлогу, ён пачынаў пляваца агнём і таньчыць. У суседніх вёсках за такія забавы іх равеснікі расплочваліся жыццямі. Ім шанцавала. Пасля падкопаў варонкі асыпаліся, але не поўнасцю, галовы заставаліся вонкі і дыхалі.

Падобна караедам у хворым, прыгавораным дрэве яны на сваім пагоне працягвалі пачатае вайной – бомбамі, снарадамі і мінамі, якія стварылі тут могілкі, нарабілі хадоў і лазаў ці не ў тагасветнасць, як ім мроілася, а мо было і папраўдзе. З існавальнай там незямной мовай. Ахопленыя пазазямельнасцю ў чэраве яе, яны перабіралі аглавушаны выбухамі магілкавы жвір, апантаныя жахам дапытлівасці: а што там глыбей, глыбей. Калі дакапацца да самага донца, можна дастацца іншасветнасці. Да той жа Амерыкі, дзе людзі не жывуць, а раюють. Як запэўніваў старшыня іх калгаса Чыгіль дваццаць капеек: дамы там усе каменныя і а двух паверхах. А на кожнага малога – па чароўнай бляшаначцы, што цікава так раскрываюцца. Не нажом, а адмысловым ключыкам, як адвёрткай. І змесціва бляшаначак джэмам завецца, не варэнне, а салодкае, з бурштынава разваранага проса. Прыемна нават не есці, а любавацца. А яшчэ трапляюцца бляшаначкі з саланавата рудзенькімі ў лёгкім блазнаватым шалупінні арэшкі, якімі, на вялікі жаль, толькі адным зубам, на спробу, ласаваліся яны. Тая ж Амерыка дасылала. І карцела патрапіць, дакапацца да яе. Есці, чэрпаць джэмавае варэнне лыжкамі, а не лізацца. Арэшкі ж закідваць у рот не па адным, а жменямі. Не жыццё – маліна, спрэс адно раяванне.

Праўда, каб не схібіць і не каўтаць адну толькі амерыканскую сліну, водгалас раю мелі яны і ў сябе. За даляглядамі іх пагона ў панылых хмызах сціпла хаваліся невысокенькія, але ж шчадраплодныя яблынькі. Райкі з райскімі яблыкамі. У час наліву ўлетку з гузік ці з пляската круглы порах пасярэдзіне з дзірачкай. Зялёна зеляпушныя і кіслыя да згубы зубоў. Спелыя ж – з люстрана адлакаванай скуркай, чырвоныя звонку, у сярэдзіне

ж – блазнавата ружовенькія мякаццю, да рудых вочак семачак, што заклікальна клічуць: хутчэй, хутчэй на святло і волю. Асвяжальна-саладжавыя. А напрыканцы восені, пасля першых прымаразкаў, зусім ужо падабрэлыя, цалкам з тымі ж нецярплівымі семачкамі спажыўныя. Асабліва ж смачныя, зусім салодкія вясной пасля зімоўкі пад коўдрай снегу. Тады раюць не толькі яны, але і дарослыя. Вавёркі і вожыкі. Узгадваюць і сумуюць па іх нават памерлыя. Надоечы ўначы ў адведкі да Войта прыходзіла з таго свету маці, пыталася: “А за нашым пагонам райскія яблыні з райкамі яшчэ не звяліся?” “Ёсць, не звяліся”, – закрычаў у сне Войт і соладка прачнуўся са смакам райскіх яблык у роце.

Палягала па рай без патрэбы некуды далёка і глыбока імкнуць. Іх рай быў побач. Толькі яны не ўспрымалі яго. Але ў іх раі, асабліва ў варонках, надаралася, яны распачыналі зусім не раёвыя бойкі. Падсвядома абуджалася зусім не ціхмяна анёльскае, калі ты белы і з крыламі, жаданне некага пабіць – вялікае пытанне, на якім ты свеце. Але што дзіўна, на вуліцы і ў хаце такога пытання не існавала і жадання біцца не ўзнікала. Толькі на пагоне, сціснутае ў варонках, сяброўства Солтыса і Войта абарочвалася непрыхаваным варагаваннем, невытлумачальнай зайздрасцю памяці да таго, што кожны з іх меў і не меў. Менавіта таму, што ў Солтыса была маці. Войт жа таксама аж захлынаўся, прагнуў займець маці. Пэўна, тое ж самае адбывалася і з Солтысам. Ён да замарачэння не мог даравацы Войту, у якога быў жывы бацька. Каб жа гэта неяк падправіць, звесці ў адно, і яны ўраўняліся, займелі не па адным на кожнага, а кожнаму па бацьку і маці. Сталі роўнымі ў сваёй долі і нядолі.

Праўда, Войт перамагаў Солтыса ў зайздрасці, маці якога была пры ім і ўжо нікуды не магла дзецца. А з бацькам Войта пытанне з пытанняў. Ён быў далёка, працягваў яшчэ вайну. На кожнай жа вайне, як вядома, забіваюць. Таму, магчыма, ён застанецца і без бацькі, як і без маці. Такім чынам, як ёсць, склалася сёння, хто, чые і каго яны. Таму і касавурыліся, не ведаючы, як ім на гэтым свеце звацца. І час ад часу ўскіпалі крыўдай, што даводзіла да бойкі, Як нехта на зямлі ці небе падбухторваў іх на пагоне ў варонках, забойных пазнаках, што звялі іх да нікога і нічога, біцца. Біцца не на жарт, да чырвонай юшкі.

Звычайна задзіраўся Солтыс, як больш трывала ўкаранёны наяўнасцю пры сабе жывой маці. Адбывалася гэта болей, што дзіўна, на поўню, калі пагон і варонкі выстаялі ноч і аб нечым перамовіліся з адкрытай насцеж дзіркай на небе, жоўтым бубнам для скокаў нячыстай сілы. Дарэчы, пагон пры гэтым таксама перафарбоўваўся з белага ў бубнава-жоўтае, нібы для скокаў ажыўленай той жа нячыстай сілы ўжо на зямлі. Услугоўваў тым сілам танцпляцоўкай, вокам і слыхавым акном у сусвет. І якраз тады, калі гэта вока набывала зрок, а вакно адчынялася, падобна, рушыўся свет і мір паміж Солтысам і Войтам. І пагон скурчваўся, калаціўся і шамацеў адразу жоўта пастарэлым пяском. Варонкі хіжа зявілі пашчы глыбам.

– А дзе ж гэта твой бацька? І ці ёсць ён у цябе? – парушыў мяжу згоды і міра стоенай у ім крыўдай Солтыс.

Ёсць, ёсць, толькі на вайне яшчэ.

На якой гэта вайне? Немцаў жа даўно пабілі.

Пабілі сваіх, што тут былі. А ў краіне ўзыходзячага сонца...

– Няма і не можа быць такой краіны. Наша сонца ўзыходзіць у Маскве. З Крамля. Здаецца мне, твой бацька недзе сабакам сена косіць.

– Сабакам сена без патрэбы, – усё яшчэ трымаўся міру Войт. – Не прыдумляй.

Дык гэта прыдумляю я?

– А то яшчэ як, – крыху паплыў ужо Войт.

– А ты, а ты... недапечаны, хаця і пры жывым яшчэ бацьку... у краіне ўзыходзячага сонца.

– А ў цябе маці пры табе, але ж, але ж... надта, надта кашчавая. Уся сям'я такая. Хата кашчавая, кошка кашчавая, певень кашчавы. І маці...

Лухту пораш, у морду хочаш?

Праўду кажу. Ты праўдзе не верыш? Баішся?

А, дык я баязлівец? А во табе, а во табе...

І пачалося, паехала сярод белага няўстойлівага ў варонцы пяску. Яміне ад выбухаў мінаў і снарадаў прабеглай і па іх пагоне вайны. Пры двух сонцах адразу на небе, па вясковых прыкметах, верным і нядобрым знакам зямлі і людзям.

Сашчапіліся да крыві. І, як звычайна, пасля гэтай крыві ацверазелі. Солтыс пачаў шкадаваць Войта, што чырвона пляміў белы пясок, узрушаны вайной. Шмыгаючы насамі, яны амаль па-братэрску аціхалі ў роздуме, з чаго і чаму іх так разабрала. Канечне, добра было б мець па бацьку, які не косіць сабакам сена. Маці, няхай і кашчавую. Думкі былі аднолькавыя, як і словы:

Які ж войт без солтыса...

Які ж солтыс без войта...

Хаця і падсвядома, але абодва мелі рацыю, прыгавораныя сваімі мянушкамі, якімі нікога на пустым месцы не адорваюць. І часцяком мянушка аказвалася больш правільнай за нададзенае імя. У адносінах да іх мянушкі былі дадзены ад павагі да кожнага. Так калісь была нарачона ў гэтых мясцінах улада. Яны ж чулі звон, але не ведалі, адкуль ён. Як не ведалі, чыя пасада, войта ці солтыса, большая. Солтыс жа сам прызначыў сябе ў большыя: а камандзіраў нам не трэба. Камандзірам буду я. Войт не пярэчыў, як кожны падначалены, трымаючы ў галаве: ну-ну, камандзірся, а мы яшчэ паглядзімо, як яно будзе. Так яны і прыглядвалі адзін за другім, павязаныя ўладай: пабіліся – памірыліся. Якраз у гэта "памірыліся", пэўна, ціхі анёл пралятаў над імі. Войт запрасіў солтыса да сябе на сябрыну.

І зноў той ціхі анёл, па ўсім, наведаў іх, ужо сытна ўлагоджаных і міралюбна памяркоўных. І зноў стрэлам бізуна па паўдзённым прыску і трубным гукам каровінага рога пазначыў рух вясковага часу пастух. І зноў, не чакаючы прымусовага выгану з сенцаў, ступіла на ганак карова. І, увагнуўшы галаву ў белай на чорным хустачцы, як дала нырца з прыступак, нібыта ў раку, а мо і на той свет. Солтыс, са спачуваннем назіраючы за ёй, задуменна мовіў:

– Хлеў усё ж прыйдзецца будаваць.

Прыйдзецца будаваць, – міралюбна пагадзіўся Войт.

## Месячна

Пасля апоўначы дзетдом заўжды спаў неабудным сном, набегаліся ўдзень і звычка ад вайны яшчэ – хавацца ўначы, углыб цемры. І ноч сёння не была выключэннем. Спаў у кабінеце дырэктара дзяжурны выхавальнік, таму што не павінен быў спаць. Але ж ён толькі нядаўна дэмабілізаваўся

з войска, ад абмотак яшчэ не пазбавіўся. Салдат, як схіліў галаву, так і прыкархнуў. Спалі ўсе выхаванцы, хлопцы і дзяўчаты па сваіх палатах, нават тыя, у каго была бяссонніца. Толькі на гаспадарчым падворку глыбока ўздыхалі, паражоўваючы дзень, і варочаліся, як самы ў віры, валы, ды ад корпуса да корпуса чорным ценем, дабіваючы дзень, бязважка слізгацелі кажаны, латкамі скураных крылаў згушчалі і сцягвалі – лапілі цемру і ноч.

Спаў разам з дваццаццю чатырма хлопцамі ў сваім пакоі і Васька Акола. Спаў, спаў, ды раптам прачнуўся. Не паспеў нават зразумець, чаму. Цемру, ноч, сон цанілі. А тут як абрэзала. Васька з усіх парэштак сненняў намагаўся заснуць зноў. Пераконваў сябе, што ён нікольki не лунацік і не злодзей. Не дапамагала. Мо ўсё ж трошкі, зусім трошкі, мелася гэта ў ім ад аднаго і другога. Зноў у ложак не хацелася. Ён плюнуў на сон, сеў і пачаў прыдумваць, чым жа заняцца. Пакідаць пакой вялікай ахвоты не было. На вуліцы, ён ведаў, на траву ўжо прыпала раса. Абутку ж ён быў пазбаўлены. Чаравікі з надыходам вясны адабралі ва ўсіх хлопцаў малодшай і сярэдняй групы. Каб не паразбягаліся да маразоў на волю.

Здагадлівыя, гады, – з сумам падумаў Васька. – Знарок, надыдзе восень, абуюся і ўцяку, у новых чаравіках.

Акола злез з ложка і падышоў да адчыненага насцеж на душную ноч акна. Але ж са двара патыхнула сырой вільгаццю і дурманячым водарам кветак, што раслі адразу за вакном. Ды ў нос, на цёплае, убіўся камар. Васька вычхнуў яго туды, адкуль ён з'явіўся, у цемру, і вярнуўся да ложка. І пачаў думаць: закахаўся я, ці што? Не без смутку падумаў: не мела баба клопату, купіла парася. Горычна так падумаў, але ж і абрадаваўся: папраўдзе – закахаўся. Толькі ў каго, не змог прыдумаць. Усе дзяўчынкі ў яго групе былі піскухі, прытым – актывісткі. І кахаць іх яму не хацелася. А выбар быў. І немалы. Цэлы асобны дзявочы корпус з палатамі на два выйсці. Толькі багата дзевак, а любіць няма каго. Хаця не, адна з іх паклала ўжо на яго вока. Сярод іх зрэдку пракідваліся і ніштаватыя.

Насця Пташук і Зоя Дашук. І нейкае паразуменне з імі ў яго наклёўвалася. Але не лёс, не лёс.

На дзетдомаўскім падворку гулялі ў лапту. Насця падкідвала ўгару мячык, Кораб біў. Толькі не па мячы, а па Насці. Ды так удала, што яе твар адразу ж заліўся крывёю. А яна і не піскнула, моўчкі дастала насоўку і пачала крывава ўціраццa. Што данельга кранула і ўразіла Ваську. Але ж гэта яе кроў аказалася на карысць не яму, а Корабу, яны як штосьці знайшлі праз яе. Васька ці не ў той надвячорак адчуў гэта. Адчуў сябе трэцім лішнім.

Нешта трапяткое і шчымлівае намячалася ў яго з Зояй. І гэта як пачулі. На Новы год яго прызначылі Дзедам Марозам, а Зою Снягуркай. Які з яго Дзед Мароз, лепей прамаўчаць. Снягурка ж атрымалася на зайздрасць. Толькі вось коскі ў яе былі караткаватыя. Дапялялі з вымачанай і абеленай льняной кудзелі – нашмат лепшыя за яе ўласныя. Той жа Кораб прыгледзеўся да гэтых кос, і яму засвярбела – сапраўдныя ці не. Падкраўся збоку і тузануў. Чужыя косы ўтрымаліся на галаве Зоі. А вось Кораб – не. Такую аплявуху адвесіла яму Зоя. Пацанскую. Кораба занесла пад ёлку, што зайчыка.

Якія пасля гэтага з такой дзяўчынкай магчымы любасці. Самому можна нарвацца. Не і не. І таму Насця – не шчасце. І Зоя – не тое. Але ж мелася амаль тое. Соня Абібак. Папраўдзе соня, не выключана, недзе мо і абібак.

Заўсёды запаволеная, трохі як снулая, бязмежна прыцягальная лагодным туманова віравым і абяцальным позіркам на ўсіх і кожнага. У тым ліку і на яго. Яму было нарачона ўтапіцца ў гэтым віраванні, што і адбылося. Але яна была відавочна старэй за яго і, пэўна, больш разумная ў вучобе. У гэтым годзе з пахвальнай граматай, на "выдатна", закончыла сёмы клас і намерылася вучыцца далей, на настаўніцу, значыць, і на васпітку-выхавацельку, не выключана, і ягоную. Напрыканцы лета павінна пакінуць дзетдом. Такім чынам, на ўсе яго любасці толькі месяц-другі, да восені. На што ён быў няздольны і нязгодны. І яшчэ мелася ў яго і патаемнае: ён перасцерагаўся разумніц. Таму, пэўна, прыгавораны толькі да самога сябе. І выказацца, пагаварыць няма з кім. Воўк-адзінец, нездарма яго мянушка Манах. І сяброў у яго не надта.

Да вакна падышоў месяц, жоўценька зірнуў на хлопцаў, што былі распасцёрты сненнямі пад белымі прасцінамі ложкаў. Арэлева, калыханкава асвятліў палату. Нікеляваныя спінкі ложкаў, адзенне на іх, шапотна дыхаючыя шторкі на дзвярах. Самотна прылеглы на падлозе, скручаны пасля адбою моркаўкай ручнік: на пачатку ночы ўшчувалі, морквай, мокрымі скруткамі ручнікоў, актывіста і даносчыка.

Васька падцягнуў калені, абаперся на іх падбароддзем і замёр, З-пад лоба сачыў за месяцам, адчуваў, як па яго твары скачуць цені ад вонкавай лістоты дрэў. Што конікі на сенажаці ці яго думкі. Падумаў так і заплакаў. Не было ў яго думак. Так, недаўменне рознае. Бабуля, яшчэ жывая, казала, калі пільна прыглядзецца да месяца, бачна, як брат забівае брата. Каін Авеля заколвае віламі. Забойства Васька не бачыў, але ўсё роўна шкадаваў Авеля: чаму і на месяцы як на зямлі. Саскочыў з ложка і сцягнуў коўдру са свайго суседа, таго ж Лёнькі Кораба, а па-дзетдомаўску – Мыса. Мыса толькі павярнуўся на другі бок і працягваў спаць.

– Я зараз павешуся, – тармасіў яго Васька.

– Вешайся, вяроўкі ў мяне няма, – мармытаў Мыса. – А на двор я апрастаўся з вечара. Рыбу лавіць сёння – не мая ноч.

– А матрац ужо мокры, – працягваў яго трэсці Васька

Мыса запусціў пад сябе руку, памацаў там:

– Яшчэ не. Сухенькі...

І прачнуўся. Звесіў ногі з ложка. Прыгледзеўся да Ваські.

– Чаго табе? – прыселым ад сну голасам, у прыжмурку ад месячнага святла, спытаў.

– Пагаварыць трэба.

– Ты з дрэва ці з месяца? Лунацік, уначы па дроце ходзіш?

– Не... Не даводзілася.

– Тады спі, – ужо ўголас сказаў Кораб. – Спі, – і пазяхнуў.

– А хочаш, я зараз крыж з могілак прынясу, – недалужна, ужо сам пераходзячы на шэпт, прапанаваў Васька. І спалохаўся. Могілкі месціліся побач з дзетдомам. Старыя, занядбаныя, напаўпольскія, напаўвясковыя клады, нават невядомага, чужога часу. І таму асабліва страшныя непрадказальнасцю там пахаваных нябожчыкаў. Цяжкія, жалобныя, з каменя і драўляныя, як прарослыя з зямлі, мохавыя крыжы. Зяўраста цьмяныя, асклізлыя ў выскале жудаснага рогату склепы. Нават наблізіцца апоўначы да такіх могілак было непамысна. Менавіта таму, калі яго першы раз пабіў Мыса, каб даказаць яму, а больш самому сабе, што ён не са слабакоў і баязліўцаў, Васька ўдумаў уначы ўкрасці і прынесці ў сваю палату з гэтых

могілак крыж. Але здзейсніць гэта неяк не выпадала, то засынаў і не мог у час прачнуцца. А калі прачынаўся, узгадваў, што яшчэ не абраў, які крыж красці. Але за гэтымі адгаворкамі хаваўся нейкі даўні водгалас, з якога, пэўна, яшчэ ён падсвядома пачынаўся ці нават зачынаўся. Водгалас, рэха страхаў жыццяў, што неасэнсавана ён насіў у сабе. Яны цяпер, падобна, адышлі, але могілкі, нябожчыкі, а больш яго ж глупства, выявіла нешта іншае ў ім. Адчуванне: яны побач, побач нябачна існавальныя. Што аднавіла боязь таго, праз што, яшчэ не цямячы сябе, ён прайшоў. Боязь ночы, цемры, тых жа кажаноў, не выключана, пасланцоў таго свету, сведак, мо і родзічаў-братоў, што заколвалі адзін аднаго віламі. Ён пачаў баяцца за сябе, страшыцца сваіх страхаў. І таму спалохаўся: а раптам Мыса загадае – нясі. Бяжы па крыж на могілкі. Але Мыса быў непрымальна супраць:

– Я спаць хачу, цікавы сон не дагледзеў. А красці крыж – нецікава.

– Нецікава? – закаціў вочы Васька. – А следам за мной сатлелы ўжо нябожчык, шкілет: аддай мой крыж, вярні дзе ўзяў... – І Васька аплёў Мысу за шыю.

Мыса адштурхнуў яго і пацягнуўся па коўдру:

– Даўнавата ўжо я табе юшку пускаў. Забыў ужо.

– Сёння ты мяне не адужаеш. Сёння месяц, поўня. А ў поўню я моцны, што Каін. У поўню я мацак. Мы з ёй заадно, – выказаўся Васька і сцягнуў з Мысы коўдру. – Ведаеш, колькі ўва мне зараз сілы... Падстаў лоб, я дам табе шчалбана. І лоб твой – надвая, што арэх.

– Бі, – падставіў лоб Мыса. – Толькі я пасля цябе кулаком паміж вачэй і выскачыць яўрэй.

Васька ўжо ўзняў угару руку, але адразу і апусціў яе:

–Я не маню. Калі поўня, я ці не з яе, з медзі там здабыты. Мне шкода цябе. Лоб у цябе, – відавочна, – на дзве палавінкі.

І ён сам верыў кожнаму свайму слову.

– А не хлусіш? – зноў перайшоў на шэпт Мыса.

– Ніколькі, Поўня не трывае хлусаў, – Васька задрыжэў і замоўк – Тады страшна, – спалохаўся і Мыса. – Не маўчы, давай гаварыць. А так – страшна.

Васька саскочыў з ложка і хуценька-хуценька заснаваў па палаце. Трапяткія цені лістоты праз акно сутаргава спрабавалі суцішыць яго, драпалі плечы, грудзі і бездапаможна падалі на падлогу. Па месячнай сцежцы лятучымі ўспышкамі бруіўся дзённы хлапчукоў пыл.

– Ты вось не верыш, – раптоўна спыніўся і загаварыў Васька. – Са мной ужо было такое. Аднойчы ўначы на поўню я ледзь зямлю не раскалоў. Немцы хлеў з людзьмі запалілі. Я стаяў і глядзеў, як ён гарыць. Поўня і агонь. І галасы, крыкі з нябёс, з поўні. Я тупнуў нагой і як выключыў галасы. Зямля трэснула. Я зусім бы знішчыў яе. Толькі не здолеў другі раз падняць нагу. Пакаціўся сам. А калі падняўся, быў ужо дзень, сонца і сівы папяловы пыл на мне і траве. Той пыл здзьмуў, адабраў у мяне сілу. Знікла мая сіла.

–У тым хляве згарэла твая маці?

– Не ведаю...

Яны ўжо сядзелі на адным ложку, што ў кубле, цесна прыцертыя адзін да аднаго, не зводзячы вачэй з поўні.

– Я пры ёй зараз такі ж дужы, як і ты. Ну, можа крышачку саступаю, – запэўніваў Мыса Ваську. – А Мысой дражняць таму, што малы быў, і

калі з братам прывялі ў дзетдом, я не вымаўляў яго імя – Міша. Бегаў за ім і клікаў: Мыса, Мыса. Так і пайшло за мной: Мыса.

– Не перажывай, – супакоіў яго Васька. – Бывае і горш: дурань не здагадаецца, а разумны пойме.

Усё ж гэты Кораб пры ўсей сваёй карабкаватасці, дурасці і глупствах меў шмат і станоўчага. Адзіны з усіх дзетдомаўцаў іграў у ленінскім пакоі на піяніне. Сабачы вальс. Не ведаў супернікаў у спаборніцтвах на бярвяне на школьным двары. Камлюкаваты, ён як быў прырослы да таго, метраў з пяць, бервяна на двух слупках, абчасанага з усіх бакоў. Нібыта караед ці клешч упіваўся ў бервяно, не саступаў нікому, хто спрабаваў яго скінуць долу.

– Давай будзем з табой сябраваць, – прапанаваў Васька.

– На ўсё жыццё, – адразу ж пагадзіўся Кораб і трошкі падумаў: – А што ты за гэта мне дасі?

– Выспятка. І не аднаго, а два ці тры, – шчыра паабяцаў Васька. – А цяпер пойдзем і замацуем наша сяброўства. На могілкі па крыж.

– Неяк няёмка пачынаць сябраваць з могілак, – зноў выказаў нязгоду Мыса. Падумаў і сказаў. – Я хачу сліў.

– Зялёныя ж яшчэ. Зеляпушчыя.

– Вось такіх я і хачу, каб набіць аскоміну і больш іх не хацець.

Яны ціха выслізнулі з палаты. На дыбачках мінулі кабінет дырэктара, у якім спаў дзяжурны выхавацель. Выйшлі на дзетдомаўскі падворак, дзе адразу ж каля ганка сярод бэзу чысценька і бела кучаравіўся, не ў прыклад ім, бездакорна выхаваны хлопчык, чаму вакол яго букетамі цвілі кветкі і так водарна сыходзілі пахам, што было дзіўна, як ён трывае і дыхае. Усё астатняе на падворку стоена адпачывала. Толькі дубы, пасланыя, пэўна, з іншых светаў, каб захаваць зямлю, зрэдку спрасоння перашэптваліся, усклаўшы на сябе ўжо і дзетдом з сіротамі, узяўшы яго пад сваю волатаву варту. Ці не дзеля гэтага іх яшчэ ў старажытнасць нехта паставіў тут? Такая надзейнасць сыходзіла ад іх зямлі, трываласць і моц, што мімаволі хацелася да іх хоць крышачку далучыцца. Паяднацца з іх дужасцю абдымкамі, чым яны неадкладна і заняліся. Прытуліліся да броневай кары аднаго, не самага вялікага, тварамі, паспыталі гэтую бронь на смак: нічога, пасаліўшы есці можна. А потым з двух бакоў паспрабавалі ахапіць рукамі. Толькі чатырох іх рук не хапіла. Яны палічылі, што так і трэба. Прайшліся вачыма па металёва каванай, узорнай лістоце знізу ў цьмянай даўніне пацiны старажытнасці, а наверсе – вісла выстаўленай нябёсам царкоўнай макаўкай у пазалоце ўгрэтага месяцам сусальнага золата. Развіталіся з дубамі, пакрочылі далей.

Мінулі піянерскі грыбок, пад якім удзень звычайна сядзеў пры чырвоным гальштуку перарастак прыдурак-актывіст, вартаваў няведама што і каго пры дзірках у плоце на кожным кроку. Выйшлі на вясковую вуліцу, неапазнана чужую і адначасова бясконца сваю, з края ў край прасякнутую такім ачышчальна-жоўтым святлом поўні, што сапраўды, хоць у стозе сена іголку шукай. І іх цягнула пашукаць тую адзіную іголку ў мурожным сене. Месячныя сцежкі ім ужо былі пракладзены да пазалочаных шапак стагоў на гаспадарчым двары. Яны падсвядома адчулі сябе шукальнікамі той адзінай іголкі ў сцірце саломы. Шукальнікамі і першапраходцамі пашыліся скрозь прывідныя мроі святла, што іголкава знітавала сусвет з зямлёй да схаванай недзе да пары да часу іголкі.

Падышлі да ракі, што цякла згуслай, распаленай уначы месячнай бронзай. Мімаволі шлях пралёг каля могілак. Хаця страх на двух здаўся і не такім вялікім, як паасобку, па адным, міналі іх амаль подбегам, адварочваючыся позіркам у процілеглае ім поле.

Вось там жыў страх сапраўдны, аб якім яны забыліся, баронячыся ад страху могілкавага. На полі ўдзень, пры сонцы, у навальніцу маланка забіла жанчыну. Навальніцы ж тут надараюцца жудасныя, як нечым правінілася зямля. І зямля скаланаецца, гром перыць вясковыя хаты, вецер зносіць коміны, маланка бізунамі ўспорвае і сцябае векавыя дрэвы, больш дубы, пляжыць да дуплаў, а то і валіць.

Так было і ў той дзень. Жанчына адна на сваім полі ў нядзелю, што было, пэўна, грэшна, па другім ужо разе палола буракі. І з жалеза, у якое звычайна меціць маланка, была ў яе толькі капанічка. Маланка апаліла і аплавіла тую капанічку, а жанчыну забіла насмерць.

Мыса з Васькам выйшлі на тое месца, дзе гэта адбылося. З заміраннем сэрца прыгледзеліся. На полі завіхалася нешта жывое. Жаночая постаць у белых апратках пры месяцы ўначы працягвала дзённую работу. Палола буракі. Нагіналася, выпроствалася, выбірала пустазелле, адкідвала яго ў разору. А за жанчынай гадава слізгацеў і коўзаўся, хістаўся і каменна заміраў нехта то ў чорным, то ў шэрым, а то і наогул скурава аголены. Жывы і непадробны. Страх. Жудасці дадаваў даўгалыгі пажарны маяк на краі поля. Ім ужо даўно не карысталіся, але і не зносілі. І ён, як пагрозліва недаравальны сведка, а мо і ўдзельнік забойства, высіўся на бугры. І пад поўняй, здаецца, сам нема палаў і гарэў, падпальваючы наваколле. Хвастатым агнём, полымем імкнуў узляцець, узняцца ў неба. Але, пэўна, даўно ўжо згубіў ці спаліў крылы, здольны быў толькі трызніць колішнімі пажарамі ды, крыж-накрыж абабіты чорнымі балясінамі, служыць помнікам таму, што тут адбылося. Помніць, пужаць і пускаць страхі.

Яны, колькі мелі ног, кінуліся прэч ад маяка, поля і працавітай нябожчыцы. Доўга не маглі аддыхацца каля лозаў возера Вясковага, не менш страшнага і дзіўнага, ад чаго толькі што збеглі. Вельмі падобнага на вясковае жыццё, таму так і названае. Увесну разліваецца, што мора. Улетку высыхае да неймавернай, што дзёгаць, скарынкава падпечанай гразі. Птушкі не наважваліся міма пралятаць, а тым больш садзіцца, качкі – віць паблізу гнёзды і выводзіць качанят. І было надта сумнеўна, якому свету прыналежыць возера. Тым больш, што з тым і гэтым светам яно звязвалася шматлікай прастрочкай дзірачак, мо каб дыхаць паміж тагасветнасцю і зямлёй, травамі і ўюнамі, што месціліся ў глыбіні тых дзірачак.

А рыба разам з вадой знікала, адыходзіла ў тагасветнасць. І жыла там па чорнаму, не маючы ні зроку, ні слыху. Зрэдку толькі ўцякала на паверхневыя, зямныя воды, рэкі і азёры. Трапляла ў жакі, мярэжы і сеткі вяскоўцаў, якія грэбавалі такім уловам, кідалі зноў у ваду, а то і трушчылі д'ябальскую зроду. Такое вось са стагоддзяў вёска мела сваё ўласнае блуднае возера.

Цяпер жа пад сярэдзіну лета і межань яно значна абмялела. Але вады яшчэ хапала. І ў той вадзе, падобна, утапіўся месяц. Медным тазам ці бубнам кульнуўся ў непраглядна чорную ваду, а мо ўжо і ў гразь. І рагатаў ад задавальнення, нібыта яму дагэтуль свярбела, а цяпер яго казыталі. Рагатаў так, што рабацілася і моршчылася ад задавальнення возера. Месяц жа на небе, брат тапельніка, прамянёвымі сцежкамі гужоў намагаўся

выцягнуць яго з чорнай вады і гразі Вясковага возера. Але ён упарціўся і не даваўся. Ці то прысмактаўся да багны, ці насельнікі не адпускалі, не жадалі застацца без параднёнага ўжо з імі месяца. А ён і не хацеў, мо намерваўся явіць, прывязаць возера да гэтага свету.

Аднекуль з цемрадзі ночы, прытоенай у кустах лазы, ці чарноты возера, хлопцы чулі загад кінуцца ў возера і дапамагчы тапельцу. І яны ўжо былі гатовы падпарадкавацца яму. Больш за тое, былі ўжо ў возеры. Адчувалі, як твань багны ўсмоктвае ўглыб іх голыя ногі. Але таксама невядома адкуль, мо ад кожнага з братоў месяцаў, а мо і з іх саміх, загучала процілеглае: не кратацца, заставацца на месцы. Абодва галасы былі аднолькава абвалакальна-ласкавымі і саладжавымі. Спрацавала дзетдомаўскае: не ўсё салодкае – цукар. Так яны пазбавілся навалачы і зноў апынуліся самі ў сабе і на беразе. Зноў рагатаў у возеры тапельнік, а брат яго ратаваў, выцягваў нябеснымі сцежкамі на Божы свет.

Захоплены гэтым і зачараваны высілкамі нябеснага месяца і непадробнай шчырасцю тапельніка, Васька ўжо сумняваўся, што там, на небе, у сваёй хаце, яны біліся, і адзін віламі закалоў другога. Не ў гуморы ці ў чорным гуморы была яго бабуля, калі казала такое.

І вясковая вуліца, здавалася, у згодзе з ім. Абодвух іх сустрэла гасцінна, чаравальна-ласкава і з чаканнем. Адвечным спакоем одуму хатаў, зажуранаму пагляду іх вокнаў, што з такім жа одумам шкляна ўсмоктвалі ў сябе цемру і цішу. Прымалі месячнае ззянне з адстоянымі ў ім пахамі і водарам збытага ў працы мінулага дня. Мо таму вулічны лятучы прысак быў падобны на ток з набітай сухой гліны, на якім цапамі малоцяць збожжа. І, здавалася, снапы ўжо леглі на гэты ток. І пырскала цяжкім зернем абмалоту спелае жыта, толькі ток быў усё ж прывідна ўдаваны, не цупкі, а з цёплага пяску, у якім грузлі ногі.

Яны як плылі па ім на чоўніку, па прылеглай яму залатой і рухавай сцежцы. І неслі на сабе тую сцежку пад ухвальным паглядам цьмяна заклапочаных пячных комінаў на дахах хатаў, лазова-плецена забраных у кальчугі платоў. І амаль ваяўнічай насцярожанасцю галоў тых, хто хаваўся за імі. Пасаджаных на пляцень на прасушку мытых з вечара гаршкоў, чыгуноў, жбанаў і макітр. Усё гэта было іх і ў іх. Не палохала і не страшыла.

Сліву яны абабралі на водшыбе ад жытла – напаўздзічэлы зараснік. Нічыйны, таму што раней, калі за кожнае садовае дрэва плацілі падатак, уладальнікі іх выракліся. Выракліся, а ў іншыя часы так і не прыкінуліся. Мыса з Васькам доўга ўжываліся ў іх сумны подых. Іншага ж дыхання не адчувалася. Здаецца, і птушкі не вілі там гнёздаў. Слівы былі невысокія, пад іх рост. І яны без намагання пачалі рваць іх. Толькі дзікія слівы нечакана аказаліся ўчэпістымі на дрэве. Але хлопцы не зважалі на гэта, нарвалі поўныя пазухі.

Да дзетдома вярталіся не спяшаючыся, пасля травянай роснасці падсліўя ногі іх холадна пабраліся курынымі цыпкамі. І таму пясок здаваўся сапраўдным, неастылым яшчэ прыскам, попелам, і такім мяккім, што гублялася адчуванне зямлі. І яны да яе цвердзі закопвалі ногі, на імгненне прытрымлівалі іх там. Даставалі з запазухі слівы і кідалі ў рот. Слівы не пазбавіліся яшчэ прахалоды дрэва, былі прутка слізкімі, як толькі што злоўленыя рыбкі. Няспела кіслымі, паверхнева толькі чарнільна пазначаныя летам. І яны мякчылі іх языком, нёбам і асцярожна працюквалі адным зубам. Пасля чаго на ўвесь працяг надкусвалі. Зубы іх даўно зняможыла

аскома. Але яны заставаліся да гэтага абыякавымі. Ім было хораша, утульна ўначы на зямлі. Жмурыліся ад аскомы, таксама прыжмурана пазіралі на месяц, як коцікі на сонца. Месяц быў усклянь поўны святла, і па хатняму ў хустачцы – на добрае надвор'е. Ахутаная яго спакоем, ціхамірна і лёгка спала вёска. Глыбокім сном спаў сонечнік, захуташыся ў сваю ж дзённую хустку. Глыбокім сном, абапершыся на пляцені, спала вясковая ахова – чыгуны, гаршкі, жбаны і макітры.

І гэта было амаль незямным. Два хлопчыкі з напоўненымі зялёнымі слівамі пазухамі і аскомінай у роце ішлі да сябе дамоў. У заўтра.

## 2. СТАЛЕННЕ

### Забутоўка

Той Нікадзім Калістратавіч Калупаеў ужо даўно быў павінен сысці з круга. Забойшчыкі на пятым дзясятку, ды яшчэ на крутым падзенні пластоў, у яго гады ў лаве звычайна не вытрымліваюць. Сыходзяць, хто яшчэ нічога захаваўся – у праходчыкі на дробную нарэзку. А хто ўжо добра знасіўся і выдыхся – у крапільшчыкі: старэча з сякеркай, як на дрывотні, па штрэках і збойках дацягваюць да пенсіі. Але Нікадзім Калістратавіч ці, як яго адны з павагай, другія паблажліва на шахце звалі, Какт*у*с (націск на у) Калупаевіч, свайму веку не паддаваўся. Трымаўся ў забойшчыках. І не толькі трымаўся. Тут варта адзначыць, што падзямелле, шахта, агаляюць і распранаюць чалавека да яго першастварэння. У Калупаева ж гэтага першастварэння было ажно залішку. Апошнім часам ён звярэў на рабоце.

Вось і цяпер забойшчыкі, як качагары апраметнай, голыя па пояс, у алейнай змазцы поту, смуглява аздобленага лятучым вугальным пылам, ужо прайшлі палавіну лавы. Загадвалі: хутка шабаш і ў клець, нагар*а*. Камбайн ходка і спраўна няўмольна імкнуў наперад, жалезнымі зубамі падсякаючы каменна-зляжалы пласт вугалю. Скрабковы канвеер рухава падхопліваў яго і, не марудзячы, сплаўляў у вуглеспускную печ. Вырабатку, сапраўды падобную на печ, шарава абсечаную, з высокім небам і коўзкім каменным подам. Ні даць, ні ўзяць – пякельная печ, гатовая пераварваць усё, да чалавечыны нават. З ухілам у сорак градусаў для хуткага перакульвання варыва ў зяўрасты люк, праз які ўнізе, на адкатачным штрэку, ішла пагрузка ў ваганеткі. Усё, як Бог і д'ябал прадпісалі. Але раптоўна канвеер скасабочыла, нібыта ён пераеў. Вугальная плынь спыніла цёк да печы. Вугаль пачаў завальваць забой. Печ, пэўна, была ўжо напакаваная ім, адмаўлялася больш прымаць. Па ўсім, забіла пагрузачны люк. Забуціла. Спынілася пагрузка вугалю ў ваганеткі. Усё і адразу аслепла, аглухла, спынілася.

Забойшчыкі застопарылі камбайн, "перакурваюць". П'юць гарбату і каву, пустошаць "тармазкі". Машыніст камбайна, голы па пояс і ў салідоле па ўсім целе, магутны дзяцюк, поркаецца ў чэраве свайго таксама асалідоленага жалезнага страшыдлы. Разбучваць печ ёсць каму, а спатрэбяцца яны – шумнуць, не першы дзень замужам. Дый перадышка выпала дарэчы. Але не ўсім. Кактус Калупаевіч толькі ўладкаваўся на стойцы, адразу ж і падхапіўся:

– Падобна зашумела? Пайшоў вугалёк.

– У галаве ў цябе шуміць, – рады пасмяяцца, пад'юджвае яго забойшчык з маладых Пятро Шахматаў.

– Чаго зубы скаліш? Рады чаму? Стаім жа. Прастойваем, – навучае яго Калупаеў. – Смяшлівы, я гляджу, не па гадах.

Шахматаў і на самой справе смяшлівы да прыдуркаватасці. У шахтавых прыцемках гэта асабліва кідаецца ў вочы. Здаравенны хлопец, а пры гэтым яшчэ і губасты, як подмазку ў маці ўкраў і па сёння есць. Таму і рот заўсёды наросхрыст, што хлеў. У забой ён прыйшоў нядаўна. Пасля тэхнікума на горнага майстра. Але майстраваць яму, па ўсім, прыйдзецца вох як няхутка.

– Дзелам бы заняўся, – не сунімаецца Калупаеў. – Лёгкі народ пайшоў. Лянуецца лішні раз і нагнуцца. Работу рабіць зусім адвык. Як сланы ўсе, толькі з-пад палкі, толькі па званку ды па гудку...

– Вы, дзядзька Нікадзім, забыліся нам паведаць, як вашы какт*у*сы пачуваюцца? – удавана зацікаўлена перапыняе старога забойшчыка Шахматаў.

– К*а*ктусы? – купляецца, толькі папраўляе націск, Калупаеў. – Ды прыстойней за цябе, разумна... Вось вам скажу, да чаго ж цікавае стварэнне. Рознае. Ёсць накшталт цябе, усмешлівыя і без клёпак у галаве. Ёсць паджарыя, што гліста, але з галавой, як галоўны механік шахты, а ёсць і брухатыя, у жывот пайшлі, падобна інспектару па тэхніцы бяспекі нашага ўчастка. З-за чэрава і зямлі пад яго нагамі не відно. І ў тым чэраве ўвесь яго розум. А ёсць, што брыгадзір наш, як, як... – замінаецца Калупаеў.

Брыгадзір апякаецца кавай з тэрмаса, але церпіць. А Калупаева панесла ўжо:

– І вось гляджу я, хлопцы, на свае кактусы, гадзіну магу, дзве. Да чорцікаў у вачах, да нячысцікаў у галаве. І здаецца мне, што не ўсе ў мяне дома. І сам я не ў сваім доме. Не мая, а іх гэта хата. І не кактусы перада мной, а жывыя людзі, а мо і нелюдзі. Пазасветныя, хаця і людскай пароды. Дзеці, дзеці яшчэ ў маёй хаце. Маўклівыя, гаваркія, добрыя, злыя, разумныя ці як наш Шахматаў пасля шахты ў пад'ездзе сярод сваіх хаўруснікаў, што падпіраюць азадкамі сцены. Кураць і маўчаць, маўчаць і кураць. Недакуркі абсмоктаныя да сцен і столі прыляпляюць. Пішуць некаму і ў нікуды на белых сценах пісьмы. І так зацята, нібы ўсё роўна да Бога звяртаюцца ці вырашаюць, каму сёння морду пачысціць. Вось і кактусы, зялёныя і яшчэ больш зелянеюць. Калючкі тапыраць і маўчаць, хаця і не кураць. Надараецца, некаторых з іх прарывае – расцвітаюць, як надыхаліся нашай зямлёй. І мне, як без сілікозу і антракозу, напоўніцу дыхаецца. Пакласці вока, прайсці міма іх і то прыемна. І сны лёгкія сняцца, чамусьці больш заморскія... Не, хлопцы. Я вам скажу, ніколькі не расліны гэтыя кактусы... Кактусы, адным словам.

– Вядома, – душыцца смехам Шахматаў.

– Што вядома? Каму вядома? Адкуль? – Гэта зусім не пытанні, а нешта значна большае, агучанае голасам, але стоенае ў Калупаеве пад чорна навіслым над ім векавым пластом антрацыту. Застарэлае, балючае, туга заплеценае і такое шчырае, што Шахматаў прыкусвае язык і ніякавее:

– Ну... ну... не расліны...

Шахматаў задаволена ўзрушваецца і ледзь не падае з лесвіцы, на якой уладкаваўся сядзець. Каб захаваць раўнавагу, торгае нагамі. Цяпер яму не да смеху. Але ён удавана ўжо трымае марку веселуна. Адчувае, яе нельга губляць. Ёсць характар, быць яму ўсё ж горным майстрам. Забойшчыкі памоўчваюць, забыўшыся на свае “тармазкі”. І святло ў лаве ад іх шахтавых лямпаў больш не мітусіцца і не скача. Цемра ў завале, адпрацаванай

пустцы, хіжым драпежнікам прылегла на задніх лапах, як пры нападзе, падрыхтавана да скачка. Праблісkваюць белымі залысінамі на піхтавых стойках свежыя зарубкі, як не дапісаныя і не адпраўленыя свету лісты. Аксамітна-мякка адсвечвае зыркімі зенкамі вочак вугальны пласт у няўмольных абдымках каменю.

Брыгадзір пільна прыглядаецца да Калупаева і ціха цэдзіць:

– Нешта рана, Калістратавіч, дурыцца пачаў. Рана. Зірні на сябе. Якія твае гады.

– Мабыць, не рана. Сама прыспеў час, – таксама ціха адказвае яму Калупаеў. – Званка пакуль яшчэ не чутно. Але кактусы ўжо адольваюць. Нічога не папішаш, вычарпаўся. Не па-шахцёрску, калі табе ўжо за сорак, а ты ўсё яшчэ з Шахматавымі ў лялькі гуляешся. Мо і яны, гледзячы на нас, тэхнікумы заканчваюць, а ў яселках ці дзетсадках жывуць...

– Кактусы. Залатыя рыбкі ў акварыумах, птушкі-канарэйкі, хамячкі, марскія свінкі – на гэтым мы і заканчваемся...

Усё, што казаў брыгадзір да апошняга слова, слушна. Шахтавае ў кожным з іх, асабліва носьбітаў небяспечных прафесій – забойшчыкаў, праходчыкаў, у пэўны час прагнула забыцця. Мо таму, што ўвесь час унутры зямлі пачуваліся, як пад расстрэлам. І на сыходзе свайго звання пераўтвараліся ў аматараў розных хатніх істот, абіралі ціхі і далёкі ад той працы, якой аддалі жыццё, занятак: рыбалку, грыбалку, пчалярства, садаводства. Дабіралі адабранае каменнай закаркаванасцю падземнасці, амаль тагасветнасцю. І тое, што набліжалася да Калупаева, было непазбежнасцю, нарачонасцю. Брыгадзір жа, хаця яшчэ і далёкі ад гэтага, малады, прадчуваў і разумеў самаедныя пакуты старога забойшчыка – па пасадзе і няпісаным законе шахтавай еднасці, амаль пабрацімства. Па слыху, паху, зроку, светаўспрыманні. Калі свежа адлучоны ад зямлі, яшчэ не ачахлы вугаль жывёльна-цёплы і зазыўна-чорны, як запечаная кроў.

– Мы з табой яшчэ дадзім, дадзім радзіме вугля, хоць і дробнага, але да х... А Шахматавы, – тут брыгадзір павысіў голас, каб, пэўна, пачуў і Шахматаў. І той пачуў. А брыгадзір працягнуў:

– Ён яшчэ шахты не паспытаў. І яна яго не паспытала. Маладыя, непакусаны. Саладзей морквы нічога і ў рот не браў. Яго яшчэ ў хамуце хадзіць вучыць трэба – мачыць, сушыць і плакаць не дазваляць. Шэры, сыры яшчэ народзец.

– Слабы, – падводзіць рысу словам брыгадзіра Калупаеў. – Біць, біцца і жыць слабы.

– Гэта я слабы? – не верыць сваім вушам Шахматаў. – Памераемся? Стукнемся!

– Памераемся. Стукнемся. Падымайся. Разлёгся, што ў цешчы на імянінах. Не рабіў, а ўжо на пенсію напрошваешся. Ды робу скінь, горача будзе. Я табе пакажу, як кактусы размнажаюцца.

– У завал яго запры...

– Замест стойкі прыстасуй. Няхай столь, дах падапрэ і трымае, – раяць наўздагон Калупаеву забойшчыкі.

Ён толькі адмахваецца і нечакана пакідае забой. Галопам праскоквае міма застылага, усклянь напакаванага вугалем скрабковага канвеера. Косіць вокам на ўзнятую, падобна птушынай дзюбе над дуплом дрэва, у якім гняздуе, галоўку таго ж канвеера, чорна навіслую над безданню вуглеспускной печы. І бягом, бягом. Толькі мільгаюць адпаліраваныя

гумавікамі шахцёраў прыступкі крутых трапаў, авалы адшліфаваных і зашмальцаваных дотыкам вугальных рук стоек, вужова паласатыя спляценні браніраваных і гумавых кабеляў.

Праз узрушанасць, здаецца, ён адчувае, як па гэтых гадавых жылах цячэ і бруіцца нікім не спазнаная магутнасць, імгненна гатовая парваць і ўзбурліць нястрыманасцю нячыстай сілы каменную стоенасць шахтавай цішы. Абудзіць і насыціць яе стоенымі галасамі вечнасці і сучасным гудам і енкам шахтавых механізмаў, чорнымі вадаспадамі нястрымана бягучага вугалю. Ён жыва ўяўляў гэты толькі-толькі выдзерты з мацярынскага чэрава, цёплы яшчэ навобмацак і на вока, свежа яўлены свету вугаль. Яго цела, кожная ў ім жылка як звязаная адной пупавінай і нават прафесійнай хваробай, невылечным да схону антракозам, адклікалася на параднёнасць з гэтай ці не ім жываствoранай існасцю. Ён сам тварыў, нараджаў яе напружанай нецярплівасцю адкрыцця працы, паяднаны з дрыготка неўтаймаваным камбайнам, пругкай прахалодай трываласці стоек, падпарадкаваннем іх джалячаму бляску яго сякеры. І, нарэшце, такому непаслухмянаму, звярына ашчэранаму пашчай, але скоранаму ім вугальнаму пласту. Усё разам і ёсць цалкам ён. Нікадзім Калістратавіч Калупаеў. Кактус Калупаевіч.

І ён прагне, каб так было і заставалася заўсёды. Каб так было і ў яго брыгадзіра, і ў Шахматава. У кожнага шахцёра. Толькі, на вялікі жаль, у яго амаль няма ўжо часу, каб насыціць сваёй прагай хаця б аднаго Шахматава.

Ён бяжыць, гнаны цішай і падазрона чорнай маўклівасцю залежы вугалю, што, мроіцца, абрушваецца на яго невымернай цяжкасцю навіслых над ім спрасаваных тысячагоддзямі парод. Каменю, вугалю і ўсяго іншага, да золата. Ён змагаецца з вякамі, тысячагоддзямі, прабівае іх прагнай ярасцю свайго нецярпення, напалам з азартам, забойнасцю адвечных, як у кожным, чаканняў, надзей і страхаў. Канае ад усведамлення непапраўнасці, калі гультаяць рукі, ад бязлітаснасці пустаты гібення, шэрасці і тугі, якімі пагражае яму час. Ён бяжыць, каб застацца, бяжыць ад таго, ад чаго ў яго век немагчыма збегчы.

Ён ведае аб гэтым. Мо таму і няздольны спыніцца. Чвэрць стагоддзя ён быў забойшчыкам. Перад ім здымалі шапкі інжынеры, начальнікі шахт і нават міністры. А цяпер былое гоніцца за ім, часам і апераджае яго. Нерухомасць цішыні – гэта не толькі калі не рухаюцца канвееры, паміраюць камбайны, маўчыць вуглеспускная печ, пячэ вока і апальвае цела, нема пазіраючы на цябе, вугаль, але і паспешліва бягучы за ім той жа Шахматаў, спорны і бяздумны тупат яго крокаў – поступ і дыханне яго брыгады, участка і ўсёй шахты.

– Нешта зламалася, нешта зламалася, – услых, не чуючы сябе і не заўважаючы таго, – паўтарае на хаду Калупаеў.

– Забурылася ваганетка на пагрузцы, ці доўга не было паражняку, – даводзіць яму Шахматаў. – І печ забуціла.

– Забуціла печ?.. Работа забуцілася... Ну і хрэн з ёй. Работа не Аліцет, у горы не пойдзе... Ад работы коні дохнуць.

– Коні дохнуць ад бяскорміцы, а не ад работы. – Калупаеў спыняецца, як колам падпёрты, каля збойкі, кароценькай вырабаткі, што злучае вуглеспускную печ і хадок – метраў за пяцьдзясят ад пагрузачнага штрэка.

– Ідзі паперадзе, – наказвае Шахматаву. Той бачком, збіраючы на робу сланцавы пыл, нырае ў збойку. І, як толькі што Калупаеў, спыняецца. Печ ледзь не пад дахавае пакрыццё забіта вугалем.

– Забуціла капітальна, пад самыя памідоры, – прысвістваe ад нечаканасці. – Гэта працай завецца. Языком ты спраўны. А вось рукі ў цябе адкуль і навошта, я яшчэ не ўцяміў. І ты ў бацькоў забыў спытаць.

– Акраец хлеба з маслам, лыжку трымаць. І гэта самае, некаму насы папраўляць.

– Во-во, шырынку шчэ зашпільваць. А як наконт рыдлёўкі, лома, касы і сякеры?

– А так. Архаіка. Мы жывем жа ў век навукова-тэхнічнай рэвалюцыі. Мы ж робім ракеты, з балетам паперадзе ўсяго свету.

– Гэта вы, а мы, архараўцы, пад зямлёй корпаемся. Вугаль здабываем.

– Ну і што?..

– А тое, што я не ведаю, як там з ракетамі і балетам, а нам упірацца трэба да завароту кішак.

– Ясна, ясненька. Ужо бягу ва ўдарнікі камуністычнай працы, трымайце мяне за штаны. План перавыконваць... А тое, што ў гэтую вырабатку тэхнікай бяспекі нам удвох і нос сунуць забаронена. А тое, што гэтай печы наогул забаронена забучвацца. Гэта ты ведаеш?

– Я усё ведаю, не пужай бабу сціртай саломы. Не пужай яе тэхнікай бяспекі. Таму што ўся тэхніка бяспекі – гэта я і яна. І тое, што і як мы робім.

– Вось цяпер ужо да капейкі ўсё праясніла, – гаворыць Шахматаў. – Зразумела, чаму нас загналі ў гэтую печ, рыем рогам ці лычом зямлю замест таго, што абавязаны рабіць – здабываць вугаль. І паўсюдна так: усё што заўгодна, толькі не тое, да чаго прыстаўлены... Усе мы сёння так і такія. Я толькі паўтарэнне цябе і кожнага.

– Во як, – здзіўляецца Калупаеў. – Я думаў, што ты просты дурань, а ты і з начыннем: паўтарэнне ўсіх нас. Не наша, не маё ты паўтарэнне, а згубленага намі. Чаго мы і па сёння шкадуем і стыдаемся. І ты ад нас, наша пустазелле. За дваццаць сваіх гадоў адзіны толькі буквар і спазнаў.

– Праўду кажаш, Нікадзім Калістратавіч. Праўду, але толькі ў цемры, у шахце, як з-пад печы ці з-пад веніка. Голасна, па-чалавечы і гаварыць адвык... А я таксама не слоў хачу, а быць. Быць хачу.

Яны ўжо соўгаюцца па сыпкім, прагнутым пад цяжарам іх целаў багнава-зыбкім вугальным змесціве печы, у якой ад недахопу паветра па-сапраўднаму горача і задушліва. Але толькі хмарава віхурыцца марыва вугальнага пылу, няздольнае скрануць і надаць хуткасць асноўнай плыні.

– Спускайся да заборніка і чакай каманды. Як памаячу лямпай, так ты там ломікам, што на люку, падкалупвай вугалёк. Сыспаду, сыспаду, – загадвае Шахматаву забойшчык.

– Люкавы, люкавы, – галосіць зверху ўніз, ад заборніка на адкатачны Шахматаў. – Заснуў ці памёр. Люкавы!

– Ну чаго люкавы, чаго люкавы? – сонна адгукваецца люкагрузчык.

– Задрайвай намёртва люк, а то варона ў рот заляціць. Папрэ вугаль. Мы з Кактусам Калупаевічам печ разбучваем.

Люкавы грукае засланкай. Шахматаў прыгінаецца да сталёвых, дугою сагнутых рэек, якія размяркоўваюць і рэгулююць вугальную плынь. Як у люстра, углядаецца ў рыштакі пад нагамі, па якіх вугаль рушыцца праз люк у ваганеткі. Знаёміцца са сваім скажоным тварам у памутнелых кроплях поту на скронях. Бачыць, як з-пад каскі на ўсе бакі кудлачацца валасы. Цяпер яму ўжо зябка каля не астылых ад прабежкавага трэння

вугалю сталёвых рэек. Павявае холадам і трывогай ад смуглява-шэрых, асланцаваных па тэхніцы бяспекі перад пачаткам змены бартоў і столі вырабаткі. Яго калоціць, і ён не разумее чаму.

– Адыходзь, адыходзь, – загадвае Шахматаў. – Хавайся ў нішу, у збойку.

Святло ад лямпы Калупаева не зрушваецца

– Хавайся ў нішу, маць тваю распратак. Пускаю...

– А-а-а... Смаркач... Пускай жа, гані вугалёк. Падкалупвай сыспаду...

– А-а-а, – паўтарае Калупаева і дасылае яму ўсё, што атрымаў ад яго, і свайго яшчэ дадае Шахматаў. – Сыходзь, хавайся!

Святло лямпы Калупаева, як і раней, застаецца па цэнтры печы. Плынь ярасці і брыдкаслоўя, што мячыкам скача ад борта да борта, коціцца па столі вырабаткі і навальваецца на Шахматава. Прыгінае яго, пазбаўляючы і без таго хісткай раўнавагі. Узняты ім над пашчай люка ломік без яго ўдзелу, сам сабой апускаецца на вялізныя кавалкі вугалю, заціснутыя паміж рэйкамі і рыштокамі, якімі, пэўна, і закаркавала люк. У тую ж хвіліну печ нібы падскоквае. Паветраная хваля з усіх бакоў ахоплівае Шахматава і дапамагае ўтрымацца на нагах. А зверху, з разлівана-чорнай плыні вугалю нясецца, паласуе па жывому цела пераціяты і глухі, як у параненай птушкі, крык:

– Ммама... ммамачка...

– Люкавы, задрайвай засланку, – немым голасам лямантуе Шахматаў І, заплюшчыўшы вочы, усім целам, як на амбразуру, кідаецца на аспідна-чорную змяіна-рухомую плынь вугалю. Яго адразу ж змінае і зносіць на люк. Але вузкая шчыліна паміж заборнікам і рыштаком ужо адклінена. Вугаль грудамі і дробнай парошай пераліваецца праз акантаваную стальнымі рэйкамі раскрытую пашчу прыёмніка. Шахматаў, стрымана скуголячы, закрывае рукамі твар і склізам плыве да гэтай чорна выскаленай пашчы. Калупаева ж, па ўсім, яна зацягнула і паглынула. Амаль тое ж адбываецца і з Шахматавым

Вугальная плынь здзірае з яго каску. У хіжай плыўкай і рухомай цемрадзі тухне лямпа. Шахматаў страчвае апірышча. Там, дзе яно нядаўна было, бясконцая пустата. Цемрадзь распранае яго. Ён голы. Голы, што ў купелі, плыве па невядомасці ў невядомасць. Па адвечнасці ракі памерлых Стыкс, па якой перавозяць людзей у рай ці ў пекла. Там і цяпер прабываюць папярэднікі, першабытныя стваральнікі зямнога і тагаветнага святла і цемрадзі, яшчары ды маманты. Ён сам сярод іх, толькі невядома, жывы ці памерлы. Заблудзіўся ў часе і прасторы. Не ведае, ці трэба выбаўляцца з іх, каб у плавільнай невыразнай печы будучыні сінім агеньчыкам каменнага вугалю згарэць у вечнасці. Цемрадзь гэтай вечнасці ўсмоктвае яго ў ненажэрныя касмічныя дзіркі карлікавых планет, што маюць толькі ўваход і пазбаўлены выйсця. Зноў жа і сам ён той сусветны ненажэрны карлік. Таму што апроч пустаты не мае ні святла, ні голасу.

Але голас усё ж прарэзаўся, калі яго прыціснула вугальная плынь да сталёвых рэек заборніка. Голас Калупаева, ці не з таго свету, словы няўклюдныя і не да месца:

– Дажыліся палякі – ні хлеба, ні табакі...

Але ў наступную ўжо хвіліну ён разумее, што гаворыць з пагрузкі люкавы. І зусім не тое, што прычулася яму:

– Ну, чаго там? – пазяхаючы, абыякава спраўляецца люкавы.

– Чаго, чаго. Спаць менш трэба, – злосна і са слязой жалобы адказвае Шахматаў. – Калупаевіча прыдушыла. Яшчэ ўнутры печы, а мне загадвае: падкалупвай, падкалупвай... І вось...

Ён выдзірае з вугальнай плыні каску з лямпавай галоўкай і на пару ўжо з люкавым паўзе па вуглеспускной печы. Хоча і няздольны маўчаць. Словы самі няспынна льюцца з яго, сведчаць – жывы. Хаця наперадзе, сціскаючы ў камяк цела, жах і страх цемры.

– Куды ж гэта дзелася яго лямпа? – шэптам пытаецца люкавы. – Дзе ж гэта яго лямпа? Чаму не гарыць? Патухла.

– Жыццё патухла. Навошта нябожчыку святло, – таксама шэптам адказвае Шахматаў.

– Тут я, салабоны. Жывы, – палохае і радуе іх здушаны, нібыта з-пад зямлі голас Калупаева.

Шахматаў з люкавым настройваюць на гэты голас святло сваіх лямпаў. Бліжэй да правага ад іх борта печы ўчарнелым качаном капусты ўскудлачана блішчыць галава забойшчыка, нібыта так дзіўна пахаванага не ў зямлі, а ў вугалі. У метры, мо трохі далей ад яго, валяецца каска, вужакай скручаны гумавы шнур шахцёрскай лямпы з пагаслай галоўкай. Шахматаў падымае яе і паварочвае выключальнік. Зыркае святло слепіць вочы Калупаеву.

– А каб на цябе... – няздольны схавацца, з вялікім і цяжкавагавым дадаткам выгаворвае Калупаеў.

– Жывы. Папраўдзе жывы. Цяпер бачу, чую і веру, – разляпляе ўсмешкай запечаныя губы Шахматаў. Прыладжвае галоўку да каскі, накідвае яе на забойшчыка:

– Маўр у нашай шахце. Гаваркая чорная галава далёкага сябра, што дапяў да нас, каб павучыць нас вялікай рускай мове... Зрабіць сваю справу і застацца... Даруй мне, Нікадзім Калістратавіч. Буквар я ўсё ж з тваёй дапамогай адолеў... Але ты жывы, астатняе мы купім. Косці цэлыя?

– Ускрыццё пакажа.

Шахматаў з люкавым адкідваюць ад Калупаева вугаль, вызваляюць яму рукі. Але вугаль сыпучы, што пясок, зноў і зноў наплывае зверху. Яны спрабуюць за рукі выцягнуць забойшчыка з чорна плыўкай ракі. Але той укапаны ў вугаль, як чорт у балота.

– Ішлі б вы, хлопчыкі, на... хутар матылькоў лавіць. Усё адно ўжо... Шахматаў! Адна нага тут, другая там, бягом у лаву. Няхай ідуць сюды з вяроўкай.

Брыгада забойшчыкаў у поўным складзе бяжыць па хадку. Як парашутысты-дэсантнікі, не спыняючыся, ныраюць адзін за адным у збойку. Але, дасягнуўшы Калупаева, набываюць паважнасць. І толькі няроўнае дыханне выдае паспешлівасць і хваляванне. Калупаеў выразна, жаласліва і бездапаможна глядзіць на іх, лыпае запыленымі вейкамі, хіжа варочаючы бялкамі вачэй.

– Ты што тут разлёгся, Кактус Калупаевіч, – амаль натуральным голасам пытаецца брыгадзір, пакуль забойшчыкі падводзяць пад Калупаева вяроўку. – Як бульба ўзышоў.

Рогат скранае з месца неўлежаныя яшчэ кускі вугалю. І яны шамацяць і шоргаюць, нібыта пляскаюць крыламі спалоханыя вялікія птушкі.

– Не прырос яшчэ? Караня не пусціў?

– Мо цябе паліць?

– Ты хто цяпер? Кактус ці шампіньён?

– Шахматаў, гэты ты яго пасадзіў?

Град жартаў і рогату абвальваецца на Калупаева. Але вяроўка ўжо працягнута яму падпахі, двойчы перахапіла грудзі. Забойшчыкі разумеюць, хаця і паціху, але трэба спяшацца. Жыццё ў шахце кароткае. Калупаева ж неабходна падбадзёрваць, трэба, каб ён чуў іх вясёлыя галасы, мо і ў апошнюю сваю хвіліну.

– Ну, на раз-два, разабраліся. На раз-два, узялі, – пакрыквае брыгадзір, – іншо раз. Выцягнулі рэпку.

Шахцёры выдзіраюць Калупаева, нібыта дзеці ніткай хворы малочны зуб. Калупаеў адварочваецца, праверкава прысядае і пругка падымаецца.

– Ну, даволі, даволі. Пасушылі зубы і хопіць, – суцішае шахцёраў. – Цырк тут сатварылі.

– Шахматаў, – падміргвае хлопцу брыгадзір. – Адна нага ў печы, другая – на тэлефоне. Кумільгам на асноўны. Звані начальніку ўчастка і галоўнаму інжынеру: няшчасны выпадак. Траўма.

Калупаеў прарабляе амаль акрабатычнае сальта.

– Я це пабягу, Шахматаў. Ногі выдзеру і запалкі ўстаўлю. Я вам пакажу галоўнага інжынера. Гэта ў каго ж траўма?

Выбух рогату тушыць пранізліва цененькі, амаль дзіцячы галасок усё яшчэ не ачомелага Калупаева.

– Дах абваліце. Што за базар тут? Што за зборышча не столькі блатных, як галодных?

Ад збойкі коціцца, нібы па няроўным лёдзе, горны інспектар другога раёна. Балансуе кароткімі ручкамі і ножкамі, парусуе жоўтай ітээраўскай, не па росце доўгай курткай, падпертай жыватом.

– Во нечысць, – аслупянела і адначасова з захапленнем, ускліквае Калупаеў. – Толькі ўзгадалі чорта, а ён ужо тут. Ну, і нюх жа, і слых жа. Сабаку на зайздрасць.

Інспектар падслепавата мружыць вочы, спыніўшы іх на Калупаеве. Той заціх у нерухомасці, сочыць за ім, нібыта бачыць перад сабой свой лёс. Ён яшчэ не паспеў пазбавіцца вяроўкі, яна ахоплівае яго, нібыта дубовы і мораны, выцягнуты з балота корч. З-пад ссунутай набакір каскі казырком звісаюць узапрэлыя і чорныя ад вугалю, як крыло вароны, валасы.

– Ты, ці хто, Калупаеў?

– Павылазіла? Не, не я Калупаеў.

– І ты, Калупаеў!..

– І я Калупаеў. А што табе Калупаеў у кішэню нас...аў? Што я табе...

– Ды нічога. Нічога такога. Толькі вось унутраны голас, – пазбягаючы вачэй забойшчыка, гаворыць інспектар. – З пачатку змены я ў мойку, пераапрануўся. А куды падацца, не ведаю. Унутраны ж голас сурова так: восьмы Гарэлы пласт. Я спачатку і не пагадзіўся. Планаваў сёння Волкаўскі пласт наведаць. Але ўнутраны голас шэпча: да цябе, Калупаеў, да цябе. Чакаў? Як у цябе з унутраным голасам?

– У мяне кактусы. Не п’ючшы я.

І зноў, нібыта правяраючы крылы, аказала сябе вялікая птушка. Зашамацеў і пачаў скочвацца ўніз зляжалы ўжо вугаль.

– Вось за гэта ты і падабаешся мне, Калупаеў, – крэкча інспектар. – Але не думаў, не думаў, што надыдзе час мне і цябе караць. Старэем, здаём, Калупаеў.

– Так, старэем, здаём. Але што за шахцёр, калі табой не хрышчоны.

– Хрысцяць маладых. Немаўлят яшчэ, Калупаеў. А такіх, як ты, карчуюць. – Інспектар здымае шугаючую бляскам лаку, відавочна, ношаную часта каску, агаляе такую ж бліскуча вогненную лысіну. Паліруе яе вялізнай, з жаночую хустку, насоўкай. Шахматаву падаецца, што перад ім бясконца хатні і лагодны дзед, толькі грузны, таўсматы. Яго як нехта за язык цягне мовіць што-небудзь смешнае, каб падвясяліць забойшчыкаў. Але яго як закалодзіла на гумар. Ён разгублены.

– Ну, што харошага скажаш яшчэ? – пытаецца інспектар у Калупаева.

– А ты харошага жджэш? Не ведаеш, што я скажу?

Інспектар марудзіць, па чарзе аглядае шахцёраў, як шукае ў іх падтрымкі.

– Ведаю. Не душы клапа. Давай ужо, выкладвай. Ведаю наперад кожнае тваё слова. Абодва мы аднаго замесу.

– Гэта так, – інспектар утаропліваецца позіркам у Калупаева. Сеева маршчын пад яго вачыма менее. А самі вочы праменяць задавальненнем. –Нарэшце я цябе паймаў, Калупаеў.

– Нарэшце... Паймаў... – пакрыўджана, але не без гонару адгукаецца забойшчык. – Ты... бабу сваю спачатку спаймай.

Вугаль ад рогату брыгады не толькі паскорана збягае да люка, але і цмокам цвіркуна, цененькімі праменьчыкамі лушчыцца ад пласта каля бартоў печы.

– Во, Калупаеў, якраз гэтага я ад цябе і чакаў. Лічы, не за парушэнне ТБ я цябе, а за гумар, за гумар я цябе, Калупаеў, прызначаю ў асланцоўшыкі. Атрымлівай зранку торбу вялікую.. Пакуй яе сланцавым пылам і – сею, сею, пасяваю – сланцуй вырабаткі.

– Ты гэты гумар засунь сабе сам ведаеш куды, – набычыўшыся, шыпіць Калупаеў. – Гумарыст. Караць карай, а пасмешышча з мяне не рабі. Я табе не пудзіла агароднае. Я з кайлом і сакерай, лічы, і нарадзіўся. Я Калупаеў, петрыш? Калупаеў. Забойшчык, ясна?

– Добра, добра, – падобна, дае адступнога інспектар. – Тады, Калупаеў, будзеш з шуфлем і кайлом пасля камбайна за канвеерам падчышчаць. Штрэкі і лаву зачышчаць. Гадзіцца? Па справядлівасці, Калупаеў?

– Справядлівы... Ходзіш тут, людям вочы мазоліш. А ты б пацікавіўся, чаго гэта я, забойшчык, у гэту дзірку палез? Чаму я за некага печ павінен разбучваць... Караеш за тое, чаго не павінна быць.

– Гэта не ён, не ён. Гэта я вінаваты, – выступае наперад Шахматаў.

– А ты хто такі? – здзіўляецца інспектар. – У цябе, Калістратавіч, адвакат знайшоўся.

– Не адвакат я, а шахцёр, забойшчык... Тэхнік, з дыпломам на горнага майстра. Толькі яшчэ без пасады. Шахматаў я.

– Глядзі ты, Шахматаў. І ўжо з дыпломам.

– Шахматаў Пеця.

– Ну і што з таго, што ты Пеця Шахматаў. Без пасады ж.

– Дык я ўжо казаў. Я ўнізе, каля забутоўкі, як дамоўлена, а Нікадзім Каліcтратавіч, ён наверсе быў. Я без сігнала, без адмашкі падкалупнуў.

– Зразумела, калупальшчык. З шахты б цябе турнуць. Ды штрэкі не чышчаныя, ногі паламаць можна. З заўтрашняга дня будзеце разам у іх адкалупваць.

* * *

Калупаеву з Шахматавым дастаўся штрэк гады са два ўжо, пэўна, абдзелены рыдлёўкай. Скрабковы канвеер да борта рыштакоў закапаўся ў вугалі. Скасабочыўся. Ланцугі нахабна і безнадзейна скуголілі на стыках, віхлялі збоку набок скрабкі.

– Ну вось, салабон, укалвай, шуруй лады, – наказаў Калупаеў Шахматаву, калі яны заступілі на змену. Даводзь яго да пагляднасці. Ды самаратавальнік, бляшанку, працаўнік, здымі. І куртку сваю кінь мне.

Забойшчык, а цяпер асланцоўшчык, падаслаў пад сябе брызентавую робу Шахматава, уладкаваўся ў сухой і цёплай нішы пускальнікаў, што спяваюць электрычнымі галасамі. "Вось і ўсё, – маркоціўся, гледзячы скрозь шчыліны зацяжак на плямамі выбеленыя кавалкі вугалю. – І ты ўжо ў раі, загналі цябе ў рай, Калупаеў. Кончыўся ты, раюй да самай пенсіі. Укаталі сіўку крутыя вугальныя горкі..."

Шахматаў вяла калупаўся рыдлёўкай каля галоўкі канвеера. Рабіў неахвотна і нязграбна. Але цяпер ён быў ніколькі не цікавы Калупаеву. Учарашні яго запал змяніўся млявасцю і абыякавасцю. Праз якія часам праслізгвала і зларадснасць: няздольныя рабіць, ну і няхай. Не мне іх вучыць. Я цяпер як усе. Кактусы паліваць, хаця яны могуць і без вады, што вярблюды абыходзіцца. Самы час цяпер дазнацца, колькі.

Так ляжаў і думаў ён у сухой і цёплай нішы. Перабіраў абязвечаныя сланцавым пылам камякі вугалю, пакуль па вырабатцы, перашэптваючыся з дробным смеццем, не пракаціліся рэха і паветраная хваля выбуху. Гэта ў яго лаве адпалілі кут, каб завесці туды камбайн. Услед за паветранай хваляй па штрэку туманова знікла і жоўта-шэрае воблака аманітнага газу. Калупаеў напружыў грудзі, прагна ўдыхнуў пах выбуху, салодкі і нястойкі, нібы адначасова ловячы і цураючыся яго. Як наравісты мерын, пакруціў галавой і выкінуўся з нішы да Шахматава.

– Рабацяга. Ды цябе да шахты і на стрэл не варта падпускаць. Ты што, рыдлёўку паліруеш, скразнякі ганяеш?

Шахцёрскай, з абсечаным, пад сілу захопу і нагрузку, наском шуфельнай рыдлёўкі ўрэзаўся ў спрасаваную і зверху трохі вільготную, ужо амярцвелую вугальную масу. Праз некалькі хвілін скінуў куртку, а потым і сарочку. Застаўся да пояса без нічога, толькі па голай спіне вужова матляўся гумавы шнур лямпы, кідаючы на яго торс бронзавае святло, што рабіла яго падобным да помніка. З лавы вугаль ішоў па канвееры. Ланцуг з цяжкасцю спраўляўся з ім. Казытліва і з напругай скавыталі скрабкі пад яго яшчэ не адмерлым цяжарам. Са стоеным сопам склізам нябачна цягнуўся ў перакульванне, як у апраметную, ланцуг. Канвеер рухаўся торгана, і вялікія нераздробленыя глыгі вугалю плылі паверсе, як качуры па восеньскай, цёмна астуджанай вадзе, хвалева рассякаючы яе ападам драбноты. Калупаеў паспяваў падхопліваць яе, задаў сабе люты тэмп: на кожны скрабок канвеера – па лапаце. Тэмп звыклы, вытрымаць які здольныя толькі забойшчыкі ды праходчыкі са стажам і толькі пад зямлёй. Таму што на паверхні пра сонечным святле чорта з чалавека сатварыць немагчыма.

– Не інакш, на медаль цягнеш, дзядзька Нікадзім, – адзначыў Шахматаў.

– Паварочвайся, травяны мех, воўчая сыць! – гаркнуў Калупаеў. – Работу рабіць...

– Дык жа няма чаму. Не мае сэнсу.

– Як гэта няма чаму? Не мае сэнсу? – у згодзе з рухам рыдлёўкі, ёй пакланяючыся запрыгаворваў Калупаеў. Ад яго змазанага потам цела ўжо ішла пара. Бугорыліся на плячах і па перадплеччы, мехава ўздымаючыся і ападаючы, мышцы. Падобна стыхіі горнай пароды ў месцы парушэнняў, геалагічных катаклізмаў, зрухаў, насоўвання і ссоўвання. І гэта стыхія з каменна ацвярдзелымі ўтварэннямі жыла. Перакочвалася пад скурай, праступала роспісам сухажылляў, узыходзіла і распадалася. Набрынялі, вяснова расцвіталі каляровымі кветкамі на камянях. Кудлата і нядобра варушылася сівая і чорная шчэць на грудзіне і плячах.

“Кактус. Кактус Калупаевіч”, – падумаў Шахматаў, наглядаючы, як гэтае нешта ўтыркае шуфель у вугаль, нібыта ў масла. Ён не рабіў, змагаўся з тым вугалем. Уваходзіў у яго не рыдлёўкай, а ўсім сваім груваcткім і няўклюдным, ацвярдзела каменным целам. Жэр, хапаў россып знутры. І адразу ж рыдлёўка, як працяг яго сухіх жылістых рук, уздымалася ўгару і разгружалася. І зноў хціва прыпадала да вугалю. Так рабіць Шахматаў здолеў бы толькі сцяўшы зубы і амаль не дыхаючы – імгненне, хвіліну, другую... Другую. Ён паспрабаваў падладзіцца пад забойшчыка і не змог. У вачах паплылі вогненныя кругі. Ён выпраміўся і нечакана для сябе сказаў:

– Кулацкае ў цябе прозвішча. Калупаеў!

– Якое, якое?

– Кулацкае. Ёсць такія прозвішчы. Напрыклад, Міраедавы, Калупаевы. Кулацкія.

– Ах ты, кактус смаркаты! Кулацкая? Заб’ю! – І Калупаеў, як толькі што на вугаль, ускінуў рыдлёўку на Шахматава. – Заб’ю!

Шахматаў адчуў, што і папраўдзе заб’е. Ён быў цалкам у працы, падняў рыдлёўку не на яго, не на чалавека, а на працяг справы. У ім віравала тое ж нецярпенне, што кінула яго ўчора са збойкі ў вуглеспускную печ. Была б карысць, ён грыз бы работу зубамі. Шахматаў не разумеў яго. Яму гэта было страшней занесенай над яго галавой рыдлёўкі. Ён няўдала адступіў і ўпаў. Калупаеў апусціў рыдлёўку і левай рукой, так, што ў Шахматава затрашчаў каўнер сарочкі, падняў яго на ногі. Уціснуў яму ў руку рыдлёўку.

– А ну давай, кактус, скалані мудзямі... Я, значыць, кулак. А ты – Шахматаў. Я табе пакажу, як нашы ракі назад не ходзяць. Як не толькі лыжку, але і рыдлёўку ў руках трымаць.

– Чаго завёўся? – Шахматаў патроху ачомваўся. – Чаго бзыцкаеш, як Адам пад яблыняй? Тарыф жа трэцяга разраду адрабляем: руб, коп і хрэн у лоб.

– Адрабляюць на паверхні, пад прымусам і аховай, за калючым дротам. Мікіціш, кактус?

– Як жа не мікіціць, мы ж з табой як шэрачка з машэрачкай, у адным ложку. Разам пакараны.

– Пакараны, пакараны, – перадражніў Калупаеў Шахматава. – Працай не караюць, вучаць. Тэхнік. Хто і чаму толькі цябе вучыў.

– Ды ўжо ж не рыдлёўкай мантуліць... Лепей быць стройным дармаедам, чым гарбатым ударнікам камуністычнай працы... – Апошняга Шахматаў не хацеў гаварыць, вырвалася само.

– Уга, як глыбока, – адгукнуўся Калупаеў. – Кактус ты смаркаты. Сярод іх таксама і такія, смаркатыя, водзяцца. Як гэта я цябе не адразу ўбачыў.

Сумняваюся, можа, ты і застанешся стройным, але шахцёрам – ніколі не станеш. Шахцёр сярод іншых, як... як у моры марак.

І зноў Шахматаў ляпнуў не тое, што прасілася.

– А вы і боцманам былі? – атрымалася, нібыта ён паддобрываецца, падлізваецца да Калупаева.

– Былі... У сямі салёных водах мочаны, сямю вятрамі сушоны. І нічога. Нічога, пасаліўшы, есці можна... Ты мне, салага, зубы не загаворвай. Чалавека, які ён ёсць, толькі ў рабоце, ды за сталом, як ён есць, пазнаць можна... Кулацкае прозвішча. А я да кулака з павагаю. Сёння дзе б яго знайсці. Работу паважаў, і яна яго паважала... Хопіць, хопіць лясы тачыць і баланду травіць.

І яны разам, нібы пад каманду, узмахнулі рыдлёўкамі. Шахматаў імкнуўся ўгрызацца ў просып вугалю з калупаеўскай ярасцю. Не атрымлівалася.

– Ты не спяшайся, не налягай рогам, – раіў Калупаеў. – І не тужся, а то яшчэ родзіш. Старайся не паверху, а знізу, з глебы, яго браць.

Шахматаў стараўся. Але без поспеху. Калупаеў ужо на метраў з дзесяць апярэдзіў яго, калі пачалі "гуляць" рыштакі. Канвеер успучыла, рыштакі пачалі напаўзаць адзін на аднаго. Калупаеў адкінуў убок рыдлёўку, адштурхнуўся ад стойкі, ухапіў імгненне, скочыў на прыгорблены і рухавы, што мех гармоніка, канвеерны стан. Упёрся ўзнятымі ўгару рукамі ў столь страхі і, дзеручы на шыі жылы, загадаў Шахматаву:

– Вырубай, выключай энергію.

Толькі што зачышчаны імі штрэк быў зноў завалены вугалем. Калупаеў зірнуў на патанулы ў ім канвеерны стан, вылаяўся і загадаў свайму напарніку знайсці слесара.

Слесар з'явіўся змрочны што хмара, не даспаў недзе, пэўна. Засерджана грукаў інструментам у перакінутай праз плячо палатнянай торбе, скоса і не без пагарды пазіраў на асланцоўшчыкаў, што заўважыў Калупаеў.

– Слесаруга, таптун, макранос, – накінуўся ён на слесара, – толькі і ўмееш засцерагальнікі хрэнавы мяняць.

– Ты лепей ідзі пагаўкай на механіка, а то і на самога міністра, Братчанку... – адказаў слесар.

– Я яшчэ дабяруся і да яго. Мы з ім асабіста знаёмыя. Але раней з цябе душу вытрасу. Чаму твая аўтаматыка і электроніка не робяць? Канвеер у гармонік збірае, аніводная хрэнь не спрацоўвае?!.

– Яго па пяць разоў за змену ўжо збірае гармонікам. Я не касы заяц, каб па паўкіламетра кожны раз сягаць у размеркавальнік, фідэры ўключаць.

– Значыць, ты ў сваю аўтаматыку-электроніку трэсачку падаткнуў. Назаўсёды прымусіў рабіць.

– Прымусіў. І не толькі аўтаматыку. Усе навокал аўтаматам робяць: забойшчыкі, праходчыкі, камбайны. І ты разам з імі.

– І я? Разам? Аўтаматам?..

– А як жа. Чаго ты з сябе цэлку строіш? Штрэк цябе прымусілі чысціць? Не чысці. Пустое. Я колькі раз ужо жуку і жабе даводзіў. Вугаль валіць, пакуль яму ёсць куды валіцца. А там ціп-топ, што ў канвееры, тое і па-за ім. Усё па нашаму. У нас заўжды так было, ёсць і будзе... Мы краіну не прададзім. Мы яе лепей прап'ём... Вучы вас...

– Кактус ты, кактус... Вучыць мяне падману?..

– Так, не падманеш, не пражывеш! – аўтарытэтна мовіў слесар. – На трэсачках мы ўсе трымаемся. Уся краіна на трэсачках.

– Сёння тваёй трэсачцы кранты... І памаўчы, памаўчы. Я незгаворлівы. Кактус Калупаевіч я. Чуў? Прозвішча ў мяне кулацкае. Вымай трэсачку, стройны дармаед, а не то я клічу начальніка ўчастка.

– Напужаў, – засмяяўся слесар. – Наш начальнік участка сам са слесараў. На трэсачках падняўся. Пра іх усе ведаюць. А дурылам накшталт цябе абломваюць рогі: вугаль – нашае чорнае золата, хлеб нашай прамысловасці. А дзе хлеб ды золата, там і... Хочаш удосыць хлеба, умей круціцца.

– Бачу, круцішся... Круціцеся на свой хлеб з трэсачкамі. А мой на мазалі і поце замешаны.

– Я твайму хлебу не зайздрошчу. І ты не перашкаджай мне свой здабываць.

На гэтых словах слесар уключыў канвеер. Калупаеў зірнуў на Шахматава. Той зрабіў выгляд, што не бачыць яго позірк. Узяў рыдлёўку і падрыхтаваўся чысціць штрэк.

– Даволі, даволі, хопіць, – спыніў яго забойшчык, – ідзі выключы канвеер і заблакіруй пускальнік.

– Я заблакірую! Я заблакірую! – заступіў Шахматаву дарогу слесар.

– Блакіруй, – паўтарыў Калупаеў. – Ці ты ўжо таксама да трэсачкі імкнешся?

Шахматаў абышоў слесара. Той памкнуўся кінуцца за ім. Але Калупаеў схапіў яго за рукі і завярнуў іх за спіну яму. Шахматаў паставіў рукаятку магнітнага пускацеля на нейтральнае становішча і заблакіраваў яе.

– Ну вось, – адпусціў слесара забойшчык. – Капцы адной трэсачцы. А да пускальніка не падыходзь – будзе і табе капец. – Калупаеў памахаў рыдлёўкай над галавой слесара.

– Ды ты што, ты што... з глузду з’ехаў? Ты разумееш?.. – захлынуўся крыкам слесар.

– З’ехаў, з’ехаў... Усё я, браце, разумею. Усё, і нават трошкі лішняга.

Па штрэку замільгаў ланцужок агнёў. Спусціліся з прастойнай лавы, падышлі забойшчыкі. Слесар кінуўся да іх:

– Псіх, вар’ят ненармальны. Усё круціцца, усё робіць, а ён палкі ўстаўляе. Выключыў энергію, заблакіраваў пускальнік, абясточыў лаву. Дзяржаўны план...

– Прытрымай язык. Вымай трэсачку. А то мы робім ракеты, а скрабковы ж канвеер, жалязяка хрэнава...

– Я начальніку шахты паскарджуся. Рукі заломваць? Да пракурора дайду, – не сунімаўся слесар.

– Нам засталося ўсяго нічога. І шабаш, завершым ленту, Нікадзім Калістратавіч, – падступіў да Калупаева брыгадзір забойшчыкаў.

– Ты ідзі, ідзі. Ідзіце ўсе. Мацуйце лаву. Тут надоўга.

– Разблакіруй канвеер на гадзіну.

Калупаеў узняў галаву. Брыгадзір схіліўся над ім, паклаў яму на плячо руку:

– Сам ведаеш, як пакідаць забой, калі ўсё на мазі. Камбайн робіць –мы яму ў прыдатак. І раптам... Лента не выбрана. А мы што мышы ў клецъ... Усяго на гадзінку.

– Не магу, – адказаў Калупаеў. – Тут ужо каса на камень... Усё жыццё так: часова, часова. А часу ўжо і няма. Толькі ў папіхачы, крапільшчыкам ці нават уперад нагамі... Званок чуў, якраз калі вы нішу адпалілі... Не магу...

Брыгадзір і Калупаеў вока ў вока ўглядаліся адзін у аднаго. Нязводна,

і без міргаў. Святло шахцёрскіх лямпаў з усіх бакоў трымала іх у крузе, агаляючы твары, як намаляваныя алеем з падсіненым дамесам сажы, нібыта высечаныя з вугальнае глыбы стагоддзяў. Першым не вытрымаў Калупаеў, ледзь прыкметна зварухнуў брывом. У тую ж хвіліну слесар кінуўся да пускальніка.

– Чаго стаіце, чаго глядзіце: ён жа цяпер і не забойшчык. Ён жа ў адмове. Яго ў Сіблаг на нары. Разблакіруйце самі пускальнік і дабірайце ленту.

Шахцёры маўчалі. Электрычнымі галасамі, але больш сцішанымі, чым пры рабоце канвеера, стоена скварчэлі каравайнымі боханамі пускальнікі. З лавы данёсся ўсплеск абваленай глыбы вугалю. Было чутно, як ён раздроблена коціцца па забоі. Глухла, нібы ў цясніне, каменна тухла рэха. Калупаеў адвярнуўся ад забойшчыкаў і адным вухам лавіў адыходзячы пошум. Шахматаў бачыў гэтае яго вуха. Яно было чуйна напружана і рухома, што ў зайца. Шахматаву было непамысна наглядаць за гэтым чорным шахцёрскім вухам.

– Вы ідзіце, ідзіце да сябе, – з націскам, сцяўшы зубы, сказаў Кулупаеў. – І ты, Шахматаў, таксама ідзі. Ідзі ў забой.

– Нікадзім Калістратавіч, Кактус Калупаевіч, – запрыгаворваў брыгадзір. – Ды мы цябе... Ды ты ў нас... Дзе лягчэй. На падхваце будзеш.

– Нікадзім Калістратавіч на падхваце нягодны, – сказаў Калупаеў. – Ён хутчэй пойдзе ў аслацоўшчыкі. Будзе разводзіць кактусы.

Забойшчыкі збянтэжана і сарамліва патапталіся і пачалі адыходзіць. На хаду совалі неадмыўныя, пасечаныя вугальнай крошкай рукі. Апошнім разгублена і напаўаглушана пакідаў штрэк Шахматаў. І рука яго была як чужая, драўляная і непаслухмяная. Ён тыцнуўся даланёй у бугры калупаеўскіх мазоляў. І паспешліва, нібы апёкшыся, выхапіў яе. Не азіраючыся, пабег за забойшчыкамі, адчуваючы спінай развітальны позірк шахцёра.

Сяржук Сыс



...Што было, што пераҗыта –
Забяры з сабою, ранак,
Дзякуй Богу, не забіты,
і кахаю, і каханы...

# Ілюзія датычнасці

* * *

...А зямля так вабіць і заве,
Бо яна адзінае святое...
Басанож па віленскай траве
Пахадзіў, паверыце: “Не тое!”

### *МЫ ПАСПЕЕМ ЯШЧЭ*

Мы паспеем яшчэ
да густых лясоў-верасоў маіх,
Налюбуемся разам
плынню спрадвечнай Дняпра,
Убяром у сэрцы свае дыяментавы кожны міг,
Кожны сонечны промнік
і кожную зорку дабра...

Дабяжым стрымгалоў
да нязнаных таемных мясцін,
Там, дзе лапы рысіныя ціха ўгрузаюць у мох,
Да крыві абдзярэмся аб зараснік дзікіх ажын
На жыццёвых спляценнях
вяртлявых сцежак-дарог.

Мы спаймаем вясёлку,
аздобім ёй слічныя косы твае,
І прыдумаем разам безліч
харошых і мудрых слоў,
А яшчэ на скале нам арліца
ложак-полаг звіе...
Як гатовая жыць гэтак ты, то і я пагатоў.

*Вільня, 21 кастрычніка 2022 г.*

** * **

Засынаюць без мяне сады на Палессі
І грыбы на зіму хаваюцца ў цёплы мох.
На чужыне са мной – толькі сумныя песні,
Гэта ўсё, што з радзімы вынесці змог.

І часцей маю ў снах шырачэнныя крылы,
Сню – лячу над Дняпром, над вёскай старой,
Углядаюся ў шэрагі свежых магілаў
І шукаю сяброў, што сышлі на спакой.

Ці то зрок саслабеў, ці туман атуляе
Краявіды, што цешылі вочы шмат год.
Толькі мроі і сны, гэта ўсё што я маю,
Ды надзею на свой ілюзорны зварот.

*Беласток, 28 кастрычніка 2022 г.*

### *БЕЗ СОНЦА*

Перад пагружэннем углыб
змрочных каменных глыб
рыб ранішняй Вільні
Святой Магдалены срэбны
абразок папраўляю ў пакоі
не рытуал, а для такту
бо часам яна вымагае кантакту
мэты якога мне невядомы...

я – з дому
слепіць снег напачатку
міжвольна слёзы цякуць
ільдзінкі
падаюць долу звіняць
разлятаюцца – не сабраць
Потым іду як ногі кладуцца
на захад на ўсход?
абы не на поўдзень: там лёд
яго адчуваю дакладна
халодна трывожна
бясконца
без сонца

*Вільня, 22 лістапада 2022 г.*

## ІЛЮЗІЯ ДАТЫЧНАСЦІ

Штоноч на дзіду тэлевежы ў Караліпішках
нанізваю імжыстыя і сонечныя дні
сігналіць вежа мне зялёным і чырвоным
нібы дае ацэнку ўчынкам і падзеям
вакол святло з вакон шматлюдных гмахаў
кіно нямое бонусам за жах і адзіноту
тады ўглядаюся ў жыццё, якое без фіранак –
каты на падваконнях, цені архідэй,
бакалаў бляск
на кухні таньчыць пара,
ён далібог вар'ят, яна – смяецца...
і я смяюся разам з віленскай кабетай
паверыўшы ў ілюзію датычнасці
сябе да простага жыцця і сэнсу.

*Вільня, 31 снежня 2022 г.*

## ЖАР-ПТУШКА

Гэй! Вам кажу,
тым, хто бачыў на дне кілішка з абсэнтам
як каціўся-блішчэў
манетаю вартасцю ў 50 цэнтаў
па Пілімо, праз мост над Віліяй,
а далей губляецца след,
задаволены сабою,
падобны на конскі хамут, дзед...
То быў я, ці палова мяне,

ці рэшта мяне ў 50 цэнтаў.
Астатняе забрала бясконцая пагоня
за Жар-птушкай:
“Ату яе! Лаві, хапай...
пёры ляцяць, якраз на падушку...”
Ды не, раніца ўжо наступіла
чарговай зарубкай жыцця
Шэсцьдзесят першай...
кацiся манетай бліскучай, дзіця,
Можа ўчэпішся ў хвост няўлоўнаму цуду,
а можа і не...
Прамаўчу, не скажу, хоць катуйце...
Не выдасць сакрэт
Закаханы ў Жар-птушку,
падобны на конскі хамут, дзед.

*Вільня, 26 студзеня 2023 г.*

* * *

Вымкнуў вочы з кубачка ранішняй кавы гаркавай
тут, на Ісландас,
дзе мы сінкрэтычна і смела ядналі
сябе – фантазёры, пазёры,
творцы сумежных паэм
позірк каўтае прагна
смелыя змены ў строях жанчын
у колерах неба і вось...
гэты бэз...
у якога пупышкі
набухлі
як цмочкі твае,
калі іх нахабна кранаў вецер
Вільні...
каву дап’ю і тады загарну
сваё сэрца збалелае ўшчэнт
у квіток “Экалайна” –
яму яшчэ моцна карціць да цябе.

*Вільня, сакавік 2023 г.*

* * *

Гэты ранак асаблівы,
Самы-самы незвычайны...
Промняў сонечных разлівы
Запрашаюць жыць адчайна.

Што было, што пeражыта –
Забяры з сабою, ранак,
Дзякуй Богу, не забіты,
і кахаю, і каханы.

Шмат чаго сказаць не ўмею,
Шмат чаго сказаць – баюся...
Дзякуй ранку, дабрадзею,
Што ў жыццё ізноў вярнуўся!

*Вільня, 11 траўня 2023 г.*

## ДАРОГА НА КОЎНЮ

Чэрвеньскай раніцай сесці ў цягнік да Коўні,
Калі абліваецца сонцам вагонаў улонне...
Ехаць і сонна глядзець праз вакно – усё роўна
Што там, бо тое заўсёды адно: і ўчора, і сёння.

Звыклыя кадры мігцяць, знікаюць на твары:
Воке імкліва ў каменнях круціць карункі,
Змрочны і гібельны лес у Верхніх Панарах,
Макаў чырвоных буянне абапал чыгункі.

Нібы здымаю ў рэжыме нон-стоп свой сторыз –
Ветразь самотны ў чаканні папутнага ветру,
Дзіўная дзіда касцёла і ціхі яшчэ Кайшадорыс,
Зноўку пагоркі, ірвішчы, і цёмныя нетры.

Гулам вітае тунэль перад новай сустрэчай
З Коўняй, дзе Нёман абняўся з Вяллёю калісьці.
Доўга стаю на пероне, распростваю плечы,
Каб па знявечаных днях да радзімы даплысці.

*Коўна, чэрвень 2023 г.*

## ПРЫРУЧЭННЕ

Прыручала мяне і лашчыла,
Закалыхвала і спакушала...
Моцнай кавы кубачак нашча,
Мне штораніцы падавала.

Чаравала крывымі вулкамі,
Апякала кахання шалам.
Ноччу поруч, крокамі гулкімі,
Лёгкім ценем са мной блукала.

Шчора сыпала падарункамі –
Матылямі і нават Уршуляй,
Вышывала мой лёс карункамі,
Стаць хацела другой матуляй.

Прыручала, і вось я прыручаны,
Мне з табою сугучна і ўмільна
Абвяшчаю пра нашы заручыны,
Вашамось, мая светлая Вільня.

*Вільня, 7 чэрвеня 2023 г.*

* * *

Нештачкі кожны мае
Ад пекла альбо ад раю:
Кожнаму небу – сонца,
Хаціне кожнай – ваконца.

Зорачку – ночы кожнай,
Мячу-кладзянцу – ножны,
Кожнаму лесу – вавёрку,
Кожнае мышцы – норку.

Кожнаму сэрцу – болькі,
Столькі і тройчы пастолькі,
Кожнай слязіне – усмешка,
Зла і дабра ўперамешку.

Кожнай і кожнаму – пару,
Кожнай пустэльні – хмару,
Вільні кавалак – ахвочым,
Каханым – райскія ночы.

Усім, хто галодны – ежы,
Мудрым – думак бязмежжа.
Кожнаму ворагу – кулю,
І толькі паэту – дулю...

## ЛАСТАЎКІ

*Ластаўка! Родная, што ты,*
*Дрэнна глядзела за ім?*
**Мікалай Рубцоў**

У раскрытае вакно доўга-доўга гляжу,
зачараваны імклівымі танцамі ластавак.

Тут, у Вільні іх шмат,
калі хмурыцца неба на дождж.
Нетаропка знаёмлюся з мовай птушыных палётаў,
сузіраю мігценне чорных маланак,
нешта большае ў іх –
можа, знакі-пісьмёны чыёсці далёкай душы?
Спрабую намацаць сэнс піруэтаў птушыных,
аднак разумею, што знік незваротна той шыфр.
Стаю ля вакна.
Вось збавенне, вось дождж зашумеў,
Зніклі знакі птушыныя, сонца не варта чакаць,
Бо не будзе яго ў Каралінішках сёння,
Ластаўкі мілыя, так?

*Вільня, 20 чэрвеня 2023 г.*

## *РАЗВІТАЛЬНАЕ*

Такой навальніцы шыкоўнай, Уршуля, ніколі не будзе...
Залеваў пральецца процьма, учорашняй той не чакай:
Стыхія шалёна і люта ўрывалася ў хворыя грудзі,
Маланкамі біла, грымотамі поўніла іх цераз край...

Дашчэнту змывалі струмені дажджу ацалелыя згадкі
Пра нашае “разам”, пра хітрасплячэнне і слоў, і слядоў.
То, можа, нарэшце цяпер у мяне пойдзе ўсе па парадку,
А ты паварожыш – ці не, на мяне на прачысты Пакроў...

*18 ліпеня 2023 г.*

* * *

Два гады збіраюцца ў галаве маёй каменьчыкі-камяні,
Непрыгожыя такія, не аблашчаныя хвалямі марскімі...
Шурпатыя і калючыя, ты адчуеш іх, толькі галаў крані...
Балюча насіць гэты цяжар, так і бадзяюся разам з імі.

Два гады як ні дома не маю, ні песень, якія спявалі сябры –
Толькі жахі начныя, і крыкі, і галаў, каменнем напоўнены.
Паскараючы бег свой, нясуся ў прадонне глухое з гары,
Час выгнання адлічваю я маладзікамі і поўнямі.

*14 ліпеня 2023 г.*

проза

Андрэй Федарэнка



...кіношны бог

помслівы...

# Сцэнарыст

***Раман***

*Заканчэнне. Пачатак у №124.*

## 17

На двары Рыта з рэжысёрам Скіндзерам спыніліся непадалёк ад ганка пад старой таполяю, дзе было самавольнае месца для курэння. “Жах нейкі”, – сказала Рыта і пацепнула плячамі, нібы холадна ёй было. Яна правяла вачамі Інгу, якая сядала ў свой аўтамабіль.

– Чаму жах? Наадварот, я б сказаў, мудрае рассяканне гордзіева вузла. Быў дэспат – няма дэспата. Пры ўмове, канечне, што ён сваёй смерцю памёр.

– Ну, што ты вярзеш?

– А што? Многія жадалі, каб ён апрастаў гэты свет. Таму надта падазрона такое хуткае выкананне.

– Ну, што ты пляцеш?

– У тым ліку і ў цябе. У цябе былі няпростыя адносіны з Хрушчанкам... нябожчыкам Хрушчанкам, – паправіў сам сябе рэжысёр.

– Калі гэта жарт, дык зусім нясмешны.

– Прынамсі, цяпер цябе ўжо не звольняць.

– А ў цябе? У цябе былі з ім простыя адносіны?

– У мяне – так. Я выключэнне. Мне трэба быць рахманым, добрым да ўсіх. Як цяляці, каб смактаць больш матак. Я залежны ад усіх: ад рэдактара, аператара, гукавіка, дырэктара...

– Сцэнарыста, – падказала Рыта. Яна старанна прытушыла акурак, раструшчыўшы яго аб шурпаты ствол таполі.

– Ад яго ў першую чаргу.

– А дарэчы, – успомніла Рыта. – Памятаеш, у канцы зімы? У мяне на балконе? Ты казаў пра хлопчыка, які з'явіцца на кінастудыі, каб адпомсціць за бацьку?.. Яшчэ разважаў пра кіношнага бога.

– Абсалютна не памятаю, – адказаў Скіндзер.

– Як дзіўна, што ўсё пачынае спраўджвацца. Хрушчанка – першая ластаўка? Адкуль ты ведаў? – не суцішалася Рыта. – Ты ўжо тады ведаў пра гэтага маладога сцэнарыста!

– Выпіўшы быў. – Скіндзеру яўна не хацелася гаварыць на гэтую тэму. – А калі і сказаў, менш слухай і лягчэй забывай. Цяпер такія людзі і такія часы...

На ганак выйшаў Вечка. Рэжысёр махнуў яму рукою.

– Пабягу. Прабач!

"Сябры", – падумала Рыта з рэўнасцю, але і з палёгкаю. Хай ідзе. Бо інакш напросіцца правесці, а ёй трэба пабыць адной. Хацелася прыйсці ў сябе ад усяго гэтага. Пакуль дабіралася дамоў, яна ўсё думала, думала, і было ў тых думках добрае, не вельмі добрае і проста дрэннае. У тым ліку нават трывожнае.

"Каб сапраўды яшчэ мяне не прыплялі", – думала яна.

Тым больш ёсць падставы. Усе ведаюць, што ў яе з Хрушчанкам былі, мякка кажучы, нацягнутыя адносіны. Пра нябожчыкаў нельга кепска, але Рыта апроч як з нядобрым пачуццём думаць пра яго не магла. Прыставанні яго, а ён на самой справе прыставаў, потым гэты загад на звальненне. А галоўнае, што здуру, хай сабе іранічна, яна пісала пра ўсё гэта. Рыта – у рэальным жыцці ціхоня, шэрая мыш, у жыцці віртуальным рабілася смелай, дасціпнай, з'едлівай, знаходлівай на патрэбнае, часта вострае слоўка. У іхнім закрытым чаце маці-адзіночак, дзе яна актыўнічала, пад нікам, канечне, яна давала кароткія і трапныя характарыстыкі сваім супрацоўнікам, апісвала кінастудыйныя справы і плёткі, распавядала пра закрытыя і адкрытыя сцэнарныя конкурсы і выцякаючую з іх міжвідавую барацьбу. Гэта дарэмна яна рабіла. Магла напісаць і лішняе. Цяпер яна моцна шкадавала аб гэтым.

"Трэба хутчэй пацерці ўсё!"

Праскоквала ў яе думках і харошае. Нядаўняя падзея, калі можна так назваць смерць чалавека, гарантавана захоўвала ёй *месца*. Калі не прызначаць гендырэктарам чужога, што малаверагодна, ім стане добры Камар, і тады яна дакладна застанецца на кінастудыі. Магчыма, узнікне рух, пачнуцца ўнутраныя перасоўванні па кар'ерных лесвіцах, павышэнні-перамяшчэнні, і тады Інга зойме месца Камара, а Рыта – месца Інгі. Вось і харошае.

Харошае? Дакладна? А яно сапраўды лепш, гэтае чаплянне за працу? Ці не пагубіць яно яе? Лёс сам падштурхоўвае да абнаўлення, дае ёй

такую магчымасць, такі шанс памяняць жыццё, вырвацца з гэтай пасткі, з вечнай барацьбы за *месца* і залежнасці ад яго. Дайшло да таго, што яна ў свае маладыя гады перастае марыць, амаль змірылася з наканаванасцю, пачынае ледзь не любіць уласную клетку, гэтае *месца*.

Ад мільгацення слова "месца" ўсплыў сцэнар з такой назваю. Так, усё пачалося са з'яўлення гэтага маладога сцэнарыста. Міжволі паверыш у містыку, пагодзішся, што нейкая загадкавасць тут ёсць. Адкуль ён узяўся? З Акцябрскага? Што за супадзенне – тая паездка на здымкі, пра якую так цяжка, так непрыемна ўспамінаць? Чаму ён такі нясмелы, бездапаможны? Няўжо бываюць яшчэ такія? Не толькі ў старых фільмах і кнігах? Знаёмяцца з сімпатычнымі маці-адзіночкамі, ведаючы, што лепшых не знайсці. Вось ён, перад табой, малады, разумны, таленавіты. Сціплы. Дзе ж яго вочы?

Рыта прайшла праз поўны дзецьмі двор, на ўсялякі выпадак пашукала вачамі сваю, хоць і ведала, што дачка ў гэты час спіць пад прыглядам бабулі. Дома, па звычцы ўсіх інтэрнэт-залежных, раней, чым перакусіць, уключыла ноўтбук і занурылася ў яго. З тэлефона не любіла, ды і вачэй было шкада. Адной рукой адкусвала катлету з хлебам, другой круціла мыш ноўтбука. Поўная спаму папка "Уваходных", пісьмо ад народнай лекаркі – шаптухі і эзатэрычкі, ліст з Аўстраліі пра мільён даляраў спадчыны – трэба толькі даслаць нікчэмную суму на афармленне, парада-рэклама, як напісаць раман, прапанова пазнаёміцца, запыты ў сябры і абнаўленні з Фэйсбука. Прачытала некалькі паведамленняў, паставіла падабайкі. Усё ж не стрымалася і хутка пачала настукваць адным пальцам адказы. Іх чат маці-адзіночак аб'ядноўваў стрыманы фемінізм і нястрыманы аптымізм. Нельга было быць няўдачніцай, наракаць, скардзіцца; заахвочваліся паходы ў фітнэс-залы, спа-салоны, падарожжы па самых розных, экзатычных і не вельмі геаграфічных кутках Зямлі – словам, трэ было весці паўнавартаснае жыццё, настолькі поўнае, што яно наўрад ці было б магчыма ў іншым варыянце, напрыклад, у поўнай сям'і.

Рыта, стараючыся прытрымлівацца стылю, паміж імі прынятага (з'едліва-сцёбнага), хутка пісала: "...я хоць і стаяла далекавата, але пачула, як спыталі, ці была ў яго алергія? І тут мяне асяніла. Мабыць, вынік ад чытання чужых сцэнарыяў. Усе маглі жадаць яго смерці, і я ў тым ліку, бо я не раз ад яго зазнавала харасмент..."

Убегла дачка, кінулася ёй на шыю, ашчаперыла маленькімі ручкамі. Шчабятала, дзялілася бядой – укусіла за пальчык пчала. Кветкі раслі на клумбе каля пад'езда, кот пабег туды, яна за ім, і вось вынік. У вакно біла сонца. Галава ў малой была, як у арэоле, у залатым абадкунімбе. Рыта, дзьмухаючы на пальчык, машынальна прыгаворваючы: "у коціка балі, у сабачкі балі, у дачушкі не балі", дапісвала паведамленне. Заглянула маці.

– Пойдзеш гуляць, смецце вынясі.

– У мяне не сто рук. Самі вынесіце.

– Рукі, нябось, не адваляцца.

"...Прабач, – хутка дапісвала Рыта, – толькі што домработніца прыйшла рабіць прыборку. Зараз павяду дачку ў музычную студыю".

– Апранайся, пойдзем гуляць на двор, у пясочніцу.

## 18

Дзед Вечка з рэжысёрам Скіндзерам ішлі ў любімую кавярню. Быў майскі вечар, гадзін каля сямі. Сонца не хацела сядаць і чаплялася за дахі высотных дамоў. Неба было амаль летняе, светла-сіняга колеру, крыху вылінялае пасля спякотнага дня. Пахла цёплай зямлёй, скошанай удзень на газоне і прывялай травой і свежым лісцем. Птушкі вакол спявалі ўсе разам, так што нават заглушаліся гукі горада. Па дарозе рэжысёр гаварыў пра смерць (пра што ж яшчэ?), як яна імгненна перакручвае мазгі ўсім, нават самым тупым, і наглядна паказвае, як лёгка ў жыцці вырашаецца тое, што здавалася невырашальным.

– ...Разблытвае ўсе вяроўкі, даючы свабоду, вольнае дыханне жывым...

Што да дзеда Вечкі, той быў разгублены і нават напалоханы. На яго моцна падзейнічала гэтая раптоўная смерць.

– ...Напрыклад, цяпер ваша распіска траціць сілу, – неабдумана сказаў рэжысёр.

– Ты ж толькі маўчы! Прашу, нікому не кажы. Яшчэ знойдуць тую ідыёцкую распіску, пачнуць разбірацца, высвятліцца, што ў мяне таксама маглі быць прычыны... жадаць яму смерці.

– Вы ж мяне ведаеце.

– Ведаю. Таму і прашу маўчаць.

– Але за кватаранта вашага, само сабой, паручыцца не магу. Дарэчы, вы абяцалі расказаць. – Рэжысёр не проста нагадаў, а запатрабаваў. – Памятаеце, тады, на кухні ў вас? Пра трох зайцаў адным стрэлам. Пра латарэйны білет. Пра вашага кватаранта. Я слухаю!

– Ды што цяпер расказваць. Там і расказваць няма чаго. Сорамна прызнавацца. Здавалася дасціпным, а цяпер бачу, які я стары дурань. Да сівой галавы дажыў, а розуму не набыў. Проста не разумею, як такое магло прыйсці мне ў галаву...

Але рэжысёр быў на гэты раз настроены рашуча.

– Не. Цяпер не адкруціцеся. Выкладвайце ўсё.

– Ды што выкладваць... Спадзяваўся з дапамогай кватаранта Лагуна выблытацца з кабалы. Памятаеш, я расказваў, што пазычыў у Хрушчанкі грошы?

– У нябожчыка Хрушчанкі, – паправіў рэжысёр.

– ...І распіску даў, што буду пісаць яму па сцэнарыі ў год. Адзін, халтуру пра вайну, напісаў. Тут акурат Лагун падвярнуўся. І ў мяне з'явілася ідэя – напісаць яшчэ сцэнар, сапраўдны, і падараваць яму, каб ён адправіў яго на конкурс, з мэтай – прасунуцца як мага далей, як мага вышэй. Калі пашанцуе, давесці да рэдсавета, а потым зняць яго з конкурсу на карысць Хрушчанкі.

– І за гэта забраць распіску? Інакш кажучы, вы хацелі выкупіць сабе волю, як колішнія прыгонныя?

– Абсалютна правільна. Спадзяваўся выкараскацца з кабалы.

Ну, і Лагуну памагчы заадно, паралельна паспрабаваць уладкаваць яго. Калі б купілі ідэю, гэта прыкладна 500 даляраў, якія яму б дасталіся. Плюс дэбют.

– І што не так?

– Да рэдсавета ўсё ішло як па масле, а там рассыпалася. Лагун не захацеў забіраць сцэнар. Прысвоіў сабе.

– І вы маўчыце?
– А што казаць? Які я стары дурань? Я ж сам падараваў яму сцэнар. Так што маўчу, і табе раю.
У яго быў жаласлівы выгляд і вінаваты голас. Рэжысёр, аднак, не ўтрымаўся, каб не ўпікнуць.
– Так вам і трэба. Можа, навучыцеся разбірацца ў людзях. Я ж папярэджваў. Па ім відаць было – херувімчык!
– Будзе мне навука...
– З ім усё зразумела. Але вы ўсё адно не дагаворваеце. Які другі заяц?
– Гэта ўсё. Мэта была толькі распіска. Паставіць перад фактам і забраць яе.
– Не веру. Зноў хітрыце. Не – цяпер вы мне ўсё скажаце!
– Добра, добра, толькі цішэй. Памятаеш гісторыю пра дзяўчынку?
– Маці Інгі? Вашай зямлячкі? Вярнуцца ў мінулае, каб выправіць усё?
– Так.
– Яшчэ як памятаю. Я быў упэўнены тады, на кухні, што вы мяне разыгрываеце.
– Адзіны спосаб, які мне бачыўся, каб замаліць віну і хоць неяк выпрасіць прабачэння – памагаць Інзе.
– Зразумела. А так як яна ў журы, вы захацелі падтрымаць яе харошым сцэнарыем?
– Абсалютна правільна.
– А яшчэ што? Трэці заяц? – не адставаў настырны рэжысёр, выяўляючы чэпкую памяць.
– Добра. Ты даказаў, што ўмееш трымаць язык за зубамі. Скажу. Была ў мяне зусім наіўная мара... Я песціў надзею, а раптам Лагун пазнаёміцца з Інгаю? Спадабаецца ёй, патрапіць у сям'ю... Стане ім як бы сынам. Такі харошы, ціхі, добры. Сірата. Гэта і быў мой план, мае тры зайцы: выкупіць сябе з рабства, забраўшы распіску, памагчы Інзе з конкурсам і, калі пашанцуе, па магчымасці ўладкаваць кватаранта...
– Ох, хітры ж вы, аказваецца! – усклікнуў рэжысёр.
– Каб быў хітры, я б у такую сітуацыю не патрапіў.
– Закруцілі вы, нічога не скажаш.
– Не кажы. Хто б мог падумаць, што так атрымаецца! Што з майго нявіннага жадання закруціцца такая гісторыя? Хацеў зрабіць лепш, а нарабіў толькі горш.
Рэжысёр зноў пашкадаваў яго.
– Не ўбівайцеся вы так. У рэшце рэшт у сухім астатку нешта ж атрымалася. Прынамсі, цяпер вы вольны чалавек, нікому больш не павінны. Пры ўмове, паўтаруся, што Хрушчанка сваёй смерцю памёр.
– Не палохай мяне! І так душа не на месцы. Хто ж мог падумаць? Яшчэ за мяне возьмуцца.
Яны падышлі да кавярні. Дарожка, кусты, дэкаратыўная арка, абвітая яркай зелянінай. З адчыненых дзвярэй даносілася ціхая музыка ўперамешку з галасамі, плыў пах спіртнога і ежы, слаўся дым цыгарэт. Усярэдзіне панаваў паўзмрок – сапраўдны рай для ўсіх замучаных адзінотай. Перад тым, як увайсці, спыніліся. Рэжысёр дастаў цыгарэты.
– Закруцілі вы, нічога не скажаш, – паўтарыў ён, разам з дымам выпускаючы словы.
– Кіношны бог помслівы. Я сам казаў некалі. Вось мне і прыляцела. Расплата за тое, што халтуру пра вайну пісаў для Хрушчанкі!

– Нябожчыка Хрушчанкі, – машынальна паправіў рэжысёр, выкінуў у сметніцу амаль цэлую цыгарэту і саступіў убок, прапускаючы наперад старэйшага.

## 19

Камар прыйшоў дамоў позна. Марудна, як ганец, які нясе сумную вестку, падняўся па лесвіцы на свой другі паверх, адамкнуў дзверы. За клопатамі ён ледзь паспеў сказаць па тэлефоне пару слоў жонцы, што затрымаецца, і знарок не сказаў, што ён ад гэтага вечара ЧВАГ – часова выконваючы абавязкі гендырэктара. Яна яшчэ нічога не ведала, таму чакала яго з нецярпеннем. Дачка-студэнтка даўно спала.

Жонка, высокая хударлявая бландзінка, з куклай на галаве, кінулася да мужа. Ад нецярпення ў яе гарэлі вочы.

– Нарэшце! Ну, што?

– Нічога, – адказаў муж, хмурачыся, каб не паказаць адразу і так яўна, што ён у душы рады чужой смерці.

– Як нічога?! Ён памёр?

Але муж працягваў разыгрываць яе. Цягнуў, уздыхаў. Зняў і працёр акуляры. Палічыўшы, што досыць, нацешыўся, сказаў з уздыхам:

– Усё. Няма нашага імяніннніка. Як і не было.

І тады раптам жончын твар надзіва пахарашэў, і ўся яна неяк папрыгажэла і падабрэла.

– Дык цябе можна віншаваць?

– Ага, віншаваць. Каб яшчэ перадачы насіць не давялося.

– Сплюнь! Вечна ты... Як можна? Ты што, не ведаеш, што словы матэрыяльныя? Іншае, сказанае не ў час, збываецца.

– У тым і справа. – Ён вытрымаў паўзу. – Я, як сумленны чалавек, перадумаў рознага. Чорт іх ведае. А раптам мяне западозраць? Мала што мог сказаць дзе-небудзь. Міжволі прыгадаеш усе грахі, яўныя і тайныя.

– Не хадзі ты кругамі вакол. Раскажы нармальна. Як ён памёр? Ад чаго?

Камар сказаў значна:

– Падобна на алергічнае атручванне. Можа, арахіс. Цукерку з'еў, казалі.

– Цукерку?! – жонка, аптэчны работнік, разбіралася ў гэтым куды больш за мужа. – Памерці ад алергіі? Гэта павінна быць слановая доза. І потым ён што, не ведаў? Не трэба шукаць таго, чаго няма. Я хутчэй паверу, што ён ад звычайнай старасці памёр. Ад такога жыцця, як вашае, кіношнае, хто хочаш памрэ. Тым больш, ты сам казаў, анёлам ён не быў...

– Пра нябожчыкаў нельга кепска.

– Чаму? Гэта пра жывых пажадана або добра, або нічога. А пра нябожчыка чаму б і не? На кім тады вучыцца, як не на іх?

– Бедны, – уздыхнуў Камар. – Як усё ў жыцці звязана. Адным гора, другім радасць.

– Цяпер усё будзе добра. Хутчэй за ўсё, ты цяпер пойдзеш на павышэнне. Можа, нават гендырэктарам станеш.

– Пакуль толькі "в.а" – выконваючы абавязкі, – сціпла пахваліўся муж. – Прызначэнне часовае.

– Вось бачыш! Праўду кажуць – смерць роўна дзеліць, адна яна вырашае ўсё справядліва.

– Я гэта да таго, бо думаю: ці бывае што-небудзь бязвоблачнае? Каб не

прымешвалася трывога? Кшталту – ох, надта ж усё гладка! Не к дабру! Мабыць, каб я выйграў мільён, першая думка была б – чаму не два мільёны, а другая – як цяпер абараніцца ад зайздрасці суседзяў і знаёмых і адбіцца ад радні, якая набяжыць.

І праўда, было відаць, як ён стрымлівае сябе, нешта азмрочвае, атручвае яго радасць, не дае ёй вырвацца вонкі.

– Гэта ўсё ад таго, што ніводзін чалавек нават прыблізна не ведае, што яму трэба, каб ён супакоіўся, што ён павінен дасягнуць, каб сказаць сабе: усё, досыць.

Жонка, якая ведала яго як аблупленага, асцярожна прапанавала:

– Калі душа чыстая, жыць лёгка і цудоўна. Трэба будзе адзначыць...

– Пасля, пасля.

– Рэстаран заказаць. – Яна ведала аб мужавай беражлівасці, але ведала і тое, наколькі важная для яго гэтая падзея. – Не будзем эканоміць. Адзін раз жывем.

– Маю маці забярэм, – сказаў ён. – Хопіць ужо.

– Дом свой будаваць трэба. Дачка вось-вось замуж.

– Вечны клопат!

– Цяпер будзе лягчэй. Паможаш таму й таму – табе памогуць.

Яны абое, Камар і жонка, на поўным сур'ёзе лічылі, што ўлада на тое і дадзена, каб не марудзячы, адкрыта пачаць карыстацца ёю – для сваёй сям'і, блізкіх, сяброў і знаёмых. Самі не заўважылі, як перайшлі да складання спісу гасцей.

– Хросную абавязкова.

– Настаўніцу не забудзь. Шурына свайго...

– Твайго брата? Не, ніколі!

– Памірыцеся вы ўжо. Даруй ты яму, – ласцілася жонка.

Ён спахапіўся.

– Аднак мы дзелім скуру незабітага мядзведзя. І потым – рэжым ніхто не адмяняў, – сказаў ён важна.

У яго быў на кожны дзень графік: дзве гадзіны ў дзень, незалежна ад настрою, часу сутак і надвор'я, аддаваць прагляду новых фільмаў, сачыць за навінкамі, збольшага чытаць хаця б кароткі змест і каменты, каб не тое што быць у курсе – гэта немагчыма, а хаця б не надта адстаць. Часцей за ўсё ён проста глядзеў усё падрад.

– Які ты ў мяне працаўнік.

Жонка ледзь не малілася на яго. Усё, што яе турбавала, гэта быў муж, яго камфорт, яго праца. Калі ён зачыняўся ў сваім пакоі, яна хадзіла па кватэры на дыбачках, нібы побач за сцяной вялася рэлігійная служба. І дачку з малых гадоў прывучыла да цішыні: тата працуе!

Камар пайшоў да сябе ў пакой, які з'яўляўся адначасова кабінетам. Там, акрамя прагляду фільмаў, мелася ў яго таемнае хобі. Употай ад усіх, хвалюючыся, перажываючы, ён спрабаваў ствараць мастацкія тэксты, якія падпісваў прыгожым, рамантычным псеўданімам Максім Рамонка – анаграма ад Максіма Комара. Усё, што ім было напісана, вельмі падабалася яму самому. Больш ён нікому не паказваў. Тэмы ў яго былі аднастайныя, толькі пра фальклорную містычную Беларусь: улетку пра Купалле і пошукі Папараць-кветкі, узімку – пра Каляды і цуды, звязаныя з гаданнем і вывернутым кажухом. Усе героі ў яго абачліва гаварылі толькі на рафінаванай рускай мове.

Сёння не працавалася. Узбуджэнне не давала ні на чым засяродзіцца. Напружанае чаканне новага не праходзіла, яшчэ і ўзмацнялася. Галоўнае, што яго ўсхвалявала і не адпускала, гэта вельмі простая думка – як жа лёгка, у адзін момант і самым надзейным чынам можа вырашыцца ўсё, што здавалася невырашальным, развязка чаго павінна была расцягнуцца на гады, дзе варыянт простай анатамічнай смерці стаяў на апошнім месцы і ўсур'ёз не ўспрымаўся.

І вось табе маеш!

Не трэба больш планаў, прыкідак, цярпення, інтрыг, этапаў, а галоўнае – чакання, бо чаканне насамрэч нялёгкая праца. Міжволі прыйдзе ў галаву, што хтосьці – нейкі Вялікі Сцэнарыст, які ўсё бачыць і ведае наперад, піша свой тэкст, а Нябачны Рэжысёр здымае па гэтым тэксце-сцэнарыі фільм.

Камар быў не малады. Ззаду было вясковае нялёгкае дзяцінства, увесьчасная праца і невялікія плады яе, тым больш каштоўныя, бо даваліся вялікай цаною. З таго часу, як ён скончыў у Маскве кінакурсы і вярнуўся на радзіму, кожную кар'ерную прыступку, нават самую маленькую, яму даводзілася браць ледзь не штурмам, з крывёй і потам. Ён заўсёды ведаў свае межы. Таму, дасягнуўшы пасады галоўрэда, зразумеў, што гэта, хутчэй за ўсё, самае большае, што на гэтым этапе яму наканавана, а наступны калі яшчэ будзе. Але тое, што кар'ера не скончыцца, ён ведаў дакладна, таму так спакойна і ўспрымаў сваё месца.

Інстынктам селяніна з глыбіні стагоддзяў ён адчуваў – цяпер для такіх, як ён, самы лепшы, самы спрыяльны час. Ніколі, нават шэптам на кухні, ён не крытыкаваў вышэйшае начальства, тым больш – сістэму, бо быў упэўнены, што ад уласна чалавека нічога ў жыцці не залежыць. Не нікчэмны чалавек, а толькі абставіны і іншыя людзі з'яўляюцца кавалямі чужога шчасця. Шчасце ж у яго разуменні было: грошы, кар'ера, слава, – не шумная, невялікая, хаця б у сваім вузкім сямейна-сяброўскім асяродку. Хтосьці за адзін дзень набывае і траціць мільёны, – гэта не яго; ён спакойна адыдзе ўбок. Так надзейней. Яго любімымі жыццёвымі слоганамі-дэвізамі былі:

"Кура па зярнятку дзяўбе і наядаецца".

"Абавязкова трэба хваліць кагосьці, тады ў адказ пахваляць цябе".

"Баяцца – значыць паважаюць".

Яго любімы герой быў Герман з "Пікавай дамы", які ставіў сабе мэту не гнацца за большым, каб не страціць меншае. У яго, у Камара, і праўда ў параўнанні з іншымі ўсё было як бы паменшаным, нават крышку непаўнацэнным. Быў "мерсэдэс", але не новы, які ён сам насмешліва называў – мерын. Кватэра вялікая, але няўклюднай планіроўкі і ў старым доме. Было лецішча, але ў нізіне, ад чаго там нічога не расло, а вяліся то краты, то камары. Нават у адносінах да жонкі і дачкі ён быў абыякавы, мала пра іх клапаціўся; яны павінны былі спрыяць дасягненню яго мэтаў, укладваць у яго свой, так бы мовіць, жыццёвы капітал – будзе яму добра, адпаведна і ім.

І вось такі раптоўны ўзлёт. Так пашанцавала – бадай, першы раз у жыцці.

– Ну, Максім, настаў твой час!

У яго было цвёрдае адчуванне, што ён не проста падыходзіць на гэтую гендырэктарскую ролю, а яна знарок для яго створана. Ён ведаў, што наперадзе яго чакаюць зайздрасць, абгаворы, перашэпты, – абавязковыя спадарожнікі поспеху. Але разам з тым ведаў і тое, што чым вышэй ён

ускараскаецца або ўзнясецца, тым хутчэй і ахвотней будуць змяняцца прыярытэты, і недахопы яго ператворацца ў вартасці.

А самае дзіўнае, што яшчэ амаль не пакарыстаўшыся гэтай уладай, ветлівы, мяккі, інтэлігентны Камар (якім ён сам сябе лічыў) ужо бачыў, як яно, месца, ператварае яго ў іншага чалавека – строгага, справядлівага, прынцыповага.

## 20

Новае становішча нагадала пра сябе з самай раніцы. Пачаліся тэлефонныя званкі.

– Ну і людзі! – бурчаў Камар. – Цела яшчэ не астыла, не аддадзена зямлі, а яны ўжо...

Так ён скардзіўся жонцы, якая ўсё чула і млела ад гонару за яго. Яму самому было прыемна, што цяпер усе, а не толькі ён, лічаць, што яго справа вырашана. Разам з тым і злавала крыху: да яго, чыстага, сумленнага чалавека, звяртаюцца з нейкімі двухсэнсоўнымі просьбамі і намёкамі. Стары акцёр, даўно патрапіўшы ў няміласць, прасіў месца; малады і ранні бойкі прадзюсар прапаноўваў зняць нацыянальны эпас, нейкая дама дапытвалася, якія ёсць вакансіі, каб упіхнуць на любую працу дачку-пераростка.

“Пакуль нічога не магу абяцаць”, – казаў суха Камар.

Сцэнарыст Вечка (іх цэлая плойма такіх туляецца па студыі, трэба будзе “аптымізаваць”) звяртаўся з дзіўнай просьбай: нібыта ў кабінеце нябожчыка ў сейфе нейкая распіска, “дык я хацеў бы...”

– Усё будзе апячатана, асабістыя рэчы і паперы будуць перададзены сваякам памерлага, – не даслухаўшы да канца, коратка адказаў Камар.

Сам ён увачавідкі змяніўся. Знікла сутуласць, выправілася пастава, пастражэў голас, а яшчэ ён зняў акуляры, каб не асацыявацца з папярэднікам. Калі прыехаў на кінастудыю, усе ўжо ведалі, хто цяпер галоўны, вітацца пачалі яшчэ ў двары, ледзь не здымалі шапкі, ледзь не кланяліся. Увогуле, атмасфера была святочная. Яго віншавалі. Паўсюль ён бачыў кепска прыхаваную ў вачах радасць. Але ён агульнаму настрою не паддаваўся, быў строгі і не ў настроі, нібыта не выспаўся. Заклапочаным, крыху стомленым голасам адказваў на вітанні, віншаванні, кідаў дзяжурныя словы:

– Такая штука жыццё, на жаль. Адны сыходзяць, каб вызваліць месца іншым.

Ключамі, якія выдалі яму ўнізе ў ахоўнай, адкрыў кабінет. Крэсла, стол. Першай справаю ён скотчам прымацаваў да дзвярэй звычайны аркуш паперы А4, на якім ручкай напісаў “в. а.” і сваё прозвішча, імя і імя па бацьку, каб паказаць дэмакратычнасць і тое, што ўсё гэта ўмоўнасці, яму начхаць на таблічкі, золатам пісаныя, ён проста прымае – часткова добраахвотна, часткова пасля ўпрошванняў начальства – нялёгкую ношу кіраўніцтва студыяй на сябе.

Цэлы дзень да вечара ён гаспадарыў у кабінеце, перабіраў і да ладу даводзіў паперы. У сейфе сярод іншага хламу знайшлася і дзіўная распіска, прычым дадзеная не Хрушчанку В.П., а проста абстрактнаму Гендырэктару. Камара зацікавіў гэты дакумент, і на ўсялякі выпадак ён яго вырашыў прысвоіць. На стале таксама ляжаў спісак конкурсных сцэнарыяў.

У наступныя дні на яго плечы легла падрыхтоўка і арганізацыя памінак. Ён выступіў з развітальным словам у жалобнай зале перад тым, як

аддаць цела крэмацыі. Ён даволі хутка ўваходзіў у ролю. Прывыкаў да званкоў, спачуванняў і віншаванняў. Нарэшце ўсё крыху ўлеглася, і ён вырашыў заняцца ўласна гендырэктарскай дзейнасцю. Яму падабалася загадваць ("зайдзіце да мяне вы, вы і вы"). Акрамя таго самі, без выкліку, да яго пацягнуліся разнастайныя просьбіты, у тым ліку адным з першых сцэнарыст Вечка, той самы, наконт распіскі.

– ...Так як я ўжо цалкам разлічыўся, – казаў, прыкладаючы руку да грудзей, – прашу аддаць... Нябожчыку яна ўжо не патрэбна, ніякай каштоўнасці яна не мае, юрыдычнай сілы не нясе... А мне, ды і вам, спакайней будзе.

– Распіску вашую я знайшоў, – памахаў Камар паперчынай. – Але што яна значыць? Я так разумею, вы пісалі сцэнарыі для гендырэктара?

– Так. Быў суаўтарам Хрушчанкі.

– Не-не, пачакайце. Не Хрушчанкі, а менавіта безыменнага гендырэктара.

Камар паказаў месца ў распісцы, якую трымаў у руцэ. Сапраўды, ніякага прозвішча там не стаяла. Бачачы, як засмуціўся дзед, Камар далікатна пачаў гаварыць:

– Я кансерватар, і хачу каб усё заставалася як раней. Маё правіла – не ламаць таго, што працуе. У мяне да вас пытанне, і яно ж – прапанова. Вы далі распіску, што будзеце працаваць на гендырэктара?

– Даў.

– Дык і працягвайце працаваць на гендырэктара.

– Гэта як?

– На мяне. Якая вам розніца? Я ў даўгу не застануся. Ад мяне вы будзеце атрымліваць тое, што і ад Хрушчанкі.

Вечка падумаў, пачухаў патыліцу.

– Што ж. Мо вы і маеце рацыю. Раб, атрымаўшы свабоду, першай справаю пачынае шукаць новага гаспадара.

– Ну нашто вы так? Раб, гаспадар... Мы калегі, творчыя людзі. Ці не так? Згодны? Вось і дамовіліся.

Наступнай была Рыта. Яна ўпырхнула ў кабінет з радасцю ў вачах і з віншаваннем на вуснах. Камар выставіў уперад руку, як бы астуджваючы яе, – маўляў, я цяпер высока стаю, не дастаць, блізка не падыходзь.

– Слухаю вас.

– Вас? – здзівілася яна.

– Ой, цябе, вядома, цябе. Заматаўся за гэтыя дні.

Яна паверыла яму.

– Там загад аб маім звальненні вісіць.

– Так. Пакуль вісіць. Рукі не дайшлі. Я парву яго, гэты загад. Пры адной умове... Ты павінна...

Усмешка спаўзла з яе твару. Рыта насцярожылася. Надта падазронымі былі яго паводзіны і словы.

– Умове? Павінна?

– Не чапляйся да слоў. Ты ж ведаеш: я кансерватар, не хачу нічога ламаць... Хачу, каб усё было як раней. Каб усе рабілі тое, што і да гэтага. Ты згодная?

– І што ж я такое рабіла?

– Мы не малыя дзеці. Усе ведаюць.

– Вы сур'ёзна?

– Рыта, ну ты ж сама расказвала пра яго прыставанні. Хрушчанкі, у сэнсе.

– І якая адсюль выснова?

– Простая. Ты была палюбоўніцай гендырэктара, дык і заставайся палюбоўніцай гендырэктара.

Нарэшце да яе дайшло. Самае брыдкае, што гэты Камар раней нават крыху падабаўся ёй. Пры ўсіх сваіх недахопах (нудны, рэтраград, маўчун) быў ён затое добры, ветлівы, сціплы, інтэлігентны. Прадказальны. Яна сапраўды неабачліва, неасцярожна многа балбатала ў яго прысутнасці, лішняе яму расказвала, дзялілася з ім тым, чым з чужымі не дзеляцца. І пра прыставанні Хрушчанкі ў тым ліку. Падыгрывала яму, каб звярнуць на сябе ўвагу. Ёй было прыемна, што хоць так ёю цікавяцца. А ён вось што вынес з яе шчырасці. Яна была ўпэўнена, што ён, стаўшы начальнікам, усё памяняе ў лепшы бок. Так чакала гэтага. І дачакалася. Галоўнае, яна выдатна ведала, што яна яму патрэбна як атрыбут дырэктарства. Ва ўсіх начальнікаў такое ёсць, у папярэдніка было, і ў мяне, Камара, павінна быць.

– Вы лічыце, што мяне можна перадаваць, як эстафетную палачку, ад аднаго да другога?

– А што я такога сказаў? – у сваю чаргу спытаў ён, не гледзячы на яе, шукаючы на стале надзвычай патрэбную ў гэты момант паперку. У чым праблема? Не бачу праблемы.

Яна не ўтрымалася:

– А я яшчэ падтрымлівала, на рэдсавеце абараняла бяздарнае “Рамонкавае поле”.

Многае ён дараваў бы, але не гэта, – калі крытыкуюць яго творы. Тут ён па-сапраўднаму пакрыўдзіўся. Аўтарскае самалюбства было закранута.

– Ну, хопіць, – абарваў ён. – Давайце перагорнем старонку!

– Мне звальняцца?

– Воля ваша. Загад застаецца ў сіле. Да пабачэння.

Наступнай Камар выклікаў Інгу. І паклаў перад сабой конкурсны спісак сцэнарыяў.

## 21

Інзе было не пазайздросціць. Падзеі апошняга часу проста выматалі яе. Добра яшчэ, высветлілася, што Хрушчанка памёр сваёй смерцю – ад ішэмічнай хваробы сэрца (больш дакладна – адрыванне тромба), а не ад алергіі. Бо ў Інгі прычын для трывогі было больш, чым у каго. У самой алергія. Ды яшчэ ад нервовага напружання ў яе з’явіліся праблемы са здароўем. Увесь апошні час яна адчувала неверагодную фізічную ўтому. Галава балела. Шчытавідка павялічылася. Але ўсё гэта можна было лічыць драбязой у параўнанні з тым, што душа была не на месцы. З таго вечара, калі яна вярнулася дамоў пасля трагічнага фуршэту і застала мужа з Лагуном, першая думка, якая перабіла ўсё, нават смерць Хрушчанкі, была: ужо ці яшчэ не? Расказаў Лагун ці не паспеў? Толькі вялікім намаганнем волі яна прымусіла сябе супакоіцца. Але больш гэтая думка ніколі і нідзе не пакідала яе.

Самае непрыемнае, што пасля таго Лагун зачасціў хадзіць да іх. Не было вечара, каб ён не прысутнічаў. Інга ездзіла на працу, сама не ведаючы, навошта, абы не быць дома. А дома адбывалася адно і тое – кожны вечар муж з Лагуном разам праводзяць час, гуляюць, размаўляюць. Лагун робіцца тут сваім чалавекам. Спачатку Інгу непакоіла гэта, потым пачало раздражняць

і, нарэшце, палохаць. Было ў гэтым сяброўстве мужа з Лагуном нешта не тое, і ўвогуле ў іхнім трохкутніку было нешта ненатуральнае, падазронае і, галоўнае, пагрозлівае, быццам яе сілай адрывалі, аддзялялі ад мужа – з разлікам, каб яе лінія жыцця пайшла асобна, а мужа з Лагуном асобна.

Яна старалася трымацца натуральна, рабіла выгляд, што нічога не адбываецца, а сама ўвесь час ліхаманкава думала, што рабіць? Што рабіць, калі муж даведаецца? А гэта рана ці позна абавязкова здарыцца. І яна рыхтавала сябе да абароны, каб быць гатовай, калі ўсё выплыве, адбівацца, як дзікая кошка, зубамі і кіпцюрамі.

Як яна цяпер раскайвалася! Як жа ясна ёй было, што дарэмна яна з Лагуном звязалася. Па дабрыні, ад шкадавання. Ад глупства. Вялікая памылка! І ўжо зусім балюча думаць, што яе ахвяра ў прынцыпе была непатрэбнай. Хрушчанка ўсё адно памёр, а не стала яго – знікла праблема са сцэнарыем, адпала патрэба кагосьці на штосьці ўгаворваць.

Цяпер дзе б яна ні была па-за домам: у краме, на працы ў кінастудыі, проста на прагулцы – калі не бачыла мужа з Лагуном, яна мучыла сябе здагадкамі. Што там адбываецца? Што яны робяць? Пра што гавораць? Ёй хацелася кінуць усё і мчацца дамоў.

А то ёй пачынала здавацца, што хітры муж даўно выпытаў усё ў наіўнага хлопчыка, і цяпер думае, як ёй, ці ім абаім, жонцы з палюбоўнікам, адпомсціць, – таму і марудзіць, вычэквае зручны момант, а сам рыхтуе выкананне кашмарнага плана, кшталту пасадзіць абаіх у бочку і кінуць у бяздонне вод.

Даходзіла да таго, што Інга нават дзяжурныя сцэнарыі чытала з практычнай цікавасцю, вывуджваючы сцэны, у якіх мужы каралі няверных жонак; з непрыемным здзіўленнем яна адкрыла для сябе, што гэтай тэме прысвечаны цэлыя тэлешоў (раней не любіла тэлевізію), а ў інтэрнэце яе пачалі цікавіць выпадкі самых хітрых, незвычайных, загадкавых забойстваў. Яна зрабілася вельмі асцярожнай у гэтым плане. Перад тым, як легчы спаць, абмацвала падлогу каля ложка, ці не разбіўся там градуснік і не разлілася ртуць. Перастала карыстацца ліфтам. Старалася як найрадзей пераходзіць вуліцу. Калі гартала кнігу або рукапіс сцэнарыя, не слініла, як раней, па-дзіцячы пальцы, баючыся, што старонкі могуць быць змазаны атрутай. Вялікую асцярожнасць праяўляла ў ванне, памятаючы, што па статыстыцы тут здараецца больш няшчасных выпадкаў, чым у ДТЗ. Не адказвала на званкі і ўвогуле адключала тэлефон нават у лёгкі дожджык, не кажучы пра навальніцу. І быў самы ліпкі, самы брыдкі страх – гэта калі сядала ў машыну за руль і трэба было павярнуць ключ запальвання; калі яна рабіла гэта, дык заплюшчвала вочы.

Яна вярталася дамоў і бачыла адну і тую ж карціну. Муж з Лагуном у доме, на тэрасе, у садзе прагульваюцца па дарожках, прычым абсалютна шчаслівы муж і пануры, рукі ў кішэнях джынсаў, Лагун. І бедная Інга кожны раз па выразах твараў, поглядах, па інтанацыі слоў намагалася зразумець: ужо ці яшчэ не? І з палёгкаю разумела, што пакуль не. Можна было перавесці дых.

Лагун маўчаў. Яна яшчэ больш супакойвалася і пачынала думаць, што калі ён не расказаў дасюль, дык, значыць, сапраўды ўмее трымаць язык за зубамі, гэта раз, а па-другое, відаць, маўчанне выгадна яму самому. Магчыма, ён баіцца мужа яшчэ больш, чым яна, і ў гэтым плане яны – саюзнікі. Больш за тое. Ёй пачынала здавацца, што нават калі ён раскажа, зусім не

факт, што муж яму паверыць. У рэшце рэшт нават калі муж даведаецца – ну і што? Ну, здрадзіла, ну, падумаеш. Дваццаць першае стагоддзе.

Калі яна пераконвалася, што ніякі сюрпрыз пакуль яе не чакае, пачуццё ўдзячнасці да Лагуна ахоплівала яе. Яна нават шкадавала яго. Што ні кажы, а яна сама ва ўсім вінавата, яна ўцягнула яго ва ўсё гэта.

А потым была вячэра. Вясёлы муж, натапыраны Лагун і Інга, напятая як струна. Яна вачыма падбадзёрвала Лагуна: "Малайчына! Добра трымаешся. Так і трэба".

Муж, увогуле вялікі аматар пагаварыць, не сунімаўся нават за сталом, прычым умеў развіць любую тэму, якую сам перад сабой і ставіў; нават на адно слова гатовы быў даць разгорнуты адказ.

– ...Трэба заўважыць, – казаў ён, забыўшы кавалак катлеты на відэльцы, – што, разглядаючы наш час, ды і любы асобна ўзяты час, без папярэдняга, як нешта самастойнае і асаблівае, – тое самае, што разглядаць і вывучаць кончык пазногця безадносна ўсяго цела, уключаючы змесціва *чарапной скрынкі* (апошнім часам ён пачаў вучыцца гаварыць па-беларуску, бо чамусьці думаў, што гэта спадабаецца Лагуну).

– ...Не памятаю, хто сказаў, што цяперашняя руская літаратура – гэта падвыпітая пажылая дама, якая па звычцы яшчэ какетнічае, але ў якой ужо ўсё ззаду, а наша беларуская – яшчэ школьніца, нават не старэйшых класаў, з шырока расплюшчанымі сінімі цікаўнымі вачамі, у якой усё наперадзе...

– ...Тое, што адбываецца ў свеце, гэта не інтэрнэтызацыя, а даведзенае да найвышэйшай ступені абсурду пераможнае шэсце чалавечага Закона, інакш – юрыспрудэнцыі. Дзіўна ці, наадварот, заканамерна, што ў другім і трэцім тамах "Мёртвых душаў" паўставала менавіта тэма – юрыста як Вялікага Інквізітара. Пасля Дастаеўскі падхапіў яе і, канечне, сапсаваў...

– ...Ні я, вядома, ды і ніхто іншы ніколі не зможа даказаць існаванне Бога. Затое я лёгка магу даказаць, па-першае, заганнасць тэорыі эвалюцыі – калі б існаваў натуральны адбор, чалавек не застаўся б голы, не выношваў бы так доўга плод і не мучыўся б у родах; па-другое, я магу даказаць безгрунтоўнасць атэізму. Шукаць Бога ў людскіх установах, гэтак званых храмах, тое самае, што спадзявацца на чалавечы юрыдычны суд. Таго не трэба шукаць, хто ў цябе за спіной, хто і так з табою. Бог, у маім разуменні ёсць уласна жыццё, гэта паветра, якім мы дыхаем. Мы не бачым, не шукаем яго і не думаем пра яго, таму што яно і так заўсёды з намі. Мы можам жыць толькі калі дыхаем; калі ж Бог нас пакідае, нібы перакрываецца кісларод, і мы проста гінем ад удушша.

Тое, што муж балбатун, Інга заўсёды ведала. Але лічыла, што, каб выгаварыцца, яму хапае яе. Праўда, яна не была ідэальнай слухачкай – магла ўстаць і выйсці пасярод размовы, гмыкала, перабівала на паўслове. Мо менавіта таму, натрапіўшы на Лагуна, ён адводзіў душу. Іншым разам Інга парадавалася б, што не ёй адной слухаць усё гэта. Цяпер жа яна адчувала ўкол рэўнасці. Ужо ёй хацелася да сябе ўвагі. Акрамя таго Інзе прыходзіла ў галаву (а ёй цяпер усё прыходзіла ў галаву), што яна мала ведае мужа. А што, калі паміж імі нешта большае за проста сяброўства? Мо ў гэтым і ёсць яго, мужава, помста? Такая па-езуіцку вытанчаная.

І хоць яна сама сябе пераконвала, што нічога такога асаблівага не адбываецца, усё нармальна, яна бачыла, разумела і адчувала, што ўсё зусім

ненармальна. Муж і Лагун падабаюцца адзін аднаму. Лагун тут зусім па-тарцюфску асвойваецца. Прывыкае. Не трэба патураць іх сяброўству. Нельга Лагуна прывучаць. Нават калі ён нічога не раскажа, усё адно ад яго трэба пазбаўляцца, каб ён перастаў хадзіць.

Нарэшце яна знайшла момант, каб пагаварыць з ім сам-насам.

Начаваць яго катэгарычна не пакідалі. Гэта была ўмова Інгі. Таму яна за вячэрай знарок цягнула час, а потым, скарыстаўшыся тым, што позна, прапанавала яго падвезці. Яна спыніла машыну, крыху не даязджаючы да метро, у завулку-"апендыксе". Было каля дзесяці вечара. Празрыстыя майскія прыцемкі, як туман, ужо ахуталі горад. Запаліліся ліхтары, і машыны ўключылі фары. Галіна каштана ў святле ліхтара была ўжо не толькі ў лісці, а і ў сваіх белых стаячых кветках. Інга сама здзівілася, як яна прапусціла – і калі паспелі вырасці?

Яна збольшага прадумала, як пачынаць і аб чым гаварыць, каб неасцярожным словам не напалохаць яго. Інтанацыя павінна быць мяккай, а змест такім, нібыта паміж імі адбылася самая звычайная будзённая падзея, не вартая нават згадкі.

– Ты ж разумееш, то была хвілінная слабасць. Я не зусім здаровая, пасля хваробы...

Ён зняў з пляча рэмень бяспекі і моўчкі, панура слухаў.

– Ты павінен ведаць. Гэтага ніколі больш не паўторыцца. – І адразу ж змякчыла. – Канечне, не ў тым сэнсе, як ты можаш падумаць! Не. Ты харошы. Але – муж! Сам бачыш. Такія дабракі, калі іх раззлаваць, вельмі небяспечныя. Ён нам абаім галовы знясе.

– І што рабіць?

– Перастаць хадзіць. Бо гэта не жартачкі.

– Што ж я зраблю? Калі ён сам прыязджае і цягне мяне за руку.

– Не слухай яго. Ты не дзіця.

Лагун нічога не адказаў.

– Ён да цябе прывыкае, прывязваецца. Гэтае сяброўства трэба спыняць. Дарэчы! А ты не дапускаеш, што ён ужо ўсё ведае? І знарок заманьвае цябе? Толькі чакае зручнага выпадку?

– Так і ёсць. Ён зваў мяне ў Піцунду.

Інга пачула спалох у яго голасе і ўзрадавалася гэтай сваёй хоць маленькай перамозе. Лагун міжволі сам падказаў ёй матыў і план: Піцунда, скала. Трэба толькі замацаваць яго страх.

– Вось бачыш, – усклікнула яна. – Ён калі не ведае, дык прынамсі здагадваецца. Так што не хадзі больш!

Пазней Інга ўспомніць гэты вечар і зразумее, што ўжо тады дапускала яна раптоўна ўзніклую надзею на паўтор няшчаснага выпадку ў Піцундзе, і як потым выспельвала яе, гэтую надзею, аберагала ў далонях, як маленькі кволы агеньчык.

– Як толькі прагучыць слова Піцунда – бяжы, уцякай адсюль!

– Вам добра казаць.

– Чаму добра? Не, не падумай! Усё, што я абяцала, застанецца ў сіле. Твой сцэнар зойме першае месца, фільм паставім, – пералічвала яна, узбадзёраная такой хуткай і лёгкай яго згодай. На развітанне паабяцала:

– Не бойся. Я цябе ўцягнула, я цябе і выблытаю. Прыдумаю што-небудзь. Сёння ж увечары прыдумаю.

У яе, заўсёды рашучай, нават катэгарычнай, якая мала ў чым сумня-

валася, апошнім часам узніклі ў лексіконе такія словы, як “можа быць”, “не ведаю”, “я падумаю”. Позна ўвечары, перад сном, яны сядзелі з мужам на тэрасе. Маўчалі; цішыня была такая, што чуліся ледзь улоўныя вухам гукі ў садзе, нейкі шолах, нібы трава прабівала зямлю, а лісце і кветкі на дрэвах на ноч, наадварот, згортваліся. Неба было ўсыпана зоркамі.

– Скажы, – спытала Інга, – нашто ты яго прывучаеш? Я спадзяюся, ён не збіраецца тут жыць?

Муж толькі пасміхаўся. Ён быў задаволены, амаль шчаслівы.

– Я ж магу і прыраўнаваць.

– Не, ты памыляешся. Гэта чыстае мужчынскае сяброўства.

– Вось як? А ты не баішся? Што такое ж сяброўства можа ўзнікнуць паміж ім і мною? Што я магу... здрадзіць табе з ім?

– Не баюся. Ён, мне здаецца, я нават упэўнены, сапраўды да жанчын абыякавы.

– І ўсё ж. Я не хачу, каб ён тут прывыкаў.

– Пачакай, – сказаў муж з выглядам, нібыта новая думка прыйшла яму раптоўна. Хаця Інга выдатна ведала, што ўсё, што ён скажа, ім загадзя і дакладна прадумана. – Я, здаецца, ведаю, як можна памагчы твайму пратэжэ.

– Хутчэй – твайму.

– Што ж, не буду адмаўляць – я вельмі ўдзячны табе за тое, што ты нас пазнаёміла. Ён мне вельмі, вельмі спадабаўся.

– Дык як яму памагчы? – перабіла Інга.

– Ты была з нябожчыкам Хрушчанкам на нажах з-за гэтага сцэнарыя. Так? А цяпер, атрымліваецца, твае непрыемнасці скончыліся. Ніхто не перашкодзіць зняць фільм.

– Не ведаю, як яшчэ паставіцца новае начальства.

– Ёсць лепшы варыянт. Самы надзейны. Гэта табе стаць гендырэктарам. Вось ідэальныя ўмовы ўзнавіць справядлівасць.

– Мне?

Тут яна прыгадала (паспела ўжо забыць за ўсімі справамі), што ў той самы вечар, калі памёр Хрушчанка, ёй ужо званілі з вярхоў, і не тое, каб прама, але даволі празрыста намякнулі: ці не пагодзіцца яна ўзначаліць кінастудыю. Тады яна не проста адмовілася – адмахнулася, бо ёй было не да таго, а па-другое, яна ведала, як марыў аб павышэнні калега Камар; яна нават уявіць не магла, каб перайсці яму дарогу. – “Вельмі было б пажадана, каб вы, – настойвалі ўверсе. – Дзеля гендарнага балансу”. – “Ну, не. Знайдзіце іншую”. Яшчэ тады яна здагадалася, чыіх рук то была справа: у мужа ў такіх сферах яшчэ ад часоў яго архітэктара-бацькі заставаўся блат, ды не абы-які.

– Мне ўжо званілі, – сказала яна. – Прапаноўвалі. Я адмовілася.

– Мо дарэмна?

– Не дарэмна. Ты не ўяўляеш, што гэта такое. Адзіны спосаб выжыць там – мінімальна ўдзельнічаць ва ўсім. Так што, калі ласка, я цябе вельмі прашу, не заводзь нават размовы, ні слова не кажы мне пра начальства! Там не тая кар’ера, пра якую мараць, там усё, як у кіно, толькі ў горшым сэнсе. А самае галоўнае, каб ты ведаў, як гэта ўсё не ў час, – вырвалася ў яе.

Ён нібы пачуў толькі гэтае апошняе.

– А які цяпер час? Такі, як заўсёды. Філосафы і паэты даказваюць, што ўвогуле не існуе такой катэгорыі, як час. А калі існуе, дык заўсёды

аднолькава спрыяльны для ўсіх. Птушкі спяваюць, нягледзячы на ўзлёты і падзенне валют...

– Перастань, калі ласка.

– Дык не хочаш?

– Катэгарычна! – і зноў, як нядаўна з Лагуном, яна панізіла тон і змякчыла інтанацыю, прамовіла: – І потым, ведаеш, я так стамілася...

– Дарэчы, як твая алергія?

– Не паверыш, сама здзіўляюся, але амаль прайшла. А вось шчытавідка... Ускладненне, павелічэнне...

– Нічога страшнага. І шчытавідка пройдзе. Вось бачыш, адно выцясняецца другім. Так і з нашым сцэнарыем. Справядлівасцю трэба выцiснуць несправядлівасць. І нарэшце памагчы нашаму маладому сябру.

– Добра. Я падумаю, – сказала яна. – Заўтра ж пагавару з новым начальнікам. Прыдумаю штосьці.

## 22

Вось у такую пару, у такім стане Інгу выклікаў да сябе выконваючы абавязкі гендырэктара М. Камар. Яе хоць і кальнула крыху афіцыйнае, праз сакратарку, запрашэнне, мог бы і сам заглянуць, не чужыя людзі, – але ўсё адно яна паспяшалася да яго з радасцю. Для яе, як і для іншых, Камар з'яўляўся аддушынай, праменьчыкам святла ў цёмным царстве; яна, як і іншыя, была ўпэўнена, што ён вельмі хутка памяняе ўсё ў лепшы бок. Ён сустрэў яе ў дзвярах, узяў пад руку, падвёў да крэсла.

– Што з вамі? – клапатліва спытаў.

– Хвароба не зусім прайшла.

– Здароўе – самае галоўнае. Нездарма ўсе жадаюць адно аднаму здароўя.

Стол з папкамі. Да болю знаёмыя Інзе спісы канкурсантаў. Рэзюмэ. Яна чакала. А Камар усё цягнуў, адкашліваўся, нібыта выбіраючы, з якога боку лепш зайсці.

– Будзе здароўе – усё астатняе само прыйдзе.

– Здароваму быць добра, а хвораму кепска, – падтрымала яго Інга.

– Так. Я найперш прашу прабачэння, што позна вас выклікаў. Мне трэба быў час, каб разабрацца, увайсці ў курс справы. Вы мяне разумееце?

– Не зусім.

Ён узяў са стала і падаў ёй сінопсіс "Месца".

– Я прагледзеў яшчэ раз. І хачу сказаць – нашто дражніць гусей? Усё будзе, але паступова. Ці не лепш – пакуль! пакуль! – штосьці правеpанае, нейтральнае, тое, чаго ад нас чакаюць.

– Што менавіта? – усё не разумела Інга.

– Як вы ведаеце, галоўны над конкурсам гендырэктар. Ну, ці выконваючы абавязкі, не важна. Толькі ён зацвярджае рашэнне журы, а па сутнасці, канчаткова вызначае парадак месцаў. Мая прапанова – перарабіць спіс пераможцаў і замест "Месца" выбраць іншы сцэнар.

– "Світанкі над Прыпяццю ціхія"? – усміхнулася яна, думаючы, што яе разыгрываюць.

– Чаму світанкі? Навошта над Прыпяццю? Не, не світанкі. Вось, гатовы сцэнарый. "Рамонкавае поле".

– Як?! – усклікнула Інга.

Яна адчула проста нейкае дэжавю. Нібыта не было падзей апошняга

часу, не паміраў Хрушчанка, а ў тым самым кабінеце за тым самым сталом працягвалася размова з ім. Яна страсянула галавой. Успомніла і "Рамонкавае поле" – падпісаны нейкім Рамонкам сцэнар, які ўсё журы прыняло за школьнае сачыненне. Яна спачатку так і падумала – школьнікі забаўляюцца. Але нават для дзяцей было надта наіўна, для дарослых надта банальна.

Гэты быў голы лубок з вечна-бадзёрымі аграгарадкоўцамі Ясем і Янінай. Мясцовыя жанчыны спявалі рускія народныя песні, прычым чамусьці плылі на плытах па Бярэзіне, у той час, як мясцовыя мужчыны, усе без выключэння, жанатыя і халастыя, былі занятыя тым, што шукалі, дзе б выпіць. Яны рабілі гэта ўпотай, хаваючыся ад жонак і нявест. Каб выканаць сваё жаданне, яны прыдумлялі самыя хітрамудрыя спосабы, ішлі на падман і падлог, патраплялі ў неверагодныя сітуацыі, – але свайго дабіваліся, і тады многа пілі, але чамусьці мала п'янелі.

Уласна кажучы, гэта і быў няхітры сюжэт. Тэкст густа перасыпаўся жыццёвымі параўнаннямі: "спрытны, як тхор", "абароніць, як плот ад камароў", жыццёвымі мудрасцямі: "кожны мужчына мае права на лева", а таксама спецыфічнымі прыказкамі: "што рускаму добра, то нярускаму смерць", – калі закусвалі самагонку салёным гуркам.

Ніхто з журы не ўспрыняў гэты тэкст усур'ёз. І толькі цяпер да Інгі пачало даходзіць, хто можа хавацца за такім псеўданімам, за няўклюднай анаграмай: К*о*мар – Рамон.

– Вы?

Ён ніколькі не збянтэжыўся, з годнасцю спакойна адказаў.

– Так. Аўтар я.

– І вы хочаце самому сабе даць першае месца?

– А па-мойму, някепскі сцэнар. Які падкрэслівае прыгажосць кавалачка роднай зямлі. Як сказаў класік: хто не стамляецца знаходзіць ва ўсім прыгажосць, той не старэе...

– Ніякі класік такога не казаў, – абарвала яна.

– Справа не ў тым. Вы павінны зразумець. Не ўсё так адназначна. Я не магу на пасадзе гендырэктара дэбютаваць з такім фільмам, як "Месца". Трэба штосьці праверанае, надзейнае. Жалезнае.

– Якое ўвайшло б у Жалезны фонд нашай кінематаграфіі?

– Жартуеце.

– Ну што вы.

Ёй сапраўды было не да жартаў. Яна ведала, канечне, сентэнцыю: улада змяняе людзей, але не ўспрымала яе літаральна і не думала, што гэта можа адбывацца так імгненна. І як неразумна, няхітра! Яна мерыла па сабе. Яна б на гэтым месцы зусім інакш, прынамсі, знешне, паводзілася б. Яна зноў прыгадала той званок, калі ёй прапаноўвалі стаць гендырэктаркай. Цяпер усведамленне таго, як лёгка яна адмовілася на карысць іншага – гэтага вось Камара, раззлавала яе. Ён нават не здагадваецца, каму абавязаны месцам, якое з такім гонарам займае.

– Як мы будзем працаваць разам? – спытала яна, намякаючы на сваё звальненне.

– Вас ніхто не трымае. Можаце звяртацца ў суд. У нас прававая дзяржава. – *Нават інтанацыя ў Камара зрабілася падобнай да хрушчанкаўскай.*

*Інга памаўчала нейкі час. А* што, – раптам падумала яна, – калі сапраўды развязаць рукі з гэтым сцэнарыем (які яна пачала ўжо ненавідзець). Мо

тады развяжацца і гісторыя з Лагуном? Можа, даведаўшыся, што сцэнар новым начальства забракаваны і фільм не пойдзе, ён пакіне яе ў спакоі? Яна прымусіла сябе ўсміхнуцца.

– Ведаеце, у вашым сцэнарыі, як і ў вашай прапанове, нешта ёсць.

– Гэта іншая размова, – усміхнуўся ён у адказ, ад чаго на імгненне зноў стаў ранейшым мілым чалавекам.

– Сапраўды, нашто ламацца ў адчыненыя дзверы. Калі ў нас у руках надзейны сцэнар. Я, хутчэй за ўсё, так, як вы прапаноўваеце, і зраблю. Толькі дайце мне крыху падумаць.

– Думайце, але нядоўга. Гісторыя з конкурсам і так зацягнулася.

– А як журы? Што рабіць з яго заключэннем?

– Напішаце новае. Гэта няцяжка. І паднясеце мне на зацвярджэнне.

– Я так і зраблю.

– Не сумняваўся, што мы з вамі знойдзем агульную мову. Мы ж сябры. Адна каманда. І галоўнае – памятайце пра здароўе! Беражыце яго!

З сумам у душы пакідала Інга кабінет. А, едучы дамоў, у думках расказвала мужу, як новая мятла па-новаму замяла. Вось ужо сапраўды: які б паганы ні быў ранейшы начальнік, а наступны абавязкова яго пераплюне. Таксама яна збіралася падрыхтаваць мужа да таго, што сцэнар не пойдзе і, магчыма, аб'явіць яму аб сваім звальненні, што толькі да лепшага – яе *даўно завуць у прыватную прадакшн-студыю,* дзе рэкламныя ролікі, *клопату менш, грошай* больш, і нервы цалейшыя. *Толькі перад самым домам яна падумала, што Лагун хоць і абяцаў больш не прыходзіць, а раптам зноў тут?* А калі пабачыла знаёмы малюнак: Лагун сядзеў за сталом на тэрасе, панурачыся, а вечны муж разважаў – з задавальненнем, як цецярук, які чуе толькі самога сябе:

– ...Калі ўявіць наш шлях у выглядзе акружнасці (калі ў нас увогуле ёсць уласны шлях, ці мы проста пасіўна нясемся па арбіце і пазбаўлены права на самастойны рух), – дык дзе, у якім месцы мы знаходзімся? у канцы? у пачатку? у сярэдзіне? У акружнасці нічога гэтага няма, яна не мае ні канца, ні пачатку, і атрымліваецца, у нас увогуле не існуе такіх катэгорый, як час і гісторыя...

А потым была чарговая вячэра ўтрох, у час якой муж нарэшце даў і жонцы ўвагу, спытаў:

– Як поспехі? Як новае начальства? Пагаварылі пра фільм?

Яна адказала, стараючыся яшчэ аддалёк падвесці да свайго намеру звольніцца, што так, пагаварылі, але новае начальства аказалася ніколькі не лепшым за старое.

– Атрымліваецца, месца змяняе людзей, а не наадварот. Новая мятла не лепш, а, бадай, горш за старую. А здаваўся такі мілы, сціплы. Хто б мог падумаць.

На што муж заўважыў:

– Лепш кар'ерыст, прафан, тупіца, чым чалавек шчыры ды яшчэ такі, які ў нечым разбіраецца. Ад апошняга больш шкоды. Аднак ты не адказала – што наконт фільма?

– На жаль, не пойдзе. Новае начальства катэгарычна забракавала. Я не змагла яго адстаяць.

– Ну што ж, – сказаў муж. – Не адзін Гаўрыла ў Полацку. Не на адной вашай кінастудыі свет сышоўся. Здымем на незалежнай. Праўда, Іван?

– Пажадана было б, – адказаў Лагун сваім баском.

– А грошы? Ты ведаеш, колькі гэта каштуе?

– Гэта няважна. Я заплачу. Потым разлічымся. Не варта маладому таленавітаму пачаткоўцу мець патрэбу ў нечым. Прайшлі часы, калі муза галоднай павінна была сядзець на гарышчы. Праўда, Іван?

– Я б не пярэчыў.

Інга ва ўсе вочы на яго глядзела. Яшчэ адна метамарфоза. Як жа хутка яму ўдалося ператварыцца з бяспраўнага ў ледзь не галоўнага ў іхняй сям'і! Ці даўно ён пазіраў уніз, чырванеў, саромеўся, бянтэжыўся? А цяпер за кароткі час так змяніўся. Перастаў баяцца мужа, не кажучы пра Інгу. З'явілася нейкая фанабэрыстасць, ганарыстасць, нібы ўвачавідкі ажывала вядомая гісторыя пра маладога чалавека з правінцыі, невука і выскачкі, які, да ўсіхняга здзіўлення, без асаблівых намаганняў зачароўвае і спакушае дасюль непрыступную, цнатлівую маралістку.

– Зрэшты, ёсць і стары варыянт. Нашто шукаць абыходныя шляхі? Сцэнар перамог на конкурсе і мае права быць пастаўленым у якасці фільма. Я зноў прапаноўваю табе ісці ў дырэктрысы. Тады ўжо дакладна ніхто не перашкодзіць.

– Я думала, гэтая тэма закрыта.

– Як бачыш, адкрылася.

– Я ўвогуле хачу... хацела сказаць, што збіраюся звальняцца. Мяне нічога не трымае на гэтай студыі.

– Вось як? Што ж, кожнаму сваё. Можа, сапраўды, нам усім трэба адпачыць, падлячыцца, змяніць абставіны.

Ён пакашляў, прачысціў горла і працягваў:

– Мы, Інга, тут параіліся і ведаеш што вырашылі? Паехаць на мора. Выбрацца ў нашу Піцунду. Успомніць маладосць.

Інга кінула позірк на Лагуна.

– Са мной, спадзяюся?

– Мы ведаем, што ты ўсё адно адмовішся, не паедзеш. Ты ў нас занятая творчымі пытаннямі. Не паедзеш?

Інга не верыла сваім вушам. Здзекуецца ён? Калі не – сапраўды, многае памянялася. Лагун ужо не баіцца Піцунды; яны аб усім дамовіліся; цяпер яе могуць і не браць – ужо яна атрымлівалася нібы трэці лішні.

Яна паныла, без аніякай мэты кагосьці чымсьці напалохаць, сказала:

– Толькі глядзіце, будзьце асцярожныя. Вада ўвогуле, і мора ў прыватнасці, не вельмі любяць беларусаў. Успомніце Якава Навуменку ў Севастопалі, Міколу Селешчука ў Італіі, Віктара Каваленку ў...

– Нічога, Іван. Мы не з палахлівых, праўда? Паедзем?

– З вялікім задавальненнем, – адказаў Лагун. – Я там ніколі яшчэ не быў. А гэта можа спатрэбіцца мне ў мастацкай творчасці.

Ён бесцырымонна, адкрыта глядзеў на Інгу; ёй нават падалося, што ў вачах і нават у голасе яго яна чытае насмешку.

"Я падвязу яго да метро! І скажу пару ласкавых".

## 23

Перыяд, калі Лагун панічна баяўся мужа, сапраўды прайшоў. Але ў тым кароткім перыядзе, ва ўзрастанні небяспекі, у чаканні немінучай расплаты, якой яго так палохала Інга, была, аказваецца, свая вабнасць, выкід адрэналіну, драйв. Напачатку ён не ведаў, што Інзе і яе мужу ад

яго трэба, і гэта напружвала яго, ён стараўся ўгадаць гэта. Ён лічыў іх за людзей, якія сабраліся абвесці яго вакол пальца і пакарыстацца ім.

"Хітрыя вы тут усе, ды не хітрэй за мяне", – думаў ён.

Пакрысе, аднак, ён зразумеў, што муж – цюхцяй, а Інга будзе маўчаць. Тады ён скеміў – яму і хітраваць не трэба. Усё і так складваецца самым выдатным чынам, нават яшчэ лепш, чым магло б. Яму толькі трэба прымаць усё як належнае і карыстацца ім напоўніцу. Пакуль шанцуе, калі ўсё так ладна-складна, дык чаму б не? Не адмаўляцца ж ад таго, што само плыве ў рукі.

А плыло ў рукі многае. Лагун ужо займеў у гэтай сітуацыі цёплае месца, ціхую гавань, надзейны прытулак, дзе збіраўся прыгрэцца. У сувязі са змяненнем абставінаў аформілася і бліжняя мэта: застацца ў сталіцы, ды яшчэ ў непасрэднай звязцы з кінастудыяй. Акрамя таго часта з вуснаў Міхалевіча ці жартам, ці то ўсур'ёз гучалі намёкі наконт маральнай і матэрыяльнай падтрымкі, вядзенні па жыцці, падстаўкі пляча; у тым ліку нават такое, на тэму ўваходу Лагуна ў сям'ю: "каму ўсё гэта застанецца? Па ідэі, спадчынніку, а яго ў мяне якраз-такі і няма – вось штука ў чым".

Увогуле, што да мужа з жонкаю, Лагун заўважаў паміж імі нават своеасаблівую барацьбу за сябе. Яны нібы стараліся кожны перацягнуць яго на свой бок. Аднак ён не спяшаўся рабіць выбар. Яму падабалася сама сітуацыя, пры якой муж так прыкіпеў да яго, будучы ў святой упэўненасці, што Лагун добры, наіўны і таленавіты хлопчык; яму, канечне, ільсцілі такія адносіны, ён любіў Міхалевічавы разважанні, любіў, калі той нагадаў:

– Запамінай, можа, некалі напішаш!

Яму падабалася паддражніваць Інгу; хоць гэта і было даволі жорстка з яго боку. Але якісь падлеткавы азарт, легкадумнасць нібы падштурхоўвалі яго ў плечы і прымушалі гэта рабіць. Ды яшчэ помста – маленькая помста ёй за яе паводзіны, за грэбаванне ім, адказ ёй на яе ганарыстасць. Яму крыўдна было, што выпадак у інтэрнацкім пакоі так і застаўся адзіным.

Калі Інга ўрывала час на кароткія размовы, сэнс якіх быў: не хадзі сюды! не гуляй з агнём! – яму яе нават рабілася шкада. Але ён ніколі не забываў, што з ёй нельга быць шчырым, бо яна толькі прыкідваецца святой, а насамрэч, хутчэй за ўсё, толькі тым і займаецца, што спакушае мужчын, – прынамсі, замешана ж яна ў тым званку і, як вынік, цалкам магчыма, у забойстве чалавека – яго бацькі. Гэтая таямнічая гісторыя званка ні на міг не пакідала Лагуна. І калі ўжо так яму пашанцавала ўвайсці ў сям'ю, ён проста павінен быў выведваць пра Інгу як мага больш, а таксама вынюхваць усё, што да той справы са званком датычнае.

Веданне тайны званка давала Лагуну пэўную ўладу над Інгай. Нібы меўся ў яго на яе кампрамат, ці нібы ведаў ён якоесь чароўнае слова, якім пры жаданні мог яе пагубіць, а мог ўратаваць. Таму ён не спяшаўся з гэтай уладай развітвацца. Ён усё больш адчуваў, што яна ў яго волі. Ён гуляў з Інгай, як кот з мышшу, у любы момант гатовы выпусціць кіпцюры. Улада над ёю змяншала, а то і зусім знішчала яго страх перад мужам. Таму ён так лёгка адаптаваўся, таму так ахвотна прыняў прапанову ехаць на мора. Чаму не? На ўсё гатовае. Бясплатна.

Разам з тым Лагун ні разу не адважыўся загаварыць з Інгай на тэму званка, не пацікавіўся, не аглушыў яе навіной: маўляў, вы вінаватая ў смерці майго бацькі. Ён нават не ведаў, ці была яна з яго бацькам знаёмая. Што ж яго стрымлівала? А проста – адчуванне хісткасці сваёй пазіцыі.

У глыбіні душы ён баяўся, што яна акажацца ні пры чым і на яго пытанне: “Вы ведалі майго бацьку?” – адкажа: “Першы раз пра такога чую”. І ён, Лагун, застанецца ні з чым. Без улады над ёю, ды яшчэ, чаго добрага, выкінуты на вуліцу.

Таму ён гнаў гэтае прызнанне ад сябе, адцягваў, адкладваў на потым. Куды спяшацца? Веданне, што ў запасе ў яго заўсёды ёсць магчымасць выкарыстаць чароўнае слова, прыносіла яму незвычайную асалоду. Лепш і далей чакаць. У яго і так ёсць чым пры выпадку паставіць Інгу на месца. Кароннае: “Інакш я вымушаны буду... расказаць мужу” спрацуе.

Яна падвезла яго да знаёмага завулка каля метро, таго самага, каля ліхтара пад каштанам. На гэты раз яна настроена была рашуча. Але яе чакаў сюрпрыз.

– Як гэта разумець? – строга пачала яна.

– Разумейце як хочаце.

– Што гэта значыць?

– Тое і значыць.

Гэтыя словы гучалі для яе, як халодны душ. Ёй нічога не заставалася, як змяніць тон. Мякчэй сказала:

– Табе не здаецца, што гэта ідзе не ў той бок? І зайшло надта далёка?

– Гэта як паглядзець. Можа, усё ідзе менавіта туды, куды трэба.

– Ты ж абяцаў. Мы ж дамовіліся, што ты не будзеш хадзіць! А сам ходзіш.

– А нашто мне вось так, ні з таго, ні з сяго, крыўдзіць чалавека? – рэзонна адказаў ён. – Які так добра да мяне ставіцца. Паважае, памагае. Верыць мне. Ну, разважце самі. – Ён падумаў і дадаў: – Я ад свайго шчасця ўцякаць не збіраюся.

У Інгі нібы ўпала нешта ўсярэдзіне, і сама яна вухнула ў глыбокую яму. Толькі цяпер яна пачала разумець, куды гэта яе завяло, ува што яна ўляпалася. Не таму, што Лагун разгадаў яе і так з ёю размаўляе, не таму, што ён апынуўся на баку мужа. Да яе пачало даходзіць, што цяпер яна не толькі ў цвёрдых мужавых руках, але і ў Лагуновых мяккіх лапах. Няўжо ён здатны на такое? Няўжо яна так памылілася ў ім?

Яна разумела, што павінна тэрмінова мяняць тактыку. Нават не столькі павінна, колькі заставаўся ў яе адзін гэты варыянт – замена гневу на літасць. Яна прамовіла нечакана нават для сябе самой жаласлівым голасам:

– Не, не падумайце. Я нічога не збіраюся прадпрымаць. Але вы нават не здагадваецеся... Калі б вы ведалі хоць палавіну ад таго, што робіцца ў мяне ў душы, дык інакш гаварылі б і паводзілі сябе. Самым гэтым пераходам на “вы” яна нібы напрошвалася на шкадаванне сябе. – Можа быць, за тое, што я тады зрабіла, я буду мучыцца ўсё жыццё... Але калі ў вас ёсць хоць кропля шкадавання... Я спадзяюся, што вы прыстойны чалавек...

– Не будзем пра прыстойнасць. Успомніце лепш, як вы самі са мной паступілі. Зусім не прыстойна.

Найбольш страшыла Інгу ў ім тая самая, невядомая раней, насмешка ў голасе.

– Я не разумею... За што вы мяне мучаеце? – Інга ведала, што гэта не тыя словы, але іншых не магла знайсці. – Што я вам кепскага зрабіла?

– Вы перарвалі нашы адносіны. Не, я не ў сэнсе інтыму. Хаця, прызнаюся шчыра, у мяне гонар, я таксама чалавек і маю права на крыўду, – засоп носам ён.

З гэтага круга не было выйсця. Акрамя простага жаночага – Інга ўзмалілася. Калі загаварыла, у яе дрыжаў голас і слёзы наплывалі на вочы.

– Усё не так. Не так, як вы зразумелі. Я захварэла... Тут фізіялагічная прычына...

– Не ў тым справа.

– А ў чым? Што вам яшчэ ад мяне трэба?

– Праўды.

– Якой?

Лагун вырашыў, што самы час адкрыцца.

– Вы ведаеце, якой, – сказаў ён, маючы на ўвазе яе званок на тэлефон свайго бацькі.

– Так, ведаю! – усклікнула яна, маючы на ўвазе тое, што адбылося ў студэнцкім пакоі. – Але няўжо гэта такое злачынства?! Такі грэх?

– Як для каго. Для каго і забойства не грэх.

Так яны гаварылі кожны пра сваё. Ён бачыў слёзы ў яе вачах; сам таго не жадаючы, ён з'яўляўся яе мучыцелем. Ён і рады быў бы засумнявацца, але палічыў яе слёзы і паводзіны за прафесійнае кінаакцёрства.

– Што ж мне зрабіць? Добра, калі я такая... Калі я вас спакусіла, я гатова кампенсаваць...

– Не ўсё вырашаецца грашыма. Не ўсё купляецца і не ўсё прадаецца.

Зноў гэтыя чужыя драўляныя словы! Яна выцерла вочы і шчокі. Сказала:

– А калі я пастаўлю ваш фільм? Вы пакінеце мяне ў спакоі?

– Пастаўце спачатку, – буркнуў Лагун.

А сам падумаў: "Не толькі фільм – усё забяру, і дом. Усё маім будзе".

## 24

Інга марудна пад'ехала да дома. Яшчэ ніколі яна не адчувала сябе такой прыбітай, няшчаснай, у такім безвыходным становішчы.

Штосьці крычала ў ёй, што далей нельга так, больш няма сілы бачыць тыя самыя твары, чуць тыя ж словы; тэрмінова трэба змяняць абставіны, пахі, гукі. Цяпер яна ўжо была гатова згадзіцца на ўсё, у тым ліку і на дырэктарку. Ужо яна сама бачыла, што гэта – адзінае выйсце, каб выблытацца з гэтага клубка. Трэба было перастаць супраціўляцца і плыць па цячэнні. Перамены павінны ўнесці яснасць у яе становішча. Акрамя таго яна ведала, што фізічны час здольны ўсё разгладзіць. прасвятліць, праясніць.

І зноў вечар. Тэраса. Цёплая майская ноч. Цені ад месяца. Густое сіняе паветра, здавалася, стаіць вертыкальна. Лета падкралася па начах. Інга была ціхая і пакорлівая.

– Ведаеш, я падумала наконт Піцунды... Гэта някепская ідэя. Едзьце самі. Я застануся. Папраўлю здароўе, паспрабую запусціць фільм.

"Каб яму праваліцца! Таму фільму!"

– Ты зробіш мудра.

– Ты хочаш сказаць, што пытанне з гендырэктарствам яшчэ ў сіле?

"Гендэр – гендырэктарка", – Інга толькі цяпер звярнула ўвагу на падабенства.

– Трэба толькі твая згода. Ты згодная?

– Не ведаю!.. Я ўжо нічога не ведаю. Ну, дапусцім. Але як гэта будзе чыста тэхнічна? Месца ж занята.

– Пра гэта не думай. Галоўнае, ці ты згодная. І хоць заўтра пытанне вырашыцца.

– Скажы, калі ласка... няўжо гэта праўда? – тым самы ціхім голасам, без дакору, спытала яна. – Няўжо ты... Вы паедзеце на курорт адпачываць, а мне, хворай, у душным горадзе трэба займацца невядома чым?

– Павінны ж быць некаторыя выдаткі.

– Яшчэ зусім нядаўна ты не быў такім.

– Ды і ты не была такой.

Канечне, ведае, – амаль абыякава падумала яна. Даўно здагадаўся. Адсюль гэтая незразумелая холаднасць, адсюль зусім неўласцівая яму жорсткасць. Месяц закрыўся хмараю, цёмна стала; толькі свяцілася неба над горадам. Інга прыгадала, як яшчэ нядаўна, нічым не абцяжараная, яна была шчаслівая: што бачыла – пра тое і думала, пра што думала – тое і гаварыла. Якая, аказваецца, то была раскоша! Шчаслівыя рэдка ведаюць, што яны шчаслівыя, трэба перамена, часам кардынальная, каб гэта ўсвядоміць. Інга падумала, а што б яна зрабіла, каб тое вярнуць? І сама сабе адказала: усё. Усё аддала б і ўсё зрабіла б.

– Скажы... А калі б я здрадзіла табе?

– З кім? Я ўсіх тваіх знаёмых мужчын ведаю.

– З ім, – прамовіла яна, не называючы імені. Але мужу і не трэба было гэтага.

– Ты выдатна ведаеш, што яго не цікавяць жанчыны.

– Дык ты не забіў бы мяне?

Ён нічога не адказаў. Яна не бачыла яго твару.

– Правільна, не трэба мяне забіваць, – сказала яна дрыготкім голасам, як чалавек, які сам сябе шкадуе і баіцца, што вось-вось можа расплакацца. – Я такая хворая. Мяне і так, мабыць, хутка не будзе...

– Ты перабольшваеш, – сказаў ён, зноў, як ёй падалося, абыякава, холадна.

Між тым яна не толькі не перабольшвала, а хутчэй перамяншвала. Яна сама сябе накруціла да такой ступені, што зноў захварэла, на гэты раз нейкім гарманальным збоем, аб чым нікому не казала. Доктарка выдала накіраванне на аналізы, літаральна ўчора прыйшоў вынік: гармон шчытавіднай залозы, ТТГ (да таго ніколі гэтыя гармоны не правярала), у 5 разоў вышэй за верхнюю мяжу. Да ўсяго яшчэ нейкае патаўшчэнне, як бы пухліна. Доктарка сказала, што не падабаецца ёй усё гэта. Прызначыла МРТ і агульны агляд. Цяпер Інзе хацелася, каб яе распыталі, пашкадавалі, суцешылі. Але гэтая мужава халоднасць не давала ёй дыхнуць. Сэрца сціскалася, і зноў вось-вось гатовы былі пацякчы слёзы.

– Хадзем спаць, – сказаў муж і пазяхнуў. – Пайшлі!

Назаўтра раніцай Інга не паспела набраць чыноўніка, як ён сам патэлефанаваў (і адкуль толькі даведаўся, пра яе згоду?). "Вы перамянілі думку. Дзе мы сустрэнемся? Я сам да вас пад'еду".

Ён чакаў яе каля ганка кінастудыі. Маладзей за яе, яму 30 яшчэ наўрад ці было, у вузкім касцюме, модна падстрыжаны. Новая генерацыя. Разам зайшлі да яе ў кабінет.

– Як добра, што вы згадзіліся. Бо справы ў нас кепскія.

– Але як гэта будзе выглядаць? Прыйшла на чужое месца...

– Ну што вы. Гэта Камар не на сваім месцы.

Чыноўнік расказаў, што гэты Камар паспеў ужо наламаць дроў. Сама-

вольна ўскрыў сейф, назвальняў і напрымаў кучу людзей, не маючы на тое ніякіх паўнамоцтваў. Перапісаў конкурсны спіс.

– ...І прынёс нам. Паглядзіце самі.

Інга ўзяла аркуш паперы, які падаў ёй чыноўнік. Максім Рамонак красаваўся на першым месцы, Лагуна не было нават у дзясятцы, як і Хрушчанкі, дарэчы. Яе хоць і абурыла такая хапатлівая подласць, але ўсё адно шкадаванне жыло ў ёй. Усё ж нядаўні калега і нават сябра.

– Ён і банкет ужо заказаў, – сказала яна.

– Што ж. Давядзецца нечым ахвяраваць. На жаль, гэта непазбежныя выдаткі, – сказаў чыноўнік амаль слова ў слова, як учора муж.

І зноў яна сцялася перад мужчынскаю незразумелай жорсткасцю. Яна адчувала сваё бяссілле перад гэтым.

– І чым я буду адрознівацца ад папярэдніх начальнікаў, ад Хрушчанкі і Камара, – спытала Інга, ці нават канстатавала, без пытальніка ў канцы.

– Ну што вы. Як вы можаце раўняць іх і сябе? Вы такая маральная, чыстая, у вас бездакорная рэпутацыя...

Далей чыноўнік сказаў:

– Я б раіў вам згаджацца хаця б дзеля ўсяго адной добрай справы. Мы ўсё ведаем. Гэта адзіны спосаб памагчы аўтару. Няўжо вам не хочацца ўзнавіць справядлівасць?

– У мяне яшчэ застанецца час на фільм?

– Я вам даю слова. Вы будзеце займацца толькі фільмам і больш нічым. Ніхто не будзе вас тузаць і патрабаваць невядома чаго.

На развітанне Інга, разумеючы, наколькі гэта несалідна, усё ж спытала:

– Можна падумаць?

– Ды што думаць. Вы адступіце ад правіла – думаць, сумнявацца. Што вас стрымлівае?

– Я баюся нарабіць памылак, – прызналася яна.

– Вы думаеце, вам дужа дадуць іх нарабіць? Ваша свабода вельмі ўмоўная. Чым вышэй чалавек на кар'ернай лесвіцы, тым часцей ён патрапляе ў поле зроку, тым больш да яго ўвагі і тым менш ён свабодны, як ні парадаксальна.

– Гэта ў цэлым, а ў дробязях?

– У дробязях, само сабой, вы поўная багіня і царыца. І не забывайце, што гэта ўсё часова. ВА, выконваючы абавязкі.

Больш не было як адмаўляцца. Яна толькі спытала, калі пачынаць. Чыноўнік адказаў, што вось хутка святы, за імі выхадныя, "а там прымайце справы". Неўзабаве пасля святаў Інга перабралася ў гендырэктарскі кабінет, і амаль адначасова з гэтым муж з Лагуном паехалі на курорт.

## 25

Інга не прабыла на новай пасадзе і двух дзён, як яе выклікалі ў Міністэрства – на своеасаблівыя агледзіны; абавязковы візіт. Той самы маладжавы чыноўнік па ідэалогіі ўважліва яе выслухаў, пахваліў, адобрыў і папрасіў папку з кінааповесцю, якую яна прадбачліва захапіла з сабой. Сказаў, літаральна на пару дзён, каб прабегчыся па тэксце і, калі ўзнікнуць пытанні і з'явяцца заўвагі, хоць гэта малаверагодна, тады ён мо што "па-дылетанцку" параіць. А Інга пакуль няхай абдумае ўсе этапы-стадыі будучага фільма, пачынаючы ад даздымачнай (прэпрадакшн)

і заканчваючы кастынгам, пошукам натуры, выбарам дэкарацый, аж да саўндтрэка.

Чыноўнік стрымаў слова. Умова, якую яна ў час "сватання" выставіла – яна займаецца толькі фільмам, і больш нічым – выконвалася. Больш ён нічога ад яе не патрабаваў.

Сустрэча была раніцай, а пасля абеду яна засталася адна ў сваім новым кабінеце. Май стаяў за вакном. Ніхто яе не чапаў, ні перад кім не трэба было прыкідвацца. Упершыню за апошні час яна нарэшце адчула доўгачаканую, неверагодную палёгку. Можна было хаця трохі папоўніць запас сіл, неабходных для далейшага жыцця.

Па-першае, калі разабрацца, пакуль Лагун маўчыць, яшчэ нічога страшнага. Па-другое, сапраўды пастарацца за лета паставіць пракляты фільм, а там, глядзіш, Лагуна заграбуць у армію, і ўсё неяк само рассмокчацца. Па-трэцяе, прыстаўка "в.а." – выконваючы абавязкі, сапраўды давала адчуванне часовасці, здымала адказнасць і тым паляпшала яе становішча. Бо калі пачаць ставіцца да гэтак званай кінаіндустрыі (кіно даўно няма, засталася індустрыя) усур'ёз, спрабаваць разбірацца, да прыкладу, прасачыць, куды, як і па якім прынцыпе размяркоўваюцца вылучаныя на праекты грошы, – надоўга цябе не хопіць, з'едзеш з глуздоў; тым больш усё і так, што з Інгай, што без яе, ішло сваім звыклым ходам, рухалася па нададзенай інерцыі: як на канвееры штампаваліся расійскія серыялы і такога ж узроўню "баевікі" – асноўны занятак студыі, а ад гендырэктара, па вялікім рахунку, патрабавалася не перашкаджаць.

Таму Інга магла з больш-менш спакойнай душою займацца толькі "Месцам". Найперш з кінаапавесці трэба было зрабіць аўтарскі, затым рэжысёрскі сцэнарый. Па ідэі, павінен гэтым займацца аўтар сцэнарыя, Лагун, але Інга ўжо даўно пабачыла, што з яго мала можна ўзяць. Яна ўспомніла, як упрошвала яго не прадаваць ідэю, і ўвогуле – на што яна пайшла дзеля гэтага. Атрымліваецца, дарэмнай была яе ахвяра. Як і дарэмна яна так ужо нападала на Хрушчанку – калі б ідэя была прададзена, цяпер было б намнога лягчэй; прынамсі, імя Лагуна не мільгала б і не скоўвала б яе так. Але ўсе мы разумныя апасля.

Дапамога прыйшла, як часта бывае, адкуль не чакаеш, у выглядзе таго самага яе земляка, сцэнарыста-літапрацоўшчыка Івана Барысавіча Вечкі. З'явіўшыся ў кабінеце, ён урачыста, старамодна павіншаваў яе з новай пасадай, пажадаў усялякіх поспехаў на ніве роднай культуры на "ганаровым месцы", выказаў надзею, што гэта толькі пачатак яе кар'ернага ўзлёту. Наіўны чалавек! Яму здавалася, што Інга толькі аб гэтым і марыла. А цяпер не тыя часы і не тое дырэктарства.

– Прыемна, калі мае землякі ці, лепш сказаць, прыгожыя зямлячкі штурмуюць вяршыні...

Спытаў, ці часта яна наведвае сваю малую радзіму, і засмуціўся, калі Інга сказала – рэдка. Пацікавіўся, як здароўе бацькоў, – і ўсцешыўся, даведаўшыся, што добра. Інгу гэты візіт неяк супакоіў і нават развесяліў. Між тым Вечка, памуляўшыся, звярнуўся да яе з дзіўнай просьбай: папрасіў нейкую распіску.

– Якую распіску?

– Ды жартоўную, несур'ёзную! Не хачу, каб яна валялася тут і вас бянтэжыла. Пачынайце свой славуты шлях з табуля раса.

Інга пакорпалася ў папках, знайшла, аддала. Ён акуратна згарнуў

паперку і паклаў у кішэню. Яго архаічныя манеры, павольная мова – закалыхвалі, яго добры позірк, мяккія словы быццам гладзілі яе. Яна ўжо адвыкла ад такога абыходжання. Ён так пяшчотна глядзеў на яе, што ёй стала сорамна. Так заўсёды бывае, калі думаеш пра чалавека кепскае, а ён аказваецца добры.

– Чаму вы так на мяне глядзіце? – спытала яна.

– Хочацца лішні раз пабачыць шчаслівага чалавека. У якога ўсё ладна-складна, якому так шанцуе ў жыцці.

– Гэта – мне?

– Не перадаць, як я вам удзячны. Вельмі, вельмі ўдзячны.

– За гэтую вось распіску?

– У тым ліку. Я ў даўгу перад вамі. У вялікім даўгу.

– Нічога вы мне не вінны.

– Чым вам аддзячыць? – не адставаў ён.

– А зрэшты, ведаеце... Мо і паможаце. Трэба з даволі якаснай кінаповесці зрабіць аўтарскі, пажадана, і рэжысёрскі сцэнарый. А знайсці людзей не магу. Тым больш гэта як бы ваша спецыяльнасць.

Ён запэўніў: зробіць усё, што ў яго сілах, а таксама паабяцаў знайсці рэжысёра:

– Акурат ёсць у мяне адзін на прыкмеце.

"Нябось, уласны сцэнар не калечыў бы", – падумала Інга. А Вечка працягваў:

– Праўда, тут маюць месца падводныя камяні. Лічу сваім доўгам вас папярэдзіць, як больш вопытны, старэйшы, што гэта марная справа. Усё адно нічога ў вас не атрымаецца. На жаль, тут ніхто ніколі нічога людскага не здыме.

– Чаму вы так думаеце?

– Бо няма ў зямлі сваёй прарока...

– Няма прарока?

– Ну, нельга ж скрыжаваць вужыка і вожыка, – туманна тлумачыў ён.

Інга бачыла, што ён знарок гаворыць гэтай эзопавай мовай, прычым недагаворвае, прыцішае словы, як бы баіцца падслухоўвання. Яна яшчэ паспрабавала, але так і не змагла выцягнуць яго хоць на якую шчырасць. Ён казаў загадкамі. "...Усе бабры дабры, адна выдра паганая... Многа чаго яшчэ наперадзе вас чакае..."

Развітваючыся, Інга не вытрымала і зноў спытала:

– Дык чаму вы так на мяне пазіраеце?

– Я шкадую вас, – проста адказаў ён.

І гэтыя самыя звычайныя словы ад самага звычайнага, чужога чалавека зноў так кранулі яе, што захацелася прытуліцца да яго, як да бацькі, і, можа, паплакаць.

Вытворчая, тэхнічна-студыйная праблема скранулася з месца. З гэтым Інзе адразу ж пашанцавала. Заставаўся штат. Супрацоўнікі. Людзі. Інга, канечне, здагадвалася, як нялёгка ёй будзе, прынамсі, з не чужым ёй рэдакцыйна-сцэнарным аддзелам. Вось як паводзіць сябе з Рытай? Якую яна, з жаночай салідарнасці, пакінула на працы, абнуліўшы загад аб звальненні, хаця пасля здрады на рэдсавеце магла і не пакідаць. Як ставіцца да Камара? Па-сяброўску ці па-начальніцку? Прыніжаны і добры, ён цяпер просіць прабачэння, ловіць кожнае яе слова. Яна і яго пакінула. Выдатна ведаючы, што аддзякай ёй за дабро пры кожным

зручным выпадку будзе зло. Людзі любяць кусаць руку, якая дае. Рыта, нябось, ужо цяпер зласлівіць і абгаворвае яе. Не кажучы пра Камара, у якога падвойная крыўда – бо яна нібыта заняла яго месца плюс адхіліла яго "Рамонкавае поле". Цяпер ён, нябось, думае: яна (г.зн. я, Інга) яшчэ горшая за мяне, адкрыта працягнула сцэнар маладога палюбоўніка. Можа, не толькі думае, а кажа ўслых.

Інга не сумнявалася, што так яно і ёсць. Сама сябе растраўляючы, у думках яна пакорліва, а то і прыніжана, казала ўяўным плеткарам:

"Мне да зняваг не прывыкаць. Пацярпіце. Я тут ненадоўга". У канцы дня яна зазірнула ў кабінет да Рыты і наляцела на цэлую сходку. Рыта, рэжысёр Скіндзер, Камар сядзелі шчыльна за сталом, ледзь не галава да галавы, перагаворваліся. Калі зайшла Інга, змоўклі. Яна не прыдумала нічога лепшага, як павярнуцца і выйсці. Камар, з грукатам адсунуўшы крэсла, выскачыў следам. Рыта пачала збірацца дамоў.

– Я цябе правяду, – прапанаваў Скіндзер. – Хаця б да метро.

– Калі ты ўжо купіш машыну?

– Пазычу ў каго-небудзь, – адказаў ён. – Ці вазьму каршэрынг.

## 26

Было пахмурна і вельмі душна. Цяжкая, цяжарная дажджом хмара напаўзала на горад. Вуркатаў, перакочваў камяні далёкі гром на ўскраіне. Скіндзер сказаў, працягваючы размову ў кабінеце:

– ...У вас перамена гендырэктараў пастаўлена на паток. Хрушч – Камар – Інга... Засталося толькі табе, – пажартаваў ён. – Дык а хто лепшы?

– Усе лепшыя, – адказала Рыта.

– А як табе Інга?

– Такое адчуванне, што нехта моцна памагае ёй.

"Я нават ведаю, хто", – падумаў рэжысёр. А ўслых сказаў:

– Цябе вось пакінула. Хаця магла б звольніць.

– Я яе не прасіла.

– Па мне, дык яна самая прыстойная.

– Ага, прыстойная. Асабліва са сцэнарным конкурсам. Аўтар-пераможца, гэты Лагун, ледзь не жыве ў іх. Гэта нармальна?

– У цябе зуб на яе?

– Яшчэ што. Мне проста шкада яе.

– Чаму?

– Таму. Дзе толькі ў вас, у мужчын, вочы. Зрэшты, можа, так ёй і трэба. Неяк, не ў настроі, кінула мне: лепш дзяцей зусім не мець, чым невядома ад каго. Вось ёй самой і вяртаецца.

Рэжысёр нічога не зразумеў. Рыта насмешліва на яго зірнула і не стала тлумачыць. Між тым памацнеў, падзьмуў вецер, кусты нагнула, паляцеў пыл і першыя кроплі дажджу разам з ветрам. Рэжысёр паглядзеў угару. Рыта сцепанула плячамі.

– Парасон ёсць?

– Няма.

– Вось вечна ў цябе...

Яна дастала і раскрыла свой. Яны дабеглі і схаваліся пад круглым дахам ратонды пры ўваходзе ў парк. Вецер не думаў сціхаць. Гром падабраўся бліжэй і прагрымеў над самымі галовамі. Пайшоў спорны дождж, заскакалі

бурбалкі на імгненна ўзніклых калюжынах. Ад такога дажджу парасон не паможа ды яшчэ адзін на дваіх.

– Так і будзем стаяць, як школьнікі, – пасміхнулася Рыта. – І дамоў я цябе запрасіць не магу. А сам ты не варушышся. Як ты жывеш? Такі непрактычны? Баз парасона, без машыны, без кватэры? Без нармальнай працы?

Ён, не адказваючы, выцягнуў з кішэні тэлефон.

– Нават без нармальнага тэлефона, – сказала яна.

– Гэта харошы тэлефон. Толькі зарадку не трымае. Падмок некалі.

– Ты што, званіць сабраўся?! – яна выхапіла ў яго тэлефон. – Не ўздумай! Ды яшчэ з няспраўнага! У навальніцу не карыстаюцца тэлефонамі!

– Добра, добра, – згадзіўся ён. На носе ў яго вісела кропля.

Можа, сама іх зацішная схованка і разгул стыхіі вакол стваралі ўмовы нейкай блізкасці, нават інтыму, бо Рыта нечакана спытала:

– А што, я сапраўды падабаюся табе? Ты мог бы са мной ажаніцца?

– У мяне ж нічога няма.

– А мне мала трэба. Абы не быў сквапным. Не будзеш?

– З чаго ты ўзяла?

Дождж, як заўсёды, калі ўзнікаюць на калюжынах бурбалкі, ліў як з вядра. Усё паказвала на тое, што будзе ён зацяжным. Рэжысёр выцягнуў з-пад даху ратонды руку, адняў назад і выцер, мокрую, аб джынсы.

– Спяшаешся? – спытала Рыта.

– Тут недалёка.

– Да дзеда свайго? Што ў вас з ім агульнага? Мне здаецца, ён такі нецікавы. Проста ўвасабленне шэрасці і нуды.

– Нічога падобнага. Ён добры дзед. Разумны дзед.

– Лепш бы ты сябраваў з гэтым маладым – Лагуном. Харошы хлопчык. Я яго, здаецца, нават памятаю. Яшчэ з тых часоў, з Акцябрскага. Ён мне нават крыху падабаецца. Сімпатычны, таленавіты.

– Сімпатычнага і таленавітага пакахаць кожная зможа, – адказаў рэжысёр. – А вось звычайнага, простага...

– Не кажы так. Я не люблю.

– У мяне ўвогуле дзіўная роля ў жыцці. Я даўно заўважыў. Нібыта мне наканавана быць на падхваце ці на разагрэве. Я прыдумляю сюжэт, а сцэнар пішуць і фільм ставяць іншыя. Я кахаю дзяўчыну, яна, дзякуючы гэтаму, раскрываецца, расцвітае, як кветка, а ляцяць на яе пах і п’юць з яе нектар іншыя...

– Не кажы так. Мужчына не павінен быць інфантыльным. А сама горш – сквапным.

– Што гэта ты ўсё пра сквапнасць?

Рыта патрымала ў пальцах цыгарэту і схавала назад у пачак.

– Памятаеш, я расказвала пра паездку на здымкі? Тры гады назад? Жылі ў горадзе, у гатэлі, з Інгай, дарэчы, у адным нумары. Побач з намі жыў сусед. Снедалі разам за адным сталом. Пазнаёміліся, пачалі сустракацца. А вечарамі я яго вадзіла ў рэстаран, а не наадварот.

– Так падабаўся табе?

– Проста сябравала з ім. Ну, не – падабаўся, канечне. Старэйшы за мяне, і намнога, але сімпатычны, прыгожы. Прыехаў з поўдня па справах, купляць зямлю з домам. Хваліўся, што скора стане памешчыкам.

– Як Чычыкаў?

– Прыблізна. І такі ж сквапны. Практычна за мой кошт жыў месяц. Неверагодна скупы. Каб я была яго жонкай, дык, мабыць, лічыў бы, як крот Дзюймовачцы, колькі зярнят у дзень з'ядаю. Усё пра эканоміку гаварыў, пра стабільнасць. А сам на званках тэлефонных эканоміў.

– Не можа быць.

– Неяк папрасіў пазваніць, а мой тэлефон стаяў на зарадцы. А яму прыспічыла. Мы зайшлі ў наш нумар, Інга была ў душы, шумела вада, яе тэлефон ляжаў на століку. "Набяры, калі ласка, – папрасіў ён, – вельмі важны званок". Я ўзяла тэлефон, ён прадыктаваў нумар... І раптам у тэлефоне, мне падалося, нешта выбухнула, трэснула – я думала, ён узарвецца зараз, і кінула яго на падлогу. Аказваецца, там, куды званілі, была навальніца, і званок супаў з ударам маланкі.

І змоўкла, відаць, успамінаючы.

– Дык чым скончылася?

– Тэлефон цэлы. Каб Інга не бачыла, я выдаліла званок.

– Не, сяброўства вашае чым скончылася?

– Вельмі банальна. У мяне пачалі канчацца грошы, і ён знік, растварыўся, прапаў. Нават змяніў прозвішча, як я пазней даведалася.

– Не бойся. Я не ўцяку і не памяняю прозвішча, – засмяяўся рэжысёр.

Але Рыта нічога не адказала. Дождж нарэшце стаў не такі спорны. Рыта пайшла да метро, а рэжысёр – у зваротным кірунку, у рэстаран, дзе ўжо чакаў яго Іван Барысавіч Вечка.

## 27

Як і паўгода назад, яны сядзелі ў рэстаране, за тым самым, што і некалі ў канцы зімы, столікам. Нават каньяк перад імі цямнеў у графіне той самай маркі. Толькі замест шакаладу быў парэзаны і пасыпаны цукрам лімон. Іван Барысавіч пасля смерці Хрушчанкі баяўся нават дакранацца да ўсяго, што ўтрымлівае арахіс. Ды яшчэ адзенне на іх памянялася – было лёгкае, амаль летняе. Яны сядзелі, выпівалі і абмяркоўвалі апошнія падзеі. Дождж ціха, манатонна, неяк утульна крапаў за вакном. Іван Барысавіч ужо расказаў рэжысёру, што яны будуць разам працаваць над сцэнарыем, новая гендырэктарка Інга сама прапанавала. А таксама пахваліўся распіскай.

– Во, аддала, – памахаў паперкай, – і нічога за гэта не папрасіла. Я цяпер вольны чалавек.

– Не толькі ж распіска, – сказаў рэжысёр. – Вы многа чаго паспелі. І Лагун уладкаваны, і Інга павышана... Усё атрымалася, як было задумана, і нават яшчэ лепш. Я не чакаў.

– Я сам не чакаў.

– Цяпер разумею пра тры зайцы, – чамусьці перайшоў на шэпт рэжысёр. – А прызнайцеся: вы ўсё ведалі наперад?

– Што ты, сябра!

– Я толькі цяпер пачынаю разумець. Гэта ж і ёсць ваш сцэнарый. Той самы, пра які вы расказвалі, які абяцалі рэалізаваць не на паперы, а ў жыцці!

Рэжысёр стараўся шаптаць, але атрымлівалася так гучна, што лепш бы ён гаварыў уголас.

– У вас атрымаўся добры сцэнарый.

– Ну што ты. Усё само так склалася. Хаця – часта, каб справакаваць

лавіну, дастаткова пляснуць у ладкі. Я хацеў усяго толькі забраць распіску і міжволі, сам не жадаючы, прывёў у рух цэлы механізм.

– Усё адно вы з гонарам выйшлі з сітуацыі. Пераможцам!

– Ну што ж. Хоць нешта ў гэтым жыцці ў мяне атрымалася.

Выпілі.

– Але што цяпер? – спытаў рэжысёр.

– Больш я нікому нічога не вінен. Нарэшце змагу пісаць пад сваім іменем. І буду жыць далей.

– Скажыце, а што з дзяўчынкай? Якая нібыта маці Інгі? З-за якой усё пачалося? Вы сказалі ёй?

Іван Барысавіч пахітаў галавой.

– Але чаму? Чаму б вам да яе не з'ездзіць? Не сустрэцца з ёю? Сказаць, што памаглі яе дачцэ стаць...

– Я нават не думаў пра гэта. Дабро павінна быць ананімным. Калі ж яно мае адрас, гэта ўжо не дабро, а самалюбаванне, яно абясцэньваецца, як толькі пачынаеш чакаць адплаты за яго. Наша справа сеяць, а зерне мы не пабачым.

– А Інга хоць ведае?

– Ну што ты, дружа. Не, канечне.

Рэжысёр задумаўся. Потым зноў перайшоў на шэпт.

– Ці вы ўсё ж разыгрываеце мяне? Прызнайцеся! Інга праўда дачка той дзяўчынкі? Ці вы прыдумалі ўсё? Таму і не хочаце з ёю сустракацца, бо яе не існуе?

– А гэта так важна? Прыдумаў, не прыдумаў. Якая розніца, каму рабіць дабро: таму, перад кім вінаваты, ці першаму стрэчнаму, любому, хто перад табой.

Рэжысёр азірнуўся, паглядзеў па баках і зразумеў, што гаворка пра яго.

– Цябе, цябе я маю на ўвазе. Я доўга думаў і вырашыў: хопіць табе па чужых кутках туляцца. Жыві ў мяне. Месца поўна.

– А жонка? Дзеці?

– У мяне іх няма і ніколі не было. Прабач. Я падманваў.

– Але чаму?

– Не ведаў цябе. Баяўся. Мала што.

– А цяпер?

– Цяпер ты мне як родны сын.

Тут рэжысёр адчуў тое самае пачуццё, якое было з ім у гэтым рэстаранчыку некалі даўно, яшчэ зімою, – адчуў, як цяплее ўсярэдзіне ці то ад спіртнога, ці ад дзедавых слоў. Яму ўспомнілася Рыта, і што яна казала пра Вечку: стары, нецікавы, нудны, – успомніў і падумаў, якая ж гэта няпраўда, як гэта несправядліва (любімае яго слоўка).

– Вы мне і без таго зрабілі столькі дабра, – сказаў ён.

– Нічога яшчэ не зрабіў.

– Зрабілі, зрабілі. Вы мне замест бацькі. Я то сам свайго бацьку не помню. Сіратою жыў. Ён кінуў нас з маці, калі я быў малы, развёўся. У яго была свая сям'я, дзеці, ён жыў непадалёку, але ніколі мне нават цукеркі не купіў.

– Вось як?

– Ён чамусьці лічыў, што я не яго сын. Я нічога пра гэта не ведаў. Толькі пазней, калі маці не стала, а бацька не забраў мяне і я гадаваўся ў цёткі, аднойчы падслухаў, як яна са шкадаваннем казала суседцы: бедны, нагулялі яго. Мяне, значыць. Я заўсёды быў чужы ўсім.

– Цяпер будзеш сваім. Усё тваё будзе. Жыві спакойна. А не стане мяне – застанешся гаспадаром. Ці, можа, ажаніцца захочаш, дык увогуле было б цудоўна...

Графінчык апусцеў. Замовілі новы. Рэжысёр маўчаў, а Іван Барысавіч, зусім шчаслівы, гаварыў, гаварыў.

– ...Мы з табой яшчэ такое напішам! Мой вопыт, твая маладосць. Як ты лічыш?

– ...Мы з табой яшчэ машыну купім і паедзем на маю рэчку, уюноў лавіць. Або ракаў. У нас была мясціна, дзе яны вадзіліся. На беразе вольхі, вада абмывае аранжавыя махры карэньчыкаў, а калі прытупнуць па беразе, па зялёным дзёрне, ракі выскокваюць з-пад берага і стаяць у вадзе раскіракамі, з вылупленымі ад страху вачамі, а потым бокам-бокам уцякаюць у свае пячоркі...

– ...Калі я стану зусім стары, папрашу цябе завезці на маю рэчку... Я ўжо і нагледзеў месца па гугл-карце. Пах балацяны, вада цёплая, тарфяная, куст лазы, топня, піск уюна... Каб хто лавіў, а я сядзеў бы на беразе, слухаў...

Рэжысёр грэў каньяк у далонях і думаў, што яшчэ гадзіну назад у яго не было нічога, а цяпер ёсць усё – прынамсі, усё, што хацела Рыта: праца, кватэра, машына. Ну, акрамя хіба тэлефона і парасона. Таксама чамусьці ўспомніў ён Лагуна – і падумаў: "Якая ж яна здрадніца!"

– ...Я ніколі не бачыў вытоку сваёй рачулкі; не ведаю, адкуль яна пачынаецца, усё жыццё збіраўся знайсці тое месца, ды так і не дайшоў. І гэта мяне больш засмучае, чым тое, што я ні разу не быў у Аўстраліі...

Потым яны выйшлі ў дворык. Дождж прайшоў. Хмара сплыла за горад. У тым баку яшчэ вуркатала сыта і задаволена. Усё было вымыта і свежа. Акурат калі нашы сябры выйшлі, з-пад самай хмары прасачыўся, выбліснуў ружовы зыркі промень, за ім палілося святло, зазіхацелі кроплі на траве, на лісці кустоў і дрэў. Рэжысёр азірнуўся. Прырода нібы стварыла здымачны кінапавільён. Усярэдзіне размяшчалася дэкарацыя: зубцы дрэў, шаты-шары кустоў, арка-ўваход у рэстаранчык, па-над усім – спектральна-яркая, урачыстая вясёлка, якая нацягвалася, выгіналася дугою і ставала на апоры, а пакуль вісела так нізка, што, здавалася, калі падняцца па лесвіцы на дах бліжэйшага дома, дык можна падвесіць на яе званок.

## 28

Праз тыдзень Інзе патэлефанавалі з Аддзела ідэалогіі і папрасілі зноў наведаць паважаную ўстанову. Інга наведала. Зноў выслухала таго самага маладога ветлівага чыноўніка, які за гэты час азнаёміўся з кінааповесцю і цяпер хацеў падзяліцца заўвагамі. Заўвагі былі такія: фільм у кінатэатры не пойдзе, значыць, не акупіцца, таму варта рабіць з яго тэлефільм, інакш кажучы, мінісерыял, для чаго трэба "разагнаць" тэкст, каб атрымалася 4-5 серый. Фільм, хутчэй за ўсё, будзе экспартным, г.зн. пойдзе ў Расію, таму варта падумаць над адаптацыяй яго да цэнтральнарасійскіх рэалій, перарабіць прозвішчы, побыт, геаграфічныя назвы. Па сутнасці, атрымліваўся зусім новы варыянт. Ён у агульных рысах ужо быў прадуманы чыноўнікам.

– Прапаную сучаснасць чаргаваць з вайной. Дзве серыі ваенныя, дзве мірныя. Герой, сівы паважаны ветэран, стаіць пад ветрам, гэткі кароль Лір,

і ў раскатах грому, у грукаце навальніцы яму чуюцца разрывы бомбаў, а ў стуку кропляў дажджу па даху – аўтаматныя чэргі...

– І нямецкая гартанная мова?

– Чаму нямецкая? – не зразумеў чыноўнік. – Проста чужая мова. А яго ўнук потым заступае на абарону дзяржмяжы – пераемнасць пакаленняў...

І доўга яшчэ расказваў, як, на яго думку, варта паправіць сцэнар, каб ён стаў лепшы. Нарэшце Інга атрымала назад рукапіс, вярнулася на кінастудыю і ў кабінеце больш уважліва прагледзела яго. Усе да адной старонкі былі спісаны заўвагамі. Асабліва ўразіла адна, надта паказальная. Герой кінааповесці ў дзяцінстве любіў залазіць на дрэва і з вышыні аглядаць родныя краявіды. Чыноўнік чамусьці замест дрэва прапаноўваў зямлянку, і гэта мяняла ўсё з дакладнасцю да наадварот: з нябёсаў пад зямлю, з раю ў пекла.

Герой казаў: “Дзеля яе (аднакласніцы) пайду на гэта”. Было папраўлена: “Толькі дзеля сваіх малой і вялікай Радзімаў пайду на гэта”. У кінааповесці фонам ішоў цёплы летні грыбны дожджык. Чыноўнік прапаноўваў сваю версію: над станоўчымі героямі толькі сонца, над адмоўнымі – вецер, дождж з градам, навальніца. У канцы і ў пачатку кожнай серыі павінны былі кружыць буслы. І, само сабой, максімальна абязлічаныя дыялогі:

“Хто, я? Каго, мяне?”

Інга гартала, чытала заўвагі, і ёй уяўлялася, што яна назірае за працэсам стрыжкі, як натуральныя, мяккія, шаўкавістыя, прыемныя на выгляд і на дотык валасы з кожным подступам цырульніка, з кожным чыркам нажніц бязлітасна, крыва-коса абкарноўваюцца, пакуль не застануцца нейкія цыбукі, абшчыпаныя курыныя пёркі. А колькі яшчэ наперадзе цырульнікаў!

І вось тады яна ўсё зразумела. Да яе дайшло, што меў на ўвазе Іван Барысавіч Вечка, калі казаў пра вужыка і вожыка, пра баброў і выдру, пра прарока ў сваёй Айчыне. Ёй стала ясна, што можна прызначыць яшчэ аднаго новага гендырэктара, і яшчэ, і колькі заўгодна памяняць сцэнарыстаў-апрацоўшчыкаў, рэжысёраў, акцёраў, – усё роўна пры такім раскладзе сцэнарый і фільм будуць рухацца непазбежна ў адным напрамку – ад лепшага да горшага.

З чаго пасмяешся, таму паслужыш, як казаў некалі Сцяпан Алесевіч. Цяпер Інга ўжо не так асуджала папярэдніх шэфаў-гендырэктраў; нават Камар, не кажучы пра Хрушчанку, не здаваўся ёй такім ужо монстрам, а родная кінастудыя заслугоўвала не столькі пагарды, колькі шкадавання. Што з таго, што Хрушчанка быў тыранам, ад якога ўсе задыхаліся? Толку, што Камар аказаўся яшчэ горшы? А яна, Інга? Толку з новай мятлы, калі яна па-старому мяце. Ужо няма сумненняў, што яна будзе такая самая, як і Хрушчанка, і Камар, як усе кіраўнікі, якія былі да яе і якія будуць пасля, – проста абставіны не дадуць ім стаць іншымі.

Гэта быў фінал яе яшчэ не пачатай кар’еры, канец яе жаданням зрабіць нешта карыснае. Спачатку накаціла на яе крыўда, і яшчэ больш адчула яна гнятлівую адзіноту; уявілася, якая яна ў прынцыпе безабаронная, разбітая, сумбурная, недалечаная. А затым прыйшла чарга абыякавасці. У думках яна каторы раз падзякавала выпадку і Івану Барысавічу Вечку, якога раней недалюблівала і які так своечасова падвярнуўся і падставіў плячо. Цяпер яна на яго перакіне ўсё. Аддасць гэтыя лісткі з заўвагамі, і хай робіць з імі што хоча. А яна нарэшце зоймецца сабой, сваім здароўем.

Як любы нармальны чалавек, Інга баялася паліклінік. Толькі цягнуць

ужо не было як. Яна сабралася з духам і пайшла да доктаркі. Тая выслухала сімптомы: перыядычная санлівасць, слабасць, галавакружэнні, павелічэнне вагі, ацёкі, боль у грудзях то ўзнікае, то праходзіць, – выслухала, насупілася і сказала, што ёй гэта ўсё вельмі не падабаецца, бо можа быць прыкметамі нейкага ўтварэння. Сама ўзялася рабіць ультрагукавую дыягностыку, і ў час гэтага ўсклікнула:

– О-ёй, што гэта?!

Інга была на мяжы непрытомнасці.

– Вашаму "ўтварэнню" ўжо каля 9 тыдняў! – строга, нават чамусьці сярдзіта сказала доктарка.

Інга сядзела з апушчанай галавой, як сядзяць грэшніцы на карцінах эпохі Адраджэння, глядзела ўніз, рукі бязвольна ляжалі на кушэтцы. Апамяталася толькі тады, калі доктарка назвала яе па імені. Доктарка адразу папярэдзіла, што пакуль гармоны не панізяцца да бяспечнага ўзроўню, цяжарнасць пад вялікай рызыкай. Але Інзе было не да таго. Яна выйшла з кабінета, з паліклінікі іншым чалавекам. Усё ранейшае знікала, новае запаўняла яе. Яе самую ўразіла, як імгненна адваліліся ад яе ўсе справы, асабліва кінастудыйныя, і яна пераключылася толькі на асабістае, жыццёва-будзённае, памперсна-паўзунковае, летуценна-бяздумнае калыханне дзіцячай каляскі.

Па вялікім рахунку трэба радавацца. Доўгачаканае дзіця, яно трэба было ёй кроў з носу, хаця б для таго, каб смела пазіраць у вочы залоўцы – аўстралійскай мужавай сястры, якая моцна дапякала Інгу тым, што ў брата няма спадчынніка. Аднак поруч з радасцю ішлі сум, трывога і нават страх. Не сумняваючыся, ад каго цяжарная, Інга абсалютна не ўяўляла, якімі павінны быць яе дзеянні адносна Лагуна. А да мужа? Неяк ці то жартам, ці ўсур'ёз ён сказаў: "Я заўсёды вызначу, калі мне здрадзіць жонка. Цяжарнасць – вось доказ, і не ўскосны, а самы што ні на ёсць прамы".

Варыянт пазбавіцца дзіцяці яна адразу адмяла. Не, яна не выпусціць гэты шанс. Значыць, цяжарнасць трэба было трымаць у тайне, хаваць не толькі ад мужа, але ад усіх; прынамсі, да таго часу, пакуль тайнае не стане яўным і не пачнуцца абгаворы і плёткі, якія, канечне ж, рана ці позна даляцяць да мужавых вушэй.

Быў яшчэ варыянт разводу. Але і гэтага яна не хацела. Губляць такія ўмовы, траціць такое становішча, пры якім яна – паважаная, забяспечаная, добрапрыстойная, незалежная дама; адмаўляцца ад такога мужа... І дзеля чаго? Іншая справа, калі, напрыклад, паўстане пытанне: развод ці пісталетная куля, дык, само сабою, развод. Проста яна ведала, што такога выбару ў яе не будзе. А што будзе, яна не магла нават уявіць. І, як ні дзіўна, менавіта гэта прыносіла палёгку, бо толькі слабасцю ўяўлення ратуюцца людзі.

"Ну не. Я не збіраюся паўтараць чужыя памылкі! Я не буду ставіць сябе ў становішча або-або!"

Галоўнае, што не было з кім параіцца. Яна не мела ні сяброў, ні сябровак. Акрамя Рыты. Ды і тая... Упершыню ў жыцці Інга пашкадавала, што ў яе такі характар, – інтравертны. Ёй заўсёды хапала самой сябе. Ды і не было ў яе ні такой ужо вялікай радасці, з якой хочацца падзяліцца, ні такога гора, якое можна было б на некага перакласці. Дзіўна, што яна не адразу ўспомніла родных бацькоў. А можа, якраз-такі заканамерна, бо яны былі зусім іншыя, чым яна. Яблык далекавата адкаціўся ад яблыні... але ж такі выпадак! І так часам хочацца пад матчына крыло!

## 29

Калі вяртаешся ў сваё дарагое, далёкае мінулае і бачыш усё тое самае: дворык, дзіцячую пляцоўку, клумбу, арэлі паміж бяроз, лавачку каля пад'езда – дык часта замест замілавання ахоплівае нейкая нават як бы крыўда: чаму яно адно і тое ж? чаму не мяняецца разам са мной? А калі яно яшчэ пазірае на цябе ў кожны твой прыезд з дакорам, нібы ты ў нечым вінаватая перад ім, мо за тое, што сама паехала, а гэта ўсё пакінула і забылася?

Не, былі, канечне, перамены. Напрыклад, дрэвы падраслі, а дворык, дом і пад'езд паменшалі. Але ў цэлым у Інгі заўсёды было пачуццё няёмкасці перад сваім з дзяцінства знаёмым наваколлем. Мо таму, што яно ў сваёй нязменнай пастаяннасці ведала, памятала яе зусім іншай: малой, бесклапотнай, чыстай. І толькі сёння Інга ўпершыню змагла зірнуць на гэта вакольнае спакойна і адкрыта, як на роўню. Яна прыехала іншая. Цяпер яна была гатовая сплаціць доўг, пусціць у свет іншага чалавека, які паўторыць кола і зробіць тое, што яна не паспела. Яна зайшла ў знаёмы маленькі пад'езд. Прыступкі, крокі. Дзверы, званок. Тыя самыя пахі. Цёплыя рукі маці абнялі яе за шыю. Маці, такая ж, як заўсёды, круглатварая, румяная, пахла мукой і хлебам.

– Што здарылася? Ты без званка.

– Засумавала.

– Ох, Інга. Сказаць шчыра? Я б на тваім месцы не сумавала. Заходзь! Бацька на лецішчы. Я пазваню, прыедзе.

– Не трэба, не спяшайся.

Інга была позняе і адзінае дзіця. Яна нарадзілася, калі бацькам было за 30. Можа, таму яна не пайшла ў іх. Цяпер ім за 60, абое на пенсіі, маці ўвесь час дома, бацька – з тых ціхоняў, якім абы далей з вачэй, абы па-за домам; ён садавод-агароднік, рыбак-ягаднік; постсавецкая класіка. Абое па-правінцыйнаму шчырыя, па-свойму добрыя, у меру хітраватыя – жыццёвай сялянскай хітрасцю, у меру смяшлівыя – з своеасаблівым сялянскім грубаватым гумарам. І абое вельмі гаваркія. Яшчэ маці любіла рэзаць праўду ў вочы, часта не асабліва выбіраючы словы.

Пакуль маці "завіхалася" каля пліты на кухні, Інга сядзела перад тэлевізарам, глядзела серыял "З жыцця машын" і па-рэдактарску, машынальна, лавіла ляпы. Аварыя на вуліцы. "Ахвяры ёсць? – Прыедзе інспектар, будуць. Ха-ха-ха!" (садралі з "Каралевы бензакалонкі"). "Чаму твая машына з аўташколы стварыла затор? – Якая машына? – Зялёная, з калёсікамі! – Ха-ха-ха!" І, галоўнае, гарачацца, нешта даказваюць, увесь час на павышаных танах, што павінна перадаваць жывасць і зацікаўленасць, увесь час смяюцца, а вочы насцярожана бегаюць, а рукі жэстыкулююць і варушацца не ў такт са словамі, і музыка, музыка – сама па сабе, асобна ад дзеяння. Гледзячы, Інга адчувала проста фізічную моташнасць. Яна не магла ўзяць у толк, як яшчэ нядаўна гэта здавалася ёй звычайным, нейтральным, калі яно заўсёды было такім нікчэмным. Маці прыйшла і села побач, абняўшы дачку за плечы. Нейкі час глядзелі ўдвох. Пад'ехаў інспектар. "Здарова, Пецька! – Здарова, Чапаеў! – Ты, мабыць, думаеш, што машына без рамонту сама паедзе? – А ты, мабыць, думаеш, што, лежачы на канапе, рамонт сам пойдзе? – Ха-ха-ха!"

Маці таксама засмяялася і сказала:

– Харошы фільм. Вы такія здымаеце?
– Усялякія здымаем.
– Ты ўсё там жа? Не павысілі?
Інга з неўразуменнем уставілася на яе. Яна проста забыла, хто яна цяпер. Вылецела з галавы. Ды і сапраўды, якая розніца. Усё адно звальняцца. Не выбера ж яна замест дзіцяці вось гэта.
– Не павысілі. Пакуль усё там.
– Ох, Інга! – сказала маці і, нахіліўшыся, зашаптала горача: – Знайшла б ты палюбоўніка, вось што табе трэба. Але ты ж у нас святая. Маральная. І ў каго ўдалася? Часам мне здаецца, што ты не мая дачка.
Маці як бы пацвельвала яе. Так было заўсёды, з маленства. Яна нібы здагадвалася пра нешта, але хацела, каб дачка сама расказала. Інгу заўсёды з малых гадоў бянтэжыла гэта... адчуванне, што яна іншая, ніколі не пакідала яе, і з роднымі яна заўсёды адчувала сябе як з чужымі: трэба было падыгрываць, смяяцца, ламаць сябе.
– Нашто ты мне кажаш гэта?
– Бо ты мне ўсё жыццё чытаеш натацыі. Дзеці больш маральныя за бацькоў – калі такое было? – сказала маці і пахвалілася раптам, прашаптала на вуха: – У мяне, у мае гады, і то кавалер аб'явіўся.
Яна пачала расказваць, як выставіла ў фэйсбуку стары здымак, чорнабелы, з іхняга даўняга школьнага паходу; падпісала год, ўказала мясціны...
– ...І ўяўляеш, атрымала паведамленне ад нейкага дзівака!
Нібыта ён родам з той самай мясцовасці, быў тады хлопчыкам-падлеткам, помніць той паход, выпадкова перасекся з ім і нібыта пакрыўдзіў дзяўчынку з той вандроўкі, а потым усё жыццё мучыўся, насіў гэта ў сабе, і які шчаслівы цяпер, калі ўбачыў здымак.
– І вось пытае ў мяне, ці памятаю я яго? І ці можа ён, хоць і так запознена, выпрасіць дараванне?
– Кранальная гісторыя, – рассеяна адказала Інга. – Як бачыш, не адна я маралістка.
– Хай бы вы паставілі фільм пра гэта, – прапанавала маці.
– На жаль, я маю справу з такімі людзьмі, якія не будуць замарочвацца, пакрыўдзілі яны каго ці не. І ўжо тым больш не стануць прасіць прабачэння... І што? Ты даравала яму?
Маці сказала з усмешкай, якая павінна была азначаць, што сапраўдная гісторыя толькі пачынаецца:
– Ён памыліўся. То была не я. Я тады нават не хадзіла ў той паход. Захварэла. То была мая блізкая сяброўка і суседка па парце. Мы і праўда былі падобныя. Нас блыталі настаўнікі. Вось, паглядзі.
З выцвілага, вылінялага, з плямамі, зробленага на "мыльніцу" фота пазіралі дзве амаль аднолькавыя бялявыя дзяўчыкі, з чупрынкамі, з каснікамі, у белых гольфіках і карычневых спаднічках і чорных фартушках.
– Гэта я... А вось сяброўка.
– Праўда, падобныя.
– Але толькі знешне, не характарамі. Мяне не так лёгка было пакрыўдзіць, я сама пакрыўдзіла б любога. А вось яе – мог хто хочаш. Такая добрая, безабаронная, любіла ўвесь свет, кожную мурашку, травінку, я зусім не разумею, як можна не палюбіць яе самую? тым больш пакрыўдзіць? Гэта як на ўсмешку ні з таго ні з сяго адказаць пляўком ці мацерным словам. Цяпер я нават прыпамінаю, што нешта пасля таго

паходу яна мне расказвала, пра нейкіх мясцовых хлопчыкаў. Зрэшты, памяць мая падманлівая.

– Пачакай, дык ты не прызналася, што то не ты?

– Я, наадварот, сказала, што то я. Мне ж цікава.

– Ну, не ведаю. Прымаць на сябе адрасаваныя іншаму чужыя прабачэнні... А не прасцей было проста даць каардынаты сяброўкі.

– Яе даўно няма на свеце, – уздыхнула маці. – У яе быў цяжкі лёс. Нешчаслівая была. Ёй усё жыццё не шанцавала. Адразу пасля школы мы расталіся... шляхі разышліся. Яна паехала некуды, здаецца, на Віцебшчыну, выйшла замуж. Нейкі час перапісваліся. У яе былі праблемы, муж раўнаваў, зводзіў са свету, мучыў, даймаў тым, што, маўляў, не ад яго дзіця. Яна перажывала, хварэла... Што з табой?

Твар у Інгі гарэў.

– Ветрам абнесла.

– Так я і не сказала яму, таму дзіваку. Не адважылася. Пашкадавала яго. Напісала, што так, то была я. Нічога не памятаю, але на ўсялякі выпадак дарую ўсё. Даўно ўсё забыла і даравала яму, ад яе імені.

Пасля кароткай паўзы – своеасаблівай хвіліны маўчання – маці спытала.

– Ну, а ты што?

– Я працую з такой публікай, якая не просіць прабачэння, – паўтарыла Інга, забыўшы, што тое самае казала зусім нядаўна. – Ім і ў галаву такое не прыйдзе.

– Ты ж не таму прыехала, каб мяне слухаць? – і параіла: – Кідай ты ўсё гэта. Занурванні свае. Праблемы так званыя. Дзе, дарэчы, ён?

Бацькам чамусьці не падабаўся зяць, і яны пры кожнай нагодзе не прамінаалі падкрэсліць гэта. Мо яшчэ таму не было агульнай мовы ў Інгі з імі.

– На курорце, – адказала Інга.

– І ты адна? Паслухай мяне. Табе трэба здрадзіць мужу. А што? З якім маладым...

– Я так і зраблю.

– Дзе табе!

Так Інга нічога не сказала ні маці, ні бацьку, які неўзабаве пад'ехаў, і першае, што спытаў, было: "Калі ўнукаў паняньчым?" – кожны раз ён такое пытаў, як рытуал, і кожны раз Інга адмоўчвалася.

Яна пераначавала і паехала назад. З гэтых адведак яна вынесла толькі тое, як муж не прызнаваў дзіця, даймаў, мучыў рэўнасцю жонку, пакуль не загнаў у магілу.

З яшчэ большым нецярпеннем яна пачала чакаць вяртання Міхалевіча з Лагуном. Абодвух... ці аднаго. Бо ўжо цвёрда ведала: пакуль існуе трохкутнік, нічога не вырашыцца.

## 30

Трохпавярховы катэдж быў за сто метраў ад мора, і па першым часе шум хваляў перашкаджаў спаць. Дзявочы вінаград абвіваў балкон і засцяняў яго сваім дробным, але густым лісцем ад дзённай спякоты. Начамі часта ішлі моцныя субтрапічныя ліўні з маланкамі і громам, страшныя тут, на Поўдні, – такіх Лагун ніколі не бачыў на радзіме. Грымела ў гарах, распорвалі неба ўздоўж і ўпоперак зігзагі маланак, тады пачынаўся дождж, і да самай раніцы буйныя кроплі гучна пляскалі па плітках дарожкі. Пасля

іх храбусцелі пад нагамі, як яечныя шкарлупкі, ракавінкі смаўжоў, ці, як у Лагуна дома казалі, п'явачнікаў.

Лагун з Міхалевічам жылі тут ужо два тыдні. За гэты час крыху прытупілася вастрыня ўспрыняцця, калі ўсё вакол было новым, узбуджальным: мора пад крылом самалёта, серпанцін дарогі ад Сухума да Гаграў, па якім неслася іх таксі, пакуль не атрымала пушчаным з гары каменем у лабавое шкло (як сказаў кіроўца-абхазец, "шыпана мясцовая" забаўляецца, абстрэльваючы турыстаў); санаторый пад назвай "Акцёр", дзе нельга было сустрэць ніводнага легендарнага ці проста вядомага кінадзеяча, а адпачывалі звычайныя людзі, у тым ліку беларускія чыноўнікі сярэдняй рукі. Спачатку Міхалевіч для экзотыкі хацеў зняць у абхазца сапраўдную саклю і ў ёй жыць. Але Лагуна цягнула да цывілізацыі: ванны, мяккіх шырокіх ложкаў, тэлевізара, камп'ютара, і ён дабіўся-такі свайго: маўляў, ніколі не жыў у гатэлях, а трэба набіраць дэталі побыту для новага сцэнарыя. Засяліліся не ў шматпавярховы галоўны корпус, а ў новы, асобна размешчаны катэдж, у трохмесны нумар з двума балконамі – на горы і на мора. Паблізу раслі пальмы, круглыя, кашлатыя, з вострымі лістамі, і бамбук – як тоўстыя вудзільны трыццаціметровай вышыні. З другога балкона адкрывалася панарама гор – класічных, з белымі, а вечарамі і раніцамі – пунсовымі шапкамі. Снедалі і абедалі ў галоўным корпусе, у сталоўцы-рэстаране; ежа вострая, многа мяса і на гарнір – бабовыя, фасоля самых розных колераў і памераў; елі шмат, але чамусьці не наядаліся і жылі ўвесь час з адчуваннем лёгкага голаду. Ад гэтага, ды яшчэ ад паўднёвага сонца, узрастала актыўнасць, хацелася рухацца, есці, плаваць, лезці ў горы.

Паміж гарамі і морам вузкай паласой ішла дарога Гагры – Піцунда. Па адзін яе бок было мора, па другі – вялікае прэснае возера, у якім суткамі крумкалі жабы і над высачэзнымі чаратамі віселі хмары камароў. Камары былі паўсюль. Яны кусаліся на пляжы, жылі ў катэджы, на балконе ў лісці вінаграду, ад іх не было ратунку, акрамя абпырсквання сябе аэразолем.

Другім мінусам субтропікаў была вільготнасць. Калі параніць палец ці расчасаць укус камара, не зажывала днямі. Ад вільготнасці не высыхалі плаўкі і шорты, і іх сушылі па-савецку ў ванне на змеевіку. Ноччу было холадна, а ўдзень спякотна. Зверху паліла гарачае да невыноснасці сонца, вада была ледзяная, да сутаргаў, з мора налятаў сухавейны вецер, пляж – дробная, як пясок, чорная галька, гарачая, на якой Лагун у першы ж дзень за гадзіну згарэў да пасінення, да пухіроў, і некалькі дзён пасля не скідаў кашулю і джынсы. Менавіта тады яны наведалі знакамітую скалу. Лагуна трэсла, калі яны падыходзілі: і ад тэмпературы, і ад страху. Скала была не агароджаная. Калі падышлі і сталі на ёй, з бяздоннем унізе, Лагун інстынктыўна падаўся назад, ды так, што ледзь не ўпаў, і больш не падыходзіў блізка. Людзей было многа, экскурсійныя групы змянялі адна адну; мітусня, піск, смех; дзеці і дарослыя фоткаліся, сэлфіліся, стаялі і хадзілі па самым краі правалу. І раптам крык, ад якога ледзяніла душу: "Хадзем адсюль, не трэба!"

Нехта з групы спытаў у экскурсавода-абхазца:

– Няўжо ніхто не падае адсюль?

– Чаму не падаюць? – пакрыўдзіўся абхазец. – Яшчэ як падаюць. Кожны год. Пачытайце ў інтэрнэце, калі не верыце. Надта ж гэта зручна, падаць адсюль. Самы распаўсюджаны выпадак.

– А адгарадзіць не спрабавалі?

– А вы спрабавалі не думаць? Не думайце, тады не ўпадзеце. Бо калі думаеш, можна і з падножкі трамвая зваліцца, і з эскалатара ў метро.

А ўвечары Лагун у другі раз выслухаў трагічна-рамантычную гісторыю пра той даўні няшчасны выпадак на той скале, як сарваўся з яе ў бяздонне і загінуў малады рэжысёр, нібыта каханак Інгі: яна да гэтага часу сумняваецца, ці не Міхалевіч яму памог – спіхнуў.

– ...Але следства ўстанавіла ўсё як ёсць. Цяпер разумееш, чаму я не хацеў, каб Інга паехала з намі?

Лагуну, які ўсё сваё невялікае жыццё думаў толькі пра сябе і ніколі пра іншых, ледзь удалося прыхаваць усмешку. Аказваецца, клапатлівы муж не ўзяў жонку, бо бярог яе нервы, не хацеў, каб непажаданыя, гнятлівыя ўспаміны накацілі на яе. Адчуў Лагун і пэўную рэўнасць, бо Інга, ён ужо лічыў, больш належала яму, чым мужу.

Час, пакуль ён быў “згарэлы”, выкарыстоўвалі на экскурсіі, паездкі і вандроўкі. Бачылі знакамітыя рэліктавыя сосны, бачылі, як на беразе мора ў цэнтры Піцунды людзі вешалі бялізну на вяроўкі, працягнутыя паміж гэтых сосен (“Так вечнае суседнічае з часовым, – рэзюмаваў Міхалевіч. – Запамінай!”); на піцундскім базары, дзе мясцовыя нават паміж сабой гаварылі не па-абхазску і не па-грузінску, а па-руску з неверагодным акцэнтам, прыкладна, як у “Каўказскай палонніцы” Гайдая, – елі харчо, лаваш, шашлык, пілі каньяк; ездзілі дарогай-серпанцінам паўз цясніны і славуты вадаспад Слёз на высакагорнае возера Рыца з яго незвычайнай прыгажосці блакітна-зялёнай вадой і на вышыні тысячы метраў над узроўнем мора сядзелі ў саклі-рэстаране перад тымі ж шашлыкамі і каньяком – гэтым заканчвалася любая экскурсія.

Усё было цудоўна, цікава, нова, і разам з тым Лагун ніяк не мог зразумець, што не так. Нарэшце здагадаўся: адзіноты не хапае. Міхалевіч быў з ім паўсюль і заўсёды. Ён, відаць, цвёрда вырашыў, што яго абавязак – зляпіць з маладога сябра сапраўдную творчую натуру. Ён нібы сабраўся пражыць разам з Лагуном і сваю маладосць, хацеў быць не толькі яго вачамі вушамі, але нават і душой. Ён вучыў, як менавіта трэба глядзець і слухаць, успрымаць і фільтраваць, адбіраць з кучы мякіны зерне.

Спачатку было цярпіма. Потым гэтае апякунства пачало прыгнятаць. Голас Міхалевіча пачаў навальвацца, душыць, даганяць, і не было ад яго ратунку. Лагун паспрабаваў пазбягаць Міхалевіча, але гэта аказалася не так лёгка: яны разам жылі, абедалі, а галоўнае, ён надзейна быў прышпілены да Міхалевіча грашамі.

А Міхалевіч усё грузіў яго нуднымі развažаннямі і рознымі падрабязнасцямі.

– ...Запамінай! – спатрэбіцца. Творчаму чалавеку ўсё патрэбна.

– ...Клімат унікальны: горны, марскі, лясны і лугавы...

– ...Туман ружовы з гор, мора зліваецца з небам...

Дайшло да таго, што Лагун пачаў агрызацца:

– Туман як туман. Гара як гара. Што я, мора не бачыў?

На яго шчасце, Міхалевіч неяк хутка стаміўся і астыў да перамяшчэнняў. Як высветлілася, ён цяжка пераносіць акліматызацыю і ўвогуле марудна прывыкае да ўсяго чужога. Яго падтэмпературвала, ён чыхаў, кашляў, прабіваў закладзены нос кроплямі, піў таблеткі. Санаторны доктар забараніў яму купацца і загараць, дазволіў толькі сядзець, што Міхалевіч і

рабіў – сядзеў у халадку, трымаючы аэразоль ад камароў у руцэ, і гаварыў. Толькі гэта яму цяпер і заставалася.

У Лагуна тым часам загоіліся плечы і ногі, злезла скура, і таму можна было загараць колькі ўлезе. Нібы назло Міхалевічу і каб не слухаць яго, ён увесь час валяўся на пляжы, упітваў у сябе сонца, разглядваў пляжных дзяўчат або проста драмаў. Твар яго загарэў, уменне чырванець цяпер было яму без патрэбы, але гэта пазбавіла яго абаяльнасці, – нібы з белай скураю ён быў чысцейшы, а цяпер загар накрыў не толькі яго скуру, а і душу. Ён зусім асмялеў і ледзь не паплаціўся за страту пільнасці. Неяк ляжаў на жываце, загараў, як яму на плячо і на спіну ўпалі халодныя кроплі. Лагун адмахнуўся, думаючы, што гэта Міхалевіч.

– Братан, ты ці не ты? Што ты тут робіш? Адпачываеш?

Лагун ускочыў, сеў, працёр вочы. Перад ім стаяў матацыкліст з базара ў Акцябрскім уласнай персонай. Той жа гопніцкі выгляд, тыя ж спартыўныя штаны з лампасамі. Пацерты, няголены, пакамечаны твар**.** Толькі шлем на руцэ не вісеў.

– Ты някепска ўладкаваўся. Бачу, спрацавала мая навука. Ты здольны вучань. Даў айчым грошай? Дарэчы, паступіў? У тэатральны?

Лагун не ведаў, на якое з пытанняў адказваць, таму не адказваў ні на адно. Ліхаманкава ён прыкідваў, што рабіць, як ад яго пазбавіцца.

– А я патрапіў у гісторыю, – паведаміў матацыкліст. – Прыехаў спаганяць доўг, а ў выніку сам вінен застаўся. Так атрымалася. Матацыкл забралі. Добра, што цябе сустрэў. Я табе памог некалі, цяпер ты мне памагай. Купі паесці для пачатку.

Еў ён прагна, хутка. Кавалачкам лаваша беражліва падбіраў з талеркі кетчуп з цыбуляю. Піва цякло па губах, ён здзьмухваў пену і заадно праганяў асу, якая набівалася ў кампанію. Лагун, гледзячы на яго, сам захацеў есці. Ён саромеўся матацыкліста, пазіраў па баках, ці не бачыць хто са знаёмых.

– Дык што ты казаў пра грошы? – спытаў, наталіўшы голад, выціраючы пальцы і вусны сурвэткай, матацыкліст. Хаця Лагун нічога пра іх не казаў. – Мне трэба грошы. На адваката, каб выцягнуць сяго-таго з суда. Аднаго чалавека, не абыякавага табе. Не чужога. Маю сястру. Памятаеш? Яна патрапіла ў гісторыю...

Лагун паспрабаваў рыпнуцца, выкруціцца, растлумачыць, што ён сам на птушыных правах:

– Выпадкова тут апынуўся...

– Э-э, братан. Вось які ты стаў. Забранзавеў. Заганарыўся.

– Я паспрабую...

Дамовіліся сустрэцца на гэтым жа месцы, каля піва і грылю. У час абеду Міхалевіч пацікавіўся: “З кім ты размаўляў? Хто гэта?”

– Ніхто, – адказаў Лагун. – Памылка.

А пасля абеду проста ўцёк, пайшоў гуляць у сасновы рэліктавы лес. Хадзіў між дрэў, адпачываў на палянках, удыхаў родныя пахі смалы і чарнічніку. Нібы апынуўся дома, у беларускім лесе. Калі па яго разліках даўно мінуў час прызначанай сустрэчы, пачало цямнець, людзі сыходзілі з пляжа, акрамя рамантыкаў і закаханых, Лагун падабраўся да катэджа – і пачуў знаёмы голас з балкона. Нізкі і так, сам па сабе, увечары ён аж гудзеў, здавалася, слаўся па зямлі і даходзіў да самага мора.

– Зу-зу-зу... Бу-бу-бу... Усё гэта я так, з мужчынскай салідарнасці... Каб

паставіць вас у вядомасць, – даносілася да Лагуна. – Не ў маіх правілах умешвацца ў чужыя справы... не такі я чалавек... не маю такой звычкі... не такі ў мяне характар... Зу-зу-зу...

Лагун мог разабраць толькі палавіну таго, што казаў матацыкліст.

– Бу-бу-бу... Я не прывык пляткарыць... вышэй гэтага... але закрануты гонар маёй сястры... выключна дзеля таго, каб акупіць адваката... а ён, гэты Лагун... Зу-зу-зу...

Лагун стаяў у цемры, якая надта ж хутка, па-паўднёваму згусцілася, і думаў: вось і ўсё. Вось так і яго сувязь з Інгай выкрыецца. І тады – бывай, дом, бывай, кінастудыя, фільм, а можа, і маё жыццё. Дачакаўшыся, калі матацыкліст нарэшце пайшоў, ён з цемры наблізіўся да светлага балкона і, хоць усё ў ім трымцела, рашуча набраў паветра ў грудзі.

– Я ўсё чуў... Так, я не ўсё сказаў вам... Але гэта таму, каб зберагчы вашы нервы! Так як вы зберагаеце вашай жонцы... Я вас вельмі цаню, каб увязваць у свае...

– Не хвалюйся.

– Гэтыя нібыта брат з сястрою, – хутка, пераканаўча гаварыў Лагун, – чым яны займаюцца... Гэта ў іх сямейны бізнес... ён падстаўляе яе і затым шантажом выманьвае грошы...

– Не хвалюйся. Я заплаціў яму.

– Вы? Заплацілі? Нашто? – ускрыкнуў Лагун, нібыта гэта былі яго грошы. – А калі ён зноў захоча?

– Паабяцаў, што не захоча. Але ты... Як ты мог? Не сказаў ні пра айчыма, ні пра сясцёр. Ні пра маці. Гэта ж лёгка было вырашыць – памагчы тваёй сям'і хаця б матэрыяльна...

Лагун не паспеў адкрыць рот, як Міхалевіч зрабіў знак, каб не перабіваў:

– Я разумею – гонар, шчырасць, сумленне і гэтак далей. Але ж нельга быць такім... цнатлівым у наш час!

Лагун выдыхнуў з палёгкаю. І гэтая непрыемнасць абышла яго бокам, закранула толькі ўскосна. Ён ужо быў паспадзяваўся, што так усё нічым і не скончыцца. Але дарэмна. Пасля гэтага выпадку нібы трэшчына прайшла паміж імі. Спачатку ледзь заўважная, а потым неяк пакрысе Міхалевіч пачаў ад яго аддаляцца, вочы ў яго больш не гарэлі, а ўсмешка не кранала вуснаў. Ён нязвыкла многа маўчаў і ўсё часцей задумваўся. Пад канец яны настолькі перасыціліся адзін адным, так прагнулі адпачыць ад поўдня і адзін ад аднога, што не маглі дачакацца дня ад'езду, а калі ён надышоў, не хавалі радасці.

## 31

Прыезд мужа быў раптоўны, без званка. Як толькі Інга ўбачыла яго, пачула знаёмы, прастуджаны голас, сэрца ледзь не выскачыла з грудзей, ёй стала блага. Як жа, аказваецца, моцна яна чакала, як спадзявалася, што здарыцца нешта, якісь няшчасны выпадак, і цяпер адчула расчараванне, змешанае са страхам: да чаго яна дайшла, як яна такое можа ўвогуле дапускаць.

Што да мужа, ён, узіраючыся ў Інгу, быў прыемна здзіўлены. Жонка ўразіла яго. Ён пакідаў яе разбітай, спалоханай, разгубленай, і вось, пабыўшы адна, у тлумным горадзе, яна пахарашэла і паздаравела, а ён на курорце ля мора, у сваім “унікальным клімаце”, толькі зблажэў. Але

галоўнае, за гэты месяц з жонкаю адбыліся перамены ўнутраныя. Гэтага нельга было не заўважыць. З'явілася ўпэўненасць у вачах, рашучасць у словах і рухах. Такой ён яе ніколі не бачыў.

– Ты паздаравела, – адзначыў ён не без зайздрасці. – І пахарашэла. Як табе гэта ўдалося?

– А ты чаго такі стомлены? Як бы і не адпачываў. Прастуджаны, мала загарэлы.

– Яшчэ і тэмпературны. Акліматызацыя зацягнулася. Ты ж ведаеш, так заўсёды са мной на поўдні. Каб не твае кроплі... Прабач, я без дазволу забраў твой флакончык.

– Я нават не заўважыла, што яго няма. А ў мяне прайшла алергія, уяўляеш? Зусім, – сказала яна значна.

– На мяне перакінулася. Добра, кроплі памаглі. Я выкарыстаў увесь флакончык. Але як ты? Чаму так рэдка званіла? Не адказвала. І гэты дзіўны апошні званок...

– Я ўсё растлумачу, – яна паглядзела на яго і спакойна сказала: – Я звальняюся. Не хачу больш. Здароўе даражэй.

– Ну, і правільна. Я такі вінаваты перад табой. Што ўцягнуў цябе туды. Цяпер сам не разумею, нашто гэта рабіў? Нашто мне здаўся той сцэнарый? Нашто трэба быў той Лагун? Сорамна прызнавацца, але я цябе раўнаваў да яго.

– Дзе ён, дарэчы? – спытала Інга.

Муж махнуў рукой невядома куды.

– Да сябе паехаў. У інтэрнат. Прыляцелі разам, потым раз'ехаліся.

– Што так?

– Інга, нам трэба сур'ёна пагаварыць. Я ведаю, ты будзеш супраць. Але гэтыя маладыя геніі... З імі, аказваецца, так цяжка.

Інга памкнулася нешта сказаць, муж не даў:

– Не! Я нічога не маю супраць! Я ведаю, ён – цудоўны хлопец! Сарамлівы толькі, нясмелы вельмі. А ўжо ў адносінах да супрацьлеглага полу... Як ён будзе далей жыць? Ён жа не ведае, з якога боку падысці да жанчыны. І потым, гэтыя геніі, аказваецца, бываюць такімі занудамі. Ды і я – я ўжо адчуваю сябе з ім адсырэлым, несучасным, старым...

– І? – спытала Інга.

– Не трэба, каб ён больш хадзіў сюды. І так бог ведама што пра нас думаюць і кажуць. Як пісалі ў старых раманах, я хачу адмовіць яму ад дома.

О, калі б гэта прагучала месяц назад, калі Інга так дабівалася гэтага! Як бы яна ўзрадвалася! Але цяпер гэтыя словы пакінулі яе абыякавай. Нічога не адазвалася ў ёй.

– Калі шчыра, гэты малады ды ранні сцэнарыст мне самой надакучыў, – толькі і сказала яна. – Вось толькі як ты збіраешся гэта зрабіць? Каб ён не пакрыўдзіўся. Няветліва атрымліваецца.

– Можа, ты пазвоніш, пагаворыш? Ён цябе так паважае.

– Ах, не, – адмахнулася яна. – Я яго сюды не прыводзіла, не прывучала і з ім не сябравала. Разбірайся сам.

Так праблема, якая яшчэ паўгадзіны назад здавалася Інзе невырашальнай – пазбавіцца ад Лагуна, развязалася раптам так лёгка і натуральна, як вузел, калі яго пацягнуць за "хвост" у патрэбным месцы. Ёй на міг падалося, што ўвогуле ўсе яе пакуты былі лішнімі, што можна было б пазбегнуць многіх непрыемнасцяў і бедаў, калі б своечасова проста па-дзіцячы ва

ўсім прызнацца. Цяпер нібыта акурат і быў спрыяльны момант, каб, як кажа Лагун, “паставіць у вядомасць” мужа. Яна нерашуча паглядзела на яго і нават пачала:

– А ты не баішся... Што ён можа расказаць табе сёе-тое... Нафантазіраваць. Глядзі.

– З чаго гэта?

– Ад страты месца. Ад адчаю, ад помсты.

– Не перажывай. Я дастаткова вывучыў яго і ведаю ўсе яго штучкі. І потым, няўжо ты можаш дапускаць, што я камусьці паверу больш, чым табе?

Мо калі б не яго апошнія словы, яна прызналася б вось зараз. А так зноў, як і ў выпадку з маці, заклініла яе. Некалькі разоў яна збіралася з духам. спрабуючы вымавіць патрэбныя словы, але яны так і не зляцелі з вуснаў. Трохкутнік рассыпаўся, але лягчэй не стала. А стала нават крышку цяжэй. Яна ў думках яшчэ паспрабавала пераканаць сябе, што не ўсё адразу, спроба прайшла ўдала і далей трэба дзейнічаць паступова, паэтапна. Але ўжо сама адчувала, што гэта слабыя перакананні.

І тады яна зразумела, што марна стараецца. Ні цяпер, ні пазней не зможа яна – як не змагла сказаць маці, так не скажа і мужу, бо выдатна ведае, што нават калі першым імпульсам будзе ёй даравание, дык гэта пратрымаецца пяць хвілін, а затым пачнецца пекла, якое будзе да канца жыцця. Значыць, і далей давядзецца хлусіць, хаваць, баяцца.

Адчай і безвыходнасць апанавалі ёй. Але больш за ўсё было неразуменне: за што яна апынулася ў такой сітуацыі? Хто ў гэтым вінаваты? Раптам новае, няведамае раней пачуццё ўзнікла ў ёй. Гэта была варожасць да мужа. Упершыню менавіта ён убачыўся ёй галоўнай, сапраўднай крыніцай яе бедаў. І адразу нібыта пасвятлела, як бы заслона спала з вачэй. Інга нават усміхнулася сама сабе ціха – як чалавек, якога даўно даймаў боль і які нарэшце знайшоў прычыну яго. “Дык вось што мяне мучае!”

Але і гэта было яшчэ не ўсё. Раптоўная здагадка скаланула яе.

– Пачакай, – сказала яна, правёўшы далоняй па лбе. – Пакажы мне флакон.

– Я яго выкарыстаў і выкінуў. Купі мне новы.

– Новы? Ты глядзі, да яго прывыкаюць.

– Не прывыкну.

## 32

Не паспеў Лагун развітацца ў аэрапорце з Міхалевічам і прыехаць у інтэрнат, як адразу пачаў чакаць званка. Ён думаў, што вось зараз ажыве тэлефон, запросяць яго ў госці, і будзе ён весці тое самае жыццё, якое было да паездкі. Усё стане як раней, калі пазіралі яму ў рот і выконвалі кожнае яго жаданне, і ён зноў стане жыць з гэтым неверагодна салодкім адчуваннем сваёй улады над дарослымі людзьмі. А эпізод з матацыклістам у Піцундзе забудзецца, гэта так, маленькае воблачка, якое набегла і сплыло, кропля ў лагодным цёплым бяспечным моры (мора яму вельмі спадабалася).

Аднак ніхто не званіў, нікуды не запрашаў, а сам ён званіць баяўся, каб не пачуць у адказ нешта кшталту: “Забудзь гэты нумар і ніколі больш...” – і тады ўжо дакладна ўсё скончыцца, і застанецца ён адзін, у інтэрнаце, з усімі сваімі цяперашнімі і будучымі праблемамі, незразумелай вучобай, немавед якой працай, з арміяй на носе.

Час ішоў. Лагун нібы апынуўся ў нейкай дурной пустаце. Ён ужо не сумняваўся, што здарылася нешта для яго нядобрае. Ён адчуваў, як яго ўлада над Інгай і яе мужам знікае, выпараецца, пяском высыпаецца праз пальцы. А ён жа яшчэ нічога не паспеў, ён нават не разблытаў справу з тым званком і да гэтага часу не ведае, ці вінаватая Інга ў смерці яго бацькі.

– Не, ну так жа не робіцца, – мармытаў ён сабе пад нос, і сусед, думаючы, што гэта Лагун рэпеціруе кінаролю, каб не перашкаджаць яму, ціха выходзіў з пакоя. Апошнім часам ён вельмі пачаў паважаць Лагуна. – Падабралі, прыгрэлі, прыручылі, а цяпер? Так добра было, і вось...

Узнікла настальгія па тых часах; захацелася апынуцца ў скуры таго непрыкаянага студэнціка, які быў нікім і якога падабраў некалі ў калядны мароз дзед Вечка. Лагун не вытрымаў, сабраўся і паехаў на кінастудыю. Яму хацелася адкруціць назад час. Зайшоў у гіпермаркет. І праўда, неяк шчымліва, соладка стала на душы. Успомніў, як хадзіў вакол студыі, уцягнуўшы шыю ў плечы, рукі ў кішэнях, не адважваючыся зайсці. Цяпер яшчэ горш. Ён і хацеў, і баяўся сустрэцца з Інгай. Што яна скажа, што падумае? Зайшоў у кінастудыю, пабадзяўся па калідоры, убачыў на адных дзвярах аркуш паперы з надпісам “Месца”. Ён стаяў перад ім і любаваўся, пакуль ззаду Рыта не аклікнула яго.

– Разам працуем у адной сферы, а ніколі не пагаворым.

Лагун узрадаваўся ёй. А яна разглядвала яго з непрыхаванай цікавасцю – загарэлага, памужнелага, статнага.

– Як справы ў маладога талента?

Лагун адказаў, што так сабе, у прынцыпе, добра.

– Добра? – усклікнула Рыта, і вочы ў яе загарэліся, як у паляўнічага, які налящеў на лёгкую здабычу. – Дык ты, можа, яшчэ нічога не ведаеш?

Выйшлі на двор, сталі пад таполю каля аптэкі. Беларускае сонца пасля паўднёвага было такім лагодным. З таполі ляцеў белы пух. Непадалёк вераб’і дзялілі з галубамі кавалак булачкі. Рыта між тым расказвала пра звальненне Інгі, што фільм замарожаны і хутчэй за ўсё не пойдзе, а паперка на дзвярах нічога не значыць. Здавалася б, гэтыя навіны павінны былі яшчэ больш увагнаць Лагуна ў паныласць. Але не ўвагналі. Наадварот, яму неяк лёгка было з Рытай. Лагун слухаў не столькі яе словы, колькі інтанацыі голасу. Усё, што з ёю звязана, было прыемным. Яна мяккая, хатняя, прыгожая, разумная. Яна ўпэўнена, што ён аўтар.

– ...Дзіўна, што ты не ведаў, – казала Рыта. – Ты ж нібыта жывеш у іх. Ты някепска ўладкаваўся.

Лагун ужо столькі разоў ад столькіх людзей чуў пра гэтае ўладкаванне, што ледзь не агрызнуўся: “Нідзе я не жыву!” Але стрымаў сябе і сказаў з вінаватай усмешкай, як кажуць у кінафільмах:

– Гэта не тое, што ты думаеш.

– Чаму тады ты ў іх? Што цябе там трымае?

– Мне... трэба... – пачаў ён. – Карацей, трэба адпомсціць. Аднаму чалавеку, – сказаў, і ўпершыню яму стала па-сапраўднаму сорамна; чамусьці ўсё, чым ён да гэтага займаўся і чым цяпер займаецца, падалося яму глупствам, і ўся задумка яго – дзіцячай, несур’ёзнай забаўкай.

Аднак Рыта нечакана і тут падтрымала яго.

– О, помста. Я цябе разумею. У мяне падобная сітуацыя. Таксама ёсць чалавек, якому хацелася б адпомсціць. Мы можам аб’яднацца. Але што за чалавек? Калі не сакрэт.

– Інга.
– Ну што ты, – здзівілася яна. – За што ёй помсціць?
– Яна хутчэй за ўсё... здаецца... магла быць палюбоўніцай... аднаго чалавека. Блізкага мне.
– Яна? Такая маралістка? Не можа быць. Нізашто не паверу. Інга не здрадзіць мужу ніколі, ні з кім, ні пры якіх абставінах. Няма на зямлі мужчыны, з якім бы яна здрадзіла мужу, – казала Рыта, а ў самой смяяліся вочы. – Але дапусцім. Нават калі так. І што? Помсціць за гэта?
– Не за гэта. Хутчэй за ўсё яна вінавата ў смерці таго чалавека.
– Што за жахі ты расказваеш.
– Яна пазваніла ў навальніцу. І тым самым забіла яго. Тэлефон прыцягнуў маланку.
Некаторы час яны моўчкі глядзелі адно на аднога.
– Пачакай, калі тое было?
– Калі здымалі фільм. У Акцябрскім.
– Гэта лухта, – хутка загаварыла Рыта, дастаючы новую цыгарэту. – Гэта немагчыма, так не бывае.
– Яе нумар адбіўся.
– Ну і што? – усклікнула Рыта. – Тэлефон не прыцягвае маланку! Падругое, можа, яна зусім нікуды не званіла. Ты не дапускаеш, што нехта мог без дазволу скарыстацца яе тэлефонам? Проста ўзяць яе тэлефон і пазваніць. Пакуль яна, напрыклад, душ прымала. Дарэчы, яна сама ў курсе? Ты пытаў у яе?
– Не.
– Дык спытай. І акажацца, што яна ні сном, ні духам, ні ў чым не вінаватая. Хаця, – журчэў Рыцін голас, – я б табе не раіла чапаць яе. Асабліва цяпер. Увогуле, табе трэба трымацца ад іх далей.
– Чаму?
– Якія ж вы, мужчыны, сляпыя і нездагадлівыя, – Рыта ўздыхнула. – Ну сам падумай, чаму яна так сябе паводзіць.
– У яе алергія, – сказаў Лагун.
– Алергія... Як жа! – пасміхнулася Рыта.
Які б ні быў Лагун тугадумны, але і да яго нарэшце пачало даходзіць. "Дык вунь яно што! Цяпер усё ясна. Усё зразумела!" Зноў нядобрыя думкі ажылі і заварушыліся ў ім. А Рыта, нібы не заўважаючы гэтага, заманліва шаптала:
– Пакінь ты іх у спакоі. Бо гэта ўжо далёка зайшло. Нашто табе лішнія праблемы? Ты хочаш непрыемнасцяў? Дык ты іх атрымаеш. Хай яны жывуць сабе. Усё, што мог, ты ад іх ужо ўзяў, а што не паспеў, тое, можа быць, змагу даць табе я. З тваім талентам...
Але ён ужо не слухаў. Усё ж такі перахітрылі, абвялі вакол пальца, пакінулі ні з чым. Скарысталіся яго дабрынёй. Ён яшчэ таксама! Як можна было ўмудрыцца нічога не ўзяць з такой сітуацыі?
– Гэта што ж – так і скончыцца? Гэта ўсё? – разгублена пытаў ён, невядома да каго звяртаючыся. З усіх бакоў ён адчуваў сябе абдзеленым, несправядліва пакрыўджаным. – Ну, не! Ну, не! – З кожным паўторам яго голас набіраў абурэння, надзімаліся шчокі і нават вусны пачыналі трымцець ад крыўды. – Я маўчаць не буду... Не на таго напалі! Са мной нельга так... Я аўтар, малады, таленавіты, пачынаючы... Я...
Рыта моўчкі, насмешліва глядзела на яго.

# 33

І яшчэ адзін чалавек у гэты час пакутаваў і лічыў сябе абдзеленым. Гэта быў Максім Камар. Можа, калі б не яго раптоўны, такі яскравы ўзлёт, ён бы змірыўся і цягнуў бы лямку звычайнага, працавітага, але не крэатыўнага, сярэдняга кар'ерыста далей. Але ўспамін пра той свой зорны час пасяліўся ў ім і не даваў супакою, не пакідаў ні днём, ні ноччу, даводзячы яго да пакутлівых бяссонніц. Надта ж цудоўным, падобным на казку ці на чароўны сон, было яго ўзвышэнне. З болем і захапленнем Камар успамінаў імгненні таго кароткага перыяду, чым толькі яшчэ больш развярэджваў сябе. Пераглядваў кавалак відэа – пачатак заказанага ў рэстаране з прычыны ўступлення ў новую пасаду банкета, на якім прысутнічалі, акрамя ганаровых гасцей, яго маці, яго старэнькая першая настаўніца, выкладчык ВНУ, два школьныя і тры ўніверсітэцкія сябры; як звінелі чаркі і бакалы, адусюль нёсся ап'яняючы шум пахвальбы і ліслівасці, з усіх куткоў гучалі ціхія і адначасова аглушальныя кампліменты. Яны і цяпер стаяць у вушах. Якія словы гаварылі! Якія тосты! Вось яна, слава. Дзеля гэтага варта жыць. І сам ён, Камар, расчулены, з вільготнымі вачамі, усім дзякаваў, кланяўся, прыціскаючы руку да грудзей.

Разам з гэтым успаміналася і тое, чым усё скончылася. У самы разгар банкета, на вышэйшай кропцы яго ўзлёту, узнік малады, але важны чыноўнік, якога даўно чакалі, папрасіў дазволу на хвілінку забраць віноўніка ўрачыстасці, вывеў пад руку ў калідор.

“Вы ведаеце, адбылося нешта звышнепрадбачанае. Там, наверсе, раптам зацвердзілі іншую кандыдатуру. Міхалевіч-Яравую”.

“І яна згадзілася?” – спытаў Камар і не пазнаў уласнага голасу.

“Так. Сама захацела”.

“І як цяпер быць? – разгублена спытаў Камар. – Адпусціць гасцей? Рабіць выгляд, што нічога не адбылося? Што вы параіце?”

Чыноўнік развёў рукамі, паказваючы, што ён у такія сітуацыі не трапляў, так што выкручвайцеся самі як можаце. Госці прыціхлі. Затым папоўз між імі шэпт, пачало перадавацца, што здарылася нешта нядобрае, скандальнае. У Камара быў бледны твар, яго трэсла, і ўсе бачылі гэта. І маці, і настаўніца, і жонка, і дачка. Крыўда, злосць, прыніжэнне – усяму гэтаму тады не было краю. Усё ён перажыў і вярнуўся на ранейшае месца вонкава такім самым, як і быў, ветлівым, інтэлігентным, ціхім. Але ўсярэдзіне боль не думаў аціхаць. Смылела аж да гэтай пары, калі ўсё ўжо больш-менш пачало забывацца. Да ўсяго ён адчуваў амаль фізічныя пакуты, калі бачыў, або нават толькі ўяўляў, Інгу ў сваім ранейшым кабінеце – кабінеце, які за кароткі час так паспеў абжыць, за сталом, які паспеў так палюбіць. Варта было яму заплюшчыць вочы, як перад ім усплывалі стол, столь, вокны, крэслы паўз сцены. Ён быў такі гатовы да гэтага месца, так чакаў яго, так хацеў.

Калі б яго замяніў чалавек, лепшы за яго, яшчэ можна было б цярпець. Але Інга! Вось гэта было самым крыўдным. Камар уражваўся чалавечай несумленнасці. Ён хоць свой сцэнарый, сваё сімпатычнае, хоць і без прэтэнзій, “Рамонкавае поле” прапаноўваў. А Інга? Першае, што зрабіла, – прыцягнула пратэжэ, ці палюбоўніка, ці хто ён ёй там. Адкрыта! І цяпер усе носяцца з хлапчуком, які яшчэ нядаўна кошыкі ў гіпермаркеце збіраў, а цяпер усюды заходзіць, ледзь не нагамі дзверы расчыняючы.

І з той жа сілай, з якой Інга жадала пазбавіцца ад пасады – свайго месца, Камар з той жа сілай, толькі мацнейшай, жадаў, імкнуўся і ў снах бачыў, як бы гэтае месца вярнуць назад.

“Не для таго дабіўся я ўлады, каб камусьці яе аддаць! Не для таго заняў гэтае месца, каб хтосьці іншы на ім сядзеў!” Вось зноў – месца. “Трэба ж, як трапна назваў”, – пераскокваў ён да Лагуна. З чаго ж усё і пачалося. “Месца”, “Месца”... Харошая назва.

Камар увесь проста сыходзіў жоўцю. Яго рану нібыта пасыпалі соллю. І ва ўсім вінавата была Інга. Каб не яна, усё вырашылася б імгненна і на яго карысць. У каторы раз ён ліхаманкава абдумваў, вышукваў выйсце. Але замест логікі быў суцэльны адчай чалавека, заціснутага, загнанага ў кут. І толькі адзіны ратунак бачыўся яму. Хоць і страшна было нават думаць пра гэта, але – так, як лёгка вырашылася некалі з Хрушчанкам, таксама можа вырашыцца і з Інгай. Няшчасны выпадак. Чаму б не?

– Тым больш у Інгі таксама алергія, – развражаў ён уголас.

Упэўненасць, што толькі смерць усё можа вырашыць, падказвала яму ў фантазіях самыя смелыя спосабы ліквідацыі чалавека. Неяк, сам не разумеючы, навошта, пачаў набіраць у пошукавіку “яды і атручванні”, затым апамятаўся, спалохаўся, падумаў, што знойдуць – цяпер што хочаш знойдуць, потым супакоіўся: чорт з імі, скажу, для творчасці трэба; маўляў, пішу сцэнарый з забойствам, трэба дэталі. Творцам можна тое, чаго іншым нельга. Ужо смела лазіў па сайтах, вычытваючы выпадкі разнастайных атручванняў, і ўсе яны да аднаго здаваліся яму надзвычай хітрымі, талковымі і бяспройгрышнымі.

Адна гісторыя найбольш яго зацікавіла. Супрацоўнікі па службе, ён і яна, службовы раман. А дзе раман, там падман. Яны былі сябрамі. Але вось яе раптам павысілі па службе. Ён ледзь не памяшаўся ад крыўды і зайздрасці. Ведаючы, што ў яе алергія на арахіс, купіў яе любімы торт, нашпігаваў яго арахісам і пайшоў віншаваць яе з павышэннем. Яна ні аб чым не здагадалася. Калі яна пачала задыхацца, чатыры гадзіны не падпускаў яе да тэлефона, не даваў пазваніць. Яна пакутліва памірала ў яго на вачах. Калі яна перастала дыхаць, ён выцер адбіткі пальцаў, вымыў посуд, забраў недаедзены торт і пайшоў дамоў. І што б вы думалі? У яе аказаўся таемны палюбоўнік, малады чалавек, якога неўзабаве і ўзялі пад белыя рукі. Убіты горам, ён мала разумеў, што адбываецца, і з усім згаджаўся. Быў у яе ў той дзень? Быў. Так бы і скончылася, калі б забойца, які, дарэчы, атрымаў-такі запаветнае месца, пачаў ледзь не адкрыта расказваць каму папала, хваліцца, які ён спрытны і як здзейсніў ідэальнае забойства. І на тым пагарэў.

Нічога не скажаш. Вось выпадак, падобны да яго. Але Камар з жалем мусіў прызнаць, што гэты варыянт нікуды не варты. Ніякія сілы не прымусяць Інгу нават у рукі ўзяць нешта ад яго. Ды і не ведае ён, на што ў Інгі алергія. Можа, не на арахіс.

Ратавалі яго размовы з жонкаю. Яны былі і аддушынай, і псіхатэрапіяй. Жонка адна разумела і шкадавала яго, перажывала за яго. З жонкай ён мог быць самім сабою. Ён дзяліўся з ёю развагамі пра Інгу.

– Я хоць трымаюся знешняй прыстойнасці, – казаў. – А яна? Усе, уся кінастудыя ведае пра трохкутнік, пра тое, што малады сцэнарыст жыве ў іх. Я, вядома, са свечкаю не стаяў, але не здзіўлюся, калі яна здраджвае мужу з ім. Чаму не? Чым тады яна лепшая за мяне?

– Нічога, – суцяшала жонка. – Нічога, люба, – менавіта так яна пачала называць мужа апошнім часам, ад слова “любы”. – Ты ўсё адно лепшы за іх і больш за ўсіх заслугоўваеш.

– Яшчэ пытанне, як яна дабілася гэтага месца. Можа, не без крыміналу. Тады, на фуршэце, успамінаю, яна стаяла блізка ад небаракі Хрушчанкі, ці мала што магла яму сыпнуць. У яе самой алергія, і яна павінна ведаць усе доты і антыдоты.

– І ўсё дзеля чаго! – пагардліва азвалася жонка. – Вось яны, падводныя камяні мастацтва!

– Камяні, толькі не мастацтва, а брудных інтрыг, падседжванняў, падкопаў.

– Бедны ты мой, – спачувальна казала і з жалем глядзела на яго жонка. – Ну, нічога. Хутка ўсё скончыцца. Павер мне. Усё будзе добра, і зноў ты апынешся на вышыні.

Тое ж самае жонка казала і раней, калі Хрушчанка быў жывы. У прынцыпе, яна ўсё жыццё паўтарала банальныя сентэнцыі, кшталту “кожны каваль свайго шчасця”, “чалавек варты таго жыцця, якім жыве”, “хочаш быць шчаслівым, будзь ім”. Але цяпер Камар з прагнасцю, з падзякаю прымаў яе словы.

– Я часта думаю: хай бы ўжо заставаўся Хрушчанка. Пры ім лепш было.

– Ты, галоўнае, ні аб чым не думай. Лягай спаць і ні аб чым не турбуйся, – казала жонка з інтанацыяй жабкі-царэўны. – Пераначуем – больш пачуем.

Ён паслухмяна лягаў спаць. Сны цяпер яму (мо таму, што пачаў ужываць снатворнае) сніліся каляровыя, выпуклыя, выразныя, з дыялогамі – як выпісаныя сцэнкі ў кінасцэнарыі. І часта сніўся Хрушчанка. Калі Камар сустракаўся з ім у сне, яго заўсёды ўражвала, што былы гендырэктар намнога лепш выглядае, чым калі быў жывы. Здаровы, бадзёры, памаладзелы – нібыта выкупаўся спачатку ў вадзе халоднай, затым – у гарачай і ў канцы – у кіпячым малацэ.

– Ну што? – пытаў Хрушчанка. – Як вам без мяне? Лёгка без бацькі?

– Ох, нялёгка!

– Будзеце ведаць, як крытыкаваць начальства. Запомніце: пакуль ёсць я, мяне хоць пасласць можна. Усё можна валіць на мяне. Я ваш громаадвод.

– Дык вы ўваскрэслі?!

– Я і не паміраў. Я проста вырашыў сысці ад праблем. Саскочыць, як кажуць. Даволі распаўсюджаны прыём.

– Як жа ў вас гэта так спрытна атрымалася?

– Ад духаты мне сапраўды стала блага. І тады я скеміў, што маю выдатную магчымасць адпачыць, адляжацца ў санаторыі, а заадно даць вам волю і паглядзець збоку, што з гэтага атрымаецца. Самаўхіленне. Ляжы і глядзі – памятаеш такі фільм?

– Але як жа дактары? Як вы іх падманулі?

– Дактароў, аказваецца, падмануць яшчэ лягчэй, чым даверлівых гледачоў і чытачоў. І ўсё гэта я сам прыдумаў. А вы казалі, я бяздарны, далёкі ад мастацтва, косны, тупы, кепскі сцэнарыст.

– А як жа провады, пахаванне, памінкі? Вы, атрымліваецца, падманулі ўсіх! – гарачыўся ў сне Камар. – Сімулявалі смерць!

– У пэўным сэнсе так. Нікому неахвота быць мёртвым.

– Хіба не было іншага, менш радыкальнага спосабу сысці ад праблем?

– У тым і справа, што не было. Вы, можа, не ведаеце, што кінастудыя наша ўсё роўна цю-цю. Асуджана на знікненне. Але тады разам з вамі пайшоў бы на дно і я, як капітан тонучага карабля. Я непазбежна апынуўся б у гушчыні падзеяў, замазаны і запэцканы. Інтрыгі, падкопы – тонкая рэч! А так атрымліваецца, што я ні пры чым, і ніхто не здагадваецца, што я шморгаю за нітачкі і ніколі нават не аслабляў сваёй улады.

Адчуваючы, што сон вось-вось скончыцца, Камар ірваўся паспець задаць яму пытанні:

– Як на тым свеце?

– Горш, чым на гэтым.

– Што самае страшнае ў жыцці?

– Дабіцца ўсяго, чаго хацеў, аб чым марыў – і памерці сваёй смерцю. Хаця мне гэта не пагражае. Не ў маіх правілах хваліцца, але я вас усіх перажыву.

Камар у сне пішчаў з захапленнем і слязамі:

– Вы вечны!

– Так, я вечны.

“Вечны, вечны”, – усхліпваў Камар. А калі прачнуўся, дык не змог успомніць адказаў Хрушчанкі. Пытанні свае помніў, а адказы вылецелі з галавы ці, лепш сказаць, круціліся на языку, блыталіся, але, як ільдзінкі ў Кая, у словы складвацца не хацелі.

– Да чаго сняцца нябожчыкі? – спытаў Камар у жонкі.

– Да перамен, люба, – адказала яна.

– Надвор’я?

– І надвор’я таксама. Вунь якая хмара насоўваецца!

## 34

Было каля дзесяці раніцы, а цёмна. Збіралася навальніца, хмарыла. Міхалевіч сядзеў на тэрасе і глядзеў тэлевізар. Інга звычайна яшчэ спала ў такі час; ён часта кпіў з яе: маўляў, “ты ў нас ранняя птушка”, выдатна ведаючы, што Інга птушка позняя – сава. Але сёння сапраўды з самага ранку яна паехала на кінастудыю ўтрэсваць бюракратычныя фармальнасці наконт звальнення.

Інга цяпер увесь час знаходзілася ў раздваенні, якое пачалося пасля прыезду мужа з поўдня, з яе раптоўнай здагадкі, што паміж яго змораным выглядам і кроплямі для носа існуе сувязь. Яна жахнулася ад гэтай здагадкі і, тым не менш, купіла мужу новы флакон. Вось тады і пачалося раздваенне, якое проста разрывала яе папалам. То, калі яна не бачыла мужа, ёй хацелася бегчы, ехаць, ляцець дамоў, ратаваць яго, крыкнуць: спыніся! – усё яму расказаць, ва ўсім прызнацца; яна не **сумнявалася,** што ён даруе ёй што можна і чаго нельга, выбачыць мінулае, цяперашняе і будучае, і яна адчувала палёгку, як чалавек, які п’е ў сне і напіваецца, – але, прачнуўшыся, пакутуе ад яшчэ большай смагі: дастаткова было ёй толькі ўбачыць мужа, блізка стаць, пачуць яго голас, як ёй нібыта сшывалі вусны, счаплялі іх замком і замыкалі на ключ. Яна не магла вымавіць ні слова, нібы камянела, і ў вачах яе чыталася ўпартае цярпенне і зацятае чаканне. Тым больш нешта падказвала ёй, што цярпець і чакаць засталося нядоўга.

Хмарыла, цямнела, парыла. Міхалевіч пацёр левую грудзіну, дзе сэрца. Пасля Поўдня яно чамусьці забалела і пачало шчымець, асабліва на перамену надвор’я. Знаёмы сардэчнік расказваў, што пры навальніцы лягае

на падлогу на жывот і так ратуецца: боль адцягвае ад сэрца. Міхалевіч успомніў і засмяяўся. Калі не лічыць гэтага шчымлення, ва ўсім астатнім ён адчуваў сябе зусім здаровым – і ад таго шчаслівым. Раптам успомніўся ні з таго ні з сяго Хрушчанка. Вось каму не пазайздросціш... З іншага боку, каб не было такіх небаракаў, хіба адчувалі б мы так востра ўласнае шчасце? Простае шчасце ад таго, што жывем, існуем, дыхаем.

Хмара падыходзіла бліжэй і злавалася. Пацямнела амаль як уночы. Ужо чуўся пошум ветру і строкат першых, пакуль рэдкіх кропляў дажджу ў голлі. Завіс кадр у тэлевізары. Міхалевіч паляпаў каля сябе рукою, шукаючы пульт. Ён нязграбна павярнуўся і змахнуў з канапы на падлогу ўсё: тэлефон, пульт, флакончык з кроплямі. Міхалевіч нагнуўся іх падымаць. У гэты момант бліснула сляпучая маланка, затым трэснула неба, гахнуў гром, і адначасова нешта лопнула ў яго галаве і адарвалася. Ён адкінуўся на спінку канапы. Кроў у ім паднялася аднізу, пацямнела ўваччу, затым цёплая хваля роўна заліла яго твар.

Калі Інга дабралася да дома, навальніца бушавала як на канец свету. Сярод касога дажджу, маланак і грому яна, пакуль дабегла па сцежцы да тэрасы, прамокла да ніткі. Дождж залівае падлогу каля ганка. Муж спакойна сядзеў спінай да яе на канапе перад тэлевізарам, які сняжыў.

– Што там робіцца!.. – пачала яна, але падавілася словам. Бо як толькі ўбачыла гэтую спіну, патыліцу, знаёмую лысую макаўку з вушамі абапал, так не магла адвесці ад іх вачэй, як ад безаабароннай, такой заманлівай мэты. Бог ведае, да чаго б яна дадумалася, куды б гэта яе прывяло, каб не ненатуральнасць сцэны: муж не варушыўся, не адказваў, не павярнуўся. Было ў гэтым нешта насцярожваючае; жывыя так не сядзяць. Яна агледзелася больш уважліва і толькі цяпер убачыла раскіданыя каля канапы па падлозе рэчы: пульт, навушнікі, тэлефон, флакончык з кроплямі, нядаўна куплены, толькі пачаты. Яна абышла іх, робячы мокрыя сляды, і зазірнула мужу ў твар. Міхалевіч сядзеў з адкрытымі ашклянелымі вачамі. На пасінелым твары застыла абсалютна шчаслівая ўсмешка. Але калі Інга прыгледзелася, то зразумела, што гэта грымаса болю. Каб не ўскрыкнуць, яна аберуч закрыла сабе рот. Потым, перамагаючы страх і агіду, дакранулася да яго пляча. Ён споўз уніз, як мех, і распластаўся на падлозе. Інга прысела перад ім на кукішкі. Памацала пульс на руцэ. Пашукала вену на шыі. Нагнулася і прыклала вуха да яго грудзей. Сэрца білася моцна, пругка, роўна, пакуль яна не зразумела, што гэта яе ўласнае сэрца. Перад ёй на падлозе ляжаў мярцвяк, труп. Яна прысела на канапу. На твары яе нічога не адбілася. Можна было падумаць, што менавіта гэтага яна і чакала.

Сцякала з абутку і з адзення вада. Сняжыў тэлевізар. На дварэ святлела, хмара сплывала, лівень перайшоў у роўны дождж. Інга сядзела і адчувала, акрамя неверагоднай палёгкі, якая бывае пасля вялікай утомы, яшчэ і нейкую спакойную заміранасць. Вось і ўсё. Нікому нічога не трэба было даказваць, як і баяцца больш не было каго. Вялікі Сцэнарыст усё вырашыў сам, і так, як лепш для ўсіх.

Пасядзеўшы даволі доўга – больш, чым трэба, яна паднялася, асцярожна, стараючыся не парушыць размяшчэння рэчаў, падняла пульт, выключыла тэлевізар, паклала пульт на месца. Дацягнулася на дыбках і спыніла стрэлкі гадзінніка на сцяне. Перавярнула тыльным бокам і завесіла ручніком авальнае люстра на шарнірах. Падушачкамі пальцаў закрыла мерцвяку халодныя павекі. І толькі тады дастала з сумачкі тэлефон.

## 35

Так закончыўся эксперымент са стварэннем нацыянальнай кінастудыі. Але сама гісторыя яшчэ мела працяг і нават кароткі эпілог. Пачаць з таго, што прычына смерці беднага Міхалевіча раскрыта была не адразу. Яе, як і некалі ў выпадку з Хрушчанкам, таксама хацелі спісаць на няшчасны выпадак з дыягназам “адрыванне тромба”, і так, хутчэй за ўсё, і зрабілі б, каб не сястра нябожчыка, якая тэрмінова прыляцела з Аўстраліі. Звышэнергічная, апантаная жаданнем чаго б ні каштавала выкрыць, як яна лічыла, злачынцаў, хітрую нявестку з палюбоўнікам, аб якіх паспела паведаміць ёй чыясь добрая ананімная душа. “Усіх мярзотнікаў пазнаходжу і выведу на чыстую ваду! Ніхто не схаваецца пад плінтусам!”

Запахла міжнародным скандалам. На гэты раз экспертыза спрацавала хутка і якасна. Кароткае заключэнне было як удар бліскавіцы – гвалтоўная смерць. Наступіла ў выніку спынення сэрца. У кроплях для носа, якімі карыстаўся Міхалевіч, была выяўлена павышаная канцэнтрацыя сасудазвужальнага рэчыва. Калі капаць яго рэгулярна, смерць можа наступіць праз кароткі тэрмін, а галоўнае, чалавек сам забівае сябе. Так што сястра-аўстралійка не памылілася. Гэта было прадуманае, загадзя спланаванае забойства, прычым, цалкам верагодна, двайное, бо надта ж падобнымі былі і самі сабой супастаўляліся дзве смерці: Хрушчанкі і Міхалевіча.

Следчы найперш, канечне, узяўся за гаспадыню флакончыка, Інгу. Яго цікавіла, як кроплі патрапілі да яе мужа. Інга адказала, што даўно імі не карыстаецца, флакон набыла ў маленькай аптэцы каля кінастудыі, а муж, калі ездзіў на Поўдзень, па сваёй звычцы ўсё “пазычаць”, забраў, потым папрасіў купіць новы. На пытанне, чаму не карысталася, Інга, у жалобна-чорным адзенні, сумная, прыгожая, адказала: не карысталася, бо не было патрэбы, алергія прайшла. І, цнатліва апусціўшы вочы, патлумачыла – прайшла, бо яна цяжарная, і арганізм актыўна перабудоўваецца. Тут, само сабой, усе пытанні адпалі; стала ясна, што ў Інгі не было ніякіх матываў жадаць мужу смерці; толькі на развітанне следчы яшчэ спытаў, ці не заўважыла яна на ўпакоўцы або на самім флаконе чагосьці падазронага, можа, слядоў ускрыцця?

“Не, – адказала Інга, – я яго нават не распакоўвала. Як купіла ў аптэцы, так і забраў муж”.

Вопытны, адзін з лепшых у сваёй справе следчы, прадчуваючы хуткую развязку, адразу ж адправіўся ў названую аптэку, невялікую, на два вакенцы. Прагледзеў запісы відэакамер. Затым надышла чарга аптэкаркі, жонкі Камара, якую зафіксавала камера ў момант продажу Інзе злашчаснага флакона. Яна і не думала адпірацца. “Так, гэта зрабіла я. Аб адным толькі шкадую – не давяла да канца!”

Што тычыцца Хрушчанкі, заявіла яна, ён памёр сваёй смерцю, яна тут ні пры чым. Але менавіта той выпадак навёў яе на думку прыбраць з дарогі чарговую канкурэнтку. А так як яна працавала ў аптэцы, мела доступ да лекаў, ведала, што менавіта купляе Інга, у яе і выспеў хітры план. Асцярожна, акуратна яна ўскрыла ўпакоўку, тонкім шпрыцам напусціла ў флакон смяротнае рэчыва, запакавала і спакойна прадала Інзе. “Каб не займала чужое месца. Яны ўсе не варты мізінца майго мужа!” – “Але як вам удалося? Гэта ж вельмі складана!” – “Прасцей простага, – пасміхнулася яна. – Было б уменне і жаданне”.

Пры вобшуку ў яе дома знайшліся доказы: сасудазвужальнае рэчыва і

шпрыц з танюсенькай, ледзь бачнай, танчэй за камарыны нос іголкай. Жонка Камара ні ў чым не раскайвалася, ні аб чым не шкадавала. На заўвагу, што загінуў бязвінны чалавек, адрэзала: "Ад памылак ніхто не застрахаваны".

Так раскрылася злачынства, матывам якога была звычайная зайздрасць, банальнае прыбіранне канкурэнтаў у выніку барацьбы за месца. Нічога новага, акрамя таго, што адбылося ўсё ў творчым асяродку, ды яшчэ ў нібыта нацыянальна-арыентаваным калектыве. З гэтай прычыны, ці з іншай, але справа з побытавага ўзнялася на грамадска-палітычны ўзровень.

"...Цяпер відавочна, – паведамляла неабыякавая асоба, – як усё гэтак званае "нацыянальнае" дзе ні з'явіцца, там дыскрэдытуе сябе. Людзі, прызначаныя ствараць патрэбны грамадству кантэнт, у нашым выпадку – кінапрадукт, самі сталі дзейснымі асобамі якогась фільма, і за імі можна было назіраць, як праз шкло акварыума ці, хутчэй, тэрарыума. Хай гэта паслужыць урокам для асноўнай кінастудыі, якую ў хуткім часе таксама чакае сур'ёзная рэфармацыя. Час, нарэшце, перастаць пераводзіць грошы падаткаплацельшчыкаў на сумнеўныя нац. праекты і нац. эксперыменты, а ўсе сілы, усе людскія і матэрыяльныя рэсурсы кінуць на падтрымку братняй кінаіндустрыі, усяляк спрыяць яе далейшаму росквіту, папулярызаваць і несці ў масы яе дынамічныя серыялы, у якіх выразна размежавана дабро і зло і глыбока прапісаны жывыя дыялогі..."

Такім чынам лёс "Filmbell'a" быў вырашаны. Як баявая адзінка, якая страціла сцяг, кінастудыя падлягала неадкладнаму расфармаванню. Зрэшты, ніхто асабліва з гэтай нагоды не перажываў. Жыццё ішло, пакрысе забылася ўсё, нават тое, што такая кінастудыя некалі існавала. Пасля яе ліквідацыі сябры, Іван Барысавіч Вечка з рэжысёрам Скіндзерам, вярнуліся на асноўную кінастудыю – падпрацоўваць на серыяльнай ніве: адзін па-ранейшаму статыстам і каскадзёрам; другі – ажыўляць дыялогі. Акрамя таго Вечка І.Б. нарэшце скарыстаўся магчымасцю пісаць пад сваім іменем і стварыў сцэнарый – на ваенную тэму, які імгненна быў прыняты, адобраны і запушчаны ў вытворчасць. Рэдактаркай яго была ніхто іншая, як Рыта. Яна таксама знайшла сябе на асноўнай студыі. У чат маці-адзіночак яна ўжо амаль не піша, затое рэгулярна пасылае лісты Лагуну, які служыць у войску. Смерць Міхалевіча так яго напалохала, думка, што яго могуць палічыць забойцам ці нават толькі падазраваным у забойстве (менавіта ж ён ездзіў з Міхалевічам у Піцунду, яны сябравалі, разам бавілі час), так на яго падзейнічала, што ён сам пабег у ваенкамат і папрасіўся, каб яго хутчэй прызвалі. Так ён у чарговы раз выйшаў сухім з вады. Праўда, раптоўная смерць апекуна адбіла ў яго ахвоту шукаць вінаватых у гібелі бацькі; больш ён нават не ўспамінаў пра званок на бацькаў тэлефон, з якога ўсё пачалося, і зразумела, чаму: бо на ўласнай скуры адчуў, якая тонкая мяжа аддзяляе вінаватага ад невінаватага. Так што разгадка званка яшчэ наперадзе; тым больш, у лістах Лагун абяцае пазнаёміць Рыту са сваёй маці і з айчымам, а значыць, у Рыты ёсць усе шансы сустрэць чалавека, які некалі ёй здрадзіў і якому яна збіралася адпомсціць.

Інга Міхалевіч-Яравая падалей ад усіх трывог і бед з'ехала на часовае жыхарства ў Аўстралію. На тым настаяла сястра мужа. Калі яна даведалася, што Інга носіць дзіця ад яе любімага брата, яна нізавошта не захацела пакідаць яе адну і ўрэшце ўгаварыла на пераезд. (Зрэшты, злыя языкі пагаворвалі, што Інга пайшла на такі непатрыятычны крок, каб будучае дзіця па нараджэнні займела чужое, але прэстыжнае грамадзянства.)

На магілу яе мужа нехта дасюль прыносіць жывыя кветкі.

Алесь Дуброўскі-Сарочанкаў



...напісанае –
аднойчы
голасам прарасце!..

# Пешшу

* * *

...Мая ежа ёсць тварыць волю Таго, Хто паслаў Мяне...
**Евангелле паводле Яна 4:34**

Мая ежа – у бязмежжы
чатырох маўклівых сцен
белай келлі ў белай вежы.
Белы дзень і чорны цень...

Белы дзень пустой паперы,
чорны цень радкоў-шляхоў,
што вядуць-нясуць наперад
па-над немасцю снягоў –

праз марознае бязмежжа,
праз завею, напрасткі.
Мая ежа – пешшу, пешшу
працярэбліваць шляхі.

*12 сакавіка 2023*

* * *

Дзялілася целам са мною зямля,
а я з ёй дзяліўся духам
і тайны расказваў садам і палям,
якія не тут падслухаў.

Маўчалі ў сумненні званочкі і мак
сярод магільных крыжоў,
а я ім расказваў, што смерці няма
там, адкуль я прыйшоў.

Я тайны расказваў і слухаў зямлі
незразумелы шэпт.
І ў сінюю немасць хвіліны плылі –
далей, і глыбей, і вышэй...

*26 студзеня 2023*

* * *

Як незакончаны аўтапартрэт,
на жаль, падобны да арыгінала,
жыццё глядзіць на гэты белы свет
вачніцамі чарговага вакзала.

Уяўная бясконцасць цягнікоў,
шляхоў, сутоння і прадонняў зорных...
Уяўная надзея, без якой
на гэтым белым свеце надта чорна.

І так спяшаецца ўвесь белы свет,
і так імчацца цягнікі спацелыя,
што не паспееш свой аўтапартрэт
дамаляваць на шкле абледзянелым.

*10–11 лютага 2023*

* * *

Зліцца з бяздонным фонам
гэтай бясконцай зімы.
Выйсці з камфортнай зоны...
(Што за камфорт турмы?)

Быццам вярнуцца ва ўлонне
першага Сёмага Дня.

Змераць углыб бяздонне –
каб адштурхнуцца ад дна.

*10 сакавіка 2023*

* * *

...Чалавек не можа ўбачыць Мяне і застацца жывым.
...Я пастаўлю цябе ў расколіне скалы і накрыю цябе рукою Маёю, пакуль не прайду; і калі прыму руку Маю, ты ўбачыш Мяне ззаду...

**Выхад 33:20-23**

Зірнуўшы ў твар бяздоння, нельга
жывым застацца:
жывыя – тыя, хто зямельку
рукамі мацаюць,

па дне начэй і дзён нагамі
трывала ходзяць,
а тут шукаеш дно з агнямі –
і не знаходзіш.

Так, днём – з агнём, а ноч у вочы
глядзіць – і слепнеш.
Зірнуць у твар бяздоння хочаш?
Падумай лепей!

Бяжы ў лясы, цягніся ў горы,
зарыйся ў насып,
схавайся ў шчыліну прасторы
ад твару часу.

Каб ад імгненняў не загінуць –
схавайся ў рэчах.
І пройдзе Час... Тады са спіны
ты ўбачыш Вечнасць.

*15 сакавіка 2023*

* * *

У літургічным календары
дзіўнай канфесіі цішы і сіні –
свята маўчання. І – ціха ў святыні.
Цень – на двары і святло – угары.

Свята маўчання і строгасць пастоў:
пад забаронай нячыстая ежа.

Толькі – бяздонна-празрыстыя вершы,
рыфмы паветра і шолах кустоў.

Толькі прамення віно ў алтары,
толькі дыханнем келіх напоўнены...
У літургічным календары –
свята ўслухоўвання... у невымоўнае.

*21 сакавіка 2023*

* * *

Ступар хвілін і дзесяцігоддзяў,
губ трымценне і рук
прагна хапае папера, як злодзей,
каб абмяняць на гук.

З цвёрдых валют – толькі рыфмы і стопы –
там, дзе банкруцтва эпох.
Прагна хапай пустату прасторы,
холад вачэй і дарог,

сэрцаў трымценне, сцяблінак кволых,
лёсаў сухое галлё,
каб абмяняць на звонкае золата
зарыфмаваных слёз.

*26 сакавіка 2023*

* * *

Я люблю адгадваць загадкі
і даследаваць, як цячэ
на зямлю з неба золата вадкае
і як плавіцца срэбра начэй.

І няхай потым гэтыя формулы
расшыфроўваць не будзе каму.
Проста дзіўныя літаркі чорныя
сваю белую любяць турму.

І паперы коўзанка гладкая
вабіць, быццам лёд на рацэ.
У гульні і ў жыцці не адгадка
зачароўвае,
а
працэс.

*30 сакавіка 2023*

## ВЯЛІКДЗЕНЬ

### *I*

А ўваскрэсшы рана ў першы дзень тыдня, Ён з'явіўся спярша Марыі Магдаліне, з якое выгнаў сем дэманаў.

**Евангелле паводле Марка 16:9**

З каго – сем дэманаў – да той
прыйшоў да першай.
Блудніца – станешся святой.
У неба – пешшу.

Так лёс твой ходзіць пехатой
па вузкіх сцежках.
З каго – сем цёмных д'яблаў – той
прамення ўсмешка.

Аблокаў ільняны сувой –
душы адзежа.
З каго – начэй сем чорных – той
святла бязмежжа.

*15 красавіка 2023*

### *II*

...Яны яшчэ не ведалі з Пісання, што Яму належала паўстаць з мёртвых.

**Евангелле паводле Яна 20:9**

...Вочы ў іх былі заслоненыя, так што яны не пазналі Яго.

**Евангелле паводле Лукі 24:16**

Усё, што мае адбыцца,
напісана ўжо даўно.
Чытайма першакрыніцы,
калі на планеце ноч.

Калі не ўглядацца сэрцам –
знаёмы твар не пазнаць.
Сюды, на планету смерці,
павольна ідзе вясна.

Павольна мастацтву чытання
нас вучыць наш свет начны.
Ды ўрэшце на ўсе пытанні –
світанне пустой труны,

паўстанне з маўчання ночы,
падзенне каменных сцен.
Напісанае –
аднойчы
голасам прарасце.

*8 красавіка 2023*

* * *

У прывіднай віднаце
празрыста распісаных роляў
павольна сваволіць цень
тваёй няўлоўнае волі
і не заўважае ныцця
жалезна-лагічных абстракцый:
ва ўтульным прадонні быцця
няма вам куды спяшацца.
Няма дзе шукаць парад,
няма цябе ў спісе роляў.
Тваё амплуа – сузіраць
маўклівых глыбінь сваволле.
Глядзі, як маўчыць зямля,
як зоркі маўкліва скачуць,
як гэты Сусвет-немаўля
сваволіць без крыку і плачу,
як робіцца вечнасцю час
без спешкі, плана і мэты,
як радасна-пуста ў вачах
і ў снах немаўляці Сусвету.
Маўчанне пустых вышынь
на памяць вучы, на памяць.
Спяшацца – жыццё смяшыць...

Павольна калоссе вяжы
і цемру ўстаўляй снапамі.

*21 красавіка 2023*

* * *

...Леў з калена Юды, корань Давіда, перамог, каб
разгарнуць кнігу і зняць сем пячатак яе.
І я ўбачыў... Ягня стаіць, быццам забітае...

**Адкрыццё Яна Багаслова 5:5-6**

Каб сем пячатак з кнігі зняць,
Ільвом – Ягнём, быццам забітым, –

патрэбна быць. Аднак які Ты
няўлоўна-дзіўны – Леў-Ягня!

Няўлоўна-блізкі Бацька-Сын,
жыццё, забітае нібыта,
далёкі, як самоты стынь,
як гук глыбінь, як вока сінь –
адбітак бітага блакіту,

Сусвету анямелы крык,
маўклівых акіянаў роўнядзь,
прамоўленая невымоўнасць,
ягняці ўздых, ільвіны рык,
падзенне з ледзяной гары
ў нязгаснай цемры паслядоўнасць,
няўмольнасць логікі труны,
нявіннасць вечнае віны.

Нібы забіты Слова пульс...
Нібы забытых сэнсаў згадкі...
Усё «нібыта» тут, пакуль
са скрутка не знялі пячаткі.

*23 красавіка 2023*

## *ЗНАК ПРАРОКА ЁНЫ*

Гэтае пакаленне – пакаленне ліхое, яно знака вымагае, ды знака яму не будзе дадзена, апрача знака Ёны прарока.

**Евангелле паводле Лукі 11:29**

Халоднае вясны
халодныя абдымкі...
Сядзець невыязным
у гэтым свеце дымным,
у гэтых дымных снах,
у яве зябка-зыбкай...
Каму тут з неба знак –
з глыбінь бяздонна-ліпкіх?
У чэраве кіта –
тры вечнасці, тры ночы –
каб з нематы паўстаць.
Уваскрасай, раз хочаш!
Няма каго прасіць,
няма пра што тут плакаць,
раз выбіраў Фарсіс –
тры немасці, тры плахі,

тры пеклы, тры суды...
Як тры прыступкі раю.

І выдых свой, і ўдых
сам кожны выбірае.

*1 мая 2023*

* * *

Мастацтва ілюзіяніста –
рабіць нябачнымі прадметы.
І гэтак за радком празрыстым
знікае рэчыўнасць паэта.
Матэрыяльнасць асістэнта
элімінуецца дашчэнту!
Маэстра Рытм, маэстра Гук –
твае начальнікі – у шорах
цябе трымаюць, у стажорах.
Твой сціплы лёс – ад іхніх рук
увагу ўсёй глядзельнай залы
адцягваць больш ці менш удала.
І ўсё жыццё развучваць фокус:
рабіць прадмет нябачным воку.

*3 мая 2023*

* * *

Хоць і складаная гульня,
хоць і не складваюцца пазлы,
усё, што ў свеце невыказнага,
даўно сказала цішыня.

Вядома, лечыцца адчай,
нясмачнасць хлеба, цемра неба:
пры ўсіх такіх хваробах трэба,
каб хтосьці побач памаўчаў.

Маўчанне любіць стэтаскоп.
Жыццё – смяротная хвароба,
ды лечыцца – усім, што побач:
плячом, маўчаннем, пахам здобы
і вуснамі ў гарачы лоб.

*4 мая 2023*

* * *

Я раптам палюбіў нязручнасці
ў маўленчым целе:
у рыфму ўсоўваць несугучнасці,
хадзіць па мелі
прывабна-зыбкае граматыкі
няпоўных сказаў,
чытаць жаргону сімптаматыку,
дыскурс экстазу,
збіраць шурпатыя каменьчыкі
на дне пясчаным
і слухаць, як бязмежнасць енчыць,
у гук схаваная.
Я раптам палюбіў няправільнасці,
шматкроп'яў мелі,
лексічную неаперабельнасць
у тэксту целе
і сінтаксісу двухсэнсоўнасці –
гульню муару.
Агучыць гаму невымоўнасці –
вар'ята мара.

*5 мая 2023*

* * *

Як па кавалачках цябе збіраць,
мой смешны свет? Ты рассыпацца любіш.
Ты любіш раставаць, нібы міраж,
а мне як ратаваць цябе ад згубы?
Адзін кавалак закаціўся за
нязломнасць антыкварнае камоды...
Мой смешны свет! (Бязглуздая сляза...)
Ну, будзем крочыць па салёных водах.
Салёны дождж, салёны мора шэпт.
(Быццё, як соль, умее рассыпацца.)
Вышэй на хвалю ўзлазь, вышэй, вышэй...

Нязломнасці салёнае мастацтва.

*10 мая 2023*

* * *

Гама – сем нот – сем лампадак нягеглых
у храме эстэтыкі вычварнай.
Тэма пяройдзе ў сваю супрацьлегласць,
калі варыяцыі вычарпаны.
Што нам рабіць, калі скончацца ноты,
бяссэнсіцу чым перакрыкваць?
Вычварны храм невычэрпнай самоты
поўны маўклівых рэліквій.
Голас хаосу – грозная проза...
Пекла халоднае полымя...
Не аддавайце ў вушы марозу
слова па-райску голае!

*11–12 мая 2023*

* * *

У лаканічнасці галактык
гучыць прароцкая аскеза.
Так працінае цела тактаў
дыезаў вострае жалеза –
раз'юшаныя фразы джазу –
экстазу грозная суцэльнасць.
У лаканічным тэксце часу
не прадугледжана чытэльнасць.
Змястоўнасць – гэта толькі ўмоўнасць
у лаканічнасці распаду.
Разломаў донная шматмоўнасць
не падлягае перакладу.

*15 мая 2023*

* * *

У словатворчасць не веру –
веру ў цяжарнасць слоў.
Як невычэрпнасць вячэры
тайнай (быццям плоць і кроў!),
як дзівоснасць улову
(сетку цягні з глыбінь!),
нельга прыдумаць слова –
толькі хіба прыгубіць.
А прыгублены келіх –
з рук у рукі – братам.
Каб на бязрыбныя мелі
лодкі свае не вяртаць.

*16 мая 2023*

Міхась Зізюк



...шануй сваё, любі радзіму –

і шчаслівы будзеш...

# Шчарсоўскія сцежкі Адама Міцкевіча

*Цвіці ж, прывольны край, зямелька Прынямоння,*
*Людзьмі славутая, дарамі тымі ўлоння.*
*Вітаю ўсіх, хто славіць край. Табе падзяка*
*Род дэпутатаў соймавых, род Верашчакаў.*
*Табе, наш графе, Шчорсаў гаспадар руплівы.*
*Ты на зямлі сваёй, вучоны, творыш дзівы.*
*Праславіць іншы лірнік, больш падрыхтаваны,*
*Твае заморскія расліны ды фантаны,*
*Твой мудры скарб, сабраны шчыраю рукою,*
*Твой люд заможны, горды воляю сваёю...*

**Адам Міцкевіч. Пераклад Кастуся Цвіркі***

## ВІЛЬНЯ. КАСТРЫЧНІК 1824 г.

Вільня, Вільня... Колькі ж успамінаў, прыемных і не вельмі, колькі радасных, хвалюючых, часам і балючых момантаў ты пакінула ў маім жыцці. Вулачкі, такія ж цёплыя,

* Тут і далей выкарыстоўваюцца вершы Адама Міцкевіча.

ціхія і любыя, як вулачкі роднага Наваградка, яны сталі блізкімі назаўжды. Горад неспакойнага, бурапеннага і прамяністага юнацтва.

Сябры! Браты мае філаматы, гэта вы былі са мною і ў радасныя хвіліны, і ў моманты пакут і перажыванняў, гэта вам я давяраў самыя таемныя думкі, дзяліў з вамі крышані нашай волі і ўсё, што меў: хлеб, ваду і песні. Сябры мае, браты мае – душы, якія яднаюцца ў прасторы па волі нябёсаў. Калі мы ўбачымся ў наступны раз, чаму так тужліва на сэрцы, чаму скруха вярэдзіць яго?

Песні, якія дагэтуль лунаюць у блакіце неба, а іх бязгучны спеў напаўняе душу ўспамінамі. Зямля ліцвінская – сэрца не можа пакінуць цябе, твае палі, дубровы, сенажаці, азёры і рэчкі. Усяго не перакажаш, бо яно ўсё тваё і ўсё ў табе. Ты, каханая, якую нельга забыць, ты, маці, што схілілася над калыскаю і пяе ціхую жалобную песню, ты, святая келля, што дала мне верных і найлепшых сяброў. Гэта ты дала прагу да жыцця, гэта тут ўзгадавалася душа паэта. Літва мая, мой родны дом, самотны дом ты сёння.

Няма тых, хто быў найдаражэйшаю крыніцаю сяброўства, з кім збіраўся столькі зрабіць для Айчыны. Ужо не стала першых: самых лепшых, самых адданых, самых светлых. Гэта ім з пакутаю тады чытаў на развітанне свае радкі.

> О, любыя сёстры! Што ж гэта стала?
> Я бачу, вязуць на вазах праз туманы,
> Па гразкіх дарогах, палях, перавалах
> Зусім маладзенькіх хлапцоў у кайданах.
>
> *(Пераклад К. Цвіркі)*

Сёння апошні дзень у Вільні, заўтра ўжо і яму прыйдзецца пакінуць родную зямлю – разам з Янам Сабалеўскім іх павязуць у Санкт-Пецярбург.

Неўпрыкмет Адам дайшоў да вастраверхай Ганны. Ах, боская прыгажосць, якой далі жыццё ўмелыя людскія рукі! Калі я ўбачу цябе ў наступны раз? А мо ніколі не ўбачу? Адамава сэрца сціснулася ад болю і жалю. Кастрычнік і той наганяе сум, прырода як бы прарочыць яму самоту. Ціхая ранішняя смуга, ціхі напеў змяняецца лёгкім сумным дожджыкам. Невыносны смутак, невыносны боль.

– Падайце, панічу, дзеля Хрыста!

Адам азірнуўся. Старая жабрачка ў рыззі схіліла галаву ў паклоне, сухая маршчыністая рука. Адам адшукаў у кішэні грош, паклаў у працягнутую руку. Народзе, бедны мой народзе, калі ж скончыцца доля жабрацкая твая? Калі на зямлі будзе сонца свяціць для ўсіх роўна?

– Дзякуй, паніч. Бачу, тужліва табе, маркоцішся, бо далёкі шлях чакае.

– Скуль ведаеш?

– Я шмат чаго ведаю пра белы свет, даражэнькі, нямала год пражыла, нямала пабачыла. Нешта магу й табе сказаць.

Адам паклаў яшчэ адзін грош.

– Дзякуй, даражэнькі, што не пагрэбаваў старою ды брыдкаю жабрачкаю. Дай мне сваю руку.

Памаўчала, сцяўшы вусны.

– Нялёгкая доля твая, ды іншай не будзе. Не вернешся ты на радзіму, не ўбачыш шмат каго з тых, каго любіш. Смутак будзеш насіць і ў сэрцы, бо ніколі не будзе тая, што сонца для цябе, тваёю. Сам ты пра гэта

здагадваешся ды не хочаш веры даваць. Далёкія землі пабачыш, славу вялікую здабудзеш. Будзеш і шчаслівы, і нешчаслівы. То ідзі з Богам. Некалі ўзгадаеш старую Анэлю.

Сказала так і адразу ж сама пайшла даволі хуткім і жвавым для старой жанчыны крокам. Адам, зняверaны, застыў, як слуп, сумеўся. Што яна нагаварыла, напрарочыла? Хто яна такая, каб прадказваць яму жыццё? Ці даваць веры яе словам? Пэўна, убачыла, што ён засмучаны, надумала, нагаварыла. Такога быць не можа, каб ён не павярнуўся сюды – у свой родны дом. Азірнуўся. Жабрачкі і следу няма. Дзе яна, каб перапытаць пра яе прароцтвы? Няма, шукай ветру ў полі.

Што ж гэта было такое, што за насланнё? Ці не прымроілася яму ўсё гэта, ці не прыблудзіла былое з будучыняю ў куламесе? Што згледзеў ён, утрапёны? Мо тут нікога й не было, аніякай жабрачкі, усе тыя прароцтвы і шэлега не вартыя. Вось тут, на віленскай вуліцы, сум сустрэўся з адзінотаю. Вось каб вярнуцца цяпер на родную Навагрaдчыну, хоць адным вокам агледзець дом бацькоўскі, сіратлівыя крыжы на кладах, а пасля белай птушкай паляцець да Марылі, скінуць хоць адно бязважкае пёрка ёй на памяць. Сэрца рвецца ад тугі.

## НАВАГРАДАК. ВЕРАСЕНЬ 1819 г.

– Адам! Адам! Прачынайся!

Адам падхапіўся. Каля яго, з усмешкаю, з вялікім ручніком на плячы стаяў шыракатвары ўскудлачаны Ян Чачот. Бадай што ён паспеў ужо апаласнуцца пад рукамыйнікам, падбадзёрыцца і цяпер зазірнуў да сябра. Жвавы, вясёлы хлапец з дакорам звярнуўся да яго:

– Хто казаў, што мяне пабудзіць, га? Эх ты, соня, а прыходзіцца мне цябе ў ложку раскатурхваць. Што, едзем?

– Так, нас чакаюць у Шчорсах. Усё, снедаем і едзем. Я хутка.

Як хораша, як добра дома! Тут усё роднае, блізкае. І гэты вясёлы ручай пад вокнамі, што расплываецца ў паводку бруднапеннай вадой. І тады неяк вольна дыхаецца, бо адраджаецца зямля пасля халоднай зімы, думкі разам з вадою імкнуцца ў нёманскія прасторы, мары перапаўняюць душу, штосьці неверагодна шчымлівае і добрае нараджаецца ў табе, хочацца выказаць сваю любоў гэтаму свету, удзячнасць Богу за прыход душы на зямлю. А як хораша ўлетку выйсці надвячоркам, пасядзець каля ціхай вады, памарыць, хоць і надакучліва звіняць камары, адчуць, як аднекуль ціха прыходзяць новыя радкі, нараджаюцца новыя вершы.

І гэтыя маленькія цяністыя прысады з ліпаў і каштанаў, па якіх так радасна імчаць дамоў; прысады, што вабяць спакоем і прахалодай у спёку; прысады, дзе так лёгка дыхаецца, думаецца; прысады, па якіх зроблены першыя крокі ў імклівае жыццё; прысады, якія прыносілі першыя надзеі і першыя расчараванні.

І родны ганак, па якім столькі ходжана. Ганак, на якім ведаеш кожную маснічыну, кожную прыступачку. Тут яшчэ не так і даўно скакаў да грудзей улюбёнец усіх сямейнікаў, чорны, як смоль, Крук, намагаючыся лізнуць у твар, а ты весела адпіхваў яго і смяяўся. Салодкія ўспаміны. Але ж наперадзе дарога, трэба збірацца.

Шлях пачынаецца. Заляскаталі колы па бруку, ціха заіржаў конь, падбаўляючы хаду. Сёння сонечна, даволі прыемнае надвор'е, лёгкі казытлівы

ветрык абдзьмувае твар, шыю, плечы, яшчэ не цягне холадам. На рынкавай плошчы нешматлюдна, гараджане пры сваіх справах. Фурман скіроўвае на Шчорсы, дарога збягае ўніз па Кавальскай вуліцы, збоку застаецца ўрачыста-белы Фарны касцёл.

– Ведаеш, Яне, што маці Божая Вастрабрамская ўратавала некалі мяне?

– Не. Раскажы, – ажывіўся Ян.

– Маленькі, я быў гэткі ж далазны, як, зрэшты, і цяпер. Неяк нянька не дагледзела мяне, я кульнуўся з вакна. Маці казала, што калі прыбегла на плач нянькі, то я выглядаў нежывым: не дыхаў, не рэагаваў ні на што, твар пасінелы. І тады мама ў адчаі ўкленчыла, стала маліцца навагрудскай іконе Божай маці Вастрабрамскай. Гэтак горача і шчыра яна малілася, што я ачуняў, задыхаў, заплакаў. Нават асаблівых наступстваў тое падзенне мне не прынесла. Праўда, праз нейкі час пасля таго здарэння – чамусьці я думаю, што менавіта яно стала прычынаю – іншым разам да мяне сталі прыходзіць сны, некалькі разоў былі відзежы нават у дзённы час.

– Хм, што ж тут асаблівага, сны прыходзяць да ўсіх.

– Ды не, ты не так мяне зразумеў, не проста сны, яны асаблівыя. Мне сніцца нешта такое, неверагоднае, калі так можна сказаць. Але яно настолькі рэальнае, аблічнае, што, здаецца, я прысутнічаю там, дзейнічаю. Спачатку я не разумеў усяго таго, што бачыў. Пасля да мяне дайшло: я бачу тое, што будзе са мною, маімі блізкімі, роднымі мясцінамі ў будучым. Я не ўсё магу патлумачыць, але ўпэўнены, што сны – менавіта сцэны з будучыні. Бо сёе-тое ўжо адбылося са мною. Разумееш?

– Так, неверагодна цікавая гісторыя, Адам. Калі штосьці такое прысніш – абавязкова раскажы. Нябёсы дораць нам нямала цудаў.

Ляніва трухаюць коні, маўчыць фурман, унурыўшыся ў свае думы. Вакол зямля любая, хараство асенняе. Восень пацiху адваёўвае сваё радно ў лета. Жаўцеюць вярхі старадрэвін, пусцеюць палі, не чуваць птушыных галасоў. Родныя навагрудскія землі: пагоркі, курганы, як нямыя сведкі падзей даўніны. Бярозавыя гаі саступаюць месца пагоркам з валунамі, палеткі і сенажаці змяняюцца сялянскімі хатамі з нізкімі саламянымі стрэхамі і агародамі, абсаджанымі вішнямі. Вунь зводдаль паказалася шляхецкая сядзіба з шэрагам ліп ды таполяў, за ёю вырас стромы верх касцельчыка.

– Што прымоўк, Адаме?

– Ведаеш, Ян, я думаю, як добра, што пан Адам запрасіў нас да сябе ў Шчорсы, што маем мы магчымасць наведаць такую славутую мясціну, наведаць тамтэйшую школку для сялянскіх дзетак, папрацаваць з такімі кнігамі і рукапісамі, якія ці адшукаеш дзе яшчэ, падзівіцца на ўзорную гаспадарку. Усё гэтак радуе душу.

– Так-так, я ўжо ўяўляю сабе тое багацце.

– А якая там бібліятэка, браце! Наколькі я ведаю, чаго там толькі няма: Арыстоцель і Платон, Парацэльс і Скарына. Класіка, філасофія, публіцыстыка, паэзія, медыцына. Дзве вялізныя залы. Я ўявіць сабе не магу такой безлічы кніг. А яшчэ карцінная галерэя, сотні палотнаў.

– Не кажы, у мяне нават рукі свярбяць – так хочацца ўвабрацца туды. Ты кажаш, што там узорная гаспадарка. Што ж там асаблівага?

– Эге, я табе спачатку раскажу пра бацьку пана Адама. Іяхім Літавор Храптовіч быў надзвычай адукаваным і таленавітым чалавекам. Вучыўся ў Англіі, Францыі, Швейцарыі і іншых краінах, сам пісаў кнігі, вершы. Паездзіў па Еўропе, узяў адтуль усё самае лепшае і ў Шчорсах адбудаваў

сядзібу, наладзіў узорную сялянскую гаспадарку – найлепшую на нашых землях. Што я табе буду ўсё расказваць – сам паглядзіш.

– Сапраўды, пра такіх, як граф, кажуць: быў і на кані, і пад канём. Шмат ён пабачыў, шмат ведаў. А бібліятэка, усё астатняе?

– О, гэта справа ўсяго яго жыцця. Шукаў, збіраў, купляў, зберагаў розныя выданні. Ты ж і сам ведаеш, што ён акрамя гэтага займаўся грамадскімі і палітычнымі справамі, быў галоўным маршалкам княства, кіраўніком дэпартамента акадэмій і школ, міністрам замежных спраў, канцлерам. А яшчэ й паспяваў займацца гаспадарчымі справамі.

– Сапраўды, унікальны чалавек.

– Так, тым больш, што ягоны сын, пан Адам, не толькі прыстойны чалавек і добры гаспадар, ён і цяпер працягвае тое, што распачаў бацька. Адным словам, нас чакае незвычайная сядзіба.

А дарога бяжыць. Ужо хутка пакажуцца і Нягневічы. Вось размінуліся з возам, на ім маладая сялянка з дзецьмі. Едуць, вязуць нешта з поля. Адам павярнуў галаву, доўга глядзеў услед.

– Што, знаёмыя? – усміхнуўся Ян.

– Ды не, не зусім так. Узгадалася дзяўчына.

Адам прымоўк, як бы штосьці абдумваючы.

– Памятаеш, як мы гулялі-блукалі з табою па ваколіцах Наваградка? Памятаеш засценак Руту? Дык вось, там я калісь пазнаёміўся з Ядзяю, тамтэйшаю дзяўчынаю. Мне тады было каля чатырнаццаці-пятнаццаці. Спадабалася яна мне, шчыра прызнаюся, мо, нават, і закахаўся. Паразмаўляў з ёю, прыходзіў не раз пасля. І яна для мяне спявала. Памятаю, як яна на жніве хораша спявала мужыцкія песні. О, Яне, які голас – ты не ўяўляеш! Так прыгожа, так моцна, што я заслухоўваўся. Гэтыя мужыцкія песні – проста цуд.

Пэўны час мне не давялося там бываць. І вось неяк вырашыў наведаць. Заходжу. А яна ўжо замужам, маленькія дзеткі. Малады парабак у бруднай кашулі кланяецца. Дарэчы, далёкі мой сваяк. Пытаюся, ці дома Феліцыянава. Так, панічок. Яна выходзіць, дзеці малыя. Пажоўклая, пастарэлая. Я гляджу і не пазнаю, а яна плача: пабрыдчэла я, непрыгожая стала. Мне й мову адняло. Бо, і праўда тое, што хутка яна звяла – як кветка-аднадзетка. А яшчэ там беднасць, бруд, а на мне фрак і шалік. Сорамна стала за сябе, за людзей гэтых, бо і яны саромеліся мяне. Чаму так няроўна падзелена, Яне?

Ян толькі ўздыхнуў у адказ ды пашыўся назад на сваё месца. А Адамавы думкі зноў закружыліся, завіхурыліся. Цяпер вочы засланіла тая, што завалодала яго сэрцам. Марыля. Дзе ты цяпер, куды скіраваны твой позірк і твае мілыя вочы? Ты, як апошняя восеньская птушка, – далёкая і блізкая, жаданая і недасяжная, ты адлятаеш усё далей і далей, пакуль не растворышся ў высокім небе. Нябёсы нас лучаць, яны ж нас раз’ядноўваюць. Сэрца баліць па табе. Усё – надзея, салодкі боль у грудзях, трапяткі сполах, агністы позірк, пунцовыя вусны – усё засталося там, у Туганавічах.

## ТУГАНАВІЧЫ. ЖНІВЕНЬ 1819 г.

Тамаш Зан хуценька выбраўся з брычкі, карцінна пакланіўся і працягнуў руку Адаму:

– Вось і даехалі, пане Адам, спускайцеся да нас, грэшных. Як старэйшы

таварыш і сябра гаспадароў сядзібы шчыра запрашаю вас на блаславёную туганавіцкую зямлю.

Адам лёгка саскочыў з брычкі, агледзеўся. Побач жвавы, хударлявы Тамаш: высокі, зверху лоб крыху вузейшы, кучаравыя валасы, белазубая ўсмешка. Кругом буйная зеляніна, зараснікі бэзу ў прысадах, далей шырокая алея, абсаджаная стройнымі, адна ў адну, буйнымі ліпамі і каштанамі, высокі ганак, дагледжаны двухпавярховы драўляны панскі дом. За домам бачны сад, гаспадарчыя пабудовы. Побач драўляная капліца з купалам і двума крыжамі. На ганку дзяўчына ў белым – мабыць, сястра гаспадароў Міхала і Юзафа – Марыля. Пасля смерці бацькі браты гаспадараць у сядзібе, сястра жыве з імі.

– Марыля – сапраўдны дыямент у гэтай сядзібе, – шапнуў Тамаш.

– У чым сакрэт? У прыгажосці незямной?

– Ды не, ты не пацэліў, дружа. Прыгажосць маладой паненкі – само сабой. Марыля, як выхаваная паненка, валодае французскай, нямецкай і італійскай мовамі, добра ведае літаратуру, грае на фартэпіяна. Але ж яна яшчэ і добра спявае, да таго ж спрабуе сябе на літаратурнай ніве – мае напісаныя вершы, п’есу, вельмі дабразычлівая і прыязная. Як табе?

– Шыкоўна, мушу пагадзіцца з табою.

Сябры з ціхаю гаворкаю рушылі туды, дзе віднелася гнуткая дзявочая постаць. Марыля зрабіла крок ім насустрач. Невысокая, светлавалосая, з прадаўгаватым тварам, як бы звычайная знешне. Але гэтая гнуткая дзявочая постаць, лебядзіная шыя, вусны, якія вабяць цнотаю, бяздонныя сінія вочы – і позірк замірае на ёй. Рыхтык анёлак.

Пасля знаёмства Марыля запрасіла іх у хату. Адама ўразіла вялікая печ, абкладзеная зялёнаю кафляю – нібыта дзіўны зялёны карабель, што плыве кудысьці толькі ў яму вядомым накірунку. Сцены ў доме ўпрыгожваюць каляровыя шпалеры з тканіны. Выйшаў насустрач Юзаф – статны, з пышнымі вусамі, запрасіў за стол.

Лагоднае жнівеньскае сонца яшчэ не паспела схавацца за зялёным трызубцам блізкага лесу. Пасля цёплай, шчырай і нязмушанай бяседы Тамаш і Марыля выбраліся з дому, каб пазнаёміць Адама з непаўторнымі туганавіцкімі краявідамі. Міхал быў недзе ў ад’ездзе, а Юзаф спаслаўся на неадкладныя справы, асядлаў каня і паехаў па дарозе на захад. Адаму ўсё спадабалася тут: заспакойваючая гаючая цішыня на сядзібе, гасціннасць і шчырасць Верашчакаў, дасціпная і прыгожая Марыля, Тамашаў настрой. Добра тут. Адпачываеш сэрцам і душою.

Яны паволі ішлі ўздоўж вузкай пыльнай дарогі, мінулі сядзібны двор.

– Пан Адам, як я ўжо казаў, выдатны паэт. Калі пані Марыля папросіць, то ён абавязкова напіша верш, прысвечаны ёй, – жартаўліва заявіў Тамаш.

– Калі ён сапраўдны паэт, то спачатку хай напіша верш, ну, хаця б, пра сажалку, мы да яе ідзем. Там жабкі па вясне і ўлетку так рамантычна спяваюць свае песні, такія канцэрты выдаюць, што, далібог, заслухаешся. Што скажаце, пане Адам? – смеючыся, спытала Марыля.

– Па-першае, пан Ян сам не горшы паэт. Не прызнаецца, а вершы піша добрыя. Па-другое, для чароўнай паненкі я, канешне, мог бы паспрабаваць, калі штосьці атрымаецца напісаць, а вось для жабак, безумоўна, я проста абавязаны скласці верш – яны ж сапраўдныя знаўцы музыкі і паэзіі, – падтрымаў жартаўлівы настрой Марылі Адам.

Той цёплы і лагодны вечар, вечар іх першай сустрэчы, ён не забудзе ніколі. Марыля шмат ведала, яны размаўлялі пра раманы Жан-Жака Русо, паэзію Гётэ, спрачаліся аб нечым, спяшаліся выказаць свае думкі. Тамаш, здавалася, унікаў іхняй размовы і кампаніі, ён мала гаварыў, абдумваючы нешта сваё. Але, ведаючы Тамаша, Адам не здзіўляўся той акалічнасці: Тамаш любіць паглыбіцца ў сябе, свае думкі, памарыць пра Зосю, прысвяціць ёй чарговы верш.

Там, каля сажалкі, Марыля чытала на памяць свой кароткі верш. Заходзячае сонца падфарбавала яе мілы тварык, белую сукенку ў агністаружовыя адценні, ад вады пацягнуўся лёгкі туманны шлейф, а наваколле аціхала. Ані гуку, ані шолаху, ані сполаху. Тамаш далікатна адышоўся ад іх, сеў на стары ўчарнелы пень, слухаў верш і ўзіраўся ў цёмнае нерухомае люстэрка вады. І ў той час штосьці здарылася, штосьці змянілася ў Туганавічах, на Зямлі, у Сусвеце. Адаму падалося – час спыніўся. Спыніўся толькі для яго і Марылі. Як недасяжная багіня з Алімпа, стаіць яна перад ім блізка-блізка – так і хочацца дакрануцца да гэтай боскай прыгажосці – для яго Усявышні малюе сваім нябачным пэндзлем такое, ад чаго хочацца ўзляцець у неба і крычаць адтуль толькі адно імя:

– Марыля!

Або ўзляцець разам, разам кружыцца пад вялізным барвовым шарам і глядзець адно аднаму ў вочы. Так, удваіх, бо без яе, без гэтай белай птушкі, без гэтай туганавіцкай багіні з гэтага моманту ён жыць не зможа. Адам адчуў, як забалела, засмылелала недзе ў грудзях, але гэты боль быў такі салодкі, такі прыемны. Вялікае каханне ўкрыла яго, павяло за сабою ў невядомую загадкавую краіну, у якой існуе і жыве толькі яно – гэтае дзіўнае і неспадзяванае, нечаканае і жаданае, усёабдымнае і нязгаснае пачуццё.

## ШЧОРСЫ. ВЕРАСЕНЬ 1819 г.

Думкі-ўспаміны, вы вечныя спадарожнікі мае, не схаваешся, не збяжыш ад вас, не пазбавішся. Без пражытага, без былога чалавек не чалавек, як ні круці.

– Гэй, Адам, адкінь свае думы, пад’язджаем!

Адам падняў галаву. У сінім, чысцюткім, без адзінай аблачынкі небе перад імі паўсталі абрысы царкоўных купалоў з буйным крыжам на галоўным. Нагадваў ён нейкі велічны карабель, што прыпыніўся на няпэўны тэрмін у прынёманскім краі – строгі, высокі і магутны. А далей дарога збочвала ўлева, да шыкоўнага панскага палаца графа Храптовіча.

Палац ўражваў нават на адлегласці. Высокая мураваная агароджа, барочная брама з варотамі чыгуннага ліцця, падвешаных на магутных пілонах, злучаных фігурным гербавым шчытом. Шырокія прастакутныя слупы, якія ў верхняй частцы завяршаліся карнізам з пастаўленымі на ім скульптурнымі літымі групамі ў выглядзе антычных кампазіцый са сцягоў і ваенных атрыбутаў. На поўнач і захад раскінуўся вялізны пейзажны парк з сістэмай штучных сажалак.

Шырокая ўязная алея ў чатыры рады, абсаджаная ліпамі і каштанамі, вяла да палаца. А перад ім спатрэбіцца аб’ехаць шыкоўны фантан. Далей сам палац – аднапавярховае збудаванне на невысокім падмурку. На верхнім паверсе на франтоне Адам убачыў надпіс *Paci et Libertati*[1]. Палац,

аздабленне, пабудовы – усё ўбачанае адклікалася ў душы шчырым захапленнем, замілаваннем і нейкай урачыстасцю.

– Ведаеш, Адам, я б сказаў, што тут душа адпачывае. Проста няма слоў, каб ухваліць такую прыгажосць, – сказаў Ян.

– У мяне таксама. Цуд, – азваўся Адам.

Фурман спыніўся каля цэнтральнага ўвахода. Выйшаў графскі лёкай:

– Калі ласка, прашу вас, панове. Я праводжу вас да пана Адама.

Падымаючыся па лесвіцы, Адам і Ян з цікавасцю разглядалі ўбранства палаца. Уразіў вялізны акварыум, размешчаны ў столі і падсвечаны зверху ліхтаром. З кабінета выйшаў гаспадар – падцягнуты, проста апрануты, з лёгкай сівізною на скронях, жывыя разумныя вочы.

– Рады вітаць на нашай шчорсаўскай зямлі. Кажуць так: госць у дом – бог у дом. Мяркую, з дарогі не заміне крыху адпачыць і падсілкавацца.

Знаёмства з сядзібай пачалі з бібліятэкі – двухпавярховага будынка з крытай тэрасай каля сажалкі, размешчанага на паўночны захад ад палаца. Адам і Ян спыніліся на ўваходзе, зачараваныя кніжным багаццем. Тут было сапраўднае кніжнае царства. Паўсюль стэлажы, паліцы, лесвічкі каля стэлажоў, карціны на сценах, ліхтары, некалькі сталоў з утульнымі фатэлямі.

– Во гэта скарбніца! – усклікнуў Ян. – Вось сюды б увабрацца ды не на адзін год, дакрануцца да гэтага незвычайнага збору мудрасці чалавечай. Прымеце, пане Адам?

– Так, безумоўна, – усміхнуўся гаспадар. – Для тых, хто любіць, шануе і разумее кнігу, дзверы заўсёды адчыненыя.

– Колькі ж тут вы паспелі сабраць! – захоплена выдыхнуў Адам, пераскокваючы позіркам з аднаго боку бібліятэкі на другі.

Храптовіч сціпла ўсміхнуўся.

– Пачынаў усё тата, я іду па пратаптанай сцежцы. Цяпер тут каля дзесяці тысяч тамоў, збор працягваецца. З гэтага боку спіс другога Статута Вялікага Княства Літоўскага, Біблія на латыні, напісаная на пергаменце XV стагоддзя, лісты Багдана Хмяльніцкага, дзённік Марыі Мнішак, гісторыя роду Храптовічаў, складзеная бацькам. Там літаратура старажытнай Грэцыі і Рыма, французская, зборнікі геаграфічных мапаў. Далей польская літаратура XV-XVII стагоддзяў, у тым ліку і першыя выданні Рэя і Каханоўскага, сучасная еўрапейская літаратура, руская, ёсць нават і арабская, ды шмат чаго яшчэ.

Адам падышоў да паліцаў, асцярожна ўзяў адну кнігу, прагледзеў некалькі старонак.

– Думаю, большую частку часу мы аддадзім бібліятэцы.

– Калі ласка, панове, бібліятэка да вашых паслуг. Калі ўзнікнуць пытанні – звяртайцеся. Узамен, вечарамі, з задавальненнем паслухаем вашы вершы і гісторыі, калі вы не супраць.

– Не, мы не супраць, – у адзін голас адказалі Адам з Янам.

Праца ў бібліятэцы захапіла абодвух. Сябры з асалодаю корпаліся ў кнігах і тамах, уважліва і засяроджана чыталі, зрэдзь абменьваючыся думкамі, рабілі запісы і зноў паглыбляліся ў старажытныя тэксты. Яшчэ б – такога багацця яны ніколі не бачылі. Пах кніжных старонак, самавіты выгляд старажытных кніжных фаліянтаў міжволі ўцягваў у былое, у далёкае мінулае. Спахапіліся толькі тады, калі іх паклікалі на вячэру да гаспадароў.

Адам адчуваў, што змарыўся за гэты дзень, які прынёс і дарогу, і мноства ўражанняў, і літаратурную працу, і па-сямейнаму цёплы вечар у Храптовічаў. Але сон не ішоў. Думкі віхурай насіліся ў галаве, пераскоквалі з аднаго на другое, прыспешваючы адна адну: Вільня, маці, Марыля, бібліятэка, вершы, зноў Наваградак, сябры. Як жа добра, калі ўсё гэта ёсць у тваім жыцці, калі ёсць каханне, ёсць тыя, каго любіш, і тыя, дзеля каго ты блізкі і родны. Калі ёсць радзіма, маці і сябры. Марыля, каханая мая, Марыля, ці думаеш ты пра мяне, ці сніш мяне ў снах, як я цябе...

Цені, нейкія незразумелыя цені, абрысы якіх нагадвалі нешта знаёмае, кружыліся вакол Адама. Ён спрабаваў адгадаць, хто ці што гэта, але ніяк не мог. Усё кружылася ў дзікім танцы ці карагодзе – складана было вызначыць – і яно, гэтае насланнё, закружвала яго, уцягвала ў зачараванае кола. Ён адбіваўся, як мог, але ўсё марна. І тады ён зрабіў спробу ўзняцца над натоўпам незразумелых яму стварэнняў, узляцець, узняцца хоць крышку. І, о – цуд! Адам лёгка, як птушка, узняўся ў паветра, хоць у яго не было ніякіх крылаў. Ён падымаўся ўсё вышэй і вышэй і хутка ўбачыў, што кружыцца над сядзібай Храптовічаў. А тыя страшныя цені ператварыліся ў людзей, апранутых у дзіўнае адзенне, якога ён раней ніколі не бачыў: хтосьці ў шырокіх нагавіцах, хтосьці ў доўгім паліто з пагонамі, у многіх ззялі зоркі на галаве. Усе гэтыя пачварныя людзі-цені распалілі вялізнае вогнішча і, рагочучы, кідалі туды кнігі. Адам з жахам зазначыў, што кнігі яны выносяць з графскай бібліятэкі. Паміж людзьмі-ценямі бегае высокі прыгожы сівы чалавек, ён спрабуе спыніць іх. Дзе там! Усе навокал смяюцца, кідаюць у агонь новыя і новыя тамы, а той, як ненажэрны цмок, з радасцю прымае свежыя ахвяры. Прыгожы высокі чалавек спачатку знясілена апускае рукі, а пасля ўздымае іх уверх, як бы молячы ці то неба, ці то Адама, дапамагчы яму выратаваць кнігі.

І Адам кінуўся ўніз, каб спыніць злачынства, дапамагчы прыгожаму чалавеку, выратаваць хаця б тое, што засталося, але і на яго ніхто не звяртаў увагі. Ён нічога не змог зрабіць, ніхто не рэагаваў на ўсе яго адчайныя рухі. Але дзе ж Ян, дзе сябар? Удваіх яны неяк спынілі б гэтых пякельных вырадкаў. Яна нідзе не было. І ён закрычаў:

– Ян, Ян, ты дзе?

– Адам, Адам, прачніся! Чаго ты крычыш? Ціха, супакойся.

Адам расплюшчыў вочы. Каля яго стаяў заспаны Ян, у вакно лілося мяккае месяцовае святло.

– Што ты сасніў, га? Ты гэтак крычаў, што я напужаўся, – сказаў заклапочаны сябар.

Адам прыўзняўся, сеў.

– Ведаеш, сасніў такое, што цяжка і словамі перадаць, але ўсё было так яскрава, так рэальна, быццам не сон.

– Так-так, зноў прыйшоў відзеж з будучыні. Расказвай.

Ян прымасціўся побач.

– Мне прыснілася, што нейкія дзіўныя людзі паляць графскую бібліятэку, распалілі вогнішча і кідаюць туды кнігі. А высокі, прыгожы і вельмі харошы чалавек спрабуе спыніць іх, ды не можа. І я не магу дапамагчы яму.

– Дзіўны сон. Не, Адам, я не веру, што ў будучым будуць паліць кнігі, тым больш такія каштоўныя, якія мы бачылі ў бібліятэцы. Мне здаецца, людзі ў будучым будуць іншымі: светлымі, добрымі, яны будуць шмат чытаць і любіць творчасць. Навошта паліць кнігі? Зрэшты, нам пра тое

не дадзена ведаць. Думаю я вось пра што: перапрацаваўся ты, даражэнькі. Зірні, бібліятэка стаіць, ніхто нічога не паліць, усё добра. Таму раніцай ідзем на шпацыр, зробім экскурсію па графскай сядзібе. Трэба нам асвяжыць свае галовы. Спі, – заспакоіў яго Ян.

Адам лёг. У галаве зноў пракруцілася дзіўны і страшны малюнак[2]. Што гэта было? Трызненне? Сон? Мабыць, Ян мае рацыю, патрэбен невялікі адпачынак, апошнім часам ён шмат часу аддаў кнігам. Ён супакойваў сябе, а ў вачах стаяў усё той жа жудасны малюнак з невядомасці: людзі-цені, палаючае вогнішча з кніг, прыгожы высокі чалавек з узнятымі ў неба рукамі.

## ШЧОРСЫ. СЯДЗІБА ГРАФА ХРАПТОВІЧА. ВЕРАСЕНЬ 1819 г.

Туманны ранак. Ціша. Яна такая чыстая, празрыстая, што ў ёй можна растварыцца, знікнуць, як у вадзе. Ад сажалак светлаю і бязважкаю кудзеляю сцелецца ранішняя імгла. Як і не было светлай месячнай ночы, цяжкіх сноў. Ян яшчэ спіць. Яне, мой шчыры і харошы таварыш. Як жа пашанцавала Адаму ў жыцці на сяброў. Усе яны розныя, але ўсе, як адзін, гатовыя ісці на любыя выпрабаванні, змаганні дзеля сваёй Радзімы, зямлі ліцвінскай. І ўсе таленавітыя, чэрці, усе маюць боскую міласць. Вось як Ян – цудоўныя тэксты піша, вершы, збірае багацце зямное: паданні, легенды. Выдатную працу робіць.

Пан Адам прапаноўваў ім праважатага, але сябры адмовіліся – прайсціся сам-насам, без лішніх вачэй, дзе пасядзець, дзе нават і прылегчы, паразмаўляць. Яны падаліся праз парк у бок Нёмана. Парк уражваў сваімі памерамі, убранствам і раскошай. Буйны зграбны ясень перамешваўся з ліпай, бяроза з дубам, нямала было і такіх парод, якіх сябры не ведалі. Паркавая сцяжынка выглядала акуратнай і дагледжанай.

– Цікава, адкуль завезлі дрэвы? Як думаеш? – спытаў Адам, азіраючы наваколле.

– Мяркую, што ўсё гэтае хараство з Еўропы і нават з Амерыкі – нешта такое казаў учора граф. Як па мне, то тут найшыкоўнейшы дэндрарый. А як цудоўна ўпісаліся сюды сажалкі! Сапраўдны Эдэм!

– Галоўнае, каб не згубіліся ў гэтым Эдэме – цалюткі дзень можна блукаць тут ды патанаць у гэтым харастве.

Хлопцы мінулі парк і выйшлі да ракі. Паўнаводны Нёман ціха нёс сваю плынь у мора. Ледзь чутна хлюпала вада ў беразе, пакалыхваючы асаку і трыснёг. Амаль нябачная смуга ўкрывала нёманскую далячынь, як бы падкрэсліваючы сыход цёплага лета. Невысокі сіваваты дзядок старанна абкошваў бераг. Згледзеўшы сяброў, ён прыпыніўся, сцягнуў шапку і павітаўся.

– Добрага ранку, дзядуля. Памагай Бог.

– Дзякуй, паночкі, і вам хай Бог спрыяе, добрай раніцы.

– Хораша тут – вока і душа радуецца.

– Так, маеце рацыю. Пан Адам глядзіць і зямельку, і гаспадарку. Дзякуй графу Храптовічу ўсе нашыя мужыкі і бабы кажуць, моляцца на яго.

– І Нёман тут такі цудоўны, далібог, – прамовіў Адам.

– Бо наш Нёман гаспадар старанны, – адгукнуўся дзед. – Ці ведаеце, адкуль Нёман пайшоў?

– Мабыць, не, – пераглянуліся сябры.

– То, паслухайце, паночкі.

Стары выцягнуў з кішэні рагавеньку[3], уцягнуў у ноздры табакі, крэкнуў са смакам, акуратна выцер бараду і вусы, а пасля распачаў аповед.

– Жыў сярод лясоў дрымотных, лугоў шырокіх Нёманец. Быў ён прыгожы, працавіты ды маўклівы. Прыродзе, людзям, усяму жывому дабром плаціў. Па суседстве жыла рэчка Лоша. Яна, гультаяватая, ляжала ў цяньку ды сабою любавалася. Нікому ад яе не было ні радасці, ні карысці. Яна глядзела ў бок суседа ды дзівілася яго руплівасці. За яго маўклівасць Неманцом суседа празвала.

Цяпер ніхто і не ведае, не помніць, за што Нёманцу прыглянулася рэчка Лоша. Памятаюць толькі пра іх шыкоўнае вяселле. Гуляла на ім уся вялікая радня і жаніха, і нявесты. Каго там толькі не было! Гулялі, балявалі, маладым шчасця ды добрай долі жадалі. Гулі скончыліся, трэба зноў працаваць-шчыраваць. Зноў Нёман-працаўнік не ведаў ні дня, ні ночы. Паіў, карміў, дапамагаў усім, хто да яго гарнуўся: і чалавеку, і зверу, і птушцы, і рыбе, і жыўнасці ўсялякай. Цешыў сваёй вадзічкай прыбярэжныя лясы, палеткі, лугі, на сваіх магутных руках насіў лодкі, плыты, чоўны. Не адзін раз запрашаў на шырокі прастор і сваю красуню ненаглядную. Толькі тая заставалася абыякавая да ўсяго. Па-ранейшаму не хацела падзяляць працу, нягоды і радасці свайго волата Нёмана.

Не па душы стала такое жыццё Нёману. Аднойчы цёмнай ноччу кінуўся ён наўцёкі ад гультаяватай Лошы. Дзе поплавам бег, дзе азярцом. А пасля ўжо пайшоў да мора не хаваючыся. Прачнулася Лоша, а каханага няма. Толькі тады яна зразумела, што згубіла самае дарагое, што было ў яе жыцці. Пачала даганяць любімага ўцекача, бегла па далінах ды па нізінах. Але сіл не хапала. Гукала, плакала, клікала на дапамогу, але ніхто не хацеў дапамагаць гультайцы. Толькі праз колькі часу пабачыла яна каханага. Хвалямі горкіх слёз кінулася Лоша ў абдымкі да свайго вернага асілка. Адчула, што жыць па-ранейшаму, ленавацца – значыць адной застацца, назаўсёды знікнуць, высахнуць. Пачала дапамагаць Нёману. З часам і людзі не абміналі яе, будаваліся на берагах Лошы. Пасля гэтага зажылі ў згодзе Нёман ды Лоша.

А Нёман-бацька і сёння ніколі не забывае родныя мясціны. Кожную вясну, кожную восень у дажджлівую пару вяртаецца да маці сваёй – крынічкі, якая цячэ з-пад вялізнага каменя. Вяртаецца сюды, каб сустрэцца са сваёй Лошай.

– Дзякуй за цудоўны аповед..

Сябры пайшлі далей.

– Гэта трэба занатаваць, – сказаў Ян. – Вось яскравы прыклад таго, што наш народ таленавіты. І мы проста павінны ўсю гэтую народную мудрасць захаваць для будучых пакаленняў. Прыедзем ва ўніверсітэт, абмяркуем з нашымі.

– А як хораша стары расказваў усё на мужыцкай мове, як прыгожа. Заслухацца можна.

Адама таксама зацікавіла легенда. І ў яго пачалі вымалёўвацца нейкія вобразы, словы, асобныя радкі. Нёман. Наш кармілец і абаронца, наш гонар.

Нёмне, рэчка мая радаводная,
Тыя воды, што браў я ў маленстве ў далоні,
Па якіх потым плыў у самотным палоне,
Сэрца ахалодзіць, што зайшлося ў нудзе.

*(Пераклад Рыгора Барадуліна)*

Удосталь нахадзіўшыся, стомленыя, але ў добрым настроі, вярнуліся ў палац. Пасля абеду пан Адам запрасіў іх да сябе. У графскім кабінеце пачэснае месца займалі паліцы з кнігамі, па баках карціны, а вуглы занялі па-майстэрску выробленыя пудзілы мядзведзя і воўка. На стале ляжала разгорнутая кніга.

– Пан Адам нешта вывучае? – заўважыў Ян.

– Не зусім так, – патлумачыў той. – Гэта татава кніга, называецца “Апісанне гаспадаркі пчалярскай, у Шчорсах зладжанай”. Сёе-тое спатрэбілася паглядзець, каб справы на нашай пасецы ішлі ладна. Ці чулі пра гэтую кнігу?

Сябры прызналіся, што не чулі.

– Кніга выключная. Справа ў тым, што тата, магчыма, адзін з першых у свеце выявіў сувязь раення пчол з памерамі вулля. Сам прыдумаў і перайшоў да сістэмы рамачных вулляў, распрацаваў методыку, якая дазваляе павялічваць памеры вулляў. Гэта, пры добрым узятку, можа прынесці недзе каля чатырох пудоў мёду з кожнага вулля. Тата мне расказваў пра гэта, але іншым разам прыходзіцца і пачытаць, каб запоўніць тэарэтычныя прабелы.

Затым гаворка перайшла на кніжную тэматыку. Сябры падзяліся сваімі бібліятэчнымі здабыткамі, зноў выказалі сваё захапленне яе фондам. Пан Адам запрасіў абодвух на тэатральнае прадстаўленне, якое павінна было адбыцца ўжо напрыканцы дня.

Бібліятэка зноў зацягнула. Адам паглыбіўся ў кнігу, з асалодаю паўтараючы радкі, якія спадабаліся. Кнігі – гэта найцудоўнейшае, што вынайшаў чалавек. Як можна не любіць літаратуру, кнігі? Ён азірнуўся на Яна. Той схіліўся над кнігай, пасля над паперай, выпісваючы нешта для сябе. Ах, Яне, як добра, што мы тут, што мы разам.

## ВІЛЬНЯ. КРАСАВІК 1820 г.

Фальварак Маркуце застаўся злева. Да Вільні, можна сказаць, два крокі – каля мілі, а тут, на пагорку, у Паплавах, яна як на далоні. Вунь і Панары, і Бекешава гара – вока радуецца волі, маладосці, прастору. Вясна. Дачакаліся. Хутка тут заспяваюць-зальюцца спевамі салаўі, пойдзе ў рост маладая трава. А сёння праводная нядзелька, сёння тут сход-маёўка, хутчэй, красавікоўка, травень яшчэ не наступіў. Сёння такое незвычайнае мерапрыемства, бо сабраліся не тое, каб на гулянку, а каб пашыраць таварыства філаматаў, абмеркаваць план дзеянняў, дый без лішніх вушэй. Хоць Францішак Малеўскі жартаваў, што авечку стрыгуць, а баран дрыжыць, толькі перасцярога ніколі не будзе залішняй.

Падцягваюцца хлопцы: хто паасобку, хто па два-тры, а хто і купкай. Пост мінуў, усім хочацца разгавецца: сталы пастаўлены, хлопцы нясуць з сабою вяндліну, бохан, хтосьці паўгуся ці барана нават, хтосьці малако, але нямала і такіх, хто толькі з добрым настроем, вершамі-песнямі і з галодным здаровым страўнікам.

Вунь Ян ідзе, усміхаецца белазуба, Ануфры Петрашкевіч абдымае яго за плечы, за ім Францішак Малеўскі, Юзаф Яжоўскі. Хутка ўсе будуць у зборы. Шумна вітаюцца, смяюцца, жартуюць. Не хапае толькі Тамаша. Ды не, вунь і ён, самы прамяністы, самы актыўны. Ад яго і сапраўды нейкае ззянне сыходзіць, усе імкнуцца да яго. А ён здалёк яшчэ пачынае спяваць:

– Гэй, жыць будзем для ўцех, бо жывем толькі раз!

Хлопцы падхопліваюць ягоны спеў, ляцяць увысь маладыя галасы, разрываюць прастор на актавы, нясецца на волю шматгалосы спеў. Добра, ах як добра! Тамаш пачынае невялікую прамову.

– Сябры! Браты! Тут сабраліся ўсе, каму неабыякавы лёс Айчыны, лёс Літвы. Наша кола пашыраецца, мы вітаем аднадумцаў. Мы ведаем, што галоўнае ў нашай дзейнасці – прынесці карысць радзіме, зрабіць усё для яе адраджэння. Будзем жа дапамагаць адзін аднаму, будзем вучыцца адзін у аднаго, будзем адной сям'ёй. Чалавек народжаны быць вольным у сваіх памкненнях да развіцця, да навукі. То працягвайма нашу барацьбу, нашу няспынную працу. Айчына! Вера! Свабода!

Хорам адказалі ўсе яму.

– Заспявайма нашую!

Хлопцы загарлалі:

Не возьмем мы хцівасць ва ўжытак –
Прэч, сквапнасці, пыхі насенне!
Наш самы высокі набытак –
Айчына, навука, сумленне.

*(Пераклад К. Цвіркі)*

А імправізаваныя сталы ўжо чакалі. Згаладалыя маладзёны, якія даўно жадалі разгавецца, абступілі прынесенае, паўсюль чуўся смех, бяскрыўдныя кпіны і жарты. Пілі малако, частаваліся, казалі добрыя словы і ў адрас Тамаша, Адама, Францішка ды Яна. Падсілкаваўшыся, перайшлі да прамоў і выступаў, якія перапыняліся свавольствам ды бегатнёй. Маладое цела шукала выйсця вольнаму духу. Адам чытаў свае вершы, на якія моладзь рэагавала бурнымі воклічамі і воплескамі.

– Сябры! – прамяністыя вочы Янавы свяціліся шчырасцю. – Мы маем сілу, сілу любові да Айчыны і сілу нашага братэрства. Час патрабуе ад нас дзеяння, то не спацьмем у шапку. Таму на ваш разгляд выносіцца распрацаваны сябрамі план далейшай дзейнасці нашага саюза. Прапануецца стварыць яшчэ і секцыі, якія ахопяць самыя розныя накірункі; філасафію, юрыспрудэнцыю, вывучэнне роднага краю. Калі мы хочам лепшай долі нашай зямлі і народу, то павінны заняцца ўсеагульнай асветай. Толькі адукаваны чалавек зможа падтрымаць нашы ідэі і ісці разам з намі.

Пасля пачалося бурнае абмеркаванне не толькі складу секцый, але і тых, хто зоймецца кіраўніцтвам секцый. Неўтаймаваная моладзь раз-пораз выбухала рогатам пасля жартаўлівых прапаноў ці заўваг кагосьці са студэнтаў. Але вырашалася ўсё досыць хутка: зацвердзілі статут, што рыхтаваў Адам, слушныя прапановы Яна і Францішка абмеркавалі, кіраўніцтва секцыямі аддалі Ануфры Петрашкевічу, Тэадору Лазінскаму, Казіміру Пясецкаму, Францішку Малеўскаму.

Назад, у Вільню, Адам вяртаўся з Тамашам, Янам і Францішкам. Пасля Ян пакінуў Адама і Тамаша ўдваіх. Сябры далей пайшлі, разважаючы пра сёняшні дзень.

– Ведаеш, браце, – захоплена гаварыў Тамаш, – уяўляю, колькі мы можам зрабіць такім калектывам! Хлопцы падтрымалі, цяпер пойдзе такая актыўная праца па вывучэнні розных навук, роднай зямлі, нашай мовы, культуры.

– Так, спадзяюся, мы зробім усё, што запланавалі. Я яшчэ хацеў бы, каб мы зрабілі свой літаратурны альманах, там мы маглі б надрукаваць свае творы. Сярод нас столькі паэтаў.

– Ідэя добрая, Адам, трэба падумаць.

Адам раптам уздыхнуў.

– Ты чаго?

– Аднаго баюся – каб мы не расчараваліся ў сваіх памкненнях, сваіх ідэях, каб нам ніхто шкоды не нарабіў. Шмат недабразычліўцаў, шмат ворагаў, шмат тых, хто не жадае дабра нашай Айчыне. Апошнім часам мне сніліся нейкія дзіўныя сны, у мяне нядобрае прадчуванне.

– Кінь, Адам, – засмяяўся Тамаш, – жыццё цудоўнае, паглядзі наўкола, не маркоцься.

– І ўсё ж – нам трэба быць асцярожнымі. Ты куды цяпер?

– Да Зосі.

– То, бывай.

– Да заўтра.

Адам паглядзеў услед сябру і ўздыхнуў. Шчаслівы. Закаханы і шчаслівы, марыць пра ўзаемнасць, хоць і ведае, што Ян таксама закаханы ў Зосю Малеўскую, піша ёй вершы. А яны абодва такія дарагія яму, як хочацца, каб хоць у сяброў была ўзаемнасць у каханні. А ці будзе шчаслівы ён? Марыля, адзіная мая, як жа я сумую па табе.

## ШЧОРСЫ. ВЕРАСЕНЬ 1819 г.

Праца з кнігамі захапіла Адама. Час ляцеў хутка. Ён паспеў выбраць і запісаць для сябе матэрыял, які спатрэбіцца пры напісанні задуманых твораў. Ян таксама паглыбіўся ў рукапісы. Каб зусім не затлуміцца, мець свежую галаву, раніцу яны зноў распачалі з пешай вандроўкі па Шчорсах і ваколіцах. Гэтым разам хлопцы пайшлі напрасткі праз парк. Дзень варажыў спагадлівым надвор'ем. Разняволенае бясхмарнае неба, асвечанае ранішняй сінечай, навейвала лагоду і спакой. Маўклівыя дрэвы, сцішэлае кустоўе, цішыня, якую не парушаў птушыны спеў. Адам раптам застыў на месцы.

– Што здарылася? – Ян таксама спыніўся.

– Паслухай.

З вышыні далятала ледзь чутнае журботнае курлыканне. Паціху яно мацнела, хутка сябры выразна пачулі самотную птушыную мелодыю. Жураўліны клін пакідаў за сабою незразумелую тугу, што цьмянаю жарынкаю варушылася ў душы. Адклікалася туга лёгкім смуткам, добрымі ўспамінамі, няяснымі вобразамі, якія, здавалася, плывуць услед за жуўравамі на далёкі поўдзень. Але смутак і туга не клікалі ў сэрца адчай, хутчэй яны нараджалі веру ў лепшае, надзею на будучыню.

– Ляцяць, пакідаюць родны кут, – задуменна прамовіў Адам.

– Так, але ж па вясне яны вернуцца. У гэтым мудрасць прыроды: шануй сваё, любі радзіму – і шчаслівы будзеш. Хораша тут мне.

– Так. І ўсё гэтае хараство створана рукамі чалавека.

– Галоўнае, калі ў гэтага чалавека ў суладдзі жывуць і душа, і сэрца, і думкі, і тое, што ён робіць. Вось у Храптовічаў усё гэта супадае. Як жа добра, што яны жывуць тут, на нашай зямлі. Яшчэ я мару, каб вось такім хараством расквецілася ўся наша Літва.

Паказалася сажалка, каля яе сябры ўбачылі графа.

– Добрай раніцы. Гуляеце?

– Добрага ранку, пан Адам. Вось, любуемся казачнай прыгажосцю вашай сядзібы.

Пан Адам усміхнуўся.

– Тата быў таленавітым чалавекам – ён паспеў зрабіць нямала за сваё жыццё. Ці ведаеце, што ён нават заснаваў ці не першы ў нашых мясцінах металургічны завод?

– Канечне, не.

– У часы Княства, калі тата займаў пасаду падканцлера, ён заўважыў, што шмат дзяржаўных грошай выдаткоўваецца на прывозны шведскі ці маскоўскі метал. А ў нашым маёнтку ў Вішнёве, на Валожыншчыне, дзейнічалі тры маленькія рудні, якія выраблялі металічныя прылады для гаспадаркі. Старую рудню ў Вішнёве знеслі, на яе месцы ў 1780 годзе ўзвялі доменную печ для выплаўкі чыгуну, адначасова пабудавалі і тры фрышэркі – печы, у якіх чыгун пераплаўлялі ў жалеза. Руду здабывалі непадалёк – на берагах Бярэзіны, яна залягала на глыбіні ўсяго паўтара-два метры. А з вугалем праблем не было: побач Налібоцкая пушча. Там здабывалі драўніну і выпальвалі вугаль. За год выплаўлялі болей за 22-23 тысячы тон чыгуну.

У часы паўстання ў 1794 годзе на заводзе рабілі зброю для паўстанцаў. Калі расійскае войска заняло Вішнёва, заводскае абсталяванне было моцна пашкоджана. Але тата змог арганізаваць аднаўленне разбуранага, і завод запрацаваў.

– Мы ўсё больш даведваемся ад вас і ўсё больш здзіўляемся – гэта ж колькі можа зрабіць адзін чалавек, – з захапленнем зазначыў Ян.

– Адна з галоўных складовых поспеху – мэтанакіраванасць, – падкрэсліў пан Адам, – а тата быў такім чалавекам. Дарэчы, недзе праз гадзіну-другую мы будзем высаджваць дрэвы за сажалкамі. Калі пажадаеце – прыходзьце. У вас ёсць шанец пакінуць свой след на нашай шчарсоўскай зямлі.

– У вас такі вялізны прыгожы і дагледжаны парк, а вы яшчэ высаджваеце дрэвы? – здзівіўся Адам.

– У нашым парку каля двухсот розных парод, – не без гонару зазначыў пан Храптовіч, – але гэта парк. А вось лес пастаянна трэба аднаўляць, інакш праз нейкі час будзе адзін хмызняк.

Вандроўку сябры скончылі каля сыраварні, дзе ўсё наваколле прапахла малочным водарам, пасля чаго вярнуліся да сажалак.

Невядомы спрытны хударлявы чалавек уладным голасам аддаваў распараджэнні сялянам, а тыя выцягвалі з вазоў саджанцы, адносілі іх на траву і пачыналі капаць ямкі. Граф стаяў побач, разглядаў саджанцы. Заўважыўшы сяброў, гаспадар сядзібы паклікаў іх да сябе.

– Рады бачыць, панове. Знаёмцеся – гэта пан Фердынанд Фішар, ён кіруе маёй гаспадаркай.

Фішар пачціва схіліў галаву, павітаўшыся такім чынам. Храптовіч адразу ж прапанаваў сябрам:

– Выбірайце па саджанцу.

Адам зірнуў на воз, асцярожна выцягнуў невялічкі дубчык.

– Што ж, паспрабуйце сябе ў новай справе, пане паэт. Спадзяюся, што вы зможаце некалі пасядзець пад гэтым дубочкам.

Пан Храптовіч працягнуў Адаму рыдлёўку і паказаў месца, дзе можна было пасадзіць маленькае дрэўца. Пасля пасадкі Адам абапёрся на рыдлёўку

і задумаўся. Маленькі дубочак. А лёс яго невядомы, як і лёс чалавека. Ён можа вырасці магутным волатам, пражыць не адну сотню гадоў, радаваць наваколле і людзей сваёй калматай зялёнай шапкай і прахалодай у спякотны дзень, красаваць на ўсю вёску. А можа загінуць, засохнуць нават малым дрэўцам, а можа быць ссечаным, не счакаўшы сярэдняга ўзросту, можа быць спалены агністай маланкай. Віхуры, якія прыносіць жыццё, якія ты не ў сілах пераадолець. Усё, як у людзей.

Ці зможа ён пасядзець пад гэтым дубам, як сказаў Адам Храптовіч? Які лёс яму наканаваны? І раптам на нейкае кароткае імгненне ён, як у яве, убачыў перад сабою дзіўны малюнак: вялізны дуб, пад ім людзі. Людзі з кнігамі, стаяць паўкругам. Яны не проста стаяць, а чытаюць вершы. Што за праява? Адам страсянуў галавою. Відзеж знік. Ён стаяў перад маленькім дубочкам. Людзі. Вазы. І больш нічога.

Ужо працуючы над рукапісамі і кнігамі ў бібліятэцы, Адам узгадаў начны сон, сёняшні відзеж, намагаўся разгадаць сэнс убачанага. Што яму паказвае неба, якія знакі? Усё гэта будзе з ім ці з некім іншым? Адказаў няма. Цікава, чаму яму не сніцца Марыля. Марыля, галубка мая, сэрца сціскаецца ад тугі па табе.

Там, дзе страчаліся шчаснай парою,
Дзе расставаліся сумнай хвілінай,
Буду заўжды неразлучны з табою,
Бо ўсюды я частку душы пакінуў.

*(Пераклад Максіма Танка)*

## БОЛЦЕНІКІ. ТРАВЕНЬ-ЧЭРВЕНЬ 1822 г.

Ён едзе з нейкай хісткай надзеяй, хутчэй мрояй, а не надзеяй. Ну на што мог спадзявацца ён, безграшовы, беззямельны? Путкамеру не роўня. Адно суцяшае – Марыля сама запрасіла яго. Сама. А гэта надзея. Толькі на што. Ат, усё роўна. Спатканне з ёю – сапраўднае шчасце, тым больш, што разам яны прабудуць два тыдні. Цэлых два тыдні, і ён шчаслівы гэтым.

Беразняк змяняецца невялікім борам, пасля цягнецца густы зялёны хмыз, ізноў вясёлы бярэзнічак. Ах, як марудна паўзе фурманка. Здаецца, ён сам гатовы выскачыць з фурманкі і імкліва, як ластаўка, паляцець да яе.

Нарэшце паказалася сядзіба. Адамава сэрца радасна закалацілася: Марыля яго сустракае. Яна сама, адна, больш нікога. Не дачакаўшыся, пакуль фурманка пад'едзе, ён саскочыў і бегма кінуўся да каханай.

– Марыля!

– Адам!

Салодкія абдымкі. Дрыжаць рукі. Яна, учырванелая і неверагодна прыгожая. Як і ён, усхвалявана топчацца на месцы, а ён не ведае, што яму рабіць далей. Бо іх могуць убачыць. Адам выцягвае сваю дарожную валізку, і яны разам шыбуюць да сядзібы.

– Ваўжынец хутка будзе, – сказала Марыля, – ён ведае, што ты сёння павінен прыехаць. Пойдзем, я пакажу табе твой пакой.

Адам не можа ўтаймаваць і схаваць тую буру, што скручвае ў мэтлахі ўсе рацыянальныя пачуцці і думкі.

– Марыля! Каханая! Чаму? Чаму так? Як нам быць далей?

Яна апусціла вочы, асцярожна ўзяла за руку.

– Ты сам усё ведаеш. Навошта ты мучыш мяне і сябе, дакараеш мяне? Я была заручана з ім да знаёмства з табою. Да таго ж бацькі – маці мне, напэўна, не даравала б. Адам, мне самой вельмі цяжка. Але давай пакуль пакінем усё, як ёсць. Час пройдзе, у гэтым свеце нішто не вечнае. Пойдзем.

У доме ўсё прыгожае: і дываны, і мэбля ў французскім стылі, і вокны з ляпнінаю. Галоўнае ўпрыгожанне – Марыля. Ваўжынец падкрэслена ветлівы і нешматслоўны. Пасля вячэры падняліся ў рабочы кабінет, дзе гарталі кнігі, гаварылі пра нешта будзённае – хутчэй, дзеля таго, каб змарнаваць вечар, які чамусьці здоўжыўся для Адама.

Раніца ўварвалася ў пакой бясконцымі і шматгалосымі птушынымі спевамі. Адам расплюшчыў вочы, не адразу зразумеўшы, дзе ён. А калі зразумеў, настрой неяк апаў. Ён тут, з ёю, але яна чужая жонка. Як пераадолець гэтую пакуту? Падняўся, падышоў да вакна, расчыніў. Свежае паветра гаючаю сілаю напоўніла грудзі, маладая зеляніна ўпырснула бадзёрасці і ціхай, амаль непрыкметнай радасці: жыццё працягваецца. Пацягнуўся, сеў за стол. Абяцаў жа напісаць ліст Яну.

“Дарагі Яне. Вось нарэшце я тут, з ёю. Я так даўно яе не бачыў, думаў, сэрца выскачыць з грудзей – гэтак хацеў яе пабачыць. Марыля свая і не свая. Не ведаю, што будзе далей, але, калі яна побач – я шчаслівы. Ваўжынец не замінае нам, трымаецца на адлегласці. Ён давярае Марылі, ведае, што яна не здольная на глупства. Тут хораша, спакойна. Напэўна, я правяду тут два шчаслівыя тыдні. Не сумуй па мне. Я і тут думаю пра нашую агульную справу, буду рыхтаваць матэрыял для “Тебы”[4]. Абдымаю. Твой Адам”.

Настрой у Адама змяняўся ў залежнасці ад абставінаў. Калі Марыля была побач, калі яны разам гулялі ў бярозавым гаі, калі Марыля грала на фартэпіяна і спявала песні для яго – ён, бязмежна шчаслівы, радасна глядзеў ёй у вочы; калі яна садзілася побач з Путкамерам, калі яны недзе ад’язджалі ўдваіх – ён не знаходзіў сабе месца, парываўся з’ехаць, кінуць усё да д’ябла сабачага, хацеў занурыцца ў самы глухі куток. Але кожную раніцу ён прачынаўся і радаваўся таму, што Марыля тут, з ім.

Неяк ён прачнуўся рана – сонца яшчэ не вылезла з-за верхавін. Салаўі разышліся ваўсю, высвіствалі адзін перад адным розныя каленцы, пошчак, здавалася, запаланіў і сядзібу, і двор, і пакоі. Адам доўга стаяў каля вакна, услухоўваўся. І пасля хутка сеў за стол. Радкі пайшлі, паплылі, нібы хто нашэптваў яму тыя словы. Калі ўрэшце ён адкінуўся на спінку, адклаў пяро, перад ім ляжаў стос спісаных лістоў паперы.

Яны сядзяць у кабінеце.

– Хочаш, пачытаю? Сёння напісалася.

– Канечне, навошта пытаешся.

Адам падышоў да Марылі, абапёрся рукою на фартэпіяна.

Калі прымусіць час сказаць “бывай”,
А ў сэрцы не пагасне жар кахання, –
Пакінь без слоў, але не дабівай
Мяне суровым словам расставання...

*(Пераклад Язэпа Семяжона)*

Марыля нейкі час сядзела моўчкі. Яе ясныя сінія вочы затуманіліся, лоб перарэзала танюсенькая складачка, дыханне збілася.

– Ах, Адаме, дарослае жыццё чамусьці не такое, якім я некалі яго ўяўляла сабе, не такое, як у кнігах. Мусіць, людзі не маюць права быць шчаслівымі, мусіць, мы нечым угнявілі пана Бога.

Яна павярнулася да музычнага інструмента, прабеглася па клавішах і заспявала:

Ды цераз мой двор,
Ды цераз мой двор,
Цяцера ляцела.
Не даў мне Бог,
Не судзіў мне Бог,
За каго я хацела.

Скончыўшы песню, Марыля выбегла з пакоя – пачуцці захліснулі яе. Адам падышоў да фартэпіяна, прайшоўся пальцамі па клавішах. Усё не тое, усё фальш. Нішто не мае сэнсу. Як жыць далей?

У поўдзень ён угаварыў Марылю прайсціся. За невялікім бярозавым гаем ляжаў вялізны валун. Яны не раз праходзілі каля яго. Адам жартаваў, параўноўваючы яго то з камердынерам, то са шпегам. Гэтым разам ён спыніўся каля валуна, задумаўся, гледзячы на яго.

– Пра што думаеш?

– А ведаеш, я думаю, што ў гэтым валуне пахавана маё сэрца.

– Што ты такое кажаш?

– Так, менавіта так.

Адам павярнуўся да Марылі, схапіў за руку.

– Заўтра я ад'язджаю. Прыходзь сюды сёння, калі сонца будзе садзіцца. Мы вырашым, што рабіць далей. Трэба вырашаць, я так не магу. Разумееш?

– Я ўсё разумею, але... Прабач.

Марыля вырвалася з яго абдымкаў. Відавочна, яна баялася расплакацца. Павярнуўшыся, хуткім крокам, амаль уподбежкі, яна сыйшла.

Віхура, што бушавала ў ім, змянілася адчаем. Ён хадзіў каля каменя, ірвануўся бегчы за Марыляю, зрабіўшы некалькі крокаў, спыніўся. Доўга сядзеў на месцы, унурыўшы галаву, круціў у руках зламаную галінку бэзу з пасохлымі кветкамі.

"Прэч з маіх воч!" І я знікну без следу,
"Прэч з майго сэрца!" І сэрца скарыцца,
"Прэч з маёй памяці!" З гэтым, ты ведай,
Век наша памяць не зможа згадзіцца...

*(Пераклад Максіма Танка)*

Праз нейкі час ён падняўся, цяжка ступаючы, пайшоў да сядзібы. Адчыніў дзверы гаспадарчай прыбудовы, адшукаў патрэбны інструмент. Вярнуўся да валуна, кінуўся да яго імклівым ценем і ўзяўся высякаць, рабіў тое нават з нейкай злосцю. На адным з бакоў валуна засталося адметнае паглыбленне – невялічкі крыж.

## ШЧОРСЫ. СНЕЖАНЬ 1821 г.

Дзіўным вялізным шарам свяцілася на захадзе чырвонае халоднае сонца. Голыя галіны дрэў не маглі закрыць яго, схаваць ад людзей. З вокнаў

графскага палаца яно ўвогуле выклікала ілюзію нерэальнасці ўсяго існуючага. Адам на хвіліну ўявіў сабе, што ён недзе на месяцы. Цікава, там, пэўне, вельмі холадна. Чырвонае халоднае сонца, цёмны халодны месяц.

– Досыць стаяць і думаць, – падштурхнуў яго Францішак, – пайшлі, пройдземся. У мяне ўжо вочы слепнуць ад кніг.

– Нічога, вочы на тое і патрэбныя, каб чытаць, а інакш якая ад іх карысць, – жартаўліва адгукнуўся Адам. – То хадзем.

Па прытаптаным снезе ішлося лёгка. Сябры мінулі сядзібную браму, падаліся ў бок вёскі. Сям-там скупавата свяціліся рэдкія агеньчыкі. Хтосьці дыбаў насустрач ім. Хлопцы павіталіся.

– Добрага здароўечка, панове.

Сябры пазналі вясковага войта.

– Пан Юзаф спакою не ведае – цалюткі дзень на нагах. Мабыць, пра вас тая показка: воўка ногі кормяць, – пажартаваў Адам.

– Што вы, які з мяне воўк, – усміхнуўся войт. – Я нічога не ўпалюю, нікога не пакусаю. А калі і захацеў бы, то пан Храптовіч не дазволіць.

– Пан Адам гэтак шануе сваіх сялян?

– Я б сказаў так: ён разумее, што калі сялянін зацікаўлены ў сваёй працы, будзе ведаць яе вынік, то і парупіцца ўдвайне. Ён, паночкі, усе наказы пана Іяхіма – царства яму нябеснае і зямелька пухам, харошы быў чалавек – усё пераняў, усё ўвасобіў. І цяпер што мы маем?

– Што? – зацікаўлена вымавіў Францішак.

– А тое, што многія сяляне толькі спяць і бачаць, каб быць пад панам Храптовічам. Вось, напрыклад, нягневіцкія мужыкі. Раней на калядах яны ўжо зубы на паліцу клалі. А цяпер і ў вус не дзьмуць – і самі з хлебам, і скаціна не галодная, і песні паспяваць могуць. Таму, я скажу, наш люд на Храптовічаў моліцца і зычыць ім доўгіх год. Усяго добрага вам, пабягу далей.

Войт адкланяўся і паспяшаўся па сваіх справах. Юнакі далі добрага кругаля па вёсцы. Натаптаўшыся і падурэўшы на невялікай коўзанцы, што зладзілі пасярэдзіне вёскі дзеці, паспяшаліся назад. Там іх чакала цёплая вячэра ў кампаніі гасціннага пана Адама.

– Сустрэлі вашага войта, пане Адам, – сказаў Францішак. – Цікава было б паслухаць, як вы змаглі так паставіць сваю гаспадарку, каб было добра ўсім – і сялянам, і гаспадарам.

– Магчыма, вы ведаеце пра фізіякратаў[5]?. Выдатна, калі так. Дык вось, тата з’яўляўся прыхільнікам гэтай тэорыі. Менавіта таму першым чынам ён і ўзяўся за вывучэнне ўсяго, што тычыцца земляробства. Дарэчы, я вам неяк распавёў, што тата выдаў кнігу аб пчалярстве. То ён яшчэ і напісаў кнігу “Аб праве прыроды”, дзе падрабязна расказвае пра сваеназіранні і практыку, дае абгрунтаванне сваёй дзейнасці. Дык вось, ён вывучаў, абагульняў, практыкаваў не адзін год. І ён прыйшоў да высновы, што лепшы земляроб – свабодны земляроб. Таму першым крокам стала адмена паншчыны.

– Пан Адам, як жа гэта цудоўна, – Францішак не змог усядзець на месцы. – Мы, філаматы, таксама марым пра гэта. Як шкада, што ваш вопыт не пайшоў далей, не пашырыўся на ўсю Літву.

Храптовіч памаўчаў крыху, а пасля адказаў:

– Пагадзіцеся, усё новае і перадавое заўсёды з цяжкасцю прадзіраецца праз зараснікі невуцтва, пыхі, гультайства і зайздрасці. А многім гаспадарам

зямель яшчэ і боязна, змены іх палохаюць, ім прасцей рабіць, як рабілі дагэтуль: не трэба напружвацца, займацца працаю. Яны не разумеюць, што стаяць на месцы – гэта значыць губіць сваю будучыню. Без навукі, без развіцця і самаўдасканалення чалавек, як на гаспадарцы, так і духоўным сэнсе, асуджаны да вымірання.

Ён падняўся, падышоў да вакна, пэўны час углядаўся ў цемень. Затым вярнуўся да стала, прыгубіў з кубка.

– Тата распрацаваў цэлую сістэму кіравання нашай гаспадаркай, я ўсё гэта пашыраю, удасканальваю. Сяляне ў нас маюць свае надзелы, але фактычна яны з'яўляюцца арандатарамі. З сялянскіх павіннасцей засталося толькі некалькі самых неабходных. Нярэдка яны адпрацоўваюць пэўную колькасць гадзін на двор для таго толькі, каб палепшыць сваё матэрыяльнае становішча. А каб не ўзнікала спрэчак за зямлю ў сям'і, маладыя хлопцы ва ўзросце 18-24 год адпрацоўваюць пры двары парабкамі, зарабляюць грошы. Тут іх, дарэчы, бясплатна кормяць і апранаюць. Толькі пасля гэтага яны маюць права ствараць сваю сям'ю. Сяляне маюць вясковы суд, які, пры маім удзеле, вызначае магчымасць стварэння сям'і маладою параю. І, скажу так, гультаёў не любіў мой тата, не люблю іх я, не прыжываюцца яны і на нашых землях.

– А як сёння дзейнічае школа для сялян[6], да адкрыцця якой я прыклаў руку? – зноў запытаўся Францішак.

– Выдатна, – усміхнуўся пан Адам. – Цяпер там недзе каля двухсот шасцідзесяці вучняў. І, акрамя агульнаадукацыйных дысцыплін, мы вучым вясковых дзяцей неабходным рамесніцкім уменням, даём веды па аграноміі. Цяпер сяляне ў нас маюць сваю краму, свой шпіталь, аптэку, могуць бясплатна карыстацца дарамі майго лесу, ім выдзяляюцца дровы. Яны самі вырашаюць пытанне з рэкрутамі, вайсковымі камандамі і камандамі арыштантаў, рамонтам дарог, аплачваюць дзяржаўныя падаткі і зборы.

Адам і Францішак пераглянуліся: усё гучыць, як казка, але насамрэч яны ведалі, што пан Храптовіч не зманіў ані на каліва.

Вячэра зацягнулася. Юнакі яшчэ доўга слухалі аповеды пана Адама пра свайго тату, пра пачатак усталявання ўзорнай гаспадаркі, цяперашні стан перабудовы і ўкаранення новага.

Лежачы ў ложку, Адам доўга думаў пра сёняшні дзень. Францішак, відаць, спаў ужо, да яго ж сон не ішоў. Як жа добра тут, якая атмасфера дабрыні, гасціннасці і неверагоднай веры ў будучыню. Тут увасобіліся ўсе іх думкі пра лепшую сялянскую долю. Не, яны нездарма працуюць, не павінны згінуць іх намаганні, іх памкненні.

## ТУГАНАВІЧЫ. ЛІПЕНЬ 1820 г.

Спякота, канечне, даймала Адама, але ад яе можна было бараніцца: Свіцязь паблізу. Чысцюткая прахалодная вада, цудадзейная крыніца гаючай сілай здымала стомленасць і цяжар у целе. Горай толькі пакуты сардэчныя, якія то знікаюць, то зноў цяжкімі путамі спавіваюць думкі і мары. Марыля, Марыля, мая каханая галубка. Ты ў маім сэрцы назаўжды, ты хілішся да мяне. Вось толькі адна перашкода на шляху да нашага шчасця – Ваўжынец, заручыны. Але не ўсё яшчэ страчана, яшчэ жыве надзея. Як добра, што і сябры побач.

З Наваградка да Туганавіч далекавата дабірацца. Таму Адам напрасіўся

да цёткі Барбары пажыць у яе на сядзібе – маёнтак Верашчакаў і Свіцязь побач, сябры блізка. На другім паверсе свіронка ён паставіў ложак, пісьмовы стол, уладкаваў сабе месца. Цяпер ён вольны ў сваіх занятках, мае ўсё небходнае для сціплага жыцця на нейкі час.

Вечарэла. Паўсядзённае жыццё ў цётчыным двары заціхала. Дзённая спёка апала, дыхалася лягчэй. Недзе ўдалечыні грозна павурквалі грымоты, але самой хмары нідзе не было відаць. Пэўна, што навальніца сюды і не прыйдзе, хоць дожджык і патрэбен. Адам паправіў сядло на кані, лёгка скочыў на яго і скіраваў у бок Туганавіч. Сябры павінны быць на месцы. Вось грабнік, сцежка – яна вядзе ўгару. А там і валун – месца іх таемнай сустрэчы. Ціха заіржаў нечы конь. Ага, амаль усе на месцы.

– А вось і міленькі наш Адам і яго вараненькі конь, – насустрач выйшаў Ян. За ім паказаўся хударлявы і сур'ёзны Ігнат Дамейка.

Хлопцы павіталіся.

– А дзе астатнія?

– Тамаш з Міхалам і Юзафам Верашчакамі зараз павінны быць. Як ты?

– Добра, цётка да мяне прыязна ставіцца, таму я вольны ў сваіх справах.

– Ага, вунь і яны.

І, сапраўды, з-за гары паказаліся коннікі. Спыніліся за некалькі крокаў, прывязалі коней, падышлі. Хлопцы абняліся.

– Што ж, не будзем доўга хадзіць вакол, – пачаў Тамаш, – усе ведаюць дзеля чаго мы сабраліся. Прамяністых нам загадалі распусціць, мы падпарадкуемся. Але нашая дзейнасць не павінна спыняцца. Шчырая праца ў імя Айчыны – гэта стрыжань, на якім мы трымаемся. Ёсць прапанова стварыць новае таварыства, куды мы далучым самых надзейных. Згода?

– Так, так, згода.

– Мы з Янам і Адамам меркавалі, што і як рабіць далей. Прапануем назву нашага таварыства – філарэты. Філарэты – прыхільнікі дабрачыннасці, маральнай чысціні. І мы працягнем барацьбу, працягнем самаадукацыю і адукацыю для нашых людзей. Давайце абмяркуем, як будзем працаваць далей, якія секцыі адновім.

Параіўшыся, сябры вырашылі паставіць на чале арганізацыі Тамаша, абралі кіраўнікоў секцый, вызначылі, што і як будуць праводзіць ва ўніверсітэце. Адам прачытаў новы верш.

Наш цыркуль – сэрцаў вера,
Імкненняў ясны дух,
Дабро – адна ў нас мера,
І дружба – болей двух.
Гэй, згінь ты, суму хмара!
Жывем мы толькі раз,
Стаіць, чакае чара,
Ды не чакае час,
Кроў студзіць, скроні беліць.
Закрэсліць вечнасць нас,
Закрыўшы вочы Фелі...
Вось філарэтаў сказ.

*(Пераклад Анатоля Вялюгіна)*

– Добра, Адаме, вельмі добра, – ухваліўшы верш, Ян паклаў руку сябру па плячо. – Усё так і ёсць – і наш дух, і нашая вера, і дружба нашая.

Спусціліся да крыніцы, са смакам пілі ваду, размаўлялі пра свае справы.

– А неба якое сёння, хлопцы – паглядзіце, – усклікнуў Ігнат. – Толькі тут, на радзіме, яно можа быць такім прыгожым.

Адам прыгладзіў валасы мокрымі рукамі, пацягнуўся. Сапраўды, сёння ўсё здаецца нейкім незвычайным, прыцягальным і таямнічым: і лес, і валун, і крыніца, і коні, што круцяць галовамі і махаюць хвастамі, адганяючы надакучлівую заедзь. А неба! Неба сапраўды чароўнае: чысцюткае-чысцюткае, кожная серабрыстая кропелька як на далоні. Зіхуткія зоркі-бліскавічкі мільярдамі знічак клічуць да сябе, усцілаюць зорны дыван нябачнымі павуцінкамі. Птушыны Шлях[7] заварожвае ўрачыстай веліччу і маўклівай вечнасцю, перад якой сэрца замірае. Які ж велічны свет стварыў Усявышні, якія далягляды. І чалавека, які прыйшоў на гэтую зямлю дзеля таго, каб тварыць дабро, запальваць святло і ўдасканальваць сваю душу.

Раніцай ён прачнуўся ад кування зязюлі. Яшчэ спрасоння падумаў: і колькі ж ты мне налічыш, даражэнькая? Лясная варажбітка спынілася на пятым дзясятку, змоўкла на нейкі час, пасля зноў завяла сваю няхітрую песню. Як жа цябе разумець, міленькая? Гэта ты ўжо для каго іншага адлічваеш? Усміхнуўся сам сабе. Дзівацтва. Людзі вераць у многае, у тым ліку і ў такое глупства. Што яму думаць пра гады, пра смерць. Яго чакае Марыля, яго чакае каханая, яго чакае жыццё – вір, з якога не выбрацца, бо вір гэты якраз і зацягвае цябе ў прадонне. Галоўнае, пратрымацца ў гэтым віры як мага далей. Ат, не пра тое думаю, сёння ж едзе да Марылі. Адам адразу ж падняўся.

Сядзіба Верашчакаў сустрэла госця цішынёю, навокал – ні душы. Адно яму падалося, што ў вакне на другім паверсе мільганула белая Марыліна сукенка. Напэўна ж, чакае. Тая думка ўсцешыла яго, і ён паспяшаўся ў дом.

– Добры дзень, Марыля.

Сэрца замерла: якая ж яна прыгожая.

– Вітаю, радая бачыць.

Ён адчуваў, што яна гаворыць шчыра, што яна сапраўды радая ягонаму прыезду.

– Пойдзем у сад, там цяпер так хораша, – Марыля працягнула яму руку.

Сад, напоўнены пахамі летняга разнатраўя, гукамі птушынага шчабятання падаўся яму вялікай казачнай ладдзёй, на якой яны ўдваіх выправіліся ў далёкае падарожжа. Яны ідуць наперад, ладдзя паціху калышацца ў зялёным моры, вецер ласкава абдымае іх, надзімае яблыневыя ветразі, аблокі плывуць насустрач ім, ледзь чутна граючы нейкую невядомую, але такую чулліва-шчымлівую мелодыю. Здаецца, ён ведае мелодыю, толькі ніяк не можа ўзгадаць, дзе і калі чуў яе. Яны ідуць, размаўляюць, Марыля ўсміхаецца, прыціскаецца да яго пляча, і ён ідзе сцішана-асцярожна, каб не зрабіць ёй балюча. Сёння ў ім ажывае вера і надзея, сёння ў яго самы шчаслівы дзень.

## ШЧОРСЫ. СТУДЗЕНЬ 1822 г.

Ён нават і не ўзгадае той момант, той дзень, калі кніга стала для яго нечым большым, чым проста збор друкаваных літар, слоў, сховішча розных сказаў і гісторый. Сёння ж кніга для яго не толькі і не столькі крыніца новых ведаў, але яшчэ цудадзейны выток для новых задум, натхнення і радасных адкрыццяў. Якая ж асалода, калі ты беражліва, як

самую каштоўную рэч, разгортваеш новую кнігу, перагортваеш старонкі, чытаеш радкі. А затым навакольны свет паступова знікае, сыходзіць – ты застаешся сам-насам з тым светам. Там ты пражываеш іншае жыццё – непаўторна-далёкае, перажываеш падзеі таго часу разам з аўтарам, смяешся і плачаш разам з тымі, пра каго расказвае аўтар. І якое шчасце, што ёсць бібліятэка Храптовічаў. Жыцця не хопіць, каб перачытаць усё. І тут якраз шмат матэрыялу для яго новай паэмы, тут добра пішацца, натхняе і сама атмасфера, і нават дух самой сядзібы.

Грукнулі ўваходныя дзверы. Адам падняў галаву – на парозе стаяў Ян. Гэтым разам сябар зноў напрасіўся паехаць з ім, каб папрацаваць у славутай бібліятэцы. Толькі калі ж ён паспеў выскачыць на вуліцу? Здаецца, сядзеў нядаўна за сталом. Дзіўна. Зрэшты, нічога дзіўнага, калі кніга палоніць, запаўняе ўсю істоту і час спыняе існаванне па-за яе межамі.

– Ух, браце, ведаеш, на мароз бярэцца, – Ян скінуў кажушок, шапку, сеў за стол. – Пана Адама сустрэў: зноў запрашаў нас да сябе пасля вячэры. То, можа, будзем збірацца, ужо час вячэраць?

– Гэткім марозам толькі і застаецца, што сядзець каля цяпельца ды слухаць цікавыя гісторыі. Давай яшчэ чвэрць гадзіны пасядзім – хачу скончыць працу над гэтым рукапісам.

Адам Храптовіч сядзеў ля каміна, разгарнуўшы кнігу. Юнакі павіталіся, паселі ва ўтульныя фатэлі.

– Частуйцеся. Гарбата са шчарсоўскімі зёлкамі і шчарсоўскім мёдам. Мёд якраз ліпеньскі – адзін з самых лепшых.

Сябры налілі гарбаты.

– Які пах, які смак! М-м-м, цуд! – сказаў Адам, сербануўшы з кубка.

– Тут сумесь з сямі траў, – зазначыў Храптовіч. – А рэцэпт майму тату перадаў яшчэ яго дзед па маці. Дарэчы, таксама быў вельмі адукаваным чалавекам, шмат займаўся з татам. Гэта ад яго тата вельмі добра навучыўся размаўляць на мужыцкай мове, добра ведаў гісторыю роднага краю.

– А само мястэчка наколькі старое?

– Вядома яно з 1471 года, насамрэч, узнікла яно нашмат раней. Тады не вялося такіх дакладных метрыкаў, як цяпер. Мабыць, я не зманю, калі скажу, што істотна Шчорсы змяніліся нядаўна. Калі тата ўзяўся весці тут гаспадарку, выбудаваў маёнтак, асеў, тады яны і набылі той выгляд, які вы цяпер бачыце. Шматгадовыя высілкі далі плён. Вы, напэўна, можаце параўнаць Шчорсы, іншыя вёскі і зрабіць свае высновы.

– Так, так, – пагадзіўся Ян, – сказаць, што мястэчка прыемна ўражвае – нічога не сказаць.

– Царкву вы ж, канечне, бачылі. То і яе адбудавалі нядаўна – тата паспрыяў, бо старая, драўляная, згарэла. А цяпер вось такая прыгажосць.

Юнакі памаўчалі.

– Вы цікава ўсё распавядаеце, але ўсё больш пра тату. Толькі і вы ж нямала робіце для развіцця гаспадаркі, – сказаў Ян.

Храптовіч прыгубіў з кубка, крыху задумаўся.

– Ведаеце, як бы яно ні было, усё ж працягваць пачатую, нават не пачатую, а добра пастаўленую справу нашмат лягчэй, чым арганізаваць сваю. Я маю права так казаць, бо не так даўно мы далі пачатак новай гаспадарцы.

– Недзе паблізу?

– Так, за Нягневічамі. Там будзе новая гаспадарка, дзе будуць укараняц-

ца самыя найноўшыя метады земляробства. Ужо цяпер мы прымяняем шматпольны севазварот, распачалі меліярацыю, будуем дрэнажныя сістэмы. Будуць машыны англійскай і амерыканскай вытворчасці. Будзем будаваць сыраварню, бровар, кароўнік, таксама будзем займацца конегадоўляй і авечкагадоўляй. Як бачыце, накірункаў нямала, таму і клопату хапае. Але і вынік безумоўна будзе важкім.

– Якую назву далі гаспадарцы? – пацікавіўся Адам.

– Адампаль.

– Не ведаю, хто вырашаў з назваю, але новае мястэчка таго заслугоўвае, – заўважыў Ян.

– Мне вельмі хацелася б, каб наш вопыт пераймалі іншыя, – адказаў Храптовіч. – На прыкладзе Шчорсаў мы паказалі, як патрэбна працаваць. Спадзяюся, што Адампаль здабудзе не меншую славу.

Ян разгарнуў тэчку, якая ляжала на стале побач з ім. Гэтую тэчку ён паўсюль насіў з сабою, запісваючы ўсё, што лічыў важным і цікавым. Адтуль выцягнуў ліст паперы.

– З вашага дазволу, пане Адам, я прачытаю тое, што напісалася тут, у Шчорсах. Я ўжо не першы раз у вас, сёе-тое пабачыў, пачуў, з мужыкамі вашымі гаманілі, то і маю права нешта сказаць. Вось такія радкі, прабачце:

Пана Храптовіча мужыкі харошы,
Вясёлы, адзеты ды і не без грошы,
У нас Аляшкевічы, Монічы і Гуляры
Маюць і чырвонцы, рублі і таляры.
Мы панам шчаслівы! Да Бога заклічам –
Дай век доўгі жыці з нашым Храптовічам.

Граф спачатку засмяяўся, пасля адказаў:

– Не выбачайцеся, пане Ян, добра атрымалася: самі людзі склалі. Вы ўважлівы чалавек, што, безумоўна, толькі дадае больш павагі да вас.

...Сядзіба застыла ў маўклівым урачыста-белым убранні. Заснежаныя кусты, голле дрэў, дахі, белыя каптуры на слупах агароджы і брамы, халодныя агеньчыкі ў небе. Ён бачыць усю сядзібу з вышыні птушынага палёту. Яна й сама нагадвае вялізную прыгожую птушку, што склала свае крылы на беразе Нёмна, каб даць росквіт шчодрай шчарсоўскай зямлі, радасць жыцця працавітым людзям. Ён узняўся вышэй. Недзе там вежы роднага Наваградка, там, дзе берагі дзяцінства. Але што гэта? Кружляючы, ён спускаецца да сядзібы. Яна знікае, паступова разбураецца. Вось знікаюць некаторыя гаспадарчыя пабудовы, пасля паступова раствараецца ў паветры сам графскі палац, за ім і велічны парк. Адам не разумее: чаму, як, куды? Куды ж падзецца яму? І ён кідаецца ў апошняе ацалелае вакно.

Ян спіць так ціха, што Адам нават не чуе ягонага дыхання. Паўсюль ціха, нават занадта ціха. Цішыня набрыняла цяжкасцю, злавеснасцю. Адам азіраецца. Што за праява? Гэта ж не Шчорсы. І ён з жахам разумее, што трапіў у вязніцу – замест вакна краты. І ён тут не адзін, тут усе сябры: вунь Ян, а там Тамаш, Антоні Адынец, Ігнат Дамейка, Тэадор Лазінскі, Юзаф Яжоўскі. Божа, іх шмат! Як, чаму, за што? Адам разумее, што ён вар'яцее: такога не можа быць. Яны ж не зрабілі нічога дрэннага, нічога злачыннага. Чаму ўсе за кратамі? Ды не, гэта проста сон, проста сон. Трэба прачнуцца, трэба пераадолець насланнё...

Адам з цяжкасцю расплюшчвае вочы. Мокры лоб, гарачае дыханне. Ноч. Сядзіба. Пакой. Ціхенька пасопвае Ян. Божухна, за што яму гэтыя сны і гэтыя пакуты! Калі гэта будучыня, то я не хачу яе. Яна не абяцае нічога добрага ні для яго, ні для яго сяброў, ні для Айчыны. Я хачу быць побач са сваімі сябрамі, хачу вольна хадзіць па роднай навагрудскай зямлі, хачу бачыць Марылю, быць разам з ёю, адчуваць пах яе валасоў, цалаваць ейныя рукі. Я хачу быць шчаслівым. Хіба ж я шмат прашу? Ці чуеш мяне, Госпадзе?

Цішыня здавалася невыноснаю, цішыня пахла чужынаю...

## ВІЛЬНЯ. КАСТРЫЧНІК 1824 г.

Яны ўсе стоўпіліся каля кляштарных муроў. Сабралася нямала людзей – шмат хто з віленчукоў хоча развітацца з хлопцамі. Сёння перадапошні дзень перад тым, як вышлюць Яна Чачота, Тамаша Зана, Адама Сузіна. Яны першыя ластаўкі, першыя ахвяры.

Ахова даўно прыкормленая: хадзілі да гэтага дня, трапяць і сёння, каб развітацца, паціснуць руку, абняцца. Хлопцаў павязуць у крэпасць, у далёкія халады. Добра, што хоць Ануфры ўдалося пазбегнуць арышту, А ён такі актыўны, настойлівы, ён змог наладзіць збор сродкаў. Шмат каму тая дапамога сцепліла месяцы за кратамі, падбадзёрыла, паспрыяла таму, каб яны змаглі збірацца і абмяркоўваць тое, што казаць будуць следчым. Здавалася, удача на іх баку, абыдуцца малой крывёю, дык не, арышт Францішка пахаваў усе надзеі. Улады даведаліся пра дзейнасць філаматаў і філарэтаў, таму і выйшла, як у показцы пра справы: кепска, пане Грыгоры, – што далей, то горай.

Хлопцы засмучоныя, насы павесілі, не чуваць сяброўскіх размоў ды жартаў. Зламаныя ўладнай бурай лёсы, замецены сцюжай дзікай дарогі. Сцюжа чакае трох першых выгнаннікаў у далёкім і халодным краі.

Заскрыгітала ўваходная брама, паказаўся суворы вусаты ахоўнік. Паглядзеў на хлопцаў, абвёў позіркам грамаду і моўчкі кіўнуў, як бы даючы дазвол на ўваход. Гурма юнакоў пацякла ў вязніцу. Адам зайшоў адным з першых, меркаваў, што там толькі арыштанты. Ды не, не адны. Няведама якім шляхам, якім чынам, але некаторыя змаглі трапіць раней: там ужо сядзелі Антоні Адынец, Тамашоў брат, Ігнат Дамейка, Тэадор Лазінскі. Сумныя ды такія родныя твары, скупыя ўсмешкі асвяцілі цёмныя сцены. У Тамашовых руках Адам заўважыў гітару. На драўляным стале прынесеная хлопцамі ежа.

– Гэй, браты, не будзем убівацца, – гукнуў Ян, – паспеем шчэ пагараваць. Калі жывы наш дух – жывем і мы, жыве Айчына. Ці не дзеля гэтага мы згуртаваліся, працавалі, ахвяравалі сваім часам? Так, Адам?

– Так, праўду кажаш, – жыва адгукнуўся Адам, – покуль мы жывы – ёсць надзея. Усё-ткі сёння мы разам, а адно гэта ўжо ў радасць.

– То сядайма за стол. Ці ўсё чарцям у мундзірах аддадзім? – Тамаш прайшоўся па струнах.

Хлопцы засмяяліся. І адразу ж пасвятлела ў вязніцы, і твары юначыя ажывіліся, і лёгкі розгалас пайшоў у цесным памяшканні. Сілкаваліся, падбадзёрвалі адзін аднаго, сёй-той перашэптваўся пра нешта патаемнае. Настрой палепшыўся, вальней задыхала моладзь. Тамаш ударыў па струнах, заспяваў, астатнія ўраз падхапілі філамацкі гімн:

Хоць і не простай дарогай
Мы дойдзем да сіняга рання,
Нам неба тут будзе падмогай,
Праца і мужнасць, і наша яднанне.

*(Пераклад К. Цвіркі)*

Пайшло рэха, зазвінеў турэмны калідор ад моцы маладых галасоў. І неяк забылася ўсім, што яны не на маёўцы, а за кратамі, здавалася ўсё, што тут – тэатр. Праспявалі яшчэ нешта, трохі імпэт збавіўшы. На нейкі час павісла ўсеагульнае маўчанне, падняўся Ян.

– От, мае даражэнькія, як нам суджана развітацца, ды няведама на які час. Калі пабачымся – Бог адзін ведае. Сёння напісаў песню гэтую, паслухайце. Тамаш, падыграй.

Янавы вочы заблішчэлі, ён ліхаманкава перабраў псткі паперы, кадык ягоны прабег туды-сюды, сціснуў руку ў кулак і заспяваў:

Да лятуць, лятуць да дзікія гусі,
Да нас павязуць да далёкай Русі

Ужо на палове Янавай песні некаторыя хлопцы адварочвалі галовы, змахваючы далонню непажаданую слязу. Пачуцці нікому не ўдалося ўтаймаваць. Калі Ян скончыў, сціхла гітара, ледзь не ўсе сябры плакалі – настолькі невыносная туга, жальба авалодала імі. Ужо нікога і нічога не саромеючыся, выціралі слёзы, позіркі ўсіх скіраваліся на Яна, які і сам плакаў. Адам не вытрымаў, падышоў да Яна, абняў. У той жа момант усе стоўпіліся ў невялікі гурт, моўчкі абняліся, прыціснуліся адзін да аднаго. І хваля плачу спакваля стала прападаць, сціхаць, паспакайнела ў вязніцы, пацішэла. Сябры разышліся, прысеўшы на развітанне. Паціскалі вязням рукі, абдымаліся і моўчкі расходзіліся.

Адам ішоў адзін. Лёгкі смутак калыхаўся на душы, такі лёгкі, што ён нават баяўся растраціць яго. Не было адчування бяды, нейкай безвыходнасці, адчування, што гэта канец усяму. Не могуць яны прапасці, ніяк не могуць, справа філаматаў-філарэтаў будзе жыць. Бо гэтулькі сяброў засталося на волі, іх ідэі і думкі пасеяліся на ўрадлівую глебу, дадуць свае парасткі.

Адно ўзгадалася яшчэ: Шчорсы, сон. Прарочы сон. Усё ж вязніца не абмінула іх. Хай сабе, але яно згіне, як сыходзіць з часам усё злое і нядобрае, а сонца абавязкова заззяе над Айчынаю. Бо ёсць на свеце такія, як Ян, Тамаш, Ігнат, такія, як Храптовічы. Іх нямала на зямлі нашай ліцвінскай, яны не пакінуць думаць пра волю, пра лепшую долю. Яны ёсць і будуць.

Марыля, журавінка мая любая. Ва ўсякую часіну, добрую і не надта, а мае думкі з табою. І зноў узнікае пытанне: чаму? Чаму мы не сустрэліся раней? Чаму адбыліся тыя клятыя заручыны? Чаму лёс нелітасцівы да іх? Чаму яны, якія хочуць быць разам, не могуць зрабіць гэтага? Чаму, чаму, чаму...

---

[1] Надпіс на лаціне азначае "Мір і Свабода". А вось як апісвалі архітэктуру палаца сучаснікі. На трох цэнтральных восях стаяў двухпавярховы папярочны корпус, накрыты ўсечаным зверху купалам і расчлянёны пілястрамі з трохкутным франтонам у завершы.

У парк аб'ём выступаў паўкруглым моцным рызалітам. Фасады чляніліся пілястрамі і высокімі арачнымі вокнамі ў простых ляпных ліштвах з замковым каменнем. Высокі трохсхільны, крыты чарапіцай дах аднапавярховых крылаў прарэзвалі барочныя дахавыя вокны. Цэнтральны корпус меў анфіладную планіроўку.

[2] У сне апісаны рэальны факт палення кніг з бібліятэкі графа Храптовіча. Гэта адбылося ў верасні 1939 года, калі савецкае войска ўвайшло ў Заходнюю Беларусь. Кнігі на замежнай мове камандзіры вызначылі як шкодныя, загадалі іх спаліць. Граф Апалінарый Храптовіч-Буцянёў спрабаваў спыніць вандалізм, але безвынікова. Так пэўная колькасць каштоўных кніг з бібліятэкі была страчана назаўсёды.

[3] *Рагавенька* – табакерка з валовага рога для нюхальнага тытуню.

[4] "Геба", назва часопіса, які збіраліся выдаваць філаматы, каб друкаваць свае творы, але задуманае ажыццявіць не паспелі.

[5] *Фізіякраты* – адна з існуючых на той час тэорый развіцця грамадства. Паняцце фізіякрат перакладаецца як улада прыроды, г. зн. прырода з'яўляецца асноўнай крыніцай усіх багаццяў на зямлі. Таму патрэбна развіваць толькі сельскую гаспадарку як асноўны сродак прыбытку ў грамадстве.

[6] У Шчорсах працавала ланкастарская школа, яе арганізацыі паспрыяў Францішак Малеўскі пры падтрымцы Адама Храптовіча. Ланкастарская сістэма ўзнікла ў Англіі напрыканцы XVIII ст., пазней пашырылася ў Еўропе. Сутнасць такой формы навучання была ў тым, што вучні старэйшых класаў, якія добра валодаюць прадметамі, займаюцца з вучнямі малодшых класаў.

[7] Так у Беларусі называлі Млечны Шлях, існуе другая назва – Вайсковы Стан.

Сяргей Чыгрын



...Я распяты табой на крыжы –
Ды іду да цябе распятым...

# Я за цябе буду маліцца

## дождж

Пагавары са мною, дождж,
Пра восень познюю і вецер,
Пагавары пра холад, ноч,
Пагавары пра ўсё на свеце...
Ды ты не ўмееш размаўляць,
А толькі плачаш безупынку...
Кахаць не ўмееш і чакаць,
Стаяць з букетам на прыпынку...
Ты сумны, дождж, ты – абібок,
Гультай сусветны і самотны...
Прыйшоў у горад к нам здалёк,
Як кавалер нібыта модны...
Ідзі адсюль, адкуль прыйшоў,
З табой спаткацца не жадаем...
І дождж пачуў, і дождж пайшоў
Ад нас з самотай і адчаем.

## *ЗА СЛОНІМ І АЙЧЫНУ*

Я сеў з Агінскім выпіваць
Ў кафе нямецкім і шыкоўным,
Праз вокны Шчара нам відаць,
І Шчары бачны нашы вокны.
Наш першы тост за Слонім быў,
Што гэты горад ёсць на свеце,
Бо тут Сапега слаўны жыў,—
Вазілі гетмана ў карэце.
Другі наш тост – за люд сланімскі,
За наш магутны родны люд.
Прапанаваў той тост Агінскі
Ў палацы слонімскім вось тут...
І мы пілі віно да дна,
І не сп’янелі б мы магчыма...
Бо не хапала нам віна,
Калі пілі мы за Айчыну!

## * * *

Не памірайце, хлопцы і дзяўчаты, —
Я кожны дзень пра гэта гавару.
Пакуль жывуць на свеце нашы хаты,
Пакуль жыве на свеце Беларусь!

Я з вамі да бясконцасці багаты, —
Кашу і сею, сею і ару...
Не памірайце, хлопцы і дзяўчаты,
Бо з вамі памірае Беларусь!

## *ЗГОРБЛЕНЫ П’ЯНІЦА*

Згорблены п’яніца з авоськай заходзіць у краму,
Ціха вітаецца й сыпле капейкі на стол.
Просіць прадаць яму пляшку старога “Агдаму” –
Вып’е віна ён і пойдзе адзін на футбол.
Згорблены п’яніца прысядзе далёка за брамаю,
Сонца яму папалошча і шчокі, і нос,
Будзе глядзець ён аддана вачыма туманнымі
Брамніку ў спіну, які да галкіпера,
пэўна, яшчэ не дарос.
Будзе заўзець за сваю ён каманду з правінцыі,
І ўспамінаць, як і сам ён гуляў у футбол.
Толькі цяпер той далёкі футбол яму сніцца,
Так, як і сніцца апошні ў жыцці яго гол.

Згорблены п’яніца крыкне гульцам нешта брыдкае
І замахае рукой, нібы бусел падбітым крылом.
Дзесьці за брамаю – можа, яны і шчаслівыя –
Дзядзьку чакаюць і жонка, і дзеці, і дом.
Свісне суддзя – і футбол гэты хутка закончыцца,
І апусцее ў правінцыі гучны вакол стадыён...
Згорблены п’яніца ціха пад лаўку закоціцца,
І маладосць да яго завітае пад лаўкаю ў сон...

### *ГУМОВЫЯ БОТЫ*

Маці дастала з гарышча гумовыя боты,
Дзе павукі абжыліся вясёлай сям’ёй.
“Колькі яны парабілі у вёсцы работы, —
Маці сказала, пагладзіўшы іх даланёй.—
Колькі гразі, колькі гною яны патапталі,
Колькі дарог абхадзілі са мною яны!
Боты мае – ўсё жыццё ад пакут ратавалі,
І саргравалі ногі мае ад вясны да вясны...”.
Лёгка анучкай выцерла боты ад пылу,
Ногі худыя ў галянішча ўсадзіла яна.
І усміхнулася – боты, здавалася, сілу
Ёй надалі, хоць і страчана сіла да дна.
“Не, не хачу, –раптам мама мне ціха сказала, –
Гэтыя боты я больш абуваць не хачу”...
Зноў на гарышча аднесці мне іх загадала –
Хай павукі там кросны снуюць уначы.
Выканаў просьбу матулі – боты закінуў
Ў самы далёкі і цёмны куток на гарышчы...
Боты ў спакоі надоўга адны я пакінуў –
Дождж не ідзе там і вецер навокал не свішча...

### *ВОСЕНЬ*

Позняя восень. Сумна і цёмна,
Хмары павіслі над нашым сялом.
Едзе мужык на ровары модным
Ў краму вясковую па віно.
Едзе шчаслівы, едзе вясёлы,
Быццам на вуліцы лета яшчэ.
Круцяцца лёгка таненькія колы,
Радасць усмешкі цвіце на шчацэ.
Ровар пакіне ля плота гнілога
І птушанём заляціць да віна.
Колькі ў вяскоўца шчасця такога,
Шчасця, якога не вып’еш да дна.

Кіне ў сумку бутэлек дванаццаць,
Сядзе на ровар – і за сяло...
Хутка вяскоўцы там будуць збірацца,
Будзе за вёскаю там весяло...
Позняя восень. Сумна і ціха,
Зграя варон праляціць над сялом ...
Разам з віном там вып’ецца ліха,
І вып’ецца тое, чаго не было!

## ВЁСКА

*Земляку Міколу КАНАНОВІЧУ*

Еду у вёску – пра ўсё забываю,
Еду туды, дзе маленства прайшло.
Еду у вёску – сваіх сустракаю,
З кім мне заўсёды добра было.
Дзядзька Ігнат і цётка Маруся –
Вас пазнаю я, прыгожых, здаля,
Сяду на лаўку – да вас прытулюся, –
І забываю пра клопаты я.
Цётачка Волька ў хустцы квяцістай –
За дзевяноста ёй, мусіць, гадоў.
Лёс яе ў вёсцы не быў прамяністым,
Бо пахавала ўжо трое сыноў.
Дзядзька Мікола кароўку трымае:
Як без кароўкі у вёсцы пражыць?..
Бабка Ганулька крочыць жывая –
Нават з кіёчкам, як лісцік, дрыжыць.
Я абдымаюся шчыра з сябрамі, –
Дзякаваць Богу, яны шчэ жывуць,
Вуліцы пахнуць у нас пірагамі, –
Смачныя цёткі на святы пякуць.
Еду ў вёску адзін да вяскоўцаў,
Еду, каб з вамі душой адпачыць...
Вы саграваеце душу, як сонца,
А як нам без сонца сёння пражыць?..

* * *

Як цяпер мне на свеце жыць,
Калі я ва ўсім вінаваты?..
Я распяты табой на крыжы,
Нават больш, чым Ісус, распяты.

Як мне сёння, скажы, пражыць?
І няўжо я ва ўсім вінаваты?..
Я распяты табой на крыжы –
Ды іду да цябе распятым.

### *Я ЗА ЦЯБЕ БУДУ МАЛІЦЦА*

Жыві, каханая, жыві,
Я за цябе буду маліцца,
Пяшчотнай зоркаю любві,
Вадой з жыровіцкай крыніцы.

Я за цябе буду маліцца
Высокім небам над зямлёй,
І праліўною навальніцай,
І цёплай летняю расой.

І ветрам ў полі, і спякотай,
Лясамі, нівай і зямлёй...
І самай чорнаю работай,
І цёплай вылітай крывёй.

Я за цябе буду маліцца,
І ўдзень, і ноччу, і заўжды.
І лёгкай ластаўкай, сініцай,
І ціхім позіркам нуды.

І белым снегам каля ганка,
І нашым Нёманам-ракой,
І песняй жыта на світанку,
Радком напісаным, страфой...

Я за цябе буду маліцца,
Каб ты чужою не была.
І не згарэла бліскавіцай,
А вечна ў памяці жыла.

Каб у жыцці нам не згубіцца,
Хай нават проста, без любві...
Я за цябе буду маліцца...
Жыві, каханая, жыві!

Фелікс Баторын



...я ад самага нараджэння чуў жывую беларускую гаворку, лічы, усе яе дыялекты...

# Баба Хайча

***Непрыдуманае апавяданне***

І захацелася ж маёй Ганулі печаных яблыкаў!

А ў доме з садавіны адны толькі мандарыны. А на дварэ сярэдзіна студзеня, снег ляжыць брудны і нейкі змізарнелы, сыпле ледзяны дождж, пад нагамі абліваха. Але што рабіць – закарцела жанчыне, дык трэба гадзіць. Схадзіў я ў краму, купіў. Напякла палавіна мая ў газавай духоўцы яблыкаў. Падала да іх мёд у слоіку, смакуе сама, частуе мяне. Узяў я яблык, пакруціў у руках. Зморшчыўся ён, бедненькі, колер страціў. І ўсплыло ў думцы: "Твар, як печаны яблык".

І следам за гэтаю думкаю, як жывая, паўстала перад маімі вачыма бабуля Хайча, маміна цётка. Яна памерла, калі мне было дзевяць год. За маёй памяццю, была яна заўжды маршчакаватая, з шэрым тварам і бледна-фіялетавымі вуснамі, якія ўвесь час варушыліся, можа, у малітве, а можа, бязгучна паўтараючы словы чарговай песенькі, што старая спявала ў думцы.

Мужа баба Хайча страціла задоўга да вайны, замуж болей не выйшла, гадавала адзінага сына. У сорак першым ён пайшоў у войска, служыў у Асавецкім *укрэпраёне*, дзе ў першыя ж дні вайны трапіў у крывавую мясарубку і прапаў без вестак. Бабуля Хайча прыляпілася да сям'і пляменніцы, перабыла з нашай мамаю і маімі старэйшымі братам і сястрою эвакуацыю, адкуль у сорак чацвёртым бацька прывёз іх у Мінск. Тут я і нарадзіўся.

Бацька наш партызаніў, быў камісарам атрада, меў тры ордэны і медалі. Па вайне працаваў на гаспадарчай рабоце.

Жылі мы на Зялёным завулку блізка Юбілейнага рынка, на месцы якога цяпер стаіць шматпавярховік. Наш дом быў не просты, а памятны. Да вайны ён належаў сям'і татавага сябра дзядзькі Яўсея. У час акупацыі дом гэты апынуўся ў самым цэнтры габрэйскага гета. Тут бацька з сябрам сабралі падпольную групу з габрэяў, што былі вязнямі гета, і акружэнцаў, якія аселі ў Бараноўшчыне, вёсцы недалёка ад Мінска. У лясы яны сышлі ўвосень сорак першага са зброяй і далучыліся да групы НКУСаўцаў і невялічкага атрада, што склаўся з калгаснікаў Рудзенскага раёна. Пазней атрад паступова разросся да цэлага палка. У сорак трэцім тата выратаваў дзядзьку Яўсею жыццё: вынес яго, цяжкапараненага, з-пад кулямётнага агню, прывёз з суседняга атрада хірурга, які аказаў магчымую ў тых умовах кваліфікаваную дапамогу, а потым з партызанскага аэрадрома Яўсея эвакуявалі на Вялікую зямлю. Дзядзька Яўсей асеў у Мыцішчах пад Масквою, а дом падараваў тату, бо сам тут жыць не змог: на падворку роднага дома немцы забілі Яўсееву маці.

Дык вось, калі мы жылі ў гэтым доме, да нас пачалі наведвацца бацькавы партызанскія сябры. Па большасці яны былі вяскоўцамі. Жылося тады цяжка, працадзень у калгасах быў чыста сімвалічны. Трэба было круціцца. Калгаснікі везлі ў горад на продаж бульбу і гародніну з прысядзібных сотак, мяса, птушку, яйкі. Татавы партызаны спыняліся ў нас, начавалі, вечарамі пад чарачку і скварачку вяліся размовы, успаміналі "битвы, где вместе рубились они". Такім чынам, я ад самага нараджэння чуў жывую беларускую гаворку, лічы, усе яе дыялекты. Акрамя беларускай, гучалі ў нашым доме руская, польская, габрэйская мовы, а бацька падахвочваў мяне вучыць яшчэ й нямецкую. Сам ён ведаў яе няблага, любіў паэзію Гейнэ і Шылера, мог гадзінамі дэкламаваць і на мове напісання, і ў класічных рускіх перакладах. З рускай паэзіі ён, як і мама, любіў Пушкіна і Пастарнака, з беларускай – Багдановіча. Спецыяльна для мяне ён набыў выдадзеную асобнай ілюстраванай кніжкай Максімавую "Мушку-зелянушку", якая адразу легла мне на сэрца. Іншым разам у нас адбываліся сапраўдныя літаратурныя вечарыны. Калі бацькі пачыналі свае чытанні, звычайна на кухні, баба Хайча цягнула нас туды і наказвала слухаць разумнае і не сваволіць.

Габрэйскай мове бацькі мяне не вучылі, бо не хацелі, каб у дзіцяці з'явіўся "нямодны" і нават небяспечны акцэнт: маё ранняе дзяцінства супала са сталінскімі антысеміцкімі кампаніямі – барацьбой з "касмапалітамі бязроднымі", разгромам Габрэйскага антыфашысцкага камітэта і распачатым працэсам урачоў-"атручальнікаў", які спыніла смерць "геніяльнага вучня і паслядоўніка".

Але габрэйскай мове я ўсё ж такі збольшага навучыўся – праз бабу Хайчу. Яна размаўляла і па-руску, і па-беларуску, і па-польску, але зразумець яе можна было толькі тады, калі гаварыла яна на мове ідыш.

І бацькам міжволі даводзілася гутарыць з ёю на мамэ-лошн – матчынай мове. Да нас, дзяцей, яна таксама звярталася па-габрэйску, і я неўпрыкмет навучыўся разумець яе.

Калі мне было год пяць, баба Хайча паклікала мяне ў свой пакойчык, урачыста дастала малітоўнік і пачала паказваць габрэйскія літары і тлумачыць, як яны чытаюцца. Я кеміў хутка, бо да таго часу ўжо няблага чытаў па-беларуску і па-руску і спрабаваў сяк-так чытаць па-нямецку па падручніку сястры Светы. Помню пачатак верша з гэтага падручніка: "Sei gesund, Genosse Stalin!" – "Будзь здаровы, таварыш Сталін!"

У бабы Хайчы былі тры кніжкі на ідышы: "Хлопчык Мотка" ды "Песня песняў" Шолам-Алейхема і "Мінскае гета" Гірша Смоляра, бацькавага таварыша па падполлі. Праз колькі часу я ўжо іх чытаў па складах, пытаючыся ў бабы, што значаць незнаёмыя мне словы.

Баба Хайча была вельмі набожная, гадзінамі малілася альбо вывучала "Цэйнэ-урэйнэ" – Майсеева Вучэнне на мове ідыш для жанчын, якім, у адрозненне ад мужчын, не абавязкова было ведаць Лошн-Койдэш – мову Святога Пісання, г. зн., біблійны іўрыт. Набожнасць, аднак, не замінала бабе Хайчы быць таварыскай (па-цяперашняму, камунікабельнай), цікаўнай і нават гарэзлівай. Яна ведала шмат жартоўных песенек на ідышы і спявала іх нам, дзецям. Калі ў Мінску пачало працаваць тэлебачанне, я са здзіўленнем адкрыў для сябе, што песенька "Ву із дос гесэлэ, ву із дос гойз?" ("Дзе тая вуліца, дзе гэты дом?") – руская, і гучыць яна ў фільме "Юнацтва Максіма". Баба Хайча спявала ж яе на ідышы.

Аднойчы бабуля навучыла мяне песеньцы, у якой было рэфрэнам "Ох, эр із а коп" – "Ох, ён і галава!" Я, не падазраючы падвоху, заспяваў яе пры бацьках. Тыя пераглянуліся, і мама выразна зіркнула на бабу Хайчу. Тая зрабіла выгляд, што ўсё гэта яе не тычыцца і, ледзьве стрымліваючы смех, патупала ў свой пакойчык. Потым мама растлумачыла мне, што гэтую песеньку спяваць нявარта, асабліва пры гасцях, бо першыя словы рэфрэна пры спяванні зліваюцца, і атрымліваецца "охэр із а коп" – "охэр – і галава ж". А "охэр" на іўрыце азначае частку цела, на якой сядзяць; і гучыць гэтае слова не так ужо й далікатна.

Баба Хайча любіла размаўляць з гасцямі – былымі партызанамі. Яны па-беларуску расказвалі ёй пра жыццё ў лясах, яна ім па-габрэйску з дамешкам беларускіх словаў – пра эвакуацыю – і ўсе ўсё добра разумелі. Мяне гэта не дзівіла. На нашай вуліцы жылі дзядзька Коля-пячнік і шавец Макарэвіч. Абодва вольна гаварылі на ідышы. Макарэвіч правёў маленства ў габрэйскай сям'і, дзе ад гаспадара вучыўся шавецкаму рамяству, а дзядзька Коля паходзіў з мястэчка, дзе габрэяў жыло больш, чым беларусаў.

Дзядзька Коля меў з габрэямі гешэфт. У саракавых-пяцідзясятых гадах усе сінагогі былі пазачыняныя. А разам з імі – і пякарні, дзе да габрэйскай Пасхі выпякалася маца. Дык дзядзька Коля ў сваім доме склаў адмысловую печ і перад Пейсахам (габрэйскай Пасхай) разам з жонкаю, якую ўсе клікалі не іначай як Пячніхай, ператвараўся ў пекара. Габрэі неслі да іх муку, Пячніха замешвала і раскачвала цеста, дзядзька Коля паліў у печы і здымаў з прыску лісты з гатовым прадуктам. У выніку габрэі былі з мацою, а Коля-пячнік і Пячніха – з капейчынай і чарачкаю.

Татавы былыя партызаны таксама кумекалі на ідышы, бо да вайны ў мястэчках і многіх вёсках жыло шмат габрэяў, былі нават габрэйскія калгасы, і людзі, маючы цесныя зносіны, пераймалі адны ад адных і досвед, і мову.

Праз сваё недасканалае веданне ідышу я, здаралася, трапляў у смешнае становішча. Неяк баба Хайча гавэндала з мамаю пра агульных знаёмых з мінулага. Нехта Менашэ быў кацэвам – мясніком. Улавіўшы слова “кацэв”, я вырашыў, што яно мае дачыненне да слова “кац” – “котка”, і з разумным выглядам перапытаў: “Яны што – усё жыццё гадавалі катоў на продаж?”

Трэба было бачыць, як у бабулі і мамы трэсліся ад рогату жываты.

Цяперашняя вуліца Гарадскі Вал у той час звалася Рэспубліканскай. Была яна, акрамя некалькіх камяніц, забудаваная драўлянымі хатамі і забрукаваная круглымі глыжамі. Па ёй хадзілі трамваі двух маршрутаў. “Пяцёрка” заварочвала налева на Інтэрнацыянальную і далей кіравалася па вуліцы Бакуніна, а “двойка” павяртала направа і ішла па Мяснікова на чыгуначны вакзал. Бабуля мела дзвюх сябровак: бабцю Эльку і бабцю Сошку. Абедзве жылі на Бакуніна. Баба Хайча ездзіла да іх на трамваі. Сама яна ездзіць пабойвалася і дзеля надзейнасці брала з сабою мяне, бо я быў даволі жвавым хлопчыкам і добра ведаў гэты раён: мы з сябрамі часта там гойсалі, гуляючы сярод старажытных муроў у партызанаў-падпольшчыкаў.

Аднаго разу, вяртаючыся ад сябровак, бабуля вырашыла прайсціся пехатою. Было гэта ўлетку, надвор’е стаяла яснае і сухое. Мы дайшлі да трамвайнага прыпынку “пяцёркі” за скрыжаваннем Рэспубліканскай і Інтэрнацыянальнай. Адтуль да Юбілейнай плошчы трэба было паднімацца па даволі крутой гары, і не малы кавалак шляху. А тым часам пачала давацца ў знакі спякота. Бабуля вырашыла, што цяпер лепей праехацца на трамваі. Але “пяцёркі” доўга не было. Метрах у якіх ста на Нямізе, перад абутковай фабрыкай, быў прыпынак “двойкі”. Баба Хайча заўважыла, што з Мяснікова выязджае трамвай.

– Бяжым на “двойку”, – гукнула яна, схапіла мяне за руку, і мы паляцелі. І канечне ж, не паспелі. “Двойка” ад’ехала, калі мы былі метраў за трыццаць ад яе. А ў гэты час з Інтэрнацыянальнай данеслася бразгатанне “пяцёркі”. Мы зноў пабеглі і зноў не паспелі. Бегалі мы тры ці чатыры разы, стаміліся і ўпрэлі. За гэты час спакойна маглі б дайсці да “Юбілейкі”. Нарэшце я не вытрываў, замаліўся:

– Бобэню, бабулечка, давай стаяць на адным месцы, а то мы і да заўтрага не сядзем!

Сышла з жыцця баба Хайча ў пяцьдзясят сёмым. Памірала яна цяжка. Як я цяпер, маючы досвед урача-анколага, разумею, у яе быў рак тоўстай кішкі, праз што ўтварылася кішачная непраходнасць. І без таго сухенькая, баба Хайча зрабілася амаль празрыстаю і бязважкаю. Аднак і тады знайшла яна сілы на апошні сумны жарт:

– Вось вы зараз адчыніце фортачку, падхопіць мяне скразняк – і не спаймаеце...

– Ты чаго не ясі? – пытаецца Гануля. – Табе нясмачна?

Я няўцямна гляджу на яе. У маёй руцэ печаны яблык.

Алена Шаламіцкая



...я нёс цябе,
мая краіна...

# Шляхам адвечным, шляхам сваім...

## *ВЕРШ, НАПІСАНЫ ПАД ПАЎНОЧНЫМ ЗЗЯННЕМ У ГОРАДНІ*

Моўчкі знічкі лаўлю, іх цяплом свой сусвет саграваю
І амаль што лунаю сама ў неабдымнай прасторы
Па-над садам з трох яблынь, над верасам дзікага краю,
Дзе чакае, дагэтуль чакае паўночнае мора.

Абдымай мяне хвалямі, лапамі вежаў сасновых,
Супакой мяне зёлкавым шолахам самым світаннем!
Як імя мне сваё вымаўляць – падкажы мне нанова!
...Вецер ціха абгортвае зоркі празрыстым маўчаннем...

* * *

Мне рыфмы спакою ніколі, бадай, не дадуць.
Я думаю вершамі. Вось – за кавадлу цяжэй –
Ідуць па нейронах. Чыгуннымі ботамі йдуць!
Засценкі мае – амфібрахій, анапест, харэй.

### *КНІЖНЫ ЛЁС*

Перачытаю “на дарослы розум”
Усё, што “не далося” мне калісьці,
Каб зразумець, што позна і адносна...
Каб восенню пісаць лісты да лісця...

Каб вырваць стогн з душы сваёй, нарэшце
І зоркаю на золку апынуцца...
Вось думкі мае – вершы. Мніце. Рэжце.
Яны ж і так ад цяжару парвуцца...

Ізноў спявае цішыня ў люстэрку,
Дзе светлых мар пачатак знік аднойчы.
Гараць у сінім полымі паперкі
З радкамі, што пісалі мае вочы...

### *Я І Ь*

Вобразы і думкі прасяваем сітам
Свайго “я”. А потым – *V is for vendetta**...
Бо мы – сярод ідэяў, не паміж людзей.
Ведаем не факты, давяраем мітам,
І жывем не ў свеце, а ў карціне свету...
Хто ж там у люстэрку? Кім ты ёсць часцей?

---

* «В азначае “вендэта”» *(анг.)*.

* * *

Калі ты кажаш «немаўля не разумее» –
Ох, памыляешся...Не разумеем – мы!
Бо ад яго яшчэ вялікім Богам вее,
І плач яго – анёльскія псалмы.

### *ВЕРШ ПАВОДЛЕ ЭСЭ “АДВЕЧНЫМ ШЛЯХАМ” ІГНАТА АБДЗІРАЛОВІЧА (1921)*

Усё перажыта, усё адкіпела...
Проста наперад птушкаю белай
З дзюбаю моцнай, з вольнай душою
З крыламі шпаркімі... Проста сабою.
Шляхам адвечным, шляхам сваім –
Так пераможам, на гэтым стаім.

### ШЛЯХ

Дзе я, хто я і з кім апынулася ў гэтым жыцці?
Што мне трэба стрываць, а чаго – неабходна пазбыцца?
Толькі б годна і якасна шлях гэты вузкі прайсці:
Пралунаць, як паветраны шар, працякчы, як крыніца...

### ВЕРШ ПАВОДЛЕ РАМАНА «ХАЦІНА ДЗЯДЗЬКІ ТОМА» ГАРЫЕТ БІЧЭР СТОЎ (1852 Г.)

Схаджу да дзядзькі Тома
Ў яго гасцінны дом –
І разам з ім спяем мы пра свабоду...
Але пакуль што комам
У горле той псалом:
Не чую ад надзеі асалоды...

Мне сніліся ільдзіны –
І я па іх бягу
Параненымі босымі нагамі...
Даўно здранцвела спіна...
Мне трэба! Я змагу!
Бо цяжар мой і шчасце – за плячамі.

Схавайце! Памажыце!
Не для мяне – для вас
Такі жыццё падрыхтавала шанец!

...У хатцы дзядзькі Тома
Агеньчык ціха згас...
Няволі і нядолі ён Абранец...

### НЕ ТАКАЯ ВЯСНА

Гэтым разам буслы не вярнуліся,
Хоць магнітам цягнула дамоў,
Хоць сарваныя сэрцы імкнуліся
Да сакральных сваіх палёў...

Вы ляціце, ляціце, дужыя!
І шукайце, шукайце Шлях.
...Мы сустрэнем вас з белымі ружамі.
А пакуль што – за ўзмахам узмах...

### ПРА ГОРАДНЮ

Гэты горад... Зацягвае ўглыб.
Гэты горад – кранае за сэрца.
Рэбры-цэглы яго вуглы...
І ад іх... Не, нікуды не дзецца.

Выцякае з маёй душы
Тонкай ніткай Гараднічанка –
І стварае дзівосныя швы:
Крыжаванку тваей вышыванкі.

### СІНОНІМЫ І АНТОНІМЫ

Я ціха іду міма гэтых і тых:
Каму абыякава і бесцікаўна,
Каму хоць бы што, каму хоць бы хны...
Якім усё роўна, бясстрасна, няўцямна...

Глядзяць раўнадушна, глядзяць бесклапотна,
Жывуць безудзельна, жывуць бестурботна...

І я – паміж іх,
Такіх паўжывых...
Ніякіх – і гэтых, і тых.
Ні холадна ім і не горача ім –
Такім апатычным,
Бястварным такім...

* * *

Са смакам даўкае каліны
Уласны лёс
За тонкай спінай
У невядомыя абшары
Я нёс і нёс,
Як носяць мары,
А не цяжэнныя цагліны...

Я нёс цябе, мая краіна.

### РАНАК 1.0

Я вітаю цябе, мой не першы і не апошні...
Так чакала прыходу твайго, як найлепшых падзей!
Зачарпнуць бы хутчэй тваю сутнасць і боль у прыгоршчы
І схавацца ад часу, ад холаду і ад людзей.

### *РАНАК 2.0*

Распластаўся мой ранак туманам
Недарэчна так, небяспечна.
Мне спазніцца ніколі не рана.
Гэты золак хай доўжыцца вечна!

### *НАЧНОЕ 1.0*

Зіхаціць неўміручымі марамі
Гэты сон мой пад назвай “жыццё”,
Шэпча ноч нешта зоркамі-фарамі...
Я сама для сябе – адкрыццё.

Пачакайце, я выкіну дзённікі:
Марнавала паперу дарма...
Лепш бы хмары закатвала ў слоікі...
Лепш бы ўсё вырашала сама.

### *НАЧНОЕ 2.0*

Ціха знічкі ноч калыша,
Месяц плавае ў імгле.
Насалоджваюся цішай
З чорнай кавай на стале.

Насалоджваюся кнігай –
Неагучаным жыццём.
Думкі, думкі! Ціха, ціха!
Прачынайся, пачуццё!

### *НАЧНОЕ 3.0*

Што ж, пайду пап’ю кампоту
Са сваёю адзінотай,
Кавы – са сваёй журбой...
Ноч – мой час. Самой сабой
Можна быць...
Ад болю выць...
Хто пачуе – хай змаўчыць!
Ненаўмысна ж я такая,
Нікагусенькі не маю...

Я вазьму налью віна:
Ну і файна, што адна.

пераклады

Франсуа-Анры Сулье
Мары Гюлля



...і галоўнае –
неверагоднае пачуццё
свабоды!..



# Ровар дзеля свабоды

### ДЗЕНЬ ПЕРШЫ

Светлы інтэр’ер, белыя шырмы. Летняе святло праступае скрозь фіранкі. Асноўная мэбля – стол і два крэслы, таксама белыя. Усё гэта стварае ўражанне летняга курорта.

ЖАНОЧЫ ГОЛАС *(за кадрам)*. Мадам Жынэст! Мадам Жынэст!

Уваходзіць маладая дзяўчына, жвавая і дынамічная, уся ў светлым, у руках – сумка з прыладамі і сродкамі для прыбірання. Гэта Пруна. Яна праходзіць на сярэдзіну пакоя і зноў кліча.

ПРУНА. Мадам Жынэст!

Паколькі ніхто ёй не адказвае, яна паціскае плячыма і бярэцца за працу. Яна ўстаўляе навушнікі МР3 плэера ў вушы і, падпяваючы, пачынае прыбіраць у рытме музыкі. Уваходзіць пажылая жанчына, уся ў шэрым, у руках трымае паперчыну. Гэта Мары-Роз Жынэст. Яна падыходзіць да дзяўчыны, каторая не заўважыла, як яна ўвайшла.

*Пераклад з французскай Яны ГУЛЬЦЯЕВАЙ.*

МАРЫ-РОЗ. Лупа!.. Мне патрэбная лупа...

Пруна не чуе, Мары-Роз кладзе руку ёй на плячо.

МАРЫ-РОЗ. Калі ласка...

Дзяўчына падскоквае.

ПРУНА. Ой!.. Вы што, з глузду з'ехалі так пужаць? *(Аддыхваецца.)* Добры дзень, мадам Жынэст. *(Робіць музыку цішэй.)*

МАРЫ-РОЗ. Добры дзень, мадэмуазэль Пруна... А што гэта вы тут робіце?

ПРУНА. Вы добра ведаеце што. Я займаюся вамі і вашым домам.

МАРЫ-РОЗ. Я ў поўным парадку, і мой дом таксама.

ПРУНА. Угу, канечне. Калі б не я, учора сюды б прыехалі пажарнікі!

МАРЫ-РОЗ. Што было ўчора – было ўчора.

ПРУНА. Якая цудоўная ідэя – паставіць пірог у духоўку і пайсці немаведама куды...

МАРЫ-РОЗ. Імша – гэта святое.

ПРУНА. Магчыма, але ж хата, якая гарыць, гэта капец які святы жах!

МАРЫ-РОЗ. Я не думала, што вы павінны прыходзіць кожны дзень...

ПРУНА. І дзякуй богу, што я прыходжу кожны дзень, не? Гэта было прапісана ў дамове. Вы ж яе падпісалі? *(Мары-Роз робіць няпэўны жэст.)* Дарэчы, хочаце, адпаліруюю вам гэтую штуковіну? Брутальная яна нейкая, але прыгожая. *(Паказвае на падсвечнік а сямі падстаўках.)*

МАРЫ-РОЗ. Ён вам падабаецца?

ПРУНА. Я, пэўна, была сарокай у мінулым жыцці. Усё бліскучае мяне прыцягвае!

МАРЫ-РОЗ. Вы ведаеце, што гэта такое?

ПРУНА. Ну, так, гэта каб свечкі ставіць.

МАРЫ-РОЗ. Гэта габрэйскі падсвечнік. Завецца менора. Што значыць "які паходзіць ад святла"... Нябеснага святла.

ПРУНА. А вы габрэйка?

МАРЫ-РОЗ. Не. Гэта проста сувенір. Я прывезла яго з Ізраіля.

ПРУНА. Вы ездзілі туды? Як бы мне хацелася павандраваць па свеце!

МАРЫ-РОЗ. Я туды ездзіла, каб аддаць ім свой ровар. Наўзамен яны ўручылі мне медаль.

ПРУНА. Медаль за велік? Ды вас абдурылі! І што, вы ездзілі так далёка толькі дзеля гэтага?

МАРЫ-РОЗ. Гэта вельмі доўгая гісторыя.

ПРУНА. А Іерусалім? Вы пабывалі там? Я яго па тэлеку бачыла. Там шмат аліўкавых дрэваў. Люблю аліўкавыя дрэвы.

МАРЫ-РОЗ. Не памятаю аліўкавых дрэваў... *(Задумваецца.)* А не, што я кажу? Канечне, аліўкавыя дрэвы... Да самага далягляду, вакол Яд ва-Шэм.

ПРУНА. Але не думаю, што мне спадабаўся б Ізраіль. Калі б кудысьці і паехала, дык не туды. Яны ж не надта прыемныя, габрэі тыя.

МАРЫ-РОЗ. Не надта "прыемныя"?

ПРУНА. Ну, тое, што яны чыняць палесцінцам... гэта не крута.

МАРЫ-РОЗ. Гэта таксама – надзвычай доўгая гісторыя. Дапатопная... Яны прыйшлі туды, бо верылі ў Зямлю Абяцаную...

ПРУНА. Кім абяцаную?

МАРЫ-РОЗ. Богам.

ПРУНА. Ды лухта ўсё гэта! Калі б Бог выконваў свае абяцанні, мы б пра гэта ведалі.

МАРЫ-РОЗ. Ён стварыў людзей свабоднымі. Людзі самі здраджваюць усім абяцанням. І ў Палесціне, і паўсюль...

ПРУНА. Калі ў вас ёсць "Люстэрка", я вам яго начышчу да бляску.

МАРЫ-РОЗ. Прабачце?

ПРУНА. Сувенір ваш габрэйскі, вось гэты... Ён увесь нейкі цьмяны. Я са срэбрам умею ўпраўляцца. Чым больш яно блішчыць, тым прыгажэй. Я ад маці навучылася. Калі на яе накатвала дэпрэсія, яна адпаліроўвала ўсю кватэру. Назаўтра ўсё блішчэла-зіхацела. Гэта быў вельмі кепскі знак. Чым больш блішчэла, тым мацнейшы быў прыступ.

МАРЫ-РОЗ. Ваша мама хварэе?

ПРУНА. Не... Не, больш не хварэе... Яна памерла.

МАРЫ-РОЗ. Даруйце...

ПРУНА. Ды няма за што выбачацца... Так, карацей. Трэба дадаць у спіс "Люстэрка"... я пазначу, бо забудуся.

Яна дастае з кішэні нататнік і запісвае.

МАРЫ-РОЗ. Скажыце, здаецца, у ванным пакоі ў шуфлядцы была лупа. Ніяк не магу знайсці...

ПРУНА. Вам патрэбная лупа? У акулярах сваіх ужо не бачыце?

МАРЫ-РОЗ. Яны бачаць лепш, чым я, на жаль. Чым далей ідзе час, тым драбнейшымі робяцца літары, якімі мне пішуць лісты.

ПРУНА. Давайце сюды, я вам прачытаю.

Яна працягвае руку, каб узяць паперу. Мары-Роз крыху вагаецца, пасля дае ліст.

ПРУНА. А, нічога важнага... Гэта запрашэнне... *(Чытае.)* "Дзень памяці ахвяр расісцкіх і антысеміцкіх злачынстваў, здзейсненых французскай дзяржавай"... *(Кідае чытаць.)* Лухта нейкая.

МАРЫ-РОЗ. Што там?

ПРУНА. Што-што... Тое, што я зачытала! Французская дзяржава... яна праўда рабіла гэта? Злачынствы расісцкія і анты-як-іх-там?..

МАРЫ-РОЗ. Антысеміцкія, так. Супраць габрэяў.

ПРУНА. Але калі гэта было?

МАРЫ-РОЗ. А вы, уласна кажучы, адкуль?!

ПРУНА. Ну... з бюро па працаўладкаванні...

МАРЫ-РОЗ. Як гэта магчыма, што вы не ведаеце пра тое, што адбывалася падчас вайны? Дэпартацыя, лагеры?..

ПРУНА. Зараз, пачакайце, я выключу... *(Выключае свой плэер.)*

МАРЫ-РОЗ (*павышаючы голас*). Аўшвіц! Бухенвальд! Нацысты! Гэта вам ні пра што не кажа?

ПРУНА. Няма чаго крычаць, мадам Жынэст, я вас добра чую. Вядома, я бачыла фільмы... Але ж тое немцы, ну, усё гэта... Гэта не французская дзяржава, як пазначана тут, на паперчыне, яны памыліліся.

МАРЫ-РОЗ. ...нарэшце ж – маршал, вішысцкі ўрад!

ПРУНА. Усё гэта калабарацыяністы. Там жа была лінія Мажыно. Яны не маглі прайсці, тыя немцы.

МАРЫ-РОЗ. Што за вінегрэт у вашай галаве? Нічога агульнага няма, вы блытаеце з лініяй дэмаркацыі.

ПРУНА. Хіба правільна не “лінія высадкі”?[1]

МАРЫ-РОЗ. Вы ўсё-ўсё пераблыталі! Высадка дэсанта адбылася нашмат пазней. То былі саюзнікі, якія ў сорак пятым вызвалілі Францыю.

ПРУНА. Ну, як скажаце.

МАРЫ-РОЗ. Але гэта не я так кажу!.. Гэта ж... гэта ж Гісторыя! Што датычыць лініі Мажыно, гэта была серыя ўмацаванняў уздоўж нашых усходніх межаў. Але толку з яе... Немцы яе акружылі, і вось так мы пабачылі, як мсьё Гітлер са сваёй арміяй шпацыруе па Елісейскіх палях у чэрвені 1940!

ПРУНА. Ох і падгарэла кава!

МАРЫ-РОЗ. Не бачу сувязі.

ПРУНА. Не адчуваеце? Пах гарэлага, вось...

МАРЫ-РОЗ. О божухна! Кава! Я ж паставіла яе падагрэцца!

ПРУНА. Не ўставайце, я займуся.

Яна выходзіць. Мары-Роз сядзіць ля стала. Яна выглядае здзіўленай. Гаворыць сама з сабой.

МАРЫ-РОЗ. Як можна забыць? Як можна ўсё забыць?..

Лёгкая змена асвятлення. Шыпіць радыё, чуецца голас маршала Петэна.

МАРШАЛ ПЕТЭН *(радыё)*. З болем у сэрцы я кажу вам сёння, што нам трэба спыніць барацьбу. Я звярнуўся да суперніка з пытаннем, ці гатовы ён шукаць разам з намі, з салдатамі, годны спосаб палажыць канец баявым дзеянням.

МАРЫ-РОЗ. Ты чула, мама? Што ж цяпер будзе? Францыя прайграла ў вайне. Ратаваць больш няма чаго.

Асвятленне пераключаецца. Уваходзіць Пруна, несучы паднос з двума кубкамі.

ПРУНА. Як гэта – “няма чаго”? Я вам толькі што выратавала вашу каструльку. Ледзь паспела... І каву вам зрабіла, свежую, гарачую, зусім не гарэлую.

МАРЫ-РОЗ. Дзякую, мадэмуазэль Пруна.

ПРУНА. Ведаеце што, мадам Жынэст... Я з кухні чула, як вы размаўлялі тутака сама з сабой. Нядобра гэта.

МАРЫ-РОЗ. Я размаўляла не сама з сабой. Я гутарыла са сваёю памяццю.

ПРУНА. Угу, так прынята казаць, але ж мы добра ведаем, што ўсё гэта значыць. Вы лепей карыстайцеся момантам, пакуль я тут у вас, можам памянціць языком. Лепш са мной размаўляйце, чым з мэбляй.

МАРЫ-РОЗ. Мая мэбля... Яна была тут падчас акупацыі. Прынамсі, яна ведае, пра што я кажу.

ПРУНА *(звяртаючыся да зэдліка)*. Ну што ж, раскажы ты мне, які ён быў, той маршал? А ты, столік на ножцы, ці памятаеш пра лінію дэмаркацыі? Га? *(Паўза.)* Не надта гаваркая ваша мэбля.

МАРЫ-РОЗ. Я не хацела вас пакрыўдзіць.

ПРУНА. Але зрабілі гэта. Падобна, я вам надакучыла сваёй прысутнасцю.

МАРЫ-РОЗ. Што вы, зусім не надакучылі, наадварот. Проста вось...

---

[1] Французскія тэрміны “démarcation” і “débarquement”, адпаведна, падаюцца ёй падобнымі (*заўвага перакладчыцы*).

Я ўсё жыццё спраўлялася сама, заўсёды адна, і... Зрэшты, часцей я сама дапамагала іншым.

ПРУНА. Усё ў свой час... Гэта як з падарункамі. Куды прасцей іх дарыць, чым атрымліваць. А я тут, каб дапамагаць вам... Ай, не звяртайце ўвагі. Я рак з асцэндэнтам у раку. Няма людзей больш крыўдлівых. Але ў цэлым мы істоты някепскія.

МАРЫ-РОЗ. А я леў, жнівеньскі, дзясятага.

ПРУНА. Нічога сабе, леў! Дзякуй, што папярэдзілі!

Яна смяецца.

МАРЫ-РОЗ *(каштуючы каву)*. Выдатная атрымалася ў вас кава.

ПРУНА. Дзякую! Ну, дык што там ваша вайна, раскажаце мне?

МАРЫ-РОЗ (*перасоўваючы прадметы перад сабой*). Уявіце: паднос – гэта Францыя... На поўначы – зона, акупаваная немцамі. Ну, не толькі на поўначы. На захадзе таксама, да Бардо і Краіны Баскаў... Вось тут – Вішы. Гэта сюды адступіў урад на чале з маршалам Петэнам. Французская дзяржава – гэта былі яны. А сурвэтка, вось тут, – гэта лінія дэмаркацыі. Такая вось мяжа паміж Францыяй і... Францыяй. Гэтая частка называлася свабоднай, ці неакупаванай, зонай. Паміж сабою мы звалі яе зона Нон-О.

ПРУНА. Ха, смешна! У мяне ёсць сябрук, таксама Но-Но. Насамрэч яго завуць Арно, але ўсе завуць яго Но-Но, як “Но-Но, маленькі робат”, ведаеце мульцік?.. Добра, праехалі... І вось там, цукарніца, – гэта свабодная зона?

МАРЫ-РОЗ. Так. Толькі яна была пустая, тая цукарніца. Не было больш ні цукру, ні кавы, анічога. У нас былі карткі на харчовыя тавары, але што тыя карткі, калі няма больш тавараў... Вы не можаце сабе ўявіць, якія мы бывалі галодныя ў тыя часы. Цягам усёй вайны ў мяне была мара. Вы будзеце смяяцца, але я марыла пра бляшанку сардзінаў у алеі... Ну, дакладней, гэта бедныя, простыя людзі галадалі. Для багатых існаваў чорны рынак.

ПРУНА. Але ж тут вёска зусім блізка... У вёсцы заўсёды можна знайсці чаго паесці.

МАРЫ-РОЗ. Ох, не верце ў гэта. З забеспячэннем былі пастаянныя праблемы, дый уцекачы прыбывалі адусюль. Усе тыя бедныя людзі, што беглі ад арміі ворага... Эльзасцы, латарынгцы, бельгійцы, салдаты, што проста згубіліся... Трэба было ўсіх іх прымаць, шукаць і знаходзіць для іх месца, карміць... Вось у гэты момант я і пачала рабіць тое-сёе.

ПРУНА. Тое-сёе?

МАРЫ-РОЗ. Фальшывыя дакументы.

ПРУНА. Як гангстэрша?

МАРЫ-РОЗ. Але для добрай справы.

ПРУНА. Калі шчыра, на вас гледзячы такога і не скажаш.

МАРЫ-РОЗ. У тыя часы таксама нельга было б сказаць. Несумненна, гэта мяне і выратавала.

ПРУНА. Ніколі б не падумала, што вы ваявалі!

МАРЫ-РОЗ. О не, вайна ваявалася без мяне... Я – гэта Супраціў.

ПРУНА. А я думала, сярод супраціўленцаў былі толькі хлопцы. У кіно паказваюць толькі хлопцаў.

МАРЫ-РОЗ. Далібог, у гісторыі, дый ва ўсім, мужчыны прывыклі ўсё сабою запаланяць.

ПРУНА. Вось-вось, гэта праўда. І нават у ложку. У майго хлопца проста манія спаць па дыяганалі. Як ён хоча каб я дыхала? Чаго я толькі яму

ні казала – без толку, ён усё адно кладзецца па дыяганалі. Ну, такое... Як вы да яго дайшлі, да Супраціву?

МАРЫ-РОЗ. Мы слухалі радыё, мая маці і я. Радыё BBC, з Лондана, і калі мы пачулі генерала дэ Голя...

Лёгкая змена асвятлення. Трашчыць радыё.

ГЕНЕРАЛ ДЭ ГОЛЬ *(за кадрам)*. Што б ні здарылася, агонь французскага Супраціву не павінен згаснуць, і ён не згасне...

ПРУНА. А, так. Яго я ведаю, хоць і не надта добра вучылася.

МАРЫ-РОЗ *(усміхаючыся)*. Я таксама была не надта эрудзіраванай, але калі я пачула гэта, для мяне больш не заставалася пытанняў. Я тады, у 1940, ужо працавала ў сацыяльным сакратарыяце епархіі. Дык вось, пры дапамозе аднаго бельгійскага святара мы і пачалі падрабляць паперы, каб ягоныя суайчыннікі маглі вярнуцца дамоў... Вам праўда цікава тое, што я расказваю?

ПРУНА. Ну, варта сказаць, што гісторыя наогул не мой канёк. Але калі расказваеце вы – гэта іншая справа. Не думала, што вы сапраўды гістарычная асоба.

МАРЫ-РОЗ. Зараз прынясу штосьці, што дапаможа вам лепей зразумець.

Мары-Роз выходзіць. Пруна карыстаецца момантам, каб патэлефанаваць.

ПРУНА *(у трубку)*. ...Звар'яцець можна ад твайго аўтаадказчыка. Ну, ок, мяркую, ты там працуеш... Я таксама дагэтуль на працы. Нуднавата, але нічога. Я скончу а шостай. Спадзяюся, у нас будзе час парэпетаваць... Ну, давай, пакуль. *(Яна кладзе трубку і задуменна паварочваецца да падноса з кававымі кубачкамі.)* Зона Нон-О... Зона Но-Но...

Яна пачынае напяваць.

*Ох, Но-Но, у нас тут лайно*
*Но-Но, Но-Но, у нас тут зона*
*У нас тут зона, Но-Но*
*і – дзіркі ў азоне...*

Мары-Роз вяртаецца, цягнучы за сабою вялікі куфар.

ПРУНА. Пачакайце, вы не павінны валачы гэта адна! *(Яна дапамагае ёй падцягнуць куфар да стала.)* Што гэта? Мы пераязджаем?

МАРЫ-РОЗ. Гэта боепрыпасы.

ПРУНА. Вы збіраецеся абрабаваць банк?

МАРЫ-РОЗ. Не ўсё так проста. Куды лягчэй апустошыць сейф, чым запоўніць прагал у памяці.

Пруна глядзіць на яе не разумеючы.

МАРЫ-РОЗ. Ведаеце, я адчула, што паміж намі ёсць штосьці такое, нібы... нібы вялікая пустэча. Больш за паўстагоддзя пустэчы. Можаце сабе ўявіць маштабы працы?

ПРУНА. Эмм, наконт працы... я яшчэ не ўсё прыбрала, я...

МАРЫ-РОЗ. Ды мы прыбярэм разам, апасля. *(Яна стукае кончыкамі пальцаў па куфры.)* Давайце лепей апустошым гэты лішак успамінаў, каб запоўніць гістарычную пустэчу паміж намі.

ПРУНА. Я не ўпэўненая, што гэта было прапісана ў кантракце, усё вось гэта. Што скажуць у канторы, калі даведаюцца?

МАРЫ-РОЗ. Хм, нават у немцаў не атрымалася прымусіць мяне гаварыць. Таму...

ПРУНА. ...Зрэшты, тут ці пыласос, ці вось гэта... Ну, добра, з чаго пачнем?

МАРЫ-РОЗ. Трэба проста пакапацца, што выпадзе – тое й выпадзе.

Яны корпаюцца на дне куфра. Пруна выцягвае фотаздымак.

ПРУНА. Гэта што за дзядуля? Сям'я ваша?

МАРЫ-РОЗ. Крый Божа! Гэта маршал, Філіп Петэн. Пасля паражэння нашай арміі ён стаў кіраўніком урада.

ПРУНА *(дастаючы іншую паперу)*. О, тут нават песенька ё...

МАРЫ-РОЗ. "Маршал, мы тут, перад табою, о, збаўца Францыі..." Я ведала яе на памяць. Дзеці ў школах павінны былі спяваць яе кожны дзень. Іх нашпігоўвалі гэтай хлуснёй.

ПРУНА. Калі я штосьці і вынесла са школы, дык толькі тое, што школа – гэта не маё... Словы песні нейкія смешныя!

МАРЫ-РОЗ. Вам яны падаюцца "смешнымі"?

ПРУНА. Ну, так, даволі смешнымі... Даруйце, канечне, але яны настолькі бязглуздыя, што мне хочацца рагатаць! Трымайце, я магу вам яе рэпчыкам праспяваць.

МАРЫ-РОЗ. Чым? Рэпачкай?

ПРУНА. Ды не. Рэпчык, рэп, музыка такая. Ён ужо гадоў дваццаць як існуе... Ці, хутчэй, RnB... Зара пабачыце: спрацуе нават з ідыёцкімі словамі!

Яна пачынае спяваць.

*Святы агонь, святы агонь,*
*ўздымаецца з зямлі маёй.*
*Французы ў захапленні*
*цябе вітаюць, маршал!*
*Адданыя душой табе,*
*тваім гадам і барацьбе,*
*на твой вышэйшы кліч*
*крычаць: заўжды гатоў!*

Пруна заліваецца смехам перад ашаломленай Мары-Роз.

ПРУНА. Хіба не? Не смешна?

МАРЫ-РОЗ. Гэта... гэта дзіўна! Але ў тыя часы, паверце, той, хто пасмяяўся б з такога, дорага б заплаціў.

ПРУНА. Праўда што. Як паглядзіш на яго фізіяномію, робіцца зусім не да смеху.

МАРЫ-РОЗ. Ведаеце, ён вельмі падабаўся людзям... Ён прыдумаў лозунг, "слоган", як вы сёння кажаце: "Праца, Сям'я, Айчына".

ПРУНА. Так, гэта я ведаю.

МАРЫ-РОЗ. Але ж якая мана! Праца... ды ён высылаў маладых працаваць у Нямеччыну! Сем'і былі разбураныя ці самі развальваліся, а айчыну, па руках і нагах звязаную, ён аддаў ворагу.

ПРУНА. А сёння ж тое самае: працы няма, сем'і ўсе змешаныя, а айчына – гэта калі Францыя перамагае на футбольным чэмпіянаце.

МАРЫ-РОЗ. Што ж вы такое кажаце? Як вы можаце такое казаць! Ні ў якое параўнанне не ідзе дзень сённяшні з эпохай, пра якую я вам расказваю. Сёння існуюць розныя выданні, вы можаце напісаць усё, што вам

хочацца... Вы можаце выйсці на вуліцу, не рызыкуючы быць затрыманай, не рызыкуючы сабой!.. Не, няможна тут параўноўваць, паверце мне.

ПРУНА. У мяне ёсць суседка, яна данесла на чалавека з пад'езда, таму што ён сушыў бялізну на балконе, а гэта забаронена.

МАРЫ-РОЗ. Ну, немагчыма забараніць дурню паводзіць сябе як дурань. Але ўсё ж такі параўноўваць такое з тым, што перажылі мы... Гэтая штодзённая трывога, штодзённая пагроза... Тыпы з гестапа... Нават гук матора, калі машыны запавольваліся на павароце... Я проста пераставала дыхаць.

ПРУНА. А што вы зрабілі кепскага?

МАРЫ-РОЗ. Ды нічога кепскага я ніколі не рабіла. Проста не падпарадкоўвалася закону, бо закон той быў ганебны... Супраціўленцы выдавалі свае газеты. Гэта было забаронена, канечне. Дык вось я тыя газеты захоўвала і распаўсюджвала. У нас меліся падпольныя паштовыя скрыні.

ПРУНА. І яны вас злавілі?

МАРЫ-РОЗ. Яны штосьці падазравалі. Ці іх праінфармавалі... Аднойчы яны прыходзілі да мяне з вобшукам, але мяне загадзя папярэдзілі... А праз некалькі дзён мяне выклікалі ў камісарыят. Гэтым разам паліцыянт з самой Тулузы прыехаў знарок па маёй справе... Агідны персанаж небывалай крывадушнасці...

Змена асвятлення. На Мары-Роз падае святло камісарыята.

КАМІСАР *(за кадрам тут і далей)*. Ваша прозвішча, імя, прафесія.

МАРЫ-РОЗ. Жынэст, Мары-Роз. Працую ў сацыяльным сакратарыяце Епархіі, мсьё інспектар.

КАМІСАР. Камісар, мадам. Мсьё камісар.

МАРЫ-РОЗ. Мадэмуазэль, мсьё камісар. Мадэмуазэль.

КАМІСАР. Дзе пражываеце, "мадэмуазэль"?

МАРЫ-РОЗ. 40, прадмесце Мусцье, мсьё камісар.

КАМІСАР. За два крокі ад гестапа?

МАРЫ-РОЗ. За сто метраў, па другі бок вуліцы.

КАМІСАР. Вас гэта не турбуе?

МАРЫ-РОЗ. Чаму ж яно павінна мяне турбаваць, мсьё камісар? Мне такое суседства бачыцца ў найвышэйшай ступені заспакаяльным.

КАМІСАР. Вядома... Але ж, мадэмуазэль, немцы... Разумееце, што хачу сказаць?

МАРЫ-РОЗ. Немцы?

КАМІСАР. Не старайцеся падацца больш наіўнай, чым вы ёсць на самой справе... Паміж намі, французамі... Мы ж добра ведаем, што ўсе мы, французы, у глыбіні душы іх ненавідзім, гэтых немцаў.

МАРЫ-РОЗ. Я нікога не ненавіджу, мсьё камісар. Для мяне што немцы, што французы... мы ўсе браты і сёстры паводле Евангелля.

КАМІСАР. Усё гэта пахвальна, мадэмуазэль, але, тым не менш, нашыя службы добра праінфармаваныя наконт вас.

МАРЫ-РОЗ. Я француженка і патрыётка сваёй краіны, мсьё камісар.

КАМІСАР. Была такая публікацыя... пад назвай "Барацьба"... Вам гэта пра што-небудзь кажа?

МАРЫ-РОЗ. "Барацьба"? Маеце на ўвазе ваенную газету?

КАМІСАР. Ходзяць чуткі, што вы раздавалі гэтыя брашуры, якія так падбухторваюць людзей.

МАРЫ-РОЗ. Гэта не чуткі, мсьё камісар. Гэта паклёп.

КАМІСАР. Сведкі расказваюць пра жанчыну на ровары...

МАРЫ-РОЗ. Яны, безумоўна, маюць рацыю. Шмат жанчын у нашы дні ездзяць на роварах.

КАМІСАР. Дапусцім! Пагаворым крыху пра маршала. Адна з вашых сябровак заявіла на публіцы, што лічыць яго “старым... ёлупнем”.

МАРЫ-РОЗ. Грэх маладосці, мсьё камісар. Не надта, канечне, паважліва, але маладыя часта даюць людзям ва ўзросце больш гадоў, чым тыя маюць.

Змена асвятлення, вяртаемся ў дзень сённяшні.

ПРУНА. Гэта і праўда так. Калі мне было пятнаццаць, трыццацігадовыя падаваліся мне дыназаўрамі... Дык што той камісар? Ён вас адпусціў?

МАРЫ-РОЗ. Ён, канечне, вельмі стараўся, але з мяне як з гусі вада. Урэшце ён сказаў: “Вы свабодны”. Я адказала: “Я таксама так лічу”. Вось бачыце – такая мая свабода, ніхто не змог мяне яе пазбавіць.

ПРУНА. Але ж хапанулі вы страху!

МАРЫ-РОЗ. Ён мяне, канечне, пагладзіў супраць шэрсці. Ведаеце, што яму хапіла нахабнасці мне сказаць? Знянацку ён запытаўся, ці я “не замужам без дзяцей альбо не замужам з дзецьмі”. Я так збянтэжылася! Зразумела, сёння такім пытаннем нікога не здзівіш, але ў тыя часы... запытаць у дзяўчыны, ці яна... ну, ведаеце...

ПРУНА. У вас ніколі не было дзяцей, мадам Жынэст?

МАРЫ-РОЗ. А вы думалі, я проста какетнічала, усё жыццё просячы звяртацца да мяне “мадэмуазэль Жынэст”?

ПРУНА. І вам іх не хацелася?

МАРЫ-РОЗ. Гэта надта асабістае пытанне.

ПРУНА. ...У мяне іх таксама няма. Часам я адчуваю нейкую пякоту ў жываце. Але я трымаюся, не паддаюся... Мой хлопец кажа так: “Вы, дзяўчаты, створаныя, каб несціся, вось вы і несяцеся. Гэта мацней за вас.”

МАРЫ-РОЗ. Бач які далікатны, хлопец ваш.

ПРУНА. Але ж ён мае рацыю. Я амаль не сустракала дзяўчат, якія не паддаліся. А пасля... вы ж толькі паслухайце іх, гэтых, што “прынесліся”, як яны на вас ціснуць: “Але ж даражэнькая, як так? Табе іх не бракуе? Каб ты толькі ведала, чаго сябе пазбаўляеш, якой вялікай радасці!” ды іншыя печкі-лавачкі... Я ў шаленстве! Ведаеце, што я ім адказваю? “Яны жах на мяне наганяюць, дзеці вашыя!”

МАРЫ-РОЗ. Вы баіцеся дзяцей?

ПРУНА. Не іх, за іх. Вы іх бачылі? Такія мякенькія, такія нявінныя, зусім безабаронныя... А жыццё іх падпільноўвае, вунь там, каб хап! – і з’есці іх, свежанькіх!

МАРЫ-РОЗ. Вы начыталіся “Чырвонага Каптурка”. Магу вас запэўніць: не за кожным рогам вуліцы сядзіць воўк. У саракавыя яны прыйшлі сюды, тыя ваўкі, як яны думалі, назаўсёды, але мы іх прагналі. Дзеткі, кветкі жыцця, нараджаюцца, жыццё працягваецца...

ПРУНА. Вы што, тэлек не глядзіце? Страшэннае беспрацоўе, планета гіне ў рэжыме рэальнага часу, крызіс на кожным узроўні. Нават калі б я выйшла за швейцарскага мільярдэра...

МАРЫ-РОЗ. У нашых вёсках такіх не водзіцца!

ПРУНА. Сем мільярдаў, вы можаце сабе ўявіць?

МАРЫ-РОЗ. Сем мільярдаў чаго?

ПРУНА. Такіх, як мы з вамі, хто нарадзіўся таму, што іхнія мамы не

змаглі гэтага прадухіліць. Уяўляеце? І дзевяць мільярдаў праз два гады, па ўсім мяркуючы. Будзе вельмі цяжка ўтрымліваць усе гэтыя кветкі жыцця на такой маленькай, як наша, планеце.

МАРЫ-РОЗ. Гасподзь сказаў: “Пладзіцеся і размнажайцеся...”

ПРУНА. У ягоны час, можа, гэта і было актуальна, людзей было няшмат. Дый розныя хваробы забіралі семярых дзяцей з дзесяці, яно было таго варта. Але сёння, з усімі сучаснымі выгодамі цывілізацыі, нават старыя ўсё ніяк не хочуць паміраць. Ну, гэта я не пра вас, канечне, але так, агульна кажучы...

МАРЫ-РОЗ. Трэба верыць у жыццё, мая мілая.

ПРУНА. І гэта кажаце вы – тая, у каторай не было аніводнага дзіцяці!

МАРЫ-РОЗ. Мая старая маці была такая кволая... Мой бацька памёр у 39 год. Нам трэба было неяк арганізавацца. Да таго ж – вайна, нацысты, варварства... І я, уцягнутая ва ўсю гэту гісторыю. Што б было з тым дзіцем, калі б маці арыштавалі ці нават саслалі?

ПРУНА. Але ж пазней, пасля Вызвалення?

МАРЫ-РОЗ. Відавочна ж, надта позна. Не ведаю... Калі б вы толькі бачылі тварыкі тых дзяцей, тых малых габрэйскіх дзетак, якімі я займалася... Мы хавалі іх па ўсім рэгіёне, у кляштарах.

ПРУНА. А іхнія бацькі?

МАРЫ-РОЗ. Галоўным чынам прапалі без вестак. Тыя тварыкі дзяцей... яны не давалі мне спакою нават у сне. Я была, як вы: баялася за іх. Далібог, ці існуе мяжа пакутам, што можа вынесці душа чалавека?..

Смешная мелодыя тэлефона перарывае іх. Пруна дастае свой мабільны.

ПРУНА. Упс! Пардон... *(Адключае тэлефон.)* Усё гэта класна, што вы мне тут расказваеце, але мне трэба бегчы, ужо час. З вамі ён так хутка бяжыць, проста неверагодна.

МАРЫ-РОЗ. Ну, бяжыце, бяжыце.

ПРУНА *(паказваючы на адкрыты куфар)*. Шкада пакідаць вас у гэткім балагане...

МАРЫ-РОЗ. Не пераймайцеся.

ПРУНА. Калі пажадаеце, заўтра працягнем.

МАРЫ-РОЗ. Калі хочаце...

ПРУНА. Ну, то да заўтра?

МАРЫ-РОЗ. Да заўтра.

Пруна хутка выходзіць. Мары-Роз затрымліваецца каля куфра, разглядаючы раскіданыя паперы. Пачынае ціха гучаць музыка 40-х гадоў, дэкарацыі пакрысе знікаюць у цемры.

МАРЫ-РОЗ. Ты бачыш, мама, хутка ўсё знікне, нібы і не было нічога. Нібы мы нічога і не пражылі... 1940 – гэта будзе проста лічба, такая ж далёкая і абстрактная, як 1515. Больш ніхто не будзе расказваць ні пра нашу смеласць, ні пра наша змаганне. Калі памрэ апошні, цішыня паглыне ўсё. Застануцца толькі словы ў кніжках для тых, хто яшчэ працягне іх чытаць. А пасля і кнігі перастануць чытаць. І ўсё будзе забыта.

Музыка паволі сціхае. Цемра.

### ДЗЕНЬ ДРУГІ

Святло рэзка загараецца, гучыць музыка. Уваходзіць Пруна, у вушах навушнікі. Яна застывае, убачыўшы Мары-Роз – захутаная ў шэры шаль, яна спіць, абапершыся на стол.

ПРУНА. Мадам Жынэст?.. Мадам Жынэст! *(Яна выключае свой MP3, падыходзіць да жанчыны і асцярожна трасе яе за плячо.)*

МАРЫ-РОЗ *(прачнуўшыся)*. А, добры дзень, мадэмуазэль Пруна. Але каторы гэта час?

ПРУНА. Фух, як добра, што вы загаварылі! Я падумала, вам дрэнна... Ужо дзесяць гадзін.

МАРЫ-РОЗ. Вы прыйшлі раніцай?

ПРУНА. Так, толькі што. Ану скажыце: вы што, спалі вось так?

МАРЫ-РОЗ. Ды не... Я прачнулася вельмі рана... Нашая ўчарашняя размова круцілася ў галаве ўсю ноч. Я хацела перачытаць некаторыя рэчы, а пасля...

ПРУНА. Ох, не трэба было. Нядобра гэта – не спаць уночы.

МАРЫ-РОЗ. Ай, высплюся ў труне ...

ПРУНА. Вось яшчэ... Так, карацей! *(Зноў уключае свой плэер.)* Пазавіце мяне, калі буду патрэбная.

МАРЫ-РОЗ. Як мне з вамі размаўляць, калі ў вас гэты апарат заўсёды ўвушшу?

ПРУНА. Яны не замінаюць, там не гучна.

МАРЫ-РОЗ. Гэты пастаянны шум... ён не перашкаджае вам думаць?

ПРУНА. Гэта не шум, а музыка. Апрача таго, калі я пачынаю думаць, мне робіцца сумна. Таму лепш пазбягаць гэтага.

МАРЫ-РОЗ. Але ж гэта так добра – пабыць з сабою сам-насам, у цішыні.

ПРУНА. Ды сумна ў цішыні...

МАРЫ-РОЗ. Сум цішыні можна ўтаймаваць... Магчыма, музыка і ёсць ваш сродак утаймавання.

ПРУНА. Ну, магчыма і так.

Мары-Роз працягвае размаўляць, а Пруна пераходзіць у іншы пакой.

МАРЫ-РОЗ. Я знайшла штосьці, што хацела б вам падарыць. *(Яна бярэ кнігу са свайго "куфра ўспамінаў".)* Трымайце, вас гэта можа зацікавіць. Гісторыя, наскрозь прасякнутая драмай, але ў ёй столькі надзеі ды... *(Раптам разумее, што размаўляе з пустэчай.)* Куды вы падзеліся, што вы там робіце?

ПРУНА *(за кадрам)*. Наводжу парадак на кухні. Гэта проста неабходна. Якая яна брудная, ваша столь!

МАРЫ-РОЗ. Уборка можа пачакаць, хадзіце сюды! Вы павінны дапамагчы мне разабрацца з дакументамі, з усімі маімі ваеннымі справамі!

Пруна ўваходзіць, размахваючы шчоткай.

ПРУНА. Упэўненая, што гэта ўсё таксама з часоў вайны. Вы толькі гляньце! Гэта ж не павуцінне – гэта ж парашут нейкі!

МАРЫ-РОЗ. Дарэчы, парашут... Дзякуй, што нагадалі вам расказаць пра Боба.

ПРУНА. Боба? Добра, як пажадаеце. Слухаючы вас, акурат скончу сваю столь, таму што калі прыйдзе хто-небудзь з канторы праверыць, я магу развітацца з працай... Ну, не крыўдуйце! Як распраўлюся з павукамі – зоймемся вашай вайной, абяцаю. Калі толькі гэтым можна вас парадаваць...

Яна выходзіць.

МАРЫ-РОЗ. Павукі... Столькі здзекаў з іх... Раней мы крыху прыбіралі кожную нядзелю ды раз у сезон рабілі генеральную ўборку, гэтага было дастаткова.

Змена асвятлення.

МАЦІ *(за кадрам тут і далей)*. Мары-Роз! Я ўжо пачала хвалявацца. Ты вяртаешся занадта позна... Я хацела прыбраць у хаце, але ў мяне не хапіла сілаў павыбіваць дываны.

МАРЫ-РОЗ. Даруй, мама. Апоўдні мяне паклікаў Монсеньёр, я была яму патрэбная. Пасля я павінна была хутка ляцець у сакратарыят.

МАЦІ. Гэта не магло пачакаць?

МАРЫ-РОЗ. Монсеньёр Тэас склаў ліст, які ён хацеў даручыць надрукаваць даверанай асобе. Вялікі гонар, што ён выбраў мяне.

МАЦІ. Нейкі сакрэтны ліст?

МАРЫ-РОЗ. Заўчора габрэяў арыштавалі, каб адправіць у лагер Сэтфон. Мы дапамаглі ім збегчы і схавацца... І ўсё гэта пры саўдзеле французскіх уладаў і паліцыі!

МАЦІ. Дзеля гэтага епіскап і паклікаў цябе?

МАРЫ-РОЗ. Ён напісаў цудоўны ліст. Ліст абурэння і пратэсту. Цікава ўсё гэта, ніколі не падумала б, што наш Монсеньёр на такое здольны... І вось сёння...

МАЦІ. А каму ён напісаў гэты ліст?

МАРЫ-РОЗ. Усе святары дэпартамента яго зачытаюць у нядзелю, з амбонаў. Таму цяпер нам трэба распаўсюдзіць копіі ліста. Монсеньёр хацеў адправіць іх па пошце, але ж ты разумееш, што я іх адгаварыла. Цэнзура б адразу іх злавіла.

МАЦІ. І як вы зробіце?

МАРЫ-РОЗ. На ровары, мама. Гэты ліст я развязу на ровары па ўсіх парафіях.

МАЦІ. Але ж гэта вар'яцтва, дзіця маё!

МАРЫ-РОЗ. Вар'яцтвам было б не рабіць нічога. Кожны дзень навокал здараюцца беды, дзеці губляюцца, людзей высочваюць... Яны ў бяспецы ў нашых манастырах, але ж ці надоўга?

МАЦІ. Але калі немцы вас затрымаюць, калі яны знойдуць гэтыя лісты?

МАРЫ-РОЗ. Яны іх не знойдуць.

Чуецца грукат. Змена асвятлення, вяртаемся ў дзень сённяшні.

ПРУНА *(за кадрам)*. Тваю ж!..

МАРЫ-РОЗ *(усхвалявана)*. Мадэмуазэль Пруна?

ПРУНА. Норм, ахвяр няма! *(Яна ўваходзіць, трымаючы ў руках дрэўка шчоткі, зламанае напалам.)* Пякельныя вашы драбіны!

МАРЫ-РОЗ. Вы ўпэўнены, што ўсё ў парадку?

ПРУНА. Так. Удар узяла на сябе шчотка. Не хвалюйцеся, я вам прынясу новую. Я амаль скончыла, падчапіла апошняе павуцінне, паварочваюся і... бамс!

МАРЫ-РОЗ *(паказваючы пальцам)*. І ўсё гэта праз няшчасных павучкоў... Ах, вы парвалі сваю камізэльку!

ПРУНА. Камізэльку? А, мой касцюм! Дзе?

МАРЫ-РОЗ. На плячы.

Пруна здымае камізэльку, глядзіць з прыкрасцю.

ПРУНА. Во халера!

МАРЫ-РОЗ. Дайце сюды.

ПРУНА. Навошта?

МАРЫ-РОЗ. Давайце сюды, кажу. *(Пруна працягвае ёй камізэльку.)* Нічога не здарылася, некалькі шыўкоў, і гатова.

ПРУНА. Кіньце дурное, я куплю новую.

МАРЫ-РОЗ. Вы не выкінеце рэч толькі таму, што яна крыху разышлася па шве!

ПРУНА. Ой, ды яна кітайскай вытворчасці, такія прадаюцца тры па кошце адной. Так што тут тройчы няма бяды.

МАРЫ-РОЗ. Дайце мне, я зраблю за хвіліну... Толькі трэба знайсці нітку адпаведнага колеру... Не люблю марнатраўства.

ПРУНА. Гэта вельмі міла, але праўда, не варта.

Мары-Роз выходзіць з камізэлькай. Пруна карыстаецца момантам, каб патэлефанаваць.

ПРУНА *(у тэлефон)*. Но-Но? Так, я бачыла, што ты званіў. Што хацеў? Ну так, я ў яе, дзе мне яшчэ быць?.. Не, хопіць, пра ўчарашняе мы больш не размаўляем, кажу табе... Ты спаў, калі я сыходзіла, я табе нагадаю, што я працую... Твае бацькі... Ды мне пляваць! Паслухай, ты ўвогуле бачыў сваю маці? Яна паводзіцца са мной, нібы я празрыстая, нібы мяне няма! Калі яна да мяне звяртаецца, у мяне такое адчуванне, што я нібы друшляк нейкі... Слухай мяне сюды, мне пофігу твая маці, пофігу твой бацька, і твая сястра мне... Даруй, кладу трубку.

Мары-Роз уваходзіць с камізэлькай. Пруна адкладае тэлефон.

МАРЫ-РОЗ. Я не хацела вас перарваць.

ПРУНА. Нічога тэрміновага.

МАРЫ-РОЗ. Але ж якая вынаходка, гэтыя тэлефоны! Калі б яны былі ў нас, у тыя часы...

ПРУНА *(працягваючы ёй апарат)*. Хочаце паспрабаваць?

МАРЫ-РОЗ. Не, што вы, дзякуй... Мне няма каму званіць... Дый, паміж намі, я ўвогуле не ўмею ім карыстацца.

ПРУНА. Няма нічога прасцей. Калі ён звоніць, вы націскаеце на зялёную кнопку, а калі вы самі хочаце пазваніць, ну, тады набіраеце нумар і зноў ціснеце на зялёную кнопку.

МАРЫ-РОЗ *(аддаючы апарат)*. Магу вас запэўніць: калі вам трэба патэлефанаваць, мне гэта ні кроплі не перашкаджае.

ПРУНА. Гэта быў мой хлопец. Не збіраюся я марнаваць свае грошы на яго! Ай, гэтыя хлопцы, вы ж самі ведаеце...

МАРЫ-РОЗ. Не, я не ведаю... Для вашай камізэлькі я, здаецца, знайшла, што трэба. *(Працягвае ёй нітку з іголкай.)* Калі ласка.

ПРУНА. А-ёй! Яны што, вас не папярэдзілі? Я ж сказала ім на сумоўі: шыццё – гэта не маё!

МАРЫ-РОЗ. Ды я сама зашыю вашу камізэльку. Проста працягніце мне нітку ў іголку.

ПРУНА. А, гэта... гэтаму я мо і дам рады... *(Бярэ нітку з іголкай.)* Вы будзеце смяяцца: ніколі ў сваім жыцці я не рабіла гэтага.

МАРЫ-РОЗ. Вы не ўмееце шыць?

ПРУНА. Але ж сёння ніхто ўжо не шые... Трымайце. *(Дае ёй іголку.)*

МАРЫ-РОЗ. Дзякую. Хочаце, я пакажу вам?

ПРУНА. Давайце, паназіраю... Вам нармальна бачна?

МАРЫ-РОЗ. Думаю, у мяне атрымалася б шыць і з заплюшчанымі вачыма. Ведаеце, нітка, тканіна, іголка... яно ўсё атрымліваецца само сабою. Нібы ў мяне вочы на кончыках пальцаў.

ПРУНА. Вы былі швачкай?

МАРЫ-РОЗ. Пасля атрымання дыплома аб пачатковай адукацыі я не працягвала вучобу. Я знайшла працу ў доме Ласвэн, гэта было буйное атэлье па пашыве, з агромністай крамай на першым паверсе. Цудоўны час... Можаце сабе ўявіць, для маладой вясковай дзяўчыны... усе гэтыя элегантныя сукенкі, гэтыя вытанчаныя касцюмы...

ПРУНА. Вы тады ўжо ўмелі шыць?

МАРЫ-РОЗ. Так, міласэрныя сёстры навучылі мяне, але прафесіяналам я стала ўжо ў доме Ласвэн. Там я таксама адкрыла для сябе, скажам так, сацыяльнае жыццё. Спярша мне, канечне, бывала ніякавата ад размоў у атэлье. Якая я была наіўная! Я тады нават не ведала пра існаванне публічных дамоў... А пасля я заснавала сіндыкат, каб дапамагаць працаўніцам... Мае першыя крокі ў палітычным жыцці... Вы цікавіцеся палітыкай?

ПРУНА *(схіляючыся над шытвом)*. Як спрытна ў вас атрымліваецца!.. Не, палітыка мяне моцна злуе.

МАРЫ-РОЗ. Бачыце, шытво не кітайская грамата... І палітыка таксама, ёй можна навучыцца. Калі я была маленькай, мой бацька заўсёды браў мяне з сабой на маніфестацыі. Так я і навучылася.

ПРУНА *(спявае)*.

*Сёння наша атэлье*
*прыпыніла працу:*
*нашай мілай Марынэт*
*споўнілася дваццаць!*

Мары-Роз спыняецца і глядзіць на Пруну.

МАРЫ-РОЗ. Вы ведаеце гэту песню?

ПРУНА. Я была ўпэўненая, што вы прыгадаеце! Гэта ўсё мая выкладчыца спеваў. У яе было шмат розных партытур, у тым ліку і такой старызны... Што ж тут скажаш! Я называю такія песенькі "чорна-белымі". Бо ў іх усё наскрозь мёртвае, проста нейкае трызненне! Але ва ўсялякім выпадку, на іх можна патрэніравацца. Ну, вось. Але я люблю ўсе стылі.

МАРЫ-РОЗ. У вас прыгожы голас.

ПРУНА. Калі б я магла, я толькі гэтым і займалася б. Спяваць, спяваць, спяваць...

МАРЫ-РОЗ. Калісьці і я спявала, у царкоўным хоры. Мне вельмі падабалася, але мне заўсёды было сорамна: я была ўпэўненая, што фальшыўлю... Я хавалася за галасамі іншых.

ПРУНА. Кожны можа спяваць правільна. Я дык бяру ўрокі. Яны, праўда, каштуюць як крыло ад самалёта... А хлопец мой грае на гітары. Мы часам рэпеціруем разам. Ён добра грае, але такі ўжо цяльпук...

МАРЫ-РОЗ. Цяльпук?

ПРУНА. Ну, так, марудлівы, што той цяльпук.

МАРЫ-РОЗ. Ён не працуе?

ПРУНА. Ай...

МАРЫ-РОЗ *(працягваючы камізэльку)*. Трымайце!

Пруна апранае зашытую камізэльку.

ПРУНА. Дзякую. Цудоўна, яна як новая! Чаму вы не працавалі куцюр'е? Гэта класная прафесія.

МАРЫ-РОЗ. Ды толькі жыццё – гэта не прафесія, а прыгода... Аднойчы ангажаваная ў сіндыкалізм... Магу вас запэўніць: у трыццатыя гады нам было чым заняцца. Ведаеце ж, тады ў жанчын яшчэ нават выбарчага права не было...

ПРУНА. І вам ніколі не бывала страшна?

МАРЫ-РОЗ. Страшна? Не... Страх абсякае крылы. Я зведала трывогу, так, канечне, трывогу... З часам я яе ўтаймавала, мы нават пасябравалі. Здаралася, што бывала страшна, але ўжо пасля, заднім днём, калі было позна баяцца.

ПРУНА. Як вам пашчасціла! Я дык заўсёды баюся.

МАРЫ-РОЗ. Трэба вас ад гэтага вылечыць... Страх кіруе гэтым светам. Вось чаму людзі гатовыя падпарадкоўвацца найгоршаму.

ПРУНА. Але, калі я спяваю, мне робіцца лягчэй.

МАРЫ-РОЗ. Вам трэба катацца на ровары.

ПРУНА. У мяне ёсць велік... Ну, дакладней, велатрэнажор. Вельмі карысна для сцёгнаў, прэса і ягадзіц.

МАРЫ-РОЗ. Які жах! Я бачыла рэкламу гэтых машын. Як можна было назваць роварам такую нязграбную рэч?.. Ровар – гэта ж не проста колы, рама і руль... І недастаткова проста круціць педалі... Ровар – гэта пейзаж, што плыве ўздоўж, вецер проста ў твар, валасы па ветры, пагорачкі ды яміны на шляху, водар, усё, што навокал... І галоўнае – неверагоднае пачуццё свабоды, разумееце?

ПРУНА. Ажно захацелася паехаць, так добра вы апісваеце.

МАРЫ-РОЗ. Я праехала сотні кіламетраў. У жніўні 1942-ога я аб'ездзіла ўвесь дэпартамент, ад вёскі да вёскі, раздаючы ў кожнай парафіі ліст монсеньёра Тэаса. Чатыры дні, без перапынку... Стаяла такая спякота! Я зусім знемаглася... Вось калі мне зрабілася сапраўды страшна. Страх гэты нібы прасочваўся ўсярэдзіну з самой зямлі, праз падэшвы. Ліпкі страх. Хоць лістоў пры мне больш не было, я іх усе раздала. Я нічым не рызыкавала – і ўсё адно баялася... Урэшце я села на свой ровар – і паляцела наперад, пакідаючы гэты бессэнсоўны страх за сабою.

ПРУНА. О, дакладна, мне ж таксама трэба ляцець вам па прадукты. Крамка ўнізе зачынена з паўдня да дзвюх, а ў вашым халадзільніку мыш павесілася... Вы зрабілі спіс? Нічога не забылі?

МАРЫ-РОЗ. Так-так, канечне. Мне не трэба шмат.

ПРУНА. Я хутка. *(Паказвае на куфар.)* Пасля зоймемся вайной, калі хочаце.

Пруна выходзіць. Мары-Роз робіць некалькі крокаў да акна. Ціхенька напявае.

МАРЫ-РОЗ *(спявае)*.

*Мы пірог разрэзалі,*
*налілі партвейну.*
*Марынэт гарэзліва*
*паднімае келіх:*
*"Дваццаць год нам не кожны дзень,*
*такое здараецца толькі аднойчы..."*

Раздаецца смешная мелодыя. Гэта тэлефон Пруны, што яна пакінула на стале. Званок не спыняецца, Мары-Роз падыходзіць да тэлефона, вагаецца, пасля ўсё ж бярэ яго ў рукі.

МАРЫ-РОЗ *(самой сабе)*. Зялёная кнопка... Паглядзім... *(У трубку.)* Алё? Што, прабачце? Не, гэта не мадэмуазэль Пруна, яна выйшла ў краму, але так, яна ўсё яшчэ ў старой порхаўкі, як вы кажаце. Гэта порхаўка з вамі і размаўляе, малады чалавек. Гэта вы, мсьё Но-Но?.. *(Самой сабе.)* Ах, паклаў трубку... Але ж які нахабнік! Як можна назваць старой порхаўкай чалавека, якога нават не ведаеш? Што за манеры... Усё пачынаецца з не-

павагі, а пасля... *(Яна адкладвае тэлефон і падыходзіць да куфра.)* Зрэшты, усё гэта не важна... Але ж беднае дзяўчо!.. Усё ж трэба паказаць ёй гэты ліст. Куды я яго падзела?.. А, вось ён... *(Дастае ліст і пачынае чытаць.)*

Змена асвятлення. Голас Мары-Роз зліваецца з голасам за кадрам.

МУЖЧЫНА *(за кадрам)*. "...Хай будзе пачутае наша слова пратэсту, слова абурэння хрысціянскага сумлення. Я абвяшчаю, што ўсе людзі, арыйцы ці не арыйцы, адно аднаму прыходзяцца братамі, бо яны былі створаныя адным і тым жа Богам. Усе людзі, якой бы ні былі яны расы ці веравызнання, маюць права на годнае да сябе стаўленне з боку іншых людзей і з боку дзяржавы... Акты антысемітызму, якія мы назіраем сёння, з'яўляюцца знявагай чалавечай годнасці, парушэннем самых святых правоў чалавека і сям'і..."

Уваходзіць Пруна з прадуктамі ў руках. З яе з'яўленнем асвятленне мяняецца, вяртаемся ў дзень сённяшні.

ПРУНА. У іх скончыліся сардзіны, я ўзяла вам тунца.
МАРЫ-РОЗ. Вельмі добра.
ПРУНА. Якая ж там спякота! Паветра цяжкае і неба ўсё чорнае.

Гаворачы, яна ідзе на кухню.

МАРЫ-РОЗ. З самай раніцы збіраецца на навальніцу.
ПРУНА *(з кухні)*. Ой, не кажыце, я так баюся навальніц! Мне тады здаецца, што ў прыроды нервовы прыпадак, маму маю нагадвае.
МАРЫ-РОЗ. Але ж гэта так прыгожа! Я заўсёды любіла навальніцы. Яны нагадваюць нам, што мы насяляем планету. Невялічкі караблік пасярэдзіне бясконцасці, і мы вось там, маленечкія. Зусім нішто, у далоні Божай...
ПРУНА. А Бог і праўда ваш сябрук, га?
МАРЫ-РОЗ. Я ніколі так пра гэта не казала, але ж... Я заўсёды пачынала свае дні з ранішняй малітвы. Такі вось штуршок наперад, у новы дзень.
ПРУНА. А я выпіваю вітаміны і ўключаю музыку, кожнаму сваё.
МАРЫ-РОЗ. ..."Бог-сябрук", вось яшчэ... Дарэчы, званіў *ваш* сябрук. Вы забылі свой тэлефон, вунь там... Я дазволіла сабе адказаць. Баялася, можа, штосьці важнае.
ПРУНА. Ой, не трэба было хвалявацца, з ім – ніколі нічога важнага... Што ён вам сказаў?
МАРЫ-РОЗ. Ён падумаў, гэта вы ўзялі трубку, і таму спытаў, ці вы па-ранейшаму "ў старой порхаўкі". А пасля кінуў трубку.
ПРУНА. Ну што за крэцін! Як ён бесіць мяне! Прасіла ж не турбаваць мяне, калі я на працы. Не крыўдуйце на яго, ён заўсёды меле абы-што.
МАРЫ-РОЗ. Я і не крыўдую.
ПРУНА *(паказваючы на куфар)*. Дык што там наша вайна, працягнем?
МАРЫ-РОЗ. Трымайце... А адклала гэта для вас... *(Працягвае ёй ліст і кнігу.)* Той самы, славуты ліст епіскапа.
ПРУНА. Які вы прывезлі кожнаму пастару?
МАРЫ-РОЗ. Ну, амаль кожнаму... Я старалася не трапляцца на вочы таму, з Ардзю. Агідны калабарацыяніст. Ён дружыў з немцамі і паліцаямі... *(Смяецца.)* Аднойчы монсеньёр Тэас сказаў мне: "Прапалошчам мы яго крыху ў Тарне, такому не зашкодзіць"... Але падчас Вызвалення монсеньёр Тэас выратаваў яму жыццё. Бо іншыя хацелі яго расстраляць.
ПРУНА. А шмат калабаў было ў Мантабане?

МАРЫ-РОЗ. Як паўсюль.
ПРУНА. Але ж чаму?
МАРЫ-РОЗ. Ну, хтосьці проста праз цікаўнасць. Каб быць на баку мацнейшага. Некаторыя душу гатовыя прадаць, каб атрымаць хоць кроплю ўлады. Дый, зрэшты, многія проста не любілі габрэяў.
ПРУНА. Гэта як сёння з імігрантамі.
МАРЫ-РОЗ. Нянавісць заўсёды адна і тая ж. Падманутыя чаканні, разбітыя надзеі, зайздрасць, крыўды. Калі я пакутую, дык гэта па віне іншых. Гэта ж так проста.
ПРУНА. А што яны каму зрабілі, тыя габрэі?
МАРЫ-РОЗ. Некаторыя хрысціяне іх заўсёды абвінавачвалі ў забойстве Хрыста. Забываючы, між іншым, што Езус сам быў габрэем... Да таго ж найбуйнейшыя банкі былі габрэйскімі, а нацыстам патрэбнае было іхняе золата.
ПРУНА. Дарэчы, епіскап ваш узгадаў арыйцаў... Што за арыйцы?
МАРЫ-РОЗ. Ілюзія. Выдумка, нібы існуе нейкая "чыстая нацыя", вышэйшая за ўсе астатнія, белая, канечне ж.
ПРУНА. Вашы тагачасныя габрэі... Яны мне нагадваюць сённяшніх нелегалаў. Нешта падобнае, не?
МАРЫ-РОЗ. Не, прычыны былі іншыя, наступствы таксама. І зусім іншага роду небяспека... Няправільна іх параўноўваць.
ПРУНА. Добра, але ж калі нелегал папросіць вас схаваць яго, вы зробіце гэта?
МАРЫ-РОЗ. Я ніколі не зачыняла сваіх дзвярэй перад чалавекам у бядзе... Дабрачыннасць – святы доўг хрысціяніна. Гэта напісана чорным па белым у лісце, што я дала вам. Для мяне законы міласэрнасці вышэйшыя за ўсе астатнія законы.

Пруна бярэ кнігу, што ляжыць на куфры.

ПРУНА. А што за кніга? *(Чытае.)* "Дзяцінства пад прыцэлам".
МАРЫ-РОЗ. Пачытайце, даведаецеся!
ПРУНА. Я мала чытаю, але добра, пастараюся.
Пруна кладзе кнігу і ліст у свой заплечнік.
МАРЫ-РОЗ. Не ўяўляю, як можна жыць без кніг вакол сябе.
ПРУНА. А я не ўяўляю, як можна жыць без музыкі.
МАРЫ-РОЗ *(усміхаючыся)*. Магчыма, нам абедзвюм не стае ўяўлення!
ПРУНА. Я вам заўтра прынясу музыкі, наўзамен кніжкі... Абяцайце паслухаць.
МАРЫ-РОЗ. Абяцайце прачытаць кнігу.
ПРУНА. Дамова!.. Ну, дык што там з нашай прыборкай?
МАРЫ-РОЗ. Я б хацела раскласці ўсе дакументы па папках, а пасля папкі па каробках.
ПРУНА. О-о-о, канца-берагу няма...
МАРЫ-РОЗ. Я даўно хацела за іх узяцца, але адной... Удзвюх мы хутчэй дамо рады... Вось, трымайце гэты стосік... *(Працягвае ёй кіпу папер і пустых канвертаў.)* Асабістыя лісты – па карычневых канвертах, дзелавыя – па шэрых.

Пруна пачынае рассартоўваць.

ПРУНА. У мяне тое ж самае з прасаваннем. Кажу сабе: я зраблю гэта заўтра. А заўтра ўсё ніяк не настане.
МАРЫ-РОЗ. Я хацела б прывесці ўсё ў парадак да таго, як адпраўлюся.

ПРУНА. О, вы збіраецеся ў падарожжа?

Мары-Роз глядзіць на яе збянтэжана. Пруна ўсведамляе ляпсус.

ПРУНА. Ну я і даўбешка! Даруйце, а?.. Але ж не трэба казаць такое, мадам Жынэст, нават у вашыя гады. *(Паказваючы ліст.)* Гэты куды?

МАРЫ-РОЗ. У карычневы... Смерць не надта й страшнае слова, мадэмуазэль Пруна.

Пруна складвае ліст.

ПРУНА. Не люблю. У мяне ад яго кроў стыне ў жылах.

МАРЫ-РОЗ. Дарэмна. Пакуль вы жывая – смерці яшчэ тут няма, а калі яна прыйдзе – вас ужо тут не будзе. *(Пруна паказвае ёй іншы ліст.)* У шэры... Няма чаго баяцца.

Пруна складвае ліст.

ПРУНА. А я не хачу не быць тут.

МАРЫ-РОЗ. Ясна ж, нікому не хочацца паміраць. Але калі вы хочаце жыць – пра гэтыя страхі трэба забыць.

ПРУНА. У вашыя часы жыць было прасцей.

МАРЫ-РОЗ. Але ж "мае часы" – гэта сёння!

ПРУНА. Я мела на ўвазе, калі вы былі маладой.

МАРЫ-РОЗ. Калі я была маладой, свет ужо быў вельмі стары, такі ж паношаны, як сёння... *(Пруна паказвае ліст.)* Шэры... Несправядлівасць і гвалт узялі ўладу ў свае рукі, і вы смееце казаць, што тады было лягчэй?

Пруна складвае ліст.

ПРУНА. Дык што, "старыя добрыя часы", як мы кажам, – гэта ўсё выдумкі?

МАРЫ-РОЗ. Калі вы слухаеце песню, варта ўдумвацца ў словы. "Дваццаць год нам не кожны дзень", гэта ж зразумела, не? "Прыгожая эпоха" – гэта сам час нашага жыцця. *(Пруна паказвае ліст.)* Карычневы.

Пруна затрымліваецца над адным з канвертаў.

ПРУНА. Гэты адрасаваны нейкай Эве Гацье... Хто яна?

МАРЫ-РОЗ. Гэта я! Гэта было маё імя падчас вайны.

ПРУНА. У вас былі псеўданімы, як у зорак шоу-бізнесу?

МАРЫ-РОЗ. Так, ва ўсіх былі. Калі б вас схапілі і пачалі катаваць, вам давялося б выдаваць імёны. Лепей, каб гэтыя імёны былі выдуманымі.

ПРУНА. Гэта дзіўна – Эва Гацье... Мне падабаецца. Гучыць, як імя актрысы ці спявачкі.

МАРЫ-РОЗ. Амаль так і было, пэўнага роду тэатр. Такі тэатр, дзе людзі маглі заплаціць сваёй шкурай, раз і назаўжды...

Чуецца моцны грукат грому, блішчыць маланка. У Пруны ліст вылятае з рук.

ПРУНА *(панічна)*. Гамон, гэта ён зусім блізка бахнуў!

Мары-Роз падыходзіць да вакна.

МАРЫ-РОЗ. Чароўна! Шэры антрацыт, аточаны ўсімі адценнямі ліловага... Далей ён растае ў фуксіі... Гэтае неба нагадвае мне самую прыгожую навальніцу, што я бачыла ў сваім жыцці... Адзінаццатага траўня 42-га года ў мястэчку Катэрв'ель, у Пірэнеях, паблізу гішпанскай мяжы.

ПРУНА. А скажыце, мадам Жынэст, вам не надакучыць, калі я застануся тут у вас, пакуль гэтая навальніца не...

МАРЫ-РОЗ. Што вы, зусім не... Вам трэба выпіць шклянку вады, нешта вы збялелі.

ПРУНА. Так, у горле перасохла... *(Збіраецца на кухню.)* Калі ўжо я паднялася, можа, салаткі прынесці? Хочаце?

МАРЫ-РОЗ. Пры ўмове, што мы з'ядзім яе разам.

Пруна выходзіць.

ПРУНА *(за кадрам)*. А чым вы там займаліся, у Пірэнеях? На лыжах каталіся?

МАРЫ-РОЗ. Вы толькі ўявіце! Там адбываўся тайны з'езд прадстаўнікоў дэпартаментаў – удзельнікаў руху "Змаганне". Менавіта там мы выпрацавалі стратэгію нашага супраціву.

ПРУНА *(за кадрам)*. Вы туды на ровары сваім паехалі?

МАРЫ-РОЗ. Божачкі, не, гэта занадта далёка! Мы паехалі на цягніку з адным супраціўленцам, яго звалі Жуль Алямэль... Дзівак-камуняка, атэіст, я нават думала, што ён франкмасон! *(Уваходзіць Пруна з міскай у руцэ.)* Бачыце, мы былі розныя ва ўсім. Ва ўсім, акрамя галоўнага: барацьба супраць варварства аб'ядноўвала нас. Мы сімпатызавалі адно аднаму, і нам добра працавалася разам.

Зноў чуецца гром, гэтым разам дзесьці далей.

ПРУНА. Вы любіце яго добра ўзбітым? Ну, вінегрэт, соус... вам як зрабіць?

МАРЫ-РОЗ. Зрабіце на свой густ. Я не пераборлівая... Дык вось калі мы прыехалі ў Тулузу, Алямэль і я, нам давялося доўга чакаць цягніка на Люшон. Таму мы вырашылі схавацца ў кіно на вуліцы Альзас.

Пруна ўзбівае вінегрэт, чуецца шум кінапраектара. Асвятленне мяняецца, адасабляючы Мары-Роз, а Пруна працягвае ўзбіваць свой вінегрэт.

ПРУНА. А што за фільм?

МАРЫ-РОЗ. Я ўжо і не памятаю... Я толькі памятаю агідную прапаганду.

Эфект "кінатэатра" робіцца больш выразным.

ДЫКТАР КІНО *(за кадрам)*. У Парыжы быў адкрыты Інстытут па габрэйскіх пытаннях... Параўнаем габрэя з пацуком. Гэтак жа, як млекакормячы грызун, з якім яго яднае жорсткасць, подласць і хітрасць, габрэю ўласцівая неадольная цяга да разбурэння... Пра магутную здольнасць да дзеяння габрэя сведчыць велічэзная колькасць яго паслядоўнікаў. Гэтак жа, як папуляцыя пацукоў нясе ў сабе пагрозу бяспецы грамадства...

Голас дыктара пакрысе сціхае, вяртаецца ранейшае асвятленне.

МАРЫ-РОЗ. Гэта вы маянэз узбіваеце?

ПРУНА *(гледзячы ў міску)*. Ну так! Але я вас слухаю, слухаю, і ўжо не маю аніякага паняцца, чаго я тут наўзбівала!

Яна вяртаецца на кухню.

МАРЫ-РОЗ. Вазьміце сервіровачны столік на колцах, так будзе хутчэй. І не забудзьце ружовае віно, там засталося на донцы.

Зноў чуецца смешная мелодыя тэлефона Пруны.

МАРЫ-РОЗ. Ах! Здаецца, вам звоняць!

Пруна вяртаецца, коцячы столік з салатаю.

ПРУНА. Калі гэта зноў ён, я не ведаю, што з ім зраблю! *(Глядзіць на экран.)* Ён, каб яму добра было! *(Адказвае.)* Алё? Не, я цябе не чую! Мяне выкралі марсіяне! Тут кепскі сігнал!.. Лёзы для галення ў шуфлядцы ў ванным пакоі, ці можаш адкрыць газ і запаліць лямпачкі!..

Яна кідае трубку і, разлаваная, забурваецца ў крэсла. Пасля налівае Мары-Роз келіх віна, тая глядзіць на яе разгублена. Зноў чуецца грукат навальніцы, што ўжо аддаляецца.

ПРУНА. Ваша здароўе, мадам Жынэст, і смачна есці!
МАРЫ-РОЗ. Ваша здароўе, мадэмуазэль Пруна!

Яны п'юць.

ПРУНА. Паміж намі дзяўчатамі, не маглі б вы, калі ласка, не называць мяне "мадэмуазэль Пруна"?
МАРЫ-РОЗ. А як вы хочаце, каб я вас звала?
ПРУНА. Ну, не ведаю... Мадэмуазэль, ці проста Пруна... А разам гучаць неяк...
МАРЫ-РОЗ. ...па-старпёрску?
ПРУНА. Ну-у... я не гэта хацела сказаць, але...
МАРЫ-РОЗ. Гэта тое, што вы падумалі... Я буду вас называць, як вы захочаце.
ПРУНА *(гаворачы з набітым ротам)*. Фруна.
МАРЫ-РОЗ. Як-як?
ПРУНА. Пардон... Пруна, завіце мяне Пруна.
МАРЫ-РОЗ. Пруна...
ПРУНА (*ускрыквае, плюючы)*. Не чапайце салату!
МАРЫ-РОЗ. Што здарылася?! Што такое, Пруна?
ПРУНА *(усхліпваючы)*. Ён проста паскудны! Я зноў схібіла... наліла белага воцту замест алею, пасля дадала воцту чорнага, а пасля – перцу, а пасля... Ой, паскудства! *(Яна заплакала.)*
МАРЫ-РОЗ. Але ж, мілая мая!.. Ну не будзеце ж вы плакаць праз нейкую там салату! Выпіце, вам стане лягчэй... Варта паберагчы свае слёзы для больш істотных рэчаў.
ПРУНА. Прабачце... Справа ж не толькі ў салаце... Гэта... *(Яна паказвае на свой тэлефон.)* Гэта ўсё ён! Праз яго я розум страціла, я раблю абы-што... Я так больш не магу!
МАРЫ-РОЗ. Ён вас б'е?
ПРУНА. Ды не.
МАРЫ-РОЗ. Дык што ж тады?
ПРУНА. Я люблю яго.
МАРЫ-РОЗ. Што, праўда?
ПРУНА. Але ён прытырак.

Паўза.

МАРЫ-РОЗ. Ну, не трэба так казаць... Магчыма, вы проста памыліліся з мужчынам. Ці – з пачуццём. А калі вы ні ў чым не памыліліся – тады так казаць не трэба.
ПРУНА. Але ж справа не толькі ў ім! Справа ва ўсім маім жыцці, ва ўсім, што адбываецца ў рэжыме *live*!

МАРЫ-РОЗ. У якім рэжыме?

ПРУНА. Ай, праехалі, вам не зразумець... Вы нават не ўсведамляеце, наколькі вам пашчасціла, што была вайна, калі вы былі майго веку.

МАРЫ-РОЗ. Пашчасціла?!

ПРУНА. Вы ведалі, навошта прачыналіся кожную раніцу. Ведалі, супраць чаго змагаліся. У вас быў сэнс жыць!

МАРЫ-РОЗ. Прачнуўшыся раніцай, я прыбірала ложак, не ведаючы, ці буду я ў ім спаць гэтай ноччу. Даводзілася змагацца са злом голымі рукамі. У мяне не было анічога, апроч майго ровара ды маёй смеласці. І сэнсам майго жыцця было выратаванне іншых. Вы пра ўсё гэта кажаце “пашчасціла”?

ПРУНА. Вы былі звычайнай швачкай – а сталі гераіняй Супраціву. А я... я хацела быць спявачкай – а стала прыбіральшчыцай.

МАРЫ-РОЗ. Ёсць героі, што паміраюць у дваццаць год, Пруна, ці ў трыццаць... Майму сябру, Андрэ Эчэвэрлепа, было трыццаць два. Паліцаі пагрукалі яму ў дзверы а другой гадзіне ночы. Ён выскачыў праз акно, у піжаме, босы. Дабег да маста непадалёк ад дома. Ён вісеў над прорвай, трымаючыся за парапет, спадзеючыся, што ноч зможа яго схаваць, захаваць. Але яны знайшлі яго. Яны стрэлілі ва ўпор.

ПРУНА. Спачуваю...

МАРЫ-РОЗ. І я не заву гэта гераізмам. Я заву гэта пакутніцкай смерцю... А гераізм – гэта жыць жыццё, дзень за днём робячы сваю справу.

ПРУНА. Даруйце, я ляпнула абы-што. Думаю, мне лепш пайсці дамоў... Гэтай ноччу я ні на макавае зернейка не заснула, усё праз яго. А сёння ён пайшоў да сяброў, дык я пасплю нармальна.

Гаворачы, яна збірае свае рэчы.

МАРЫ-РОЗ. Беражыце сябе, мілая.

ПРУНА. Але вам няма чаго есці... Хочаце, я адкрыю вам сардзіны?

МАРЫ-РОЗ. Я дам рады... Але я хацела б вас папрасіць: не прыходзьце сюды заўтра.

ПРУНА. Вы больш не хочаце мяне бачыць?

МАРЫ-РОЗ. Не кажыце глупства. Я хацела б, каб вы склалі мне кампанію на цырымоніі памінання.

ПРУНА. Цырымоніі чаго?

МАРЫ-РОЗ. Ну, памятаеце... *(Яна дастае картку з кішэні.)* Дзень памяці ахвяр злачынстваў, здзейсненых французскай дзяржавай.

ПРУНА. Добра.

МАРЫ-РОЗ. Гэта ў жаночым ліцэі. Ліцэі Мішэле.

ПРУНА. Яны змешаныя цяпер.

МАРЫ-РОЗ. А 14 гадзіне.

ПРУНА. Буду.

МАРЫ-РОЗ. Я на вас разлічваю...

ПРУНА. Да заўтра, мадам Жынэст.

МАРЫ-РОЗ. Да заўтра, Пруна.

Пруна выходзіць. Мары-Роз падыходзіць да куфра.

МАРЫ-РОЗ. Я так і не расказала ёй пра Боба! Трэба заўтра не забыць... Трэба столькі яшчэ ёй расказаць...

Размаўляючы сама з сабой, яна ідзе на кухню, коцячы перад сабой столік. Музыка. Цемра.

**ДЗЕНЬ ТРЭЦІ**

Уваходзіць Пруна, у вушах навушнікі, у руцэ вялікая торба. Кладзе свае рэчы на стол.

ПРУНА. Мадам Жынэст! *(Выходзіць праз тыя ж дзверы, за кадрам.)* Мадам Жынэст! Ды што ж гэта такое... Дайце мне руку.

Яны ўваходзяць разам, Пруна падтрымлівае Мары-Роз.

МАРЫ-РОЗ. Гэта ўсё спякота. Яна так цяжка мне даецца...

ПРУНА. Вы надта хутка ходзіце. Я ледзь паспявала за вамі... Вам трэба сябе берагчы.

Яна дапамагае Мары-Роз зняць пінжак і сесці.

МАРЫ-РОЗ. Жыццё такое кароткае, каб мне сябе эканоміць... Ведаеце, там у ліцэі, падчас ушанавання тых дзвюх маладых дэпартаваных ліцэістак, я разглядала ўнутраны дворык, калоны з ружовай цэглы, лісце на дрэвах пад летнім небам... Я ўяўляла, як яны стаялі, абапіраючыся на гэтыя калоны, паўтаралі ўрок ці абменьваліся сакрэцікамі... уяўляла дотык іхніх рук да лісця каштанаў, глядзела ў сінь над нашымі галовамі... Ведаеце, часам я гляджу ў гэты блакіт вачыма памерлых.

ПРУНА. Ой, не трэба вярэдзіць сабе душу.

МАРЫ-РОЗ. Ды не, наадварот... Гэта добры спосаб падзяліцца жыццём. Гэткае яднанне па-над усім...

ПРУНА. Мёртвыя памерлі, Мадам Жынэст. Няма сэнсу пра ўсё гэта думаць...

МАРЫ-РОЗ. Але калі мы пра іх думаем, яны не такія ўжо і мёртвыя... Дзеці... Мы выратавалі сапраўды многіх. Толькі ў адным Муасаку некалькі дзясяткаў... Але чаму мы не выратавалі гэтых дзвюх дзяўчынак?.. Чаму яны не прыйшлі да мяне ў сакратарыят?.. Няўжо ў іх сапраўды быў менавіта такі лёс?..

ПРУНА. Я не веру ў лёс. Нідзе нічога не прадвызначана, усё гэта лухта. Трэба ўмець спраўляцца з выпадковасцямі, з акалічнасцямі. Мы проста звычайныя чаляднікі ў гэтым жыцці, не больш... Але, канечне, выратаваць шмат дзяцей – гэта здорава!

МАРЫ-РОЗ. Нас падтрымлівалі вышэйшыя сілы.

ПРУНА. Ды хопіць ужо! Раздражняе... Няма ніякіх вышэйшых сіл. Гэта вы і толькі вы зрабілі тое, што зрабілі.

МАРЫ-РОЗ. А як вы тады патлумачыце, што са мной самой нічога не здарылася? Вобшукі, допыты, фальшывыя паперы, падпольныя газеты... Ніколі, нічога! Іншых хапалі і высылалі, ці нават расстрэльвалі за куды меншае...

ПРУНА. Ці гулялі вы калі-небудзь у лато?

МАРЫ-РОЗ. Не. Чаму вы пытаецеся пра гэта?

ПРУНА. Вам трэба паспрабаваць. Удача вас любіць...

МАРЫ-РОЗ. Проста ў мяне ёсць анёл-ахоўнік.

ПРУНА. Ну так, вядома ж: такіх, як вы, ёсць каму ахоўваць ... А ў іншых няма нікога? Хіба што парцэлянавыя анёлы, купленыя на распродажы?

МАРЫ-РОЗ. Прашу вас...

ПРУНА. Мадам Жынэст, я, канечне, вельмі вамі захапляюся, за тое, кім вы ёсць і што вы зрабілі, але ў гэтыя старыя байкі я не веру... Да

таго ж я зноў кепска спала ноччу, таму што кніга, якую вы мне далі... Я прачытала яе цалкам.

МАРЫ-РОЗ. Яна вас кранула?

ПРУНА. Кранула? З мяне кепскі чытач, я вам казала, але гэтую кніжку я праглынула за раз... Вы бачылі, як яна ў выніку выйшла з гэтай сітуацыі, дзіцё гэтае?

МАРЫ-РОЗ. Кладзіна?

ПРУНА. Карацей, яна ў сваім пакоі ў доме людзей, што прытулілі яе, у Бамон-дэ-Ламань. Уночы ёй робіцца так страшна, што яна зачыняе замок на два абароты. Раптам хтосьці стукае ў дзверы. Паралізаваная бязмежным страхам, яна схавалася пад коўдрай. Зноў грукат у дзверы. Гэта нямецкі салдат, эсэсавец. Ён ведае, што яна габрэйка, і ён прыйшоў папярэдзіць, што яе арыштуюць на досвітку, ён кажа ёй уцякаць. І яна мусіць паслухацца яго, нацыста. Трэба ўцякаць хутка, зараз жа. Ён кажа там, у кнізе: “Schnell! Schnell!”... Вы разумееце, што адбылося? Яе ўратаваў эсэсавец!

МАРЫ-РОЗ. У эсэсаўца таксама можа быць душа.

ПРУНА. Ды не веру я ні ў якую душу! У гэтага проста было сэрца.

МАРЫ-РОЗ. Ён служыў у дывізіі *Das Reich*. Яны былі і ў Мантабане, гэта яны пазабівалі жыхароў Арадур-сюр-Глян...

ПРУНА. Ведаю, я пагугліла. Мне стала цікава, што адбывалася пасля... Вы ведаеце, як ён памёр, начальнік іхні?

МАРЫ-РОЗ. Генерал Ламердынг?

ПРУНА. Ён памёр багатым, у 71-м годзе, ва ўзросце шасцідзесяці шасці, у сваім ложку.

МАРЫ-РОЗ. Ад раку.

ПРУНА. Мая маці таксама памерла ад раку. Яна нікога не забіла... Вы верыце, што і ў генерала Ламердынга быў анёл-ахоўнік?

Мары-Роз не адказвае. Яна падыходзіць да акна і глядзіць у неба. Пруна дастае кніжку з заплечніка.

МАРЫ-РОЗ. Я ўсцешана, што вы зацікавіліся тым, што адбылося пасля. Усцешана, што кніга вас кранула. Я баялася, што...

ПРУНА. Не хочаце кавы-глясэ?.. А пасля працягнем раскладваць вашу вайну па канвертах.

МАРЫ-РОЗ. Не адмоўлюся. Усе гэтыя размовы мяне стамілі...

Пруна ідзе на кухню.

ПРУНА *(за кадрам)*. Я і падумаць не магла, што вы такая славутая! Столькі людзей падышлі пацiснуць вам руку!

МАРЫ-РОЗ. Ніякая я не славутая... Проста некаторыя людзі мяне ведаюць... Пасля Вызвалення я заставалася ў палітычных справах у шасцідзясятых, нават на выбарах перамагла. Адзіная жанчына, выбраная ў муніцыпальны савет... А пасля я кінула ўсё гэта. Я спадзявалася, што свет зменіцца ў лепшы бок, што грамадства стане больш адкрытым, дэмакратычным. Але я расчаравалася... Правыя вінавацілі мяне ў тым, што я занадта левая, левыя – што занадта правая...

ПРУНА *(за кадрам)*. А мне падалося, што ўсе яны вас любяць.

МАРЫ-РОЗ. Яны проста памятаюць пра Супраціў, вось і ўсё.

Пруна вяртаецца з дзвюма шклянкамі кавы.

ПРУНА. Трымайце, піце, пакуль халодная.

Яны моўчкі п'юць ля вакна.

МАРЫ-РОЗ. Трэба ружы паліць, галовы пасхілялі...
ПРУНА. Прыгожы ў вас сад. На востраў падобны. Я б хацела мець сад.
МАРЫ-РОЗ. У мяне – той, што так любіць парадак ва ўсім, – кветкі заўсёды растуць як сабе хочуць, нібы дзікія... Нібы дзікія...

Пруна вяртаецца да куфра і дастае газеты.

ПРУНА. Ну дык што з гэтым парадкам? Скончым?

Мары-Роз глядзіць на яе ўсхвалявана.

МАРЫ-РОЗ. Што вы збіраецеся з імі рабіць?
ПРУНА. Я? Не ведаю. Гэта вы павінны мне сказаць, што з імі рабіць.
МАРЫ-РОЗ. Але ж, Берта, гэта "Барацьба" ды "Хрысціянскае сведчанне"! Я думала, мы іх усе раздалі! Трэба іх хуценька аднесці ў рыбную краму, хутчэй, дайце сюды, я аднясу!
ПРУНА. Мадам Жынэст... Спакойна, цяпер бяспечна. Вайна скончылася.
МАРЫ-РОЗ. Трэба як мага хутчэй ад іх пазбавіцца, Берта! Ужо трэці дзень нейкі тып сочыць за мной на вуліцы. Ён не надта разумны, я яго раскусіла адразу... Гэта паліцай.
ПРУНА. Прысядзьце, мадам Жынэст. Іх больш няма.
МАРЫ-РОЗ. Трэба папярэдзіць астатніх. Мы павінны адмяніць спатканне... Берта, вазьміце мой ровар, я мушу застацца з маці.
ПРУНА. Усё добра, мадам Жынэст, усё ў парадку...

Разгубленая, Пруна дапамае ёй сесці. Мары-Роз нейкі час глядзіць на яе пустымі вачыма, пасля хавае твар у далонях.

МАРЫ-РОЗ. Што са мной здарылася?.. *(Прыбірае далоні.)* Што са мной было?
ПРУНА. Вы былі ў сваім 1940-м... Ці дзесьці каля таго.
МАРЫ-РОЗ. Нічога не памятаю... Што я вам казала?
ПРУНА. Вы назвалі мяне Бертай. Хацелі, каб мы занеслі газеты рыбніку.
МАРЫ-РОЗ. Берта... Берта Дэльма. Мы працавалі разам у сакратарыяце. Гэта з ёй і з Мары Каламбані мы арганізавалі наша падпольнае бюро... Пасведчанні аб хрышчэнні, пасведчанні асобы, карткі на харчаванне... У Берты быў талент падрабляць пячаткі... Яна была мне сапраўднай сяброўкай... Вялікай сяброўкай...
ПРУНА. А дзе вы бралі ўсе тыя прылады для вашай працы?
МАРЫ-РОЗ. Быў цэлы ланцуг. Монсеньёр епіскап перадаваў нам пячаткі камісарыятаў паліцыі ці мэрый... Я непакоюся, Пруна.
ПРУНА. Што вас непакоіць?
МАРЫ-РОЗ. Тое, што толькі што адбылося са мною, у маёй галаве... Гэтая адсутнасць... Не памятаю, ці здаралася такое раней... Але я баюся, што яно паўторыцца.
ПРУНА. Гэта проста launch пэратомленасць, цырымонія ды ўсё такое...
МАРЫ-РОЗ. Я больш нічым не займаюся, больш ні да чаго не прыдатная. У мяне застаецца толькі памяць. Калі я і яе страчу...
ПРУНА. Ды ваша памяць цвёрдая, як бетон. Хапіла б на пяць сланоў.
МАРЫ-РОЗ. Трэба, каб вы задавалі мне пытанні. Я не павінна нічога забыць.

ПРУНА. Ой, нядобрая гэта задума – будзіць усіх гэтых фантомаў. Доказам таму...

МАРЫ-РОЗ. У маім узросце чалавек ужо ведае больш памерлых, чым жывых. Гэтыя фантомы – мае сябры. А вы тут дзеля таго, каб дапамагаць мне, хіба не?..

Пруна адварочваецца і гартае газеты.

ПРУНА. Дык што рабіць з імі?

МАРЫ-РОЗ. Адкладзіце іх убок.

ПРУНА. Але калі яны былі забароненыя, газеты гэтыя, каму вы іх раздавалі?

МАРЫ-РОЗ. Мы развілі цэлую сетку неабыякавых людзей, каторым мы іх раздавалі ў сакрэце ад цэлага свету. Тыя пасля раздавалі іх у сваіх колах. Трэба было дзейнічаць хутка... Калі ў вас знаходзілі забароненую газету, можна было заўсёды сказаць, што яна выпадкова трапіла ў вашу паштовую скрыню, але ж калі іх знаходзілі не адну...

ПРУНА. Немцы вось так проста хадзілі па хатах?

МАРЫ-РОЗ. Немцы рэдка. Толькі па даносе, калі былі ўпэўненыя. Паліцаі, вось што было горш... Такія паскуднікі.

ПРУНА. Адкуль яны браліся?

МАРЫ-РОЗ. Ды адусюль. Яны былі гэткай "дадатковай" паліцыяй, цалкам падпарадкаванай гестапа. Яны шпарка навербавалі сабе ўсялякага хулігання, галаварэзаў, якім чалавека забіць – што высмаркацца.

ПРУНА. Маладых вербавалі?

МАРЫ-РОЗ. Большасці было ад дваццаці да трыццаці. Былі і старэйшыя, вядома ж.

ПРУНА. Навошта маладым ублытвацца ў такое?..

МАРЫ-РОЗ. Ну, праз патрэбу дзейнічаць, магчыма... Дый было ж на што паквапіцца... Гляньце... *(Яна выцягвае з куфра паперу.)* Вось іхнія крэда, пачытайце.

Пруна бярэ паперу і зачытвае.

ПРУНА. "Супраць буржуазнага эгаізму – за французскую салідарнасць"... Але ж гучыць няблага, не?

МАРЫ-РОЗ. Вам падалося? Такія ідэі небяспечныя. На першы погляд яны поўныя здаровага розуму. Хто ж скажа, што ён выступае за эгаізм?

ПРУНА. "Супраць скептыцызму – за веру"... О, гэта для вас! *(Мары-Роз усміхаецца.)* "Супраць дэмакратыі – за аўтарытарную ўладу"... А, ну гэта ўжо зусім не ў той лес. "Супраць прыгнечанага становішча пралетарыяў – за сацыяльную справядлівасць"... Ну-у... "Супраць габрэйскай праказы – за чысціню французскай нацыі"... Ну, гамон!

МАРЫ-РОЗ. Вось так усё і робіцца зразумелым. Але праблема ў тым, што з добрым дзясяткам пастулатаў можна было б пагадзіцца... Так і трапляе чалавек у пастку.

ПРУНА. Я ведаю рызыкантаў, што галасуюць за ультраправых.

МАРЫ-РОЗ. А я ведала рызыкантаў, што падтрымлівалі маршала. Вось чаму ідэі як такія мяне не надта цікавяць. Кожную ідэю можна перакруціць.

ПРУНА. Не, тут вы памыляецеся. Чалавецтву патрэбныя ідэі. Ведаеце, што я больш за ўсё люблю ў песнях? Калі ў тэксце ёсць сэнс. Калі ж там толькі ноты ды словы для прыгажосці – гэта адстой.

МАРЫ-РОЗ. У песнях – магчыма, але ў жыцці...

ПРУНА. Тое ж самае.

МАРЫ-РОЗ. Некаторыя ідэі вельмі небяспечныя.

ПРУНА. Больш небяспечна – калі іх няма. Калі вы прыбераце ідэі, іх месца займе лухта.

МАРЫ-РОЗ. Але ж фашызм таксама паўстаў з ідэі. Ідэі вельмі прывабнай! Вам казалі: “Вы найлепшыя, вы наймацнейшыя”. Так прыемна было гэта чуць. Калі б вы толькі бачылі высадку салдатаў вермахта... у зіхоткай форме, навюткіх аўтамабілях! Наша бедная армія выглядала побач з імі нікчэмна... Я была на баку гэтых нікчэмных.

ПРУНА. Ну, слухайце, я бачыла ў вас сцяг, у куфры.

МАРЫ-РОЗ. Так.

ПРУНА. Дык сцяг і ёсць перакручаная ідэя.

МАРЫ-РОЗ. У вашым узросце мне ніякай справы не было да сцяга. Я пачала шанаваць яго пасля вайны.

ПРУНА. Сцяг – гэта ж проста ануча, у якой, тым не менш, столькі смерцяў на сумленні! Сцягі трэба забараніць.

МАРЫ-РОЗ. Калі я памру, я хацела б, каб мне ў труну паклалі наш трыкалор... Вы мяне слухаеце?

ПРУНА. Не, не, даруйце, з мяне хопіць.

МАРЫ-РОЗ. Не разумею вас...

ПРУНА. Што тут разумець? Досыць мне гэтых гісторый. Я проста хацела дапамагчы вам навесці парадак, проста хацела дапамагчы вам раскласці паперы... Але ўсе гэтыя гісторыі, гэтая халерная палітыка надакучылі мне! Гэта вашыя справы, не мае. У мяне, можа, таксама ёсць гісторыя, мая! Вы нічога дзіўнага не заўважылі?

МАРЫ-РОЗ. Я заўважаю столькі ўсяго дзіўнага ў нашы дні...

ПРУНА. Я вам пра сябе кажу! Мой тэлефон!.. Ён не званіў сёння падчас цырымоніі.

МАРЫ-РОЗ. Якое шчасце!

ПРУНА. Ён не званіў ні пасля, калі мы былі на вуліцы, ні цяпер, калі мы дома. Вось што дзіўна...

Паўза.

МАРЫ-РОЗ. Вы хвалюецеся за мсьё Но-Но?

ПРУНА. Калі я чытала ўсю ноч, дык гэта значыць толькі тое, што яго не было ўсю ноч, гэтага мсьё Но-Но... Я адправіла яму паведамленне – ён не адказаў. Я пакінула яму галасавое – ён не перазваніў...

МАРЫ-РОЗ. Але ж мне падалося, што вы раззлаваліся на яго, што вы больш не можаце яго цярпець. Вы назвалі яго цельпуком і нават горш...

ПРУНА. І што з таго? Што гэта мяняе? Вы што, ніколі не былі закаханай?

Магільнае маўчанне.

ПРУНА. Ды годзе, няма чаго крыўдаваць. Любоў не брыдкае слова, мадам Жынэст.

МАРЫ-РОЗ. Гэта вас не датычыцца. Я добра ведаю, што сёння ўсе размаўляюць пра любоў, красуюцца, не цураюцца інтымных падрабязнасцяў... Але ж я – ці разумееце? – належу да тых часоў, калі такое было не прынята.

ПРУНА. Я не хацела вас пакрыўдзіць. Проста для мяне дык няма нічога ані ганебнага, ані бессаромнага ў тым, каб сказаць, што мы кагосьці кахалі.

МАРЫ-РОЗ. Я ніколі ні з кім пра гэта не гаварыла. Нават са сваёю маці.

ПРУНА. Тым горш для вас.

МАРЫ-РОЗ. Чаму ж гэта?

ПРУНА. Ну, таму, што тым горш для вас, калі вас ніхто ніколі не прытуляў да сябе. Тым горш для вас, што вы ніколі не былі закаханай.

Мары-Роз не рухаецца. Змена асвятлення.

МАРЫ-РОЗ. Мама, заўтра ўвечары да нас прыйдзе чалавек.

МАЦІ *(за кадрам тут і далей)*. Зноў мсьё з разведслужбы?

МАРЫ-РОЗ. Не, той больш не прыйдзе.

МАЦІ. Так будзе лепш... Ты памятаеш, як нам было страшна, калі ён прыйшоў упершыню? Калі ён нагнуўся і з ягонай кішэні выпаў рэвальвер? Вось калі я зразумела, у якую небяспеку ты патрапіла.

МАРЫ-РОЗ. Ведаю, мама. Даруй, калі ласка, але так было трэба.

МАЦІ. А той радыёпрыёмнік, які мы хавалі ўвесь тыдзень, калі ён адпраўляў свае паведамленні?.. Калі б гестапаўцы яго знайшлі... Скажы мне, гэты чалавек прыйдзе па той самай справе?

МАРЫ-РОЗ. Не, цяпер гэта авіятар.

МАЦІ. Ну, лепей так...

МАРЫ-РОЗ. Гэта яшчэ больш небяспечна. Ён будзе хавацца ў нас пэўны час.

МАЦІ. Ён будзе ў нас спаць? Як жа нам быць? У нас нават чыстых прасцін няма, і няма чым мыць...

МАРЫ-РОЗ. Не хвалюйся, мама. Я купіла мыла.

МАЦІ. Як у цябе атрымалася без талона?

МАРЫ-РОЗ. Знайшла на чорным рынку. Гэта быў першы раз і, спадзяюся, апошні.

МАЦІ. Падумаць толькі! Кожны месяц праз нашы рукі праходзіць больш за паўтысячы лістоў забеспячэння для супрацiўленцаў, партызанаў, габрэйскіх дзяцей – а ў нас няма нават талончыка купіць сабе кавалак мыла! Калі б людзі даведаліся, сказалі б, што мы вар'яткі.

МАРЫ-РОЗ. Ніхто ні пра што не даведаецца, мама. Ніхто не даведаецца, што мы вар'яткі. *(Смяецца.)*

Змена асвятлення. Вяртаемся ў дзень сённяшні.

ПРУНА. Што гэта быў за авіятар?

МАРЫ-РОЗ. Дваццацігадовы амерыканец. Яго звалі Боб. Быў пачатак мая сорак чацвёртага. Ён заставаўся ў нашым доме на працягу тыдня.

ПРУНА. Прыгожы? *(Паўза.)* Амерыканец той... ён быў прыгожы?

МАРЫ-РОЗ. Ён быў жанаты. Я не гаварыла па-ангельску, а ён кепска разумеў па-французску. У мяне дома быў невялічкі слоўнік, пры дапамозе якога мы маглі камунікаваць... Пэўнага дня ён сказаў мне, што то была гадавіна ягонага шлюбу.

ПРУНА. От жа... прыкра!

МАРЫ-РОЗ. Я пайшла сабраць першыя ружы ў садзе нашага сакратарыята. Паставіла букет на стол і за абедам патлумачыла яму, што зрабіла гэта, каб адсвяткаваць ягоную гадавіну. Яго гэта так расчуліла. Ён папрасіў узяць адну ружу, каб падарыць сваёй жонцы. З'язджаючы, ён паклаў ружу

ў скрыначку ад ледзянцоў... Я больш ніколі пра яго не чула. Але я часта думала, ці дабралася тая ружачка да Амерыкі...

ПРУНА. Дзякуй... *(Задумліва.)* Не, ён сам павінен пазваніць... Ды я не толькі праз яго раззлавалася... Але я хацела б быць шчырай з вамі, мадам Жынэст. Мне, можа, бракуе адукацыі, але мозг у мяне ёсць. Апроч таго, я слухаю навіны па тэлеку. На цырымоніі ў ліцэі вы разглядалі дрэвы, а я – людзей. Ці, як кажуць, персаналій, былых байцоў і паліцэйскіх, выкладчыкаў, усю гэтую хеўру... Тых, хто ведае, хто памятае, хто разбіраецца ў гісторыі. Усе капец якія расчуленыя! І я, канечне, веру, што яны былі шчырымі... Але ж чорт! Мяне ўсё гэта прывяло ў такую лютасць! Хацелася ім сказаць: але мы таксама, мы, моладзь, маем сваю вайну. У нас таксама ёсць нашы памерлыя. І вы? Што вы ўсе робіце, каб гэта прадухіліць?

МАРЫ-РОЗ. Ваша вайна? Што вы называеце “вашай вайной”?

ПРУНА. У нас з Но-Но быў сябар, які пайшоў у армію, у дэсант. Харошы хлопец, з пачуццём годнасці і абавязку, з Францыяй у сэрцы, усё вось гэта... І што ж? Яны адправілі яго ў Афганістан. Ён вярнуўся ў цынкавай труне. Яму не было і трыццаці. Гэта што, не вайна? Маладых гэта не датычыцца, не? О так, гэта дзеецца не ў Францыі, але ж ён таксама меў права на французскі сцяг у сваёй труне! І што яны робяць, “тыя, каторыя ведаюць”, каб пазбегнуць гэтага?

МАРЫ-РОЗ. Я не ведаю. Магчыма, яны тады намагаліся ўтрымаць бяду там, каб яна не здарылася аднойчы тут...

ПРУНА. Але ж атрымліваецца, няма сэнсу памятаць, бо гэтая памяць ніколі не перашкаджае новым вар’ятам распачынаць новыя вар’яцтвы.

МАРЫ-РОЗ. Але не памятаць – яшчэ горш... Тыя пастулаты, што вы толькі што зачыталі, прынеслі столькі смерці...

ПРУНА. І што мне з таго?

МАРЫ-РОЗ. Ну, калі вы аднойчы сустрэнеце такія ці падобныя словы, вы іх распазнаеце.

ПРУНА. Вы праўда думаеце зацікавіць мяне палітыкай?.. Я нават не ведаю, што гэта такое.

МАРЫ-РОЗ. А гэта вельмі проста: гэта значыць служыць, аддаваць, а не толькі браць сабе, як думае большасць з тых, хто робіць выгляд, што займаецца ёю. Гэта значыць знайсці спосаб гарманічнага суіснавання з тымі, каго мы не выбіралі... Гэта тое, што мы з вамі робім.

ПРУНА. Мы з вамі займаемся палітыкай?

МАРЫ-РОЗ. Мне падаецца, так... Хочаце, працягнем займацца вашай спадчынай?

ПРУНА. Маёй спадчынай? Вы смешная, адразу бачна, што вы не ведаеце маёй сям’і. Ніколі не было ў нас ніякай спадчыны, адны запазычанасці.

МАРЫ-РОЗ *(паказваючы на куфар)*. А ўсё гэта што, на ваш погляд?

ПРУНА. Ну... вашы ўспаміны, ваша жыццё...

МАРЫ-РОЗ. Бог з імі, з маімі ўспамінамі ды маім жыццём. Тое, што тут ляжыць, гэта штосьці іншае. Гэта частка самой Францыі, невялікі кавалачак гісторыі Еўропы, частка сусветных прыгод... Гэта належыць вам.

ПРУНА. Выбачайце, канечне, але яна важыць тоны, гэтая ваша спадчына. Гэты ваш фашызм, вашы мільёны загінулых... Я нічога такога не прасіла.

МАРЫ-РОЗ. Ніхто нічога не прасіў. Але так было. І цяпер у нас ёсць свабода. Наша цудоўная свабода. Баязлівасць – хвароба заразная. Калі здарыцца эпідэмія, будзе ўжо позна.

ПРУНА. І што? Я, звычайная дзяўчына, што хоча стаць спявачкай, а прыбірае па дамах... вы хочаце, каб я стала спадкаемніцай Супрацiву?

МАРЫ-РОЗ. Я нічога ад вас не хачу, мадэмуазэль. Проста кажу вам: будзьце сабой. Вы можаце адмаўляць, што маеце душу, але не можаце не прызнаваць, што маеце сумленне.

Гучыць смешная мелодыя тэлефона Пруны.

ПРУНА. Гэта Но-Но! Што мне рабіць?

МАРЫ-РОЗ. Гісторыя вашага кахання мяне не датычыцца. Але калі мне звоняць у дзверы, я адчыняю.

Пруна ўстае і бярэ трубку.

ПРУНА. Я зараз. *(У тэлефон.)* Алё?.. Пачакай, кепска цябе чую, я выйду... *(Выходзіць.)*

Мары-Роз гартае паперы. Пачынае спяваць птушка. Мары-Роз падыходзіць да вакна, каб паслухаць. Яна закрывае вочы. Уваходзіць Пруна. Яна не адразу заўважае Мары-Роз.

ПРУНА. Мадам Жынэст?

Мары-Роз паварочваецца і прыкладвае палец да вуснаў. Знакам кліча Пруну. Абедзве слухаюць, як спявае птушка.

МАРЫ-РОЗ. Ну што, вы яму даравалі?

ПРУНА. Як прыгожа спявае птушка!

МАРЫ-РОЗ. Хлопцу свайму, Но-Но... ці даравалі вы?

ПРУНА. Мы ўбачымся з ім заўтра, нам трэба ўсё абмеркаваць... А на гэты вечар я запланавала штосьці іншае.

МАРЫ-РОЗ. Дараванне – справа няпростая. У мяне з ім кепска... Адразу пасля Вызвалення я была ўпэўненая, што ўсе злачынцы мусяць быць строга пакараныя... Бо мы прайшлі праз такія пакуты... Я ўдзельнічала ў судах. Не аднойчы мне даводзілася дамагацца вынясення смяротнага прысуду...

ПРУНА. Вы? Вы дамагаліся прысуду караць людзей смерцю? Не надта гэта па-хрысціянску.

МАРЫ-РОЗ. Урэшце вышэйшая мера пакарання была для іх усіх адмененая...

ПРУНА. А паголеныя жанчыны? Вы што пра іх думаеце?

МАРЫ-РОЗ. О, вядома, яны спалі з немцамі... Для кагосьці з іх гэта было прафесіяй, іншыя проста хацелі есці... Некаторыя былі закаханыя... Але мы нічога не зрабілі з мужчынамі, што спалі з немкамі.

ПРУНА. Вы ж ведаеце, што сёння там-сям адбываецца тое ж самае?

МАРЫ-РОЗ. Жанчынам галовы голяць?

ПРУНА. Не ведаю, ці голяць ім галовы, але іх збіваюць, зневажаюць, некаторых нават нявечаць, таму што яны сустракаліся з хлопцамі, з якімі нельга было...

МАРЫ-РОЗ. Гэта ніколі не скончыцца, Пруна. Заўсёды ў свеце будуць падставы для супраціўлення, для непадпарадкавання. Асабліва калі ты жанчына... *(Паказваючы на куфар.)* Ну дык што з гэтым нашым парадкам?

ПРУНА. Няма сэнсу, мадам Жынэст, нам з вамі прыкідвацца.

МАРЫ-РОЗ. Прыкідвацца?

ПРУНА. Рабіць выгляд, нібы мы разбіраем вашыя паперы. Усе яны ў ідэальным парадку, і ўспаміны ў вашай галаве таксама. Я добра ведаю,

навошта вы робіце ўсё гэта. Не хвалюйцеся, не такая ўжо яна і тупая, гэтая ваша спадкаемца.

Хуткім жэстам Пруна закрывае куфар.

ПРУНА. А цяпер, калі ласка, заплюшчыце вочы.
МАРЫ-РОЗ. Але навошта?
ПРУНА. Заплюшчыце вочы, кажу вам... калі ласка. *(Мары-Роз заплюшчвае вочы.)* Не падглядайце, акей? Я ўсё бачу.

Пруна бярэ сумку, якую пакінула на ўваходзе. Яна дастае пакунак і працягвае яго Мары-Роз.

ПРУНА. Можаце адкрываць!
МАРЫ-РОЗ *(разгублена гледзячы на пакунак.)* Але ж...
ПРУНА. Сёння, выпадкам, не 10 жніўня, не?
МАРЫ-РОЗ. Не ведаю... Я... Можа...
ПРУНА. З днём нараджэння, мадам Жынэст!
МАРЫ-РОЗ *(вагаючыся)*. Мой дзень нараджэння?..
ПРУНА. Нераспакаваныя падарункі мяне моцна напружваюць!

Мары-Роз усміхаецца, разгортвае пакунак і дастае з яго вялікі, яркі, элегантны шаль. Пруна запальвае свечкі на меноры.

МАРЫ-РОЗ *(у захапленні, крыху збянтэжана.)* Ах! Гэта так цудоўна!.. Але ж, Пруна, чаму вы робіце гэта?
ПРУНА. Ды мне абрыдла бачыць вас заўсёды ў шэрым! Сёння на вуліцы мне падалося, што я шпацырую з мышшу. Вы мелі рацыю, мы з вамі жывём у адной эпосе. Дык вось, дазвольце мне вам заявіць, што чорна-белы час мінуў, мы перайшлі да колеру.
МАРЫ-РОЗ. Дзякую, Пруна... Але я гэтага не заслугоўваю, праўда...
ПРУНА *(перабіваючы)*. Згодная. Вы мне здорава нервы патрапалі. Праз вас я мусіла трываць гэтыя плыні гістарычных успамінаў, ні разу не маіх. Не кажучы ўжо пра кніжку, над якой я рыдала як статак кракадзілаў!
МАРЫ-РОЗ *(накідваючы шаль)*. Ну, як яно?
ПРУНА. Першы раз у жыцці бачу мыш у яркай сукенцы, але вам вельмі пасуе.
МАРЫ-РОЗ. Мой дзень нараджэння! Так даўно мяне ніхто...
ПРУНА. ...не запрашаў у рэстаран?
МАРЫ-РОЗ. У рэстаран?
ПРУНА. Я галодная як воўк! І я цярпець не магу есці ў самоце... Вам чаго хацелася б?
МАРЫ-РОЗ. Піцы! Мне вельмі хочацца піцы.
ПРУНА. Гляньце толькі: калі вам хочацца быць жывой, вы хуценька ажываеце! Дзве піцы і шмат-шмат алівак, як у Іерусаліме.
МАРЫ-РОЗ. Ах, вы памятаеце? Аліўкавыя дрэвы да самага далягляду...
ПРУНА. Ну, але гэта яшчэ не ўсё. Учора я абяцала вам музыку. Карацей, гэта рэч з часоў Вызвалення, знайшла яе ў інтэрнэце. Наўмысна выбрала яе, бо яе напісалі два габрэі... Яна на ангельскай і на ідышы. Такім чынам мы ўзгадаем і Боба-авіятара, і вашых сяброў-габрэяў, і іншых вашых фантомаў, і ровар ваш таксама... Паслухайце, які круцяк, і пасля пойдзем.

Пруна ўключае свой плэер, гучыць джазавая музыка. Яна пачынае падпяваць “Bei mir bist du schein”. Змена асвятлення, змена дэкарацый: кабарэ. Мары-Роз, зачараваная, назірае за Прунай. Песня і музыка патанаюць у цемры.

Адам Глобус



...тата як сапраўдны пісьменнік
мог зазірнуць у будучыню...

# Тата і мастакі

## *Словы пра пісьменніка Вячаслава Адамчыка*

### Сарамлівасць

Згадваю размовы з татам. Яму сёлета магло б споўніцца дзевяноста. Некаторыя з татавых раўналеткаў яшчэ жывуць, што добра. Таты даўно няма, але размовы з ім мне помняцца, асабліва добра – нашы гутаркі пра аздабленне і вокладкі ягоных кніжак. Таму падумалася, што варта тое-сёе з тых успамінаў пазанатоўваць...

### 1958. "Свой чалавек"

Першая татава кніга "Свой чалавек" – танюткая брашурка з двума апавяданнямі. На вокладцы сціплы фотапартрэт. З колераў выкарыстаны толькі травяніста-зялёны ды сціпла-жоўты. Тата любіў свой першы зборнічак. У падобным аздабленні выходзілі іншыя брашуркі з прозаю і нарысамі. Выйшлі і зборнікі Янкі Брыля ды Піліпа Пестрака. Пестрак, расказваў тата, страшэнна абураўся аздабленнем: "Гэтага пілсудчыка Брыля выдалі з чырвоным колерам на вокладцы, а мяне – рэвалюцыянера і

камуніста – выдалі з фашыстоўскім карычневым колерам...” Абурэнні Піліпа Пестрака, якому цешча на вяселле падаравала “Капітал” Карла Маркса, для мяне і таты гучалі абсурдна і нават смешна. Але для Янкі Брыля, які служыў у польскім войску і ў час вайны жыў у акупаванай гітлераўцамі Беларусі, было, пэўна ж, не смешна. Праўда, і сам Янка Брыль абвінавачваў пісьменнікаў, што пісалі эратычную прозу, у парнаграфіі, што выглядала, на мой розум, смешна і абсурдна.




Добра яшчэ, што на вокладцы татавай першай кнігі не было карычневага і чырвонага колераў, а то і ён мог бы патрапіць у дурную спрэчку пра напрыдумляную Піліпам Пестраком партыйнасць розных колераў.

**1965. “Міг бліскавіцы”**

У таты склаліся прыязныя адносіны з мастаком Васілём Шаранговічам. Пра гэта я неаднойчы чуў ад таты, гэтак мне казаў і сам Васіль Пятровіч. Таму можна і пашкадаваць, што Шаранговіч аформіў сціплымі малюнкамі адзін-адзіны зборнік татавых апавяданняў. Зрэшты, “Міг бліскавіцы” – ці не найлепшая татава кніжка, прынамсі для мяне адна з трох найлепшых, бо стаўлю яе ўпоравень з раманам “Чужая бацькаўшчына” і зборнікам апавяданняў “Дзікі голуб”. Калі ўлічыць, што “...голуб” і “...бацькаўшчына” напісаны і выйшлі пазней, дык важнасць “...бліскавіцы” моцна ўзрастае. Менавіта з гэтай кнігаю тата з пачаткоўца і аматара ператварыўся ў прызнанага прафесійнага пісьменніка. Пэўна, і аздабленне кнігі гэтаму паспрыяла, ці, скажам так – не нашкодзіла. Бо і так здараецца, што добрую кнігу цераз кепскае аздабленне не хочацца купляць і нават у бібліятэцы браць такую няма жадання. Зборнік “Міг бліскавіцы” меў добры лёс: яму пашанцавала і з фарматам, і з коштам, і з мастаком, які зрабіў аздабленне.




**1970. “Вспышка молнии”**

“Не дадзена нам адгадаць, як наша слова адгукнецца...” – заўважыў Фёдар Цютчаў. Гэтак не толькі са словам адбываецца, а і з малюнкамі... Аднойчы я напісаў, што найлепшы малюнак, які зрабіў Сяргей Пчалінцаў – краявід на вокладцы першай кнігі паэзіі Леаніда Галубовіча “Таемнасць агню”. Сяргей пакрыўдзіўся. Ён жыве ў Нью-Ёрку, піша карціны алейнымі фарбамі на палатне, выстаўляе карціны ў амерыканскіх галерэях... Тут нейкі малюначак, нейкая акуратная халтурка, зробленая дзеля заробку. Быццам і несправядліва, што маленькі малюнак важнейшы за ўвесь амерыканскі перыяд у творчасці Пчалінцава, але для мяне так яно і ёсць. Нешта падобнае здарылася і з малюнкамі, якія зрабіў Уладзімір Мураўёў да кнігі татавых апавяданняў “Вспышка молнии”, што выйшлі ў перакладах на рускую мову. Графіка Мураўёва моцна паўплывала на мяне, як на мастака. Паўплывалі менавіта гэтыя кніжныя малюнкі. Пазней я даведаўся, што Уладзімір Мураўёў дваццаць гадоў прапрацаваў

у выдавецтве, дзе, па словах ягонай жонкі – вядомай літаратуразнаўцы Алы Марчанка, “оформил сочинения практически всех, как тогда говорили, ведущих прозаиков, от Василя Быкова до Георгия Маркова”. Праўда, Уладзімір Мураўёў лічыў сябе паслядоўным прадстаўніком маскоўскага андэграўнду... І яшчэ пра слова і адгуканне. На адным з асобнікаў “Вспышки молнии” ёсць татаў дарчы надпіс для мяне: “Сыну Валодзю, каб прозвішча наша на кніжках не зводзілася – бацька. 14 студзеня 1971 года”. У той час я хадзіў у шосты клас і ведаць не ведаў, што стану літаратарам, мастаком і кніжнікам, а тата як сапраўдны пісьменнік мог зазірнуць у будучыню і расказаць пра мой лёс.




## 1972. “Дзікі голуб”

Як на мой густ, дык “Дзікі голуб” – найлепшая татава кніга. Выхад гэтага зборніка апавяданняў мы ўсёй сям’ёй чакалі сем гадоў. Сем гадоў бацька праз цэнзуру, якую ўвасаблялі не толькі нейкія абстрактныя чыноўнікі, а і канкрэтныя рэцэнзенты накшталт паўграфаманаў Хведара Жычкі да Алеся Савіцкага, не мог выдаць новую кнігу. Добра, што за яе заступіліся народныя пісьменнікі Міхась Лынькоў ды Іван Мележ. Убачыць “Дзікага голуба” ў кнігарнях было для нас вялікай радасцю. Менавіта я першы і пабачыў “...голуба” ў кнігарні “Цэнтральная”. З таго часу я люблю лінарыты Генадзя Грака, якія былі зроблены да татавай кнігі. Да лінарытаў Грака тата таксама ставіўся добра. Дарэчы, не толькі тата, а і наш сусед Уладзімір Караткевіч цаніў ілюстратара Грака, які зрабіў выразнае і запамінальнае аздабленне для першага выдання рамана “Хрыстос прызямліўся ў Гародні”. Таму я сустракаўся з Генадзем, і ён падараваў макет вокладкі “Дзікага голуба”, які я аформіў у раму пад шкло і перадаў у школьны музей на татавай радзіме.

## 1978. “Чужая бацькаўшчына”

Хацеў зрабіць добрую справу. Вырашыў папрасіць у мастака Шэверава малюнкі, якія ён рабіў для кнігі “Чужая бацькаўшчына”. Я спадзяваўся, што малюнкі захаваліся, што іх атрымаецца выкупіць, можна будзе аформіць і перадаць у школьны музей, якія адкрылі татавы землякі на Дзятлаўшчыне. Шэвераў выслухаў мяне, паабяцаў пашукаць малюнкі. Ён іх не знайшоў... Размова з кніжным графікам Шэверавым была доўгай і цяжкай, але самае галоўнае ў тым, што я нарэшце высветліў, чаму ў яго так добра атрымаліся малюнкі да бацькавага рамана. Шэвераў аздабляў дзіцячыя кнігі, маляваў безліч вясёлых персанажаў, меў процьму замоў. Чаму ён узяўся за драматычны раман? Нашто ўступіў у канкурэнцыю з Кашкурэвічам, Шаранговічам і Паплаўскім? Чаму адмовіўся ад сваёй заўсёднай каляровасці і стракатасці? Я не ведаў. Цяпер ведаю... Шэвераў захварэў. У яго пачаліся галавакружэнні. Ён не мог рабіць малюнкі малых фарматаў. Не мог засяродзіцца. Таму ўзяў паперу вялікага памеру і напісаў на ёй алейнымі фарбамі экспрэсіяністычныя карціны. Напісаў іх тэмпераментна, дзе пэндзлем, а дзе і мастыхінам. Напісаў фактурна, з прадрапваннямі. Малюнкі да “Чужой бацькаўшчыны” – найвялікшая ўдача Шэверава. Выдатнаму раману пашанцавала, і ён атрымаў выдатнае аздабленне. Галавакружэнні ў Шэверава прайшлі. Ён вярнуўся да вясёлых дзіцячых бестурботных кніжак і не шкадуе, што арыгіналы малюнкаў да “Чужой бацькаўшчыны” згубіліся. Ён не шкадуе, а мне шкада. Яшчэ я шкадую, што тата не пахваліў мастака за малюнкі, ён нават выка-




заўся злосна пра малюнак на вокладцы, дзе былі чорныя птушкі: "Нашто мне груганы на рамане? Каб была якая іншая птушка... Дзікі голуб, бусел, салавей... Няхай! Чорныя груганы брыдкія, і мне зусім не падыходзяць..." Добра, што малюнак з груганамі хаваецца пад супервокладкай, бо інакш Шэвераву давялося б яго перарабляць.

### 1982. "Чужая вотчина"

Ёсць задумы пра аздабленне татавых кніжак, якія яшчэ не рэалізаваліся... Я не наракаю на лёс, бо мой краявід з нашай вёскай Варакомшчынай ужо патрапіў на вокладку татавага рамана, які выйшаў у "Школьнай бібліятэцы", а мая карціна "Свечачка" ўпрыгожыла татаў зборнік апавяданняў "Песня". Але ёсць яшчэ тое, што не дарабілася... Сур'ёзныя людзі прапанавалі мне аздобіць рускі пераклад "Чужой бацькаўшчыны", і мне падумалася, што кадры з фільма, які рабіў тата з рэжысёрам Рыбаравым, добра леглі б у якасці ілюстрацый. Тут пачалася эпідэмія кавіду, потым пайшло іншае насланнё, адным словам, сур'ёзныя людзі заняліся больш сур'ёзнымі справамі, а "Чужая вотчина" з кінагероямі засталася адно ў планах да лепшых часоў. Яны – гэтыя лепшыя і найлепшыя часы – напэўна прыйдуць, і я зноў паспрабую выдаць "Чужую вотчину" са сваімі любімымі кадрамі з кіно, зробленымі аператарам Феліксам Кучарам.

### 1987. "І скажа той, хто народзіцца"

Некалькі разоў я рабіў спробы атрымаць замову на афармленне татавых раманаў. Атрымалася толькі аднойчы, і я зрабіў шэсць малюнкаў у часопіс "Нёман", дзе выходзіў пераклад на рускую мову "Года нулявога". Таму я спадзяваўся, што афармленне наступнага рамана, які называўся "І скажа той, хто народзіцца" мне абавязкова аддадуць. Не аддалі, бо такі сур'ёзны заказ, на думку выдавецтва, павінен рабіць не пачатковец, а прызнаны мастак. Можна было выбраць прызнанага. Тады з усіх прапанаваных тата выбраў Міколу Селешчука. Мікола прыходзіў да нас дамоў. Маці частавала яго каваю, зваранай у турцы на маленькім агні. Тата расказваў, што любіць кнігі, у аздабленні якіх выкарыстана шэрае натуральнае палатно. Яшчэ тата перадаў Селешчуку пачак фатаздымкаў, зробленых у вёсцы, якую ён апісваў у рамане. Таму афармленне рамана "І скажа той, хто народзіцца" атрымалася самым старанным. Мікола не проста рабіў ілюстрацыі – пісаў цэлыя карціны алеем на палатне. Цікава, што на выставе, якую сябры рабілі Селешчуку пасля ягонай трагічнай і заўчаснай смерці, ілюстрацыі да татавага рамана падаваліся проста як маленькія карціны, і нідзе не пазначалася, што яны ілюструюць беларускую прозу. Напрыканцы мушу сказаць, што тата быў задаволены тым, што зрабіў Мікола.

### 1999. "Развітальная аповесць"

Апошнюю прыжыццёвую кнігу тата назваў "Развітальная аповесць".

Добра помніцца той вечар, калі тата завітаў у маю новую, яшчэ амаль без мэблі, кватэру. Мы стаялі ля акна і разглядалі вуліцу Чырвоную. Мая жонка збірала на стол вячэру. Тады тата і сказаў, што вырашыў назваць новую кнігу прозы "Развітальная




аповесць". Я паспрабаваў пярэчыць, бо па ўсіх законах менеджменту назва кнігі мусіць мець станоўчы мэсідж. Кнігі з аптымістычнымі назовамі прадаюцца ўтрая лепш, чым з назовамі нейтральнымі ці, што горш – адмоўнымі. Тата настойваў на тым, што мастак мусіць паказваць свет праз драму. Яшчэ тата папрасіў, каб я з братам дапамог выдаць "Развітальную аповесць", бо яна і насамрэч развітальная. Я паабяцаў, што выдам не толькі "...аповесць", але дапамагу з выданнем і наступнай ягонай кнігі. За гэта мы тады і выпілі па першай чарцы.

Вокладку для "Развітальнай аповесці" я замовіў у Сашы Барташэвіча, бо тады Саша яшчэ стараўся ў кожную замову дадаць элемент творчасці. Ён і сапраўды пастараўся. Ён дастаў фарбаваную паперу дзевятнаццатага стагоддзя, каб яе малюнак выкарыстаць у аздабленні. Вокладка атрымалася някідкай і густоўнай. Звычайна тата, калі бачыў эскізы вокладкі да ўласнай кнігі, выказваў нейкія заўвагі ці даваў парады мастаку, але гэтым разам прыняў вокладку Барташэвіча адразу. Пэўна, тата хацеў пабачыць выдадзеную кнігу як мага хутчэй, бо жыцця ў яго заставалася ўжо на самым донцы.

### Лёня

Каб не казаць пра мастакоўскую працу нешта кепскае наўпрост, тата прыдумаў для такіх выказванняў свой тонкі ход. Пра ўсё, што яму не падабалася ў кніжнай ці часопіснай графіцы, тата казаў: "Зрабіў, як Лёня Прагін!" Гэты Лёня – Лазар Якаўлевіч Прагін – з 1947 ажно па 1993 год працаваў у самых вядомых беларускіх выдавецтвах і кіраваў аздабленнем беларускіх кніжак. Густ Прагіна меў у сабе рысы правінцыйнасці, кансерватыўнасці і мінскай фікуснай ампірнасці, якая прэтэндуе на шыкоўнасць. Асабіста для мяне творчасць і дзейнасць Лёні не мелі той эталоннай адмоўнасці, якую бачыў тата. Проста я ведаў, калі гучала "Зрабіў, як Лёня Прагін", работу па афармленні часопіса ці кнігі давядзецца перарабляць.

### 2002. "Нязрушаны камень"

Перад смерцю тата цяжка хварэў. У свой апошні прыход у маё выдавецтва ён прынёс змест новага зборніка прозы, названага "Нязрушаны камень". Акрамя жорсткіх рэалістычных апавяданняў туды ўвайшло і эсэ "Радавод Адамчыкаў". Мы з братам Міраславам паабяцалі, што хутка зробім афармленне, хутка звярстаем і хутка выпусцім татаў "...камень". Мы і сапраўды ўсё рабілі хутка, ды не паспелі парадаваць тату яшчэ адной новай кнігай. Яна выйшла пасля смерці аўтара. У той час я захапіўся маляваннем лістоты, якая ападае з дрэў. Некалькі гадоў запар я маляваў акварэллю і тушшу лісце, падобнае да птушыных пёраў, што сыплецца з неба на зямлю. Мне тады падабалася назва занатовак Васіля Розанава "Опавшие листья", падабаліся хоку Мацуа Басё і японская графіка. У нейкі момант настрой маіх малюнкаў супаў са зместам татавай першай паслясмяротнай кнігі, у якой назаўжды спыніўся ягоны час. Так, лістота на маіх малюнках падае, але яна ніколі не ўпадзе. Так, татаў час спыніўся, ды не скончыўся, ён стаў каменем, які нельга зрушыць.

Генадзь Лапацін



...Што мне доля?

Якая будзя – такая будзя!..

# Варвара Грэцкая: "Пачытай мае песні... Ума набярэшся..."

Гераіня гэтай публікацыі Варвара Аляксандраўна Грэцкая нарадзілася ў 1925 годзе ў вёсцы Старое Закружжа Веткаўскага раёна Гомельскай вобласці. У 1926 годзе сям'я Грэцкіх пераехала ў вёску Амяльное, якая, як і вёскі Падкаменне, Сярэдні, Пянное, была заснаваная малазямельнымі жыхарамі Старога Закружжа. Трэба адразу адзначыць, што ў новастворaных населеных пунктах захоўвалася старазакружская фальклорна-этнаграфічная традыцыя. У 1992 годзе ў сувязі з наступствамі аварыі на ЧАЭС і адсялення яе роднай вёскі Амяльное Варвара Грэцкая пераехала на сталае месца жыхарства ў Ветку, дзе пражыла самай смерці – 3 студзеня 2021 года.

За час з 2005, менавіта тады пачалося нашае супрацоўніцтва, і па 2021 гг. ад Варвары Аляксандраўны мною было запісана каля ста шасцідзесяці аўдыёкасет. Магло быць нашмат больш, паколькі першая нашая сустрэча адбылася значна раней, у далёкім 1992 годзе, калі я, на той час супрацоўнік Веткаўскага музея народнай творчасці, часта, прычым з некаторымі неаднаразова, сустракаўся с перасяленцамі, якія жылі ў Ветцы, сярод якіх былі і жыхары

Амяльной. Падчас адной з такіх гутарак з маімі пастаяннымі суразмоўцамі ў іх у гасцях была і жанчына, якая слухала нас, слухала і прапанавала мне запісаць яе песні. Але на той час мае навуковыя інтарэсы не адпавядалі гэтаму і яе прапанова мяне не зацікавіла. А ў памяці гэтай жанчыны захоўваўся, на жаль, даводзіцца казаць у мінулым часе, практычна ўвесь фальклорна-этнаграфічны рэпертуар Амяльной. Гэта песні каляндарнага і сямейнага цыклаў, лірычныя, дзіцячыя, сірочыя песні, замовы і апісанні абрадаў і звычаяў, легенды, прыкметы, павер'і. Значная частка іх прыводзіцца мной у кнізе "Варвара Грэцкая як з'ява беларускай народнай культуры"[1].

Адметнымі і цікавымі падаюцца рэплікі, аповеды, разважанні Варвары Аляксандраўны пра песні, абрады, звычаі, традыцыі. Фрагментальна яны прыводзяцца ў маіх пулікацыях у такіх выданнях як "Беларускі фальклор: матэрыялы і даследаванні. Зборнік навуковых прац", "Верасень", матэрыялы навуковых канферэнцый"[2]. Яе веды ў гэтай тэме настолькі вялікія, а меркаванні настолькі глыбокія, што гэта дае падставы вызначыць іх як народную фалькларыстыку і народную культуралогію. У вышэйшай ступені грунтоўна ў яе разважаннях і высновах асвятляюцца пытанні, якія тычацца псіхалогіі творчасці, прынамсі, ролі таленту ("адорнасці"). Паводле Варвары Грэцкай, адсутнасць "адоранасці" нельга падмяніць ні апантаннасцю, ні вучобай, ні ўпартай працай.

Яе меркаванням можна давяраць, бо гэта меркаванні асобы, якая ў народнай культуры прайшла шлях ад дзіцячага, непасрэднага сузірання да свядомага ўдзелу ў актах традыцыі (песнях, абрадах, святах).

"*Бунтуя міне песня...*" Менавіта так у адной з нашых размоў вызначыла свае адносіны да песні Варвара Аляксандраўна Грэцкая. І ў гэтым стане яна знаходзілася амаль восемдзясят гадоў. Выбіраючы паміж доляй і песняй, яна выбрала песню: *"Я сяжу і пяю. Дак матка і гаварыць: "Усю пряпяеш долю! Усё глотка рязяўлена-рязяўлена. Усё табе песня на ўме". Я гаварю: "Мам, чорт яе бяры тую долю! Што мне доля? Якая будзя – такая будзя!"*

Варвара Аляксандраўна добра памятала, як яе, тады сямігадовую дзяўчынку, бабуля навучыла калыханцы, каб яна магла з песняй закалыхваць малодшага брата. Памятала само ўражанне: "*Баба навучыла. І панаравілась. Вот красіва...*" За восемдзесят гадоў у гэтым плане нічога не змянілася. Амаль тое самае пра падзеі апошняга часу: "*Цекст красівы... Яна ж прагаварыла скорынька... Ён мяне ў душу ўлез...*"

Дзякуючы песням, яна стала асобай, якую ў Амяльной называлі "пясённіцай". У сваёй Амяльной Варвара Грэцкая была паўсюль, дзе была запатрабавана песня: школьныя ўрокі спеваў, вясковыя складчыны, ігрышчы і бяседы, каляндарныя абрады, вяселлі. Больш за тое, дзе была Варвара Грэцкая, там абавязкова ўзнікала песня. Як узгадвае яе аднавяскоўка Ніна Якаўлеўна Гарбузава: *"Яны сабяруцца бабы, там скарэй усё раскладуць... Карова... Німа кароў ішчэ як летам, не прыганяюць с пашы, яна і кажа: "Бабы, давайця якую песню запяём. Развяселім усіх тут. А што мы тут гарюім да гарюім"*. Для Амяльной, а таксама для Старога Закружжа, Падкамення, Марозаўкі яна стала своеасаблівай мегазоркай, прысутнасць якой была гонарам на любым вяселлі. Вяселле было нечым асаблівым. Гэта было месца і час, куды і калі, паводле ўспамінаў яе стрыечнай сястры Пракоўі Сяргееўны Кужэльнай: *"Людзі шлі глядзець, як Варька танцуя да пяе. <І глядзелі?> Да ішчэ як глядзелі! <А як глядзелі?> З бальшым інцірэсам. І лезуць глядзець"*.

Амяленскія песні для яе ўзор, паводле якога яна ацэньвала час, людзей, сучасную эстраду, рэлігійныя спевы. Па-свойму, як дадзена толькі ёй, Варвара Аляксандраўна вызначала адносіны, якія існуюць паміж песняй і выканаўцам: "*Песня ўсякая красівая, як маціў не забудзіш*". Песня, па яе меркаванні, самадастатковая: "*Песня сама падбярэ голас. Песня, якая ё, яна свой голас падбярэ. На адзін жа голас ня будзіш пець усі песні. Сама песня голас падбірая*". Адсюль вынікае: не выканаўца выбірае песню, а песня выбірае выканаўцу. Гэта вынікае і з яе

разважанняў пра канцэрт, прысвечаны Ганне Герман: “*Увесь канцэрт толькі яе песні перяпявалі... І вот як ня пелі яе песні, усё раўно ня так. Голас не такі*”.

Песні – той стрыжань, на які нанізваюцца яе ўспаміны пра родную вёску. У гэтых успамінах маляўніча ўзнікаюць вясковыя падзеі, сямейнае жыццё, узнікаюць вобразы мясцовых жыхароў.



*Генадзь ЛАПАЦІН з Варварай ГРЭЦКАЙ. 2015 г.*

Варвары Грэцкай пашчасціла амаль ва ўсім...

Пашанцавала ў тым, што ў яе душы ўзнікла і засталася назаўсёды адданасць песні...

Пашчасціла на талент, “адоранасць”, наяўнасць якой яна лічыла вызначальным для творцы...

Пашчасціла ў тым, што яна добра разумела, што адоранасцю трэба карыстацца адразу і заўсёды, не пакідаць на потым, інакш яна знікае *(“закрясая”)*...

Пашчасціла ў тым, што, яна нарадзілася і вырасла ў песеннай сям’і і песеннай вёсцы...

Пашчасціла на старэйшых аднавяскоўцаў, якія заўважылі яе адоранасць і спрыялі таму, *“штоб яна больш за ўсіх знала”*...

Пашчасціла ў тым, што яе “натуральныя” схільнасці супалі з інтарэсамі грамадства. Песні Варвары Аляксандраўны натуральна ўпісваліся ў прастору народнага календара і ў палатно сямейных абрадаў і традыцый, дзякуючы чаму заўсёды былі актуальнымі і запатрабаванымі. Яе рэпертуар уключае практычна ўвесь комплекс тэкстаў традыцыйнай культуры Амяльной, і без усялякай нацяжкі можна казаць пра тое, што яе духоўныя інтарэсы супадаюць з яе асноўнымі заняткамі...

Ёй пашчасціла ў тым, што старэйшыя аднавяскоўцы добра разумелі, што калі песні не передаць маладым, гэтыя песні знікнуць разам з імі...

Ёй пашчасціла сустрэць у маёй асобе свайго даследчыка. І гэта не маё асабістае прызнанне. Так лічыць і яна сама: *“Найшоўся чалавек добры, пасабіраў мае песні...”* Гэты момант падрабязна прааналізаваны мною ў артыкуле “Носьбіт – збіральнік. Антрапалогія збіральніцкай працы”[3]. Трэба заўважыць, што ўпершыню дадзеная тэма разглядаецца на беларускім матэрыяле. Яна ўбачыла ўва мне чалавека зацікаўленага, здольнага ацаніць і захаваць яе песні, няхай у іншым фармаце – але захаваць: *“Старыну струхнула. Ета старынныя песні... У пуць прыняла, табе аддала. Будзіш ты пець, ня будзіш, но хоць пачытаіш, і то скажыш: “Была адна такая... Прапела такія песні мне!”* Такім жа чынам бачылі ў Варвары сваю спадкаемцу яе старэйшыя аднавяскоўцы: *“Калісь бабы будуць сядзець, там, адна заводзіла, Амерыканчыха, на голас, а яны гаворяць: “Варычка, хадзі-ка сюды!” Будзім дзеўкі аддзельна сядзець. Мяне падзываюць, я ім точна на голас пяю”*. У гэтым мы з Варварай Аляксандраўнай супалі: *“Калі хто прыдзя, я скажу: “Я нічога ня знаю”. <Чаму так?> Я для цябе пяю. Падышоў мне пад такт. <Пад такт – гэта як?> Па душэ”. <...> “Казала Аляксеяўна: “Ты ж, як Ісакавіч прыдзя, дак прыбярыся. А ты як сядзіш, так і сядзіш...” Я кажу: “Ну, і што? Вот бачыш, грязную палюбіў чылавек... За мае песні...”*

Усяму астатняму яе, Варвару Аляксандраўну Грэцкую, навучылі самі песні: *“Пачытай мае ўсе песні, і німа, такія херовыя песні, а якую не пачанеш, дак ума набярэшся. Яны ўсі талковыя”*.

***“Як прывязаная к песням етым...”***

* * *

Бунтуя міне песня*.

* * *

Я як прывязаная к песням етым. Вот еслі я пачую, ета душа вон, я даўжна яе навучыцца. Я ж іх ужо сколькі знаю – маць мая родная! Хто на што... Я на песні.

* * *

Танцы, песні – ета ўсё маё!

* * *

Мяне Варячка звалі ў Марозаўцы, у школу хадзіла, усё выступала. “А ета Полькіна, Сашкава дзевачка! Пясённіца!”

* * *

<*Вы сказалі, што “песня ўся ваша жызнь”...*>

Вот любіла скрозь... Еслі песню пачую, душа вон, но я яе даўжна перяняць... І ў дзеўках... Наша і Туся песні зачынала... У нас, дзевак – ета Каця Коршунава і я зачыналі песні... Як песню... “Давайця песні пець!..” – “Давайця!..” Яны будуць: “Варька, зачынай!” Якую я зачынаю, і на голас. У нас Манька Ціткова... Яна будзя сядзець, і не пяе... “Манька, ну, пей...” – “А я ня знаю, куды весць...” Во Райка казала: “Я не магу песні пець... Я ня знаю, у які бок весць... Люблю, як пяюць, а сама не... І танцаваць... Танцуяць, а я ня знаю...”

* * *

Баба знала. Я гаварю: “Баба, аткуда ты знаіш?” Яна гаворя: “А люльку калыхала дзяцей у маткі (алі ж пабагату дзяцей была, ета ціпер адзін, два і ўсё, а тады ж да дзісяці, а то і болей) дак, — люльку калышу, — гаворя.... Баба была ў яе старынькая, дак усё ўчыла бабу пець песні. Гаворя: “Баба пяе, і я слухаю і запамінаю”. Так как я. А, вот, Туся наша... Ці баба пряпяе: “Туся, садзісь песенку будзім пець”. — “Нада мне твае песні!” А я вот... Хто на што... Я прэдана песні.

* * *

Еслі я пачую, душа баліць, штоб я яе... Пабыла... Цекст красівы... Яна ж прагаварыла скорынька... Ён мяне ў душу ўлез... Вот хочу!.. Ніхай буду паміраць, штоб толькі ўзнаць, раз мне панаравілась... Вот яна мне нада?.. А вот душа баліць... Думаю: “Вот ішчэ тую песню... Песня тая не даработяна мною. Яна даўжна, штоб я... Яна даўжна папасць мне на язык уся... Штоб я яе знала”.

* * *

Як пачанеш, уздумаеш пра адну песню, возьме другая нападзя.

* * *

Я ўчора сядзела, вячэряла, песню прапела. Песенку, калі якую ўздумаю, такую і пяю. У мяне іх мільёны, етых песен. Багата песен. Сяджу, надумаюсь. Ну, і ўсё...

---

* Асаблівасці гаворкі захоўваюцца.

* * *

Я калі ўвечары сяжу, сяду, штоб тут не чулі праз вакно, і пяю песню. Якая мне панаравіцца, выбяру і пяю, і прапяю, усі мне наравяцца. Думаю: "Госпадзі! Усі мне наравяцца". Ета ж я пяю, што баба і матка прядуць кудзелю, лён, а я вяжу. Вот мая сястра не пяе, і большая і меншая, а я, вот матка ўсё казала: "Усю долю прапела. Во якая глотка!" Я гаварю: "Так і вы ж пеяце! Я ж вашы і слухаю".

* * *

Я на агародзі буду палоць, і пяю сабе. Калісь дзесяць сотак мы бралі зямлі, як на Тарасаўку едзіш, дак я проса пасеяла, палю, траву тую рву, палю проса і пяю. А там адзін дзядзька церяз... Ішчэ такая палоска, тады яго... Ён падышоў і гаворя: "Думаю, ці ета хто плача, ці ета хто пяе? Дак ета ты, маладзічка, пяеш?" – "Я". Я іх патроху каждаю пряпею.



*Варвара ГРЭЦКАЯ. Здымак пач. 1950-х гг.*

* * *

Пазыбывала каторыя... Я якся лягла, да ня спала, успомніла ўсі, і ўмственна прапела. Сама... Як на голас...

* * *

Столькі песен знаю... Ніхто... Пяюць етыя гаў-гаў... Дак мы як запяём! Бабы сядзіма, дак запяём...

* * *

Адна свадзьбу гуляла дзесь у Вышкаві, за Свяцкой, прышла і кажа: "Песня красівая". – "Ну, а як на голас пяюць?" Яна: "Я ня знаю". А я, еслі прапяюць, схвачу хоць як. Буду хадзіць і на свадзьбі... Не падумай, што я сябе хвалю... Буду хадзіць і: "М...м... м... м..." – мыкаць, штоб не забыць. Не падумай, што я сябе хвалю, я расказываю то, што ё. Яна песні, дай Божа. Еслі пачую, душа вон, перяйму.

* * *

Я ў школі была запявала... Еслі я паслухаю песню... Я даўжна лопнуць... Но я яе даўжна... Вот душа баліць... Дзе не хаджу, думаю: "Як бы мне..."

* * *

Калісь песні пачуіш, дак душа вон, штоб толькі ты дазналася абізацільна. І буду баб прасіць, еслі спяюць: "Ну, спейця вы ішчэ!" Там баба Амерыканчыха... Яна багата песен ўмела... Гаварю: "Баба Амерыканчыха, ну, вазьміця, спейця ішчэ".

* * *

Я сяжу і пяю. Я тут перэбяряла ціхінька, сама сабе пела песеньку. Дак матка і гаварыць: "Усю пряпяеш долю! Усё глотка рязяўлена-рязяўлена. Усё табе песня

на ўме”. Я гavaрю: “Мам, чорт яе бяры тую долю! Што мне доля? Якая будзя – такая будзя!” <*Што значыць, долю прапела?*> Долю прапела – ета вот няўдача будзя ў жызні.

* * *

Туся, Маша... Столькі песен яны ня зналі. Маша наша любіла пець і пела. Са мной... На агародзі пойдзім ціхінька, пяём. Ці поліма бульбу ці гряды... З бабай. “Баб, давай тую песню спяём!. – “Ну, давай”. Паціхоньку пяём. Я гavaрю: “Баба, давай гаразда”. Яна: “Не. Скажуць: “Падурэлі”. Паціхоньку давай”.

* * *

Маша наша, яна знала, но штоб яна пела... У кампаніі пела яна, а штоб адна яна не пела. А я, калісь... Буду вішні рваць... Матка: “Ідзі, вішен нарві!” Ірву, німа нікога, на ўсю глотку пею. Думаю: “Я ж кала свайго двара пяю”. <*Колькі вам было?*> Гадоў восем было.

* * *

<Ляжала ў бальніцы с неглюбскімі бабамі... *Што значыць: “Як яны жывуць без песен?” – вы сказалі*>. Ну, праўда. Ну, як-та так? На агародзі, во... Я пайду на агарод ці буду бульбу чысціць і песенкі пець ціхінька... Усё матка казала: “Прапела ты сваю долю!”

* * *

Мне Аляксееўна прынясла песню “Акрасіўся месяц багрянцам...” Я пачытала, пряпела раза два, ахоту сагнала. Згоніш ахвоту з тыя песні, тады ўжо атлажываю.

* * *

Алёна Барысава... Яна справядлівая была... Усё калісь сядзя і кажа: “Нада табе такому камню быць... Прыдзіш ты наплакяная... Я ж бачу, што ўжо красныя вочы... Чо ты наплакяная?” – “А-а-а... Так нада быць, так паложяна па абставу...” І ўсё на сваім я гарявала... “Дак, – гаворя, – я цябе, Варька, жалела...” Мне маё горя і дабро хто загладжываў?.. Песні... Я ўвечары грубку саджуся, суп буду варыць ці на комінку, на чалесніку бульбу цэлаю варю і песенкі пяю. А Ганнушка прыдзя ка мне да і кажа: “Я чую, што вакенца ў цябе расчыненята... Як кукушка ўжо кукуя...” Калі скачу, калі плачу, калі што... Калі з бальшого горя, дак наплачуся... А пажалець некаму...

* * *

Як будзя мне лучшы, дак я табе напяю тых... Кажаць: “Хоць дробнага вугля, дах...я”.

* * *

Як памру я, дак у пеклі буду з чырцямі песні свае пець. Я і там буду пець. А ты як пачуіш мой голас, дак скажыш: “Во ета Аляксандраўна пея”.

### *“Песня сама падбярэ голас...”*

* * *

Песня сама падбярэ голас. Песня, якая ё, яна свой голас падбярэ. На адзін жа голас ня будзіш пець усі песні. Сама песня голас падбірая.

* * *

Песня сама падбярэ голас. Ты мне песню прынёс пра Варвару. Я голас падабрала сама. Як красівей падбіраіш жа голас. У нас калісь Каця Лёшава была. Яна і любіла пець, і голас у іе харошы быў, но яна вяла ў другі бок кудысь. Усі пяём, а яна вядзе кудысь. “Каця, ты маўчы!” – “Дак я пець хочу”.

* * *

У тваей таварышкі ў Лёшавае (звярнулася да Тусі) голас быў дабрэнны, а вяла куды папала... Яна пяе... Басы сабе, а голас пашоў чорт знае куды...

* * *

Красівая песня тая, як спяеш... А можна красіваю спець абы-як... Бываяць нябыльныя... Такую спяеш, што ты нос задзярэш і пойдзіш... Страмная такая...

* * *

Свадзебныя песні... Ня будзіш жа ты шчадравую ці каляднаю на свадзьбе пець... Тую не пяюць... Мала, што ты запела. Скажаць: “Што ты адурэла?” Водзяць “Стрялу”... Стрэлавыя...

* * *

<*Што ў песні галоўнае: мацiў ці словы?*>

Песня даўжна быць красівая па слажэнію. Я не знаю, як аб’ясніць. Проста пяеш яе – і красіва. Другую кнігу чытаіш, яна такая безынцірэсная. Бываюць такія кнігі, што толькі с...аку падцерць, да і ўсё, а другую – не атарвацца. Так жа і песня. І на мацiў. Яе ўжо ніяк не спяеш, ужо другім мацівам нельзя, таму шта яна не падойдзя.

* * *

Песня ўсякая красівая, як мацiў не забудзіш.

* * *

Бряхню точа і точа. На бряхне стачылася**.** Як точыцца нож. Бряхню сточыш, а назад ужо не вернішся. Ета ж, як праўду, іё рэжыш бесканечна. Во мне, песню памінай, скажы мне тую, я іё і на мацiў, на ўсё, а як бы бряхню. Як жы ты песню збрэшыш?

* * *

<*Я вам даваў сціхі пра Варвару. Як вы падабралі мелодзію?*>

Яе ж па-другому Танька пела, Пашкіна залоўка. Яна Богу малілась. <*А як вы падабралі мялодзію?*> Я пачытала. Там жа па славах чутна, як нада весць.

* * *

Я любую падпяю... І на мацiў знаю... Во Райка казала: “Лучшэ буду слухаць, а пець я буду бунтаваць... Я не пяю нікалі...” А я ўжо... Чорт сам адступіўся... Не хвалю сама сабе... Еслі пачую песню... Во я пачула і думаю: “Ірку ці дашлюся...” Ніхай за Салдаценкай Нінкай сходзяць, штоб тую песню... Цекст песні красівы... “Салавейка”.

* * *

Хочыш сёдні пряпяю, а можа, сёдні дзярявы голас...

***“Ета шчэ прабабы...”***

* * *

Ета шчэ прабабы пелі, вот адзін аднаму... Вот ты малады шчэ, будзіш расказываць, я памру, ты будзіш казаць каму-нібудзь. Мне баба казала... Я гавbooрю: “Баб, адкуль?” Баба наша аднаго класа ня кончыла, а грошы считаць считала і чытаць чытала самавучкай. Дзед навучыў. Дзед трохі ў школу хадзіў, а баба не хадзіла. Большая, пяцера дзяцей нянчыла, некалі было ў школу. “Някуды!.. Ніякія школы! Дзяцей глядзі!” А дзед, тэй кончыў, вабшчэ, ён такі вумны, развіты быў. Я ўсё Сярёжку кажу: “Сярёж, ты будзіш такі, як прадзед”. Вот яны адзін ад аднаго... Дзед Майка тож гаварыў: “Было дзяцей багата, чатыры браты да дзве сястры, дак гаворя: “Я – самы большы. Матка: “Глядзі, накармі дзяцей... Свінням... А мы на поля пойдам”. І яны ж выпалнялі ўсё.

* * *

Мы гаворым: “Баба, адкуль ты знаіш етыя песні?” А яна гаворя: “А ета ж баба вучыла, і я переняла. Наша баба вумная была. Матка ўсё казала: “Ты спракаветашная... Тут, можа, мільён гадоў... І тоя знаіш. Ужо па-новаму начынаяць людзі гаварыць, а яна спракаветашная”. А дзед Майка будзя казаць: “Ну як, Алёнка, правільна! Выкапый з глыбіны, а то яны ўсё закапыяць разгавор калісяшні”.

* * *

Баба мая Алёнка столькі малітваў знала. Што адкуль яна іх брала? І станя маліцца, нанач увечары малілася, і ўранні, падыміцца. Ніхай тут дзела гарыць, а яна карову летам падоя, а то шчэ заранія ўстаня. Богу моліцца. Дак мы калісь стаім. Ну, я на малітвы на етыя тугая, не ішло мне ў дурную башку. Песні зразу схватываю. Баба і гаворя: “Стой са мной уряд”. Я стаю і гляжу. Яна: “Ты на мяне не глядзі. Слухай толькі”.

* * *

Ета і калісь было. Я ў бабы калісь пытала: “Баба, ета і калісь-калісь?” – “Да. І калісь. І прабаба мая казала, што вадзілі “Стрялу”.

* * *

Песні бабіны я ўсі переняла.

* * *

Аляксеяўна (суседка, былая настаўніца): “Што ты плетуханіш: які Верастань? “Дождзік, дождзік, перястань, я паеду...” Што та за Верястань?” – Дзяды так гаварылі, і я гаварю... Як ета яна гаварыла? Яна мне гаварыла... <*У Ерусалім?..*> Дак я гаварю: “Мяне вучылі, і я так”. – “Не-не, горад не такі. Нада у... Куды маліцца хадзілі Богу... А ў Ерястань не хадзілі. Ета ты спутала”. Я гаварю: “Усі ж мы, дзеці, пелі, будзіма, як дошч, сабіраімся, тады ж пабагату дзяцей была, па восем і па дзесяць, і па сем, і па шэсць, у нас пяць была, кучамы сабіраімся і пра дожч пяём, пра ўсё, і ўсі “ў Ерастань” гаварылі. І баба выдзя і кажа, як дождзік, дак гаворя, калі ўжо раздаждзіцца: “Дождзік, дождзік, перястань, я паеду ў Ерястань...” Яно возмя і раз’ясніцца. Мы гаворым: “Баба, ну-ка ты хадзі. Ты прагаворыш, дак і ясна. Палядзі, ужо перястае дошч”.

* * *

Казала Хвост (Аляксееўна): “Які табе Верястань?” Як мяне вучылі. Баба мяне так вучыла. Баба: “Што гаварю, то і правільна”. Мы так і завучылі ўсё.

* * *

Баба калісь казала: “Мая ўнучачка (як я ей дзве песні прапела)... Мая ўнучачка, як я памру, сколькі астанецца песен, што ты іх ішчэ сабе не ўзяла”. Я гавару: “Ой, баба, тут етых негдзі дзець”.

* * *

Калі баба памірала: “Спей ты мне песенку. Спей, я цябе прашу”. – “Ой, баб, ты такая бальная ляжыш”. – “Спей, я цябе прашу”. Баба прасіла “Па Дону гуляя...” Пачці да палавіны прапела, а яна мне гаворя: “Хваця. Прапей мне “У полі судзянушка...” Я і тую прапела палавіну. І яна, бачу, я гавару: “Баб, ці ты паміраіш, ці слухаіш?” – “Ты міне закалыхала. Я лягу, пасплю”. І я ўжо болей ня пела. Так яна прэдяна была песням. Ой, яна іх знала! Я ж табе кажу, што песня: “Рассыпала аряшочкі на ляду, // А я іх жа, мамачка, ужо не сабяру...” І к цёткі Крыўцовай, жыла церяз дарогу... І сёстры к ёй прыдуць, і пяюць яе... А я любіла... І яны запяваюць... Калісь на свадзьбе... Прышла к Козырыхі... Алёну аддавалі... Мы з Алёнай меншыя былі...

* * *

Дзед Заяц сказаў: “І мы тыя песні знаім... Ну, ты ўсё раўно пяеш красіва... Дзіцёнак, табе ішчо дзвенаццаць гадкоў, а ты пяёш старынныя песні”.

* * *

Дак ён гаворыць: “Дзвенаццаць гадкоў, а старынныя песні ўмеіш. Ета ўсі мы ўдзіўляліся”. Баба пея з маткай. І што яны знали, і я знала. І Туся зная.

### *“Бацька і матка, і баба – яны пелі...”*

* * *

Прабаба, баба ішчэ жылі ў іх, і матка наша – сям’я такая бальшая... Дак ім абы-куды здаць. А бацька славіўся, харошы ён быў, бацька наш, ён і граматны быў. Халасцякамы еты хлопцы ўжо хадзілі на клырус, пелі яны красіва, мужчыны, і дзеўкі, тады ўсе на клырус хадзілі, баба наша, і матка... І цэрква аж ряўла! Усі стаялі... І старыя... І малыя... Учылісь... Пелі.

* * *

У Закружжы быў пан, ён сільна харошы быў... Я ж ня знаю, а мая матка служыла, шэсць гадоў ёй было, дак яна дзяцей вадзіла, то песні пела ім, то што...

* * *

Мой бацька на клырусі пеў. Калісь і матка Адарка пела, і мая матка пела. Тады і дзеўкі хадзілі. Матка ўсё казала: “Не так глоткі рязяўляюць! – На мяне – Як ты глотку разявіш, сама сябе пяеш. А мы хадзілі пець на крылус. І нас вучылі там. І мы пелі так, як і нада. Запісывалі, што пець”. Гаворя, во будуць пець з бабай, стануць, празнік які, яны перяд віконамы стануць, свечку запаляць і пяюць. І бацька, бацька ж скора памёр наш, аперацыі не перянёс, лопнула язва, як бы ціпер, да плёвае дзела дзелаюць, дак пяюць, яна: “Ступай, глатастая! – на мяне, – во мы будзім пець, і ты пей!” Я ж куды папала вяду. Бацька і гаворя: “Дочычка, ідзі! Не мяшай нам”. А ў міне не туды выходзя. Баба і кажа: “Богу ня ўгодна будзіш”. А яны, баба і матка, і бацька пяюць. А наша матка памятлівая была. Яна таргавала ў магазіне без шчатоў. Іе і прявярялі, і ўсё. Яна ўмственна арыфметыку знала.

* * *

Наша баба пела красіва, і матка. Баба басуя, а матка падводзя, і баба падводзіла, і баба Адарка – Пашкіна, ета дачка бабіна. А мой бацька да яе сын быў. Яны пелі красіва. І Пашка ўмея пець. Я табе не скажу: па ком. І Туся наша пела, і Маша, а што я ўжо – тряшчотка была. І бацька мой пеў. Бацька, і матка, і баба – яны пелі на клырусі. Цэрква была церяз дарогу. Яны... Устану ранінька, печ вытаплю, усё ў парядачык прывядома, сабіраімся, ідом у цэркву. І яны пелі: мужчынскім голасам бацька наш пеў, калі ж мужчыны, не было ні цілівізараў, яны ішлі куды? У цэркву ідуць. Пелі. Ні снедалі, а тады прыдуць, атслужаць, абед зваряць...

* * *

Баба ўсяму навучыла... Вот усяму... Будзя казаць: “Мая ўнучачка, дзелай так... Харашо... Яно будзя добря... Штоб людзі не смяяліся, а хвалілі...” І вот баба... Усягда ўрэмя... Будзя дзелаць і гаварыць... А матка скажа: “Ідзі, не дуры мне галавы... Послі ета здзелаім...” А баба мне атвет дае сійчас жа... І я ў яе што ні пытаю, яна мне... Калісь грубка топіцца, бульбу чысця, а я буду ў кружыве вяхаць крючком... Буду казаць: “Баб, давай-ка песні пець...” А яна: “Мая ўнучка, німа чо-та настраенія... “ Я кажу: “Ну, баб, ня хочыш, ня нада...” – “Ну, давай! А то я бачу, я цябе абідзіла...” Я гаварю: “Да я ні абідзілась...” – “Ну, давай якую песню...” Я гаварю: “Баб, якую?..” – “Да якую запяеш...” У бабы голос тож харошы быў... І вум харошы быў... Яна знала ад шведа-дзеда...

### *“Первая баба навучыла. І панаравілась...”*

* * *

Первая баба навучыла. І панаравілась. Вот красіва...

* * *

<*Якую песню баба вас навучыла самаю першаю?*>

“Баю-баюшкі-баю... “ Яна мяне вучыла. Ягорка малы, дак яна мне... А такія і ад дзевак бальшых навучывалась... “Баю-баюшкі-баю...” Яна мяне вучыла. Я: “А-а-а. А-а-а...” Яна гаворя: “Не “А-а-а. А-а-а...” Давай я цябе песню навучу. Я гаварю: “Баб! Ну, давай...”

* * *

<*Колькі вам было гадоў, калі вы пачалі пець?*>

Гадоў сем было ці малажэй, бацька памёр, мне было восем гадоў. А шчэ бацька быў, ён падойдзя, абнімя да пацалуя мяне і Тусю, і Машу: “Ой, мае-та вы, дзевачкі, залатыя ў мяне дзевачкі!” <*Малыя, якія песні пелі?*> Усякія. Вот сядзіма на печы, і калодзезь із смолі кладзём і пяём, мы ўсі зналі. А што я знала. “Варка, давай вон тую!” Я ўжо начынаю. Матка: “Во долю прапяецё! І не будзіць у вас долі век”. Дзеўка *(унучка Варвара)* цяперяка, во: “Я ў школу насіла якуюсь песню. Пачытала, дак яны прасілі: “Прынясі”. Я на ўроках чытаю, дак дзеўкі ка мне да нагнуліся гурбой, а завуч прышла і кажа: “Што вы за мала кучу здзелалі?” А дзеўкі гаворяць: “Эта Варя пяе, баба напісала *(на паперу перапісала)* песню”.

* * *

Баба наша і кажа: “Ё песня Лён і Лляніца”. Я гаварю: “Баб, ну, навучы ты мяне”. Вот поліма лён, дак яна і гаворя: “Мая ўнучка, што знаіш, на плячах не насіць. Давай з табой пець”. І па-ціхоньку і пелі.

***“Німа дзядоў, як калісь былі...”***

* * *

Кала дзядоў можна было навучыцца. У іх такія разгаворы былі харошы: то казкі, то прыказкі.

* * *

Ціпер жа такіх ужо дзядоў німа старых. А калісь былі старыя дзяды. Ад іх вучылісь багата.

* * *

Німа дзядоў, як калісь былі. Будзяма сядзець мы: ета, будзя дзед там, яго Кашлаты звалі, у яго косы былі кучарявыя, длінныя, ён, дзед Майка, і пра калісяшняя, то пра ваўкоў, то як калісь вужоў бачылі, усё такоя гаворяць, пуцёвая, ні мацюкоў німа... Будуць сядзець, дзед Белы прыдзя, Жаваранка дзед, і мы будзіма. Ціперяка дак ета як за пазор счытаяць, што дзеўкі кала дзядоў. А мы калісь: “Баба, вон дзяды сядзяць, пойдзіма пасядзіма”. Баба: “Ну, ідзіця”. Прыдзіма, яны пра сваё гаворяць... Вот так інцярэсна: другі кажа, як сам дзелаў плуг... А мы сядзіма і слухаім, а ціперяка маладзёж курыць, выпіць піва...

* * *

Паўміралі каторыя ахотніцы... Каторыя ня ўмеюць песен... Ня ўсі ж і тады пелі... У нас такія бабы былі, што ня ўмеяць пець. Вот і на свадзьбі... У нас даярка была Пляцень... Мы яе Плятнём дразнілі... Пачане... Плятнём пляце абы-што... Дак гаворя: “Я ня знаю, у які бок дажэ весць... Я дажэ ня ўмею... Як ета ладзіць, як ета пець”. Ціперь Лідва... Яна на свадзьбі прасядзіць, да і ўсё... Із-за стала ні вылазя... Толькі есць і есць... Штоб яна вышла... Ці “Сірпіянку” станцавала... Ці падпявала пад “Страданія”... Не!.. “Я, – гаворя, – ня знаю, яе ета пяюць. Ня знаю, куды весць...” Вот такія ж і старыя былі... Ня ўмелі... Вот я матку Васю сваю вазьму, хрёснаю... Я ня чула нікалі, штоб яна песні пела... Я гавbooрю... Козырыха памёрла... Дак я гаварю: “Мам, забыла я песню “Рассыпала аряшочкі на лядочку...” Дак яна гаворя: “Чуць, я чула... А я іх не пяю... І на што яны мне...” Я гаварю: “Мам, умееш ты пець?” – “Не... Я, Варячка, ня ўмею пець... Усё ўмею: і ў ніты перябіраць, і на дошчачкі...” Усё яна ўмея, яна і граматная была... “А пець, – гаворя, – я ня ўмею... Вот танцуяць... Як яны ладзяць пад гармонь пад тую... Я б не сабразіла”.

* * *

С Ляксаніхай... Сядзіма з ёй... І калісяшнія песні ўздумаіма і пяёма з ёй... І я ўсі знала... І калісь: “Давай-ка, Прося... Я тую і тую забыла...” – “Давай... Я ўмею...” “Памёрла яна ўжо... Яна з нашай маткай равесніца, а я прывыкла: “Прося і Прося...” Завуць усі, дак і я так звала...

* * *

Я падводжаю, а яны басуяць... Матка: “Ты ўжо з дзядамы пяеш!” На мяне кажаць: “Ты чорта і тога не мінаіш! Во ўжо з дзядамі падружылася...” Яны ж пяюць красіва, і я з імы села, пяю... А баба будзя казаць: “Полячка, ніхай... Хай пяе... Прыдзя ўрэмя, будзя і плакаць...”

* * *

Мы прыходзіма калісь гуляць на хвацеру, нанімаім, па каробцы бульбы, тады ўсю зіму ў тыя бабы гуляім ужо. Прыходзім, туды бабы ідуць на хвацеру, і дзяды

прыходзяць. І дзяды будуць сядзець і гаварыць усякія прыбавуткі, і мы сядзім слухаім. Тады ж німа стулляў такіх, а так, доскі, і так вот яны пасадзяцца кругом, і на грубцы, і на караваці, і слухаяць. А дзяды калодачкі папрыносяць із двара, во палена рэжаць... І такую калодачку, штоб сесць ужо добря. Яе падкачываяць пад караваць, і ў другі раз прыходзяць, ужо выкачываяць і садзяцца пасярод хаты... І пра ўсё: як гулялі, халасцякавалі. І мы сядзіма, пра ўсё слухаім. Во як калісь было! І весялей было!

* * *

Дзед Кудлач, калісь... Ета ж ціпер ідуць у дзіскацеку, а тады на вуліцах. І вот мы гуляім, і дзяды прыходзяць, бабы... І кала нас хто што. У нас там быў дзед, Барысам звалі, ён такі, ізпадлоб'я ўсё глядзеў: "Пра гаўно гаворяць..." А етыя: Майка дзед, Белы дзед, Жаваранка, Кудлач (валасы былі красівыя)... Яны начынаяць... Вясной сядзім на вуліцы, гуляім... І калі ж камароў мала, а калі ні адбіцца... Махаіш... Атламываім веткі... Дзікія: і бярёза, і клён, і ясень... Хлопцы палезуць, ламаяць веткі... Адганяіма... І дзед Кудлач гаворя ету песню... "Дзед, пряпей ты ету песню! Прагавары! Дак камароў ня будзя". Дзед гаворя. "Дзед, шчэ прагавары! Паменела трохі". Ён ішчэ прагаворя. Мы панавучылісь ад яго. Наша баба і кажа: "Ну, Васіль, а ету забыла ўжо. Я і знала да забыла". А ён гаворя: "А я, Алёнка, не забыў ішчэ".

* * *

Дзеда Майкі жонкіна матка... Ой!.. Казак знала. Божа мой, сколькі! Мы гуляць к ёй хадзілі. Насабіраімся штук пятнаццаць дзяцей кругом. Яна пасярёд на лавачцы. "Баб, ну, гавары казку!" Мы ціхінька сядзім, яна расказывая. Мы за казкамі бегалі. Яна ўсякіх расказыла... Як мачыха ўбівала дзетак... Матка памёрла, бацька ажэніцца... Сам рабатая... Яна возме прыб'е, сваіх ряджая... Дак прыбіла да чэряпочкам галоўку... Мы прыдзім дамой і плачым... Мы плачым, а яна расказывая... Тады: "Ідзіця, дзеці. Вы ўжо плачыця". Нам жа жалка тога дзіцёнка, мы яго ні бачылі і ні чулі... Ета гадоў па сем, па восем нам было, яна нам усё раказывала. Яна сама толькі выдзя на вуліцу, на лавачку, а мы прыдзіма к ёй... Яна нічога ня дзелая... Бульбу чысця, з казламы начысця. Яны яе... Маруся і Насця, і Сяргей у іх былі... Яны: "Баб, мы будзіма чысціць!" І нам нажы падаюць, мы ўжо казкі слухаіма і ім бульбу... Калісь вядро, чыгун шасцілітровы... семьі ж бальшыя былі. Тады етыя казкі мы ўжо перяказывалі. Сядзіма на лавачках, хлопцы, дзеўкі сабіраімся. Хоць і халодна... Дрыжыкі прадаеш, а ўсё раўно сядзіш у кампаніі, дамоў пакуль вячэряць гукнуць, і расказыіма... "Во там баба тое-тое расказывала". Хлопцы: "Заўтра мы пойдзім!" І хлопцы прыдуць. Яна нікога не праганяя... "Слухайця ўсе".

* * *

У нас, на сярёдку, вясялей усіх была. Дзяды такія добрыя былі: дзед Кудлач, Жаваранка дзед. Коршун дзед будзя казаць: "У-у-у, сянавабычай! Во нерабатні! Ну-ка, разбягайся! Дзела дома хватая!" А мы хоць наколькі ўвечары... З намы дзед Майка, дзед Кудлач дружылі. Дзед Жаваранка пеў красіва, голас добры быў, дак ён падводзіў, як баба. Прыдзя: "Дзеўкі, давайця пець". І мы ад яго абучылі багата. Ой! Што я іх знала! Маць родная! Пазабывала некаторыя песні. А другія дзеўкі пряпяюць – і ўсё, назаўтры пытай, яна ўжо ня зная. А я перяпытаю. Еслі дзед Жаваранка прыдзя: "Дзеўкі, прыйшоў к вам гуляць". Садзіцца... Ну, якія мы... Гадоў па адзінаццаць, па дзвянаццаць было. Матка: "Іван, ты ўжо плойму забаўляіш... Дак проса ніхай ідуць да за ета ўрэмя стаўкуць... А ты ім галаву забаўляіш!" А ён: "Прыдуць! Ну, нада ету плойму... Штоб яны ўсё знали". І ён

абы-што не гаварыў, а ўсё такоя, і песні пряпяе. Я гаварю: “Дзед Жаваранка, ну, пакажы...” Яго Іван завуць, а мы звалі дзед Жаваранка. Ён і не сердзіўсь. “Ідзёць дзед Жаваранка”. Усі звалі: “Жаваранка”. Дак ён гаворя: “Чымся мяне завуць? Называўся, як радзіўся, Івянам...” Ён малы быў, выдзя, на вароты станя, на білы, і пачыная песні пець. Маткі ж пяюць, прядуць, і яны вучацца. <*білы – каркас увесь, а тады доскі прыбіваюць, шалёўку*> Дак мы калісь станім на вароты і пяём. Баба: “Чаго вы на вароты ўсё ўзлазіця?” Мы гаворым: “Баба, на варотах грамчэй. Усі будуць чуць, як мы пяём!”. Наверх узлазім, на самы верх.

* * *

Думаю... Усё казала: “Столькі я песен знаю...” І калісь Салада... прыходзілі з маткай Танькінай, нашай нявесткі, Ягоравай жонкі, з маткай... Яны дружылі... Дзве падругі... Як прыдуць, Ягор ужэ ідзець: “Ідзі. Падругі прышлі. Абедаць будзіма, пець. Сказалі: “Прышлі спецыяльна папяём”. “Дак ступай”. Я пайду. Салада калісь і кажа, баба: “Памром мы, і ўсё памрэ наша калісяшняя”. І хто-та знаў, што будзіця вы пісаць... Ці вас застаўляяць, ці вы самы?.. <*Самі.*> А хто-та знаў? Дак яна і гаворя: “Прападуць. Дак давайця хоць пряпяём”. Калісь Ляксаніха казала, жыла на Амяльном, яна тож багата етых знала, што “Стрялу воодзяць”... і Барысэўка... Мы ж ад іх вучылісь... Мы ж былі якія, а яны вон якія... Дак яны пелі...

* * *

Увечары сядзіма... Сабіраліся... Госпадзі!.. Ад Гіндарэвых і да Коршунавых – увесь сярёдак... А тыя аканчанні там ужо... Но ў іх такіх дзядоў не было. У нас на адбор дзяды былі. У нас быў Барыс Петрачкоў, дак што ты! Ня ўладзіш яму... “Пра дурноя говоряць, то песні, то... Ета ўжо прайшло”. А етыя дзяды, Жаваранкаў, дзед Іванюшкаў, Кудлач, Коршун, як разгаворяцца, дак расскажуць, як гулялі з дзеўкамы калісь... Вечар пройдзя мінутай.

* * *

Калісь бабы і дзяды гаварылі, ад сваіх дзядоў і бацькоў слухалі. І ім гаварылі. У прымер і гаворяць прыказкі етыя. К разгавору тую, тую. А бабы нам гаварылі, мы чулі, як дзяды гаварылі. Так справеку веку ідзець. Адзін аднаму. Песні пяюцца. Пелі песні. Як ахотнік ён на песні, дак ён будзя, як я... Я даўжна лопнуць, ну я даўжна тую песню схваціць. А другая кажа: “Будуць пець, і я весць услед. Так ні так, а буду пець. Буду ў галаве ўсякая гаўно дзяржаць... На чорта яна мне...” У мяне такія таварышкі былі... Я гаварю: “Заводзь!” –там, на другія. Раз ахрыпла, шопатам гаварю, горла застыла. Дак я кажу: “Дзеўкі, я не магу заводзіць” – “Ну, ня будзім і пець...– Сядзяць, не пяюць. – Слоў ня знаім. Усякая гаўно будзім у галаве дзяржаць”. Усякія ж людзі біваяць. А мне яно нада. Я даўжна ету песню схваціць і даўжна наўчыцца яе...

* * *

Мы калісь папрыходзіма, хто якую пяе... І бабы папрыходзяць туда... Вот ў адну хату сабіраюцца поўпасёлка, а то дак і ўвесь, і хто што, гармонь ужо надаесць, танцаваўшы: “Давайця так!” Ты сядзіш, такую пряпяеш, хто якую ўмея, ты другую, я трэццяю... Ці “Ціліцікі-міліцікі”, ці “Бегла кошка цяряз моря...” І вечэр пройдзя інцярэсна... То святыя вечары... Раней управяцца і прыдуць: “Давайця ізноў такі вечар іздзелаім”. І ня сплетняў не было, ні сварак, хохат і рёгат: красіва і добря.

* * *

Дзед Жаваранка як толькі прыходзя: “Дзевачкі, давайця, соўнечкі, спяём”. – “Давай!” І вот у круг садзяцца і бабы, і мужчыны. І як реванём! Дак і хата

ўзрываіцца. Казала Моця Журкава: "Прыходзьцця хоць кажды дзень. А ета па скрысеннях хадзілі. У суботу – не... То ў банях, то што... Па скрысеннях, ета ўжо... Дзе ж мы песні ня будзіма?.."

* * *

Калісь на веряс мы ганялі кароў. Сядзім, дзед сядзіць Іванюшкаў, ганяў тожэ кароў. І мы сядзім, дзеўкі, пяём песенкі. І там адзін дзядзька пеў харашо... О-о-о!.. Пеў красіва. І ён: "Дзеўкі, давайця ету спяём, штоб дзень весялей прайшоў. І хлопцы калісь з намы ўсе песні пелі. А ціпер хлопцы не пяюць. Наш адзін сябе Сяргей... Песні па цілівізару ці па радзіву пяюць, і ён пяе. А так што б сядзеў пеў... А я пяю ўсі. І люблю песні.

* * *

Я ж ня ўмела... "А-а-а! Баю-бай!" А баба міне навучыла. Дзед Майка прыходзя. Я гавару: "Дзед! Майка, ну, навучы мяне!" Ён: "Ну, еслі сто грам Палашка налле, тады навучу". Я гавару: "Мам! Налій Майку! Ён хоча выпіць". Яна палядзіць: "Майка, ты на прыступленія гоніш. Хочыш выпіць, і ты цярзаіш дзяцей". Я гавару: "Дзед! Я пайду, ў кружку наллю і пастаўлю, а ты, уродзе, вады, ідзі і выпій". Ён: "Да ня нада. Я вас так навучу". І дзед пачыная сваю.

* * *

Во пяюць, калісь у нас пільшчыкі пілілі, дак пелі "Скакаў казак чэряз даліну". Яны дапяюць толькі, як "Наўстрэчу йдзёць яму старушка і шэпятліва гаварыць: "Напрасна ты, казак, стрямішся, напрасна мучаіш каня, цябе казачка ізмяніла, другому вернасць аддала..." – і ўсё. А ў яе ж яшчэ прадаўжэнне ё. Пільшчыкі пілілі і падвыпяцца, самагонкі купяць ці матка ўгосця, дак яны пелі, дальшы пелі, прапявалі. І я сяджу з імы, думаю: "Дзядзі, пейці-ка дальшы". Дак матка і кажа: "Ідзі! Ніхай пяюць людзі". Яны выдуць на вуліцу, сядзяць увосень, пяюць. І я буду сядзець. Дак яна ішчэ дальшы ё.

* * *

*Ой, да ты калінніца-размалінніца,*
*Ой, да ты не стой, не стой да на гарэ крутой,*
*Ой, да не пускай галля ў сіня моря.*
*Ой, да па сіняму мору да карабель плывёць,*
*Ой, да ў том караблю тры палкі салдат,*
*Ой, да тры палкі салдат, маладых рыбят.*
*А на том карабле тры палкі салдат,*
*Тры палкі салдат, маладых рыбят.*
*Ой, да што адзін салдат да Богу моліцца,*
*Ой, да другой салдат дамоў просіцца.*
*– Ой, да ахвіцэр-маёр, адпусці дамой,*
*Ой, да адпусці ж мяне дамой,*
*Да к аццу-маць радной,*
*Ой, да к аццу-маць радной,*
*Да к жане красівай, маладой,*
*Ой, да ахвіцэр-маёр да не адпусці міне дамой.*
*Ой, да не адпусціў дамой к жане*
*– Ой, у міне тожа дома жяна,*
*Да красівая й малада.*
*Ой, да ў мяне ў кармане прыказ,*
*Што б жа не распускаў дамоў салдат.*
*Ой, да павярнуў караб маёр*
*І паплыў жа над валной.*

Пяю па етым... Па-старыннаму-па-старыннаму... Дзед еты, што я казала... З Дубовага Лога... Дак казаў: “Дваццаць пяць гадоў праслужыў...” Я кажу: “Дзед, ты, наверна, ужо бряхню точыш... Дваццаць пяць...” А ён: “Варячка... Ета чэсна, як перяд Госпадам Богам, – періяхрясціўся, – праўда... Дваццаць пяць... Дзень у дзень... Да пакуль дамоў даехаў. Дак, – кажа, – пелі ету песню калісь салдаты. А тут дзяцей прыляпілі... Тутака толькі пра бацьку, пра матку, пра жонку... У арміі вот так пелі...” І я: “Дзед, красіва”. І я два разы прапела. Я запамятлівая была. І дзе спатыкнуся... Садзімся, як вечар, мяне ўжо і цягне. Я гаварю: “Дзед, пайдзёмця на лавачку, сядзім, будзім пець”. – “Счас, Варячка, пойдыма...” Да гаварю: “Не кажыце ж матцы, а то матка будзя сварыцца”. На лавачку сядзіма, і гаразда ён... Ён падводзіў грубым голасам, мужчынскім... І пасабіраяцца... І матка Вася ідзець... Дзед Майка прападаў... Ён знаў ету песню, пеў з імы... І Крыўцовы суседзі папрыходзяць..

* * *

<*А песня “Ахвіцэр-маёр, адпусці да дому...” Яе што, з весялосці пяюць?*>

Ета ж такая песня... І ваенная... Мне казалі пільшчыкі... Дваццаць пяць гадоў служыў у арміі... Дак ету пелі...

* * *

Еслі я ня знаю, перяпытаю. Ці на свадзьбе пяюць... “Перяпейце”. І яны мне раскажаць.

* * *

<*Ад каго навучыліся?*>

Пелі ўсе, і я навучылась... Дзеўкі пелі... Бальшыя пелі, а малыя слухаяць. Гаворяць: “Бальшы круціцца, а малы вучыцца”. Усё ад народа.

<*Як гэта: “Бальшы круціцца, а малы вучыцца?*>

Што стары дзелаіць... Ета ўсі казалі ў нас...

### *“Мір вашай бяседзі...”*

* * *

<*”Мір вашай бяседзі...” Калі казалі?*>

Ці як ядуць, ці гулянне якоя, дак прыдуць: “Мір вашай бяседзі...” <*Бяседа... Гэта, калі як збіраліся?*> Ці хрэсбіны, ці імяніны... Ці буйная што-нібудзь... Дзень раждзенія... <*Дзеўкі збіраліся на вечары свае... Гэта як называлася?*> Калісь звалі *ігрышчы*, еслі дзеўкі, хлопцы сабіраюцца. Сядзяць, гамоняць... Ідзець, напрымер, Ражаство... “Давайця к Ражаству найміма гарманіста...” Павел у нас іграў... Ну, дак ён свой, а то чужыя прыдуць... Наймуць... Ён ідзець і хлопцаў з сабой вядзе... <*Дак гэта бяседамі не называлі?*> Не... Дзеўкі... Гэта ігрышча называлі... Наймуць... Скажа гарманіст, колькі: руб ці два, што будзя іграць... Абед гатуя хазяйка тая, дзе хвацера... Дак, ета – ігрышча... А бяседа – ета ў жянатых. <*Руб – гэта багата грошай было?*> Канешна, багата!.. Дзесяць капеяк хлеб быў... Руб – пуд хлеба калісь быў... Мукі... А тады ўжо сталі... Як вайна... Ішчэ послі вайны тыя грошы былі... А во гады ета здзелалі... Разарылі грошы...

<*А як дзяды збіраліся пасядзець на вуліцы летам ці восенню ўвечары, як гэта называлася?*>

Калісь бабушка Іванюшкава прыдзя, кажа: “Ідзе ты ўжо плустаў?” – “А мы селі кругам, да і сядзім, бяседуім сядзім...” І бяседай сядзелі... Сабіраюцца ўвечары... Падыходзяць людзі, суседзі ці другія: “О, у вас цэлая бяседа тут...” Багата ўжо людзей... А тут на сярёдку ў нас сыходзіліся ўсі з краёў... Тож *бяседай* звалі...

* * *

<*Калі дзяды збіраліся проста так, як ета называлі? Бяседа ці яшчэ як?*>

Кажаць... Прыдуць: “Дзе ты ўжо плустаў, ідзе ты гуляў? Ета – гуляць хадзілі... Папрыходзяць: “Дзе вы гулялі?” К нам дзед Жаваранка хадзіў, дзед Мелька... Дзед Майка любіў гаварыць: “На тэй раз...” “Ну, як на тэй раз... Алёнка, вон...” І ўсё: “На тэй раз...” А дзед Мелька: “Таварыш...” Прыдзя: “Таварыш баба Алёнка, як дзяла?..”Ці падыходзя к нам... У яе... Пяць гадоў памёр Іванька... Будзя: “Таварыш Іванька, абедаць...”

* * *

<*“Серпіянку” калі... На бяседах ці на ігрышчах...*>

Ета на ігрышчах... Ета ўвечары... Ці на балалайку іграя, ці на гармонь... Ну і танцуіма “Серпіянку”... Пецька Іванюшкаў... Ён красіва іграў на балалайку... Яму бацька із Масквы прывёз... Ну, дак ён гаворя: “Серпінка” – па адной! Толькі па адной”. Усі сядзяць... Ён: “Варька: “Перва ты!.. Ідзі!” Я ўжо выхожу... І частушкі етыя пяю... Тады... У нас дзеўкі былі, што іх за руку цягнуць, сілай цягнуць: “Ідзі, патанцуй!” Яна прябягіць і ўцячэ: “Я ня ўмею... Я ня знаю...” Песню яны ня ўмеяць... Танец іграяць “Серпіянку” ці “Страданія”... З якога калена яны не панімаяць... І падпяваць жа нада, ладзіць... А яны, хоць і спяюць... І частушку спець, тады стаць, думаць: “Якую тут...” Не выходзя ў іх... А мы, Каця Коршунава і я... Алёна Крыўцова... Тая ішчэ пела... Выдзя, дак штукі дзве-тры... Мы з Кацяй... Каця пряпяе... Я другую... Удвох пойдзім, толькі па адной... Ня то, шта ўпару... Гаворым: “Мы ўдзвёх пойдзім..” – “Не... Толькі па адной”. Называіцца *па адной*... Ня то шта ўпару “Серпіянка”... А па адной... Адна, як хочыш, выкруглійся...

* * *

<*Вы сказалі: “Калісь усякія бяседы дзелалі”.*>

Хто дзелаў бальшыя... Гарэлкі нагоняць, паззываяць у адзін двор... Тады ў другі двор... “Я буду ў тоя скрысенне...” Такія во былі бяседы... “Што ўжо будзя? У каго” – “Тэй ужо сказаў: “Я гатуюся...” Ну, ета к харошым празнікам... Зімой... Летам, дак не... Летам дзелалі складчыны... На вуліцы сталы... А ціпер німа етага... Параз’ізжаліся...

* * *

<*Вы казалі, што ў вас былі свае гарманісты... А чаму дзеўкі хадзілі ў другія сёлы чужых наймаць?*>

Таго шта свае надаелі... Вот сабіраяцца дзеўкі, кажаць: “Дзеўкі, давайця ігрышча здзелаіма...” Ну, мы рэдка дзелалі... Калі к Ражаству... К Новаму году, як пабудзя... Па шчодрах паходзім... Па шчодрах дзеўкі ходзяць, і хлопцы з намы ходзяць... Вот насабіраім... Хто кусок мяса дасць, хто сала, хто што... “Давайця ігрышча здзелаім!” Ну, і здзелаіма... Капейкі там... Хлопцы памагуць... Капейкі складаімся... Там ці руб, ці два сабіром... А хлопцам інцірэсна іціць з чужога сяла ў чужоя... З Пяннога Цішку нанімалі... У Закружжа пройдуць, тады на Амяльноя... Тады падкаменцы... А свае тады сердзяцца... Свой гарманіст тады ня йдзець... Нядзелю, дзве ня йдзець: “Ідзіця, шукайця чужых гарманістаў... Тыя лучшы іграяць... Вы за хлопцамы аж падаіця... А я вам плоха іграю...” Ён жа так іграя... Яму ж ня плоцім, бясплатна... А етага наймаім... Там, руб-два... Сколькі ўжо сабярём... Ён скажа: “Два рублі мне”. А калісь дзесяць капеяк было ці чатырнаццаць бахонка хлеба... Вот так і наймалі... Хлопцы ж чужыя прыдуць гуляць... Каторыя панаравяцца дзеўкі, дак замуж бяруць...

***“Яны ўсе пявучыя былі…”***

* * *

Знаіш, чаго Жаваранка? Жаваранкавы... Яны ўсі пявучыя былі. Такія дрыжашчыя голасы ў іх былі. І яны – і дзядзька Іван, яны браты былі, сіратамы асталіся, дзядзька Іван, Максім, Ляксей, Гарпіна, Парасся – пяціра дзяцей. І вот сядуць, есць нечага, яны па бульбінцы падзеляць, чыгунок зваряць і пяюць песні. Яны гавораць: “Жаваряначкі ўсё пяюць зімой і летам”. Усё баба наша казала: “Во Жаваранчкі пяюць зімой і летам. Галодныя, а ўсё адно пяюць”. І ўсё: “Пойдзім к Жаваранкавым!” І Максім, і Ляксей, і дзед Іван падводзілі, як баба – высока”. У Парассі і Гарпіны галасы тонкія. І Жаваранкавы, і дзяцей, быў і Сціфан, і Васіль, і Пецька, і Лёнік – і тых звалі Жаўрыняты. Яны не сердзілісь А іх Гарявыя – фамілія. А звалі ўсі Жаўранкавы. І вот на сабраніі гавораць: “Ну, Іван Жаўранка, чаго ты не гаворыш?” А ён: “Жаваранка пець – дак будзя, а так...” – пасмяецца.

* * *

Дзед. Яго звалі Іван Ігнаціч. Іх Жаваранкі празвалі. Яны ўсі... У іх галасы былі звонкія-звонкія, вот як жаваряначкі, пелі, дак яны сядзяць, летам выдуць, іхняя матка памёрла, а ён ажаніўся, у іх быў Іван, Ляксей, Максім, Параска і Гарпіна – пяціра, а бацьку ўбілі на вайне, не на етай вайне, а нейкая ішчэ была: ці з кітайцамі, ці фінлядская, а матка памёрла, дак іх пяць асталось, дак яны раслі сіратамы. Дак яны выдуць увечары, сядуць і пяюць песні калісяшнія. І вот як жаваранкі! Дзед Жаваранка падводзіў, што баба так не падвідзе, як ён падводзіў песню. Калісь жа песні ўсі штоб падводзілі. Етыя басуюць... Аж грыміць сяло. Іх узялі празвалі. ”Хто-та пяюць?” Так Ісакавы па-вулішняму звалі... “А ета – Ісакавы”... А тады гавораць... Хтось ужо сказаў: “Жаваряначкі запелі”. Ну і Жаваряначкі... Майка, уродзі... Жаваранка і кажа: “Майка, ты наклаў нам імя”. А ён: “Вы ж етага і стоіця, што пеіцё, як жаваряначкі”. Дак ужо не сталі Ісакавы зваць, то: “Ісакавы, Ісакавы”... Бацька Ісак быў, а тады ўжо ніхто не зваў, і дзеці ў дзядзькі Жаваранка параслі, “Жаўряняты” звалі. Матка: “Вон ўжо Жаўряняты ідуць к вам гуляць”.

* * *

У нас Парасся, дзеда Жаваранкі сястра, яна тож пела красіва ўсі песні старынныя. Яна замуж вышла. Ён: “Паехалі на маю родзіну”. У яе дзяцей не было. Урачы прызналі: “У цябе дзяцей ня будзя”. Ён кінуў яе. Сказаў: “Мне нада дзеці”. І яна паехала ў Маскву... Падруга была ў яе... Яна туда паехала і там пела тож красіва.. Яна ў нейкага работала, убірала ў хаці... Быў дзіцёнак ў іх... Ёй гадоў пійсят пяць было... “Дак я, – гаворя, – сяджу і песенкі пяю. Тады, гаворя, прыходзяць ка мне жэншчына і мужчына... Я і ні знаю, чым яны... І мяне павялі кудысь... Тый хазяін сказаў: “Ідзі. Ета я сказаў”. (Дак яна пела “Із-пад каменя, із пад белага цячэ рэчанька, рэчка быстрая...”) Дак яна гаворя: “Я прапела. Яны праслухвалі. І яны сказалі: “Будуць па радзіву пець яе”. І тады, колькі прашло... І чую: мой голас пяе... І ету песню, што я пела. І тады яна ў іх жыла... У іх ужо двоя дзяцей... Яна дзяцей глядзела, уборку, сцірала і жыла... Як свая жыла. Ён сказаў: “Будзіш, як матка, у нас. Дзеці к цябе прывыклі”.

* * *

Ягорушкава Куліна пела харашо, красіва, Беляна Прося, Алёна ваша <звярнулася да Кужэльнай>... Етыя таварышкі пелі старынныя песні...

* * *

А Буханіха тая гаворя: “Мне горя без песень бяз етых”. Яна такая баба дабрэнная. Яна б табе сказала: “Дзіцятка ты маё! Ну, пасядзі і пагавары”. І будзя сядзець, сядзець, калі прыду, яна і кажа... Якую-та яна пела ўсё... Вот ні з чога... “У полі-полі яварыначка...“... Пряпяе ету песню і кажа: “Красівая?” Я гавару: “Красівая”.

* * *

Як хто красіва пяе... Па цілявізару хто красіва пяе... Калісь баба наша... Дзеўкі пяюць, яна будзя ў вакно слухаць... Кажа: “Маруся мая памёрла, голас харошы быў, і пела красіва, дак я думаю: “Можа, і мая Маруська там?” Яна ж пела, як салавейка...” <*У бабы дачка была?*> Памёрла, васімнаццаць гадоў было...” Гаворя: “Мая ж Маруся пела, як салавеечка...” І Адарка, матка Пашкіна, пела красіва... І бацька наш... Бацька наш пеў ой красіва! Бацька з маткай... У маткі нашай голас голас харошы быў тож... Дак яны, як празнік... Помню, матка бутылку паставя, бабе валле, сабе валле і бацьку... І празнік, які... Троіца... Ён і кажа: “Давай любімаю спяёма...” Пелі “Салавей-салоўка смуцён, не вясёл, павесіў галоўку, зёрна не клюёць...” і пелі: “То не вецір ветку клоня, не саловушка паёт...” І ўсякія пелі... І бацька красіва пеў... Жаваранка красіва пеў, дзед Касцючкаў... Коршун дзядзька казаў: “А я не ў тэй бок вяду...” Песню як пяюць: “Дзядзька Коршун, пей з намы...” – “Я не ў тэй бок вяду...” Мы гаворым: “Ну, хоць правядзі...” Ён... А яно ня лепіцца... І ё бабы такія, што вядуць куды папала... Жаваранкі красіва пелі сям’ёй... Ён і кажа: “Багатыя ніхай пяюць, а я бедны...” Ён мне якуюсь песню пеў... Я і забыла... “Дзівіся, багачы, як гуляюць старцы...” Яны бедныя былі... Бацька і матка... Іван, Максім, Ляксей, Гарпіна і Парасся, самая меншая... Пяцера дзяцей было...

* * *

Амерыканчыха багата пела..Забыла, як яе завуць... Соні Салодкая матка... Тая старынныя песні пела... Прыходзяць за мной... Прышлі Лідка і Надзька... Каторыя прыдуць: “Цёць, хадзім... Цябе завуць... У нас баба Салодкая і баба Маланка. І я прыду. Яны ўжо сядзяць...

* * *

А ішчэ хадзіла к нам Соні Салодкія матка і нашага Ягора жонкі матка, а ета дзве падругі было, дак яны сабяруцца: “Хадзім да Амяльнога. Што нам тут шапкай перяшыбнуць!” Прыдходзяць. Танька прыдзя ка мне, церяз дарогу жыла, і кажа: “Прышлі падругі. Сказалі, штоб і ты прышла. Пець хочаць”. І мы на ўсю хату пелі. Я гавару: “Ой, багата ты, цётка, знаіш, Салада”. Яе Салада звалі. Дак яна і кажа: “За дзень бы я нікагда не перяпела свае песні”. А Маланка тая толькі ўслед. Салада сама і зачынала. Во якая баба была. Былі вумныя. Амерыканчыха ў нас на песні дока была. Былі бабы.

* * *

<*Соня Салодкая*[4] *пела добра?*>

Яна ў Закружжы, яе матка пела добра... І з нашая Танькі маткай, нашага Ягора цёшчай... Прыходзілі калісь... Ягор прыходзя: “Варя, ідзі, напарнікі прышлі твае, цёшча і Салада... Матка яе красіва пела... А Соня ж жыла ў Закружжы.

* * *

<*Вы чулі пянноўскіх дзевак?*>

Як у нас пяюць, так і ў іх пяюць... Усі ж мы хадзілі ў Марозаўку ў школу,

там была сямігодка... Чатыры класы на Пянном было, і ў Закружжы... А ў пяты клас хадзілі і Пянноя, і Свясток, і Падкаменне, і Амяльноя хадзілі ў Святскую...

* * *

<*Туся песні знала?*>

Туся красіва пела. Я ж табе кажу: “Напаі майго каня варанога с поўнага вядра / Не магу я ўстаць, каню вады даць / Мае босанькія ножкі, холадна будзя стаяць...” А я забыла. Табе пела і забыла. Туся нам падказала. Яна пела с нашымы дзеўкамы і яна запявала. Яна ўсі песні знала, што я знала, усі! Што я знала, то і яна знала. Яна знала, і Каця Лёшава. Яна падымала ўгару высока, падводзіла. Астальныя ўжо пелі. Яна са сваім возрастам. Мы пяём, іх адкідаім. Прыдуць”. Большыя дзеўкі на нас тожэ. Кала Касцючкавых будуць большыя дзеўкі, каля Коршунавых, такія, як Маша наша, мы сядзім, кала нас і кала Крыўцовых Туся. Яны сыходзілі на той край. Там багата была дзевак.

* * *

А во Козырыха каля нас жыла, і мая хрёсная матка Вася, кагда хадзіла ў цэрькву і не наўчылася: “Хоць мяне вазьмі да ўбей!”

* * *

<*Адкуль Пашка*[5] *зная прыкметы, абрады?*>

У яе свякруха была вумная... Яна тую свякруху з гаўном мяшала... І цяпер мяшая: “Прасцітутка!..” Якая яна прасцітутка?.. У магазіні таргавала яна... Пабожэскі тож нада навучыцца і пець... І кнігі яна вяла, і “Свечы”... Талковая маладзіца была...

* * *

<*У Хальчы Танька...*[6] *Яна адкуль зная*?..>

У яе Каця была сястра, са мной равесніца, і Манька самая старшая... А Туся і Танька падругі былі... Дваццаць сёмага года... Вольгачка Арцёмава, Алёна Барысава – ета дваццаць сёмага года... Былі і старшыя... Па гаду, па два... З імы гулялі... Ну дак, Танька... Песні яна знала... Ну, пець... Пяюць, яна будзя сядзець слухаць.. Калі сядзіць і плача... “Танька, чаго ты плачыш?” – “Як вы красіва пеяцё... Я б сядзела... – Аж плача так... – І ад радасці, і ад таго, што весела... Сабіраімся мы...” Што там... Па бутылцы чарвіва возмім... І ў нас кампанія была... І пяёма... Дзеўкі калісь сядзяць на лавачках увечыры, пяюць.. І ад падруг яна навучылась...

* * *

<*Халімонка...*[7] *Яна і “Свячу” зная, і “Стралу”... Адкуль?*>

Яна ж не умалішонная... Чуя, як пяюць, і яна пяе... Ахота ў яе была...

* * *

Другія будуць у “Стряле” іціць... Яны песен ня знаюць... А ў нас Барысэўка была... У яе дзецей не была... Яна іх мільёны знала... Любіла пець... Садзімся маладыя і старэйшыя... Умесці работаім... Грябём сена... Сядуць... Хто захоча, ляжа... Ужо *храпака дае*... А яна: “Дзеўкі, давайця пець!..” І ўсі песні знала... І к каждаму празніку знала песні...

* * *

Казала мне Алёна Краўцова: “На чорта мне запамінаць песню... Ты будзіш пець, начынаць, і я буду ўслед за табой...”

* * *

Еслі знаіш, дак папытай, дак у любы мамент... І на голас... Як ета, забыць?..

* * *

Алёна Барысава...[8] Не зачане сама... Пяюць, яна будзя ўслед пець... А завесць на які маціў, яна век не запявала... Яна пела... Но не так пела, як усе пелі... Голас такі-та... Пела, танцавала... Нармальная была дзеўка... У іх Анюта і Каця... Яны якія-та... А ета... З намы пела, а штоб завадзіць, падвадзіць... Нет.. А так яна пела... І прыпеўкі пела пад такт, пад гармонь... Нармальная... Мы з аднаго года...

* * *

Танька Цімачкава[9]. Яна харошая была дзеўка. Жыла ў свякрухі, яна яе век слова ні сказала проціў. <*А як яна была на песні?*> Яна пела красіва, голас у яе харошы.

<*Песен багата знала?*> Усі знала... Што і я знаю, можа, і яна знала... Яны, вот калі ўвечары, не кажды ж дзень... Далёка хадзіць... Мы на сярёдку скрозь сыходзімся... І ў іх на паляні... На паляні Хадора, цётка, харашо, красіва пела, басавала, усякія старынныя знала... Аксюта, Галька Ряўчакова і Марына, Валячка Капралава харашо пела... Падкаменскія бабы... Красіва пелі і скрозь сабіраліся на паляне. Яны сабіралісь скрозі каля Хадоры ці кала Варячкі бабы. Садзяцца і маладыя, і старыя... Як пяюць, усё Падкамене сабіралась. А што ў скрясенне, там тряшчыць усё. Ужо на Амяльном чутна... Гаворяць: “Кіргізы[10] ўжо пяюць!..” А мы на пасёлку сабіраліся кала нас, кала Касцючкавых, каля Крыўцовых. На сярёдку. Яна ўмея песні старынныя... Калісь старынныя пелі. Ужо Пашуля кажа: “Я старынныя ня ўмею...” Таму шта яна любоўныя: “Каліна красная... А я ў Ванічкі характір вызнала..” <*А баба, матка Танькіна?*> У іх бабы не было, а матка пела красіва, харашо пела. І ў Марусі голас харошы быў, і ў Танькі, і ў Сонькі. Мы яе Цімачкава завём, Вярячкіна я ні заву. Цімох быў дзед у іх. Дак яны: “Цімох... Цімачкаў...” – “Хто тут жыве?” – “Цімачкаў”. У нас усі звалі: “Хто-та?” – “Барысавы”. А нас ужо звалі па хвамілі: “Грэцкія”. У Крыўцовых дзед – дзядзька Крывец – крывы. Вот: “Хто-та?” – “Крыўцовы”.

* * *

<*Танька Варачкіна адкуль усё сваё зная?*>

У іх бацька талковы быў... <*Бацька ж песням не вучыў...*> Іхняя матка харашо пела... Знала песні, і голас харошы быў... І ў Марусі, і ў Насці, і ў Сонькі... Ва ўсіх харошыя галасы, і яны пявучыя былі... А ё такія, што яна ня зная, куды вядзе...

* * *

<*Чаму вы мяне да Варячкінай паслалі?*> Я знаю, што яна пела красіва... Яна пела з деўкамы... І на работу мы хадзілі... Садзімся: “Давайця, дзеўкі, пець! Яна пела... Яна і падводзя высока... І песні зная... На работу хадзіць, мы знаіма, хто які...

* * *

<*Пра Таньку хачу напісаць.*> Танька – харошая маладзіца. Напішы. Яна талковая і не бряхлівая. Што зная, скажа: “Во ета знаю” А ня зная, яна скажа: “Ня знаю”. Алёна Барысава кажа: “Лучшэ я буду, вы пеяцё красіва, дак я люблю слухаць, а ня пець”. А я штоб ня пела, і Танька Цімачкава, яна любіла песні. І ты ей скажы: “Сказала мне Варька, што любіла ты пець”. Яна красіва пяе, падводзіла і басавац, яна на ўсё. Мы ж падкаменцаў знalі ўсіх... Вот каждага я табе раскажу, хто песні ўмея. У Медзвядковых свадзьба была, дак яна падводзя: “Ета ўжо Марына падводзя...” Сядзяць за сталом, яно ж чутна... Мы ж знаім, хто як ужо пяе...

А мы ўжо свадзьбу прышлі глядзець... Мы гаворым: “Ета ўжо Марына падводзя...” Гаворым: “Цётка Марына, ты ўжо падводзіш...” Яна: “Ну, то ж я...” Такі звонкі голас у яе! Як жа я ня буду знаць сваіх таварышак. І ў мяне былі таварышкі, каторыя пяюць, а каторыя сядзяць, слоў ня знаяць. Казала Танька Федулёнкава... Я гавару: “Танька, чаго ты не пяеш?” Яна гаворя: “Я ня знаю... Сцішок, дак я вывучу, а песню, да яшчэ на голас...” А Каця ў іх, сястра яе, тая харашо пела. Гаворя: “Я буду слухаць, а ня пець...” Яна амяленская, таварышка мая была. Я гавару: “Танька, чаго ты не пяеш?” Гаворя: “Я ня знаю, куды весць...” А Каця іхняя харашо пела, меншая, с Тусяй гуляла. Яна ўмела падводзіць і падводзіла.

Я знала, хто як пея і ў Амяльным, і ў Падкаменні, і ў Закружжы. Людзей я знала. У каго які голас, хто як пеў, і знаю, хто багата зная песен. Папамёрлі ж багата.

* * *

Яна пела харашо... Усі песні етыя пела, што мы пелі... Во мы пяёма... Тусіны дзеўкі будуць сядзець... Сядуць на кортачкі... Слухаяць і пяюць па-свойму... А мы калі: “Ну-ка, ідзіця, не кудлычця, не перябівайця нам!” І яны такія песні пяюць, як мы... Вучацца... Так жа ўсё пакаленія... Гаворяць: “Стары круціца, малы вучыцца”. <*А чаму вы сказалі, што яны па-свойму пелі? Яны што, няправільна пелі?*>

Ну, тэй гурт... Мы начынаім, а яны ўслед... І кудлычаць... Начорта яны нам?.. Ідзяця вон далей, кудлычця там... Яны таксама пелі... Ішчэ ж яны меншыя... А нам мяшаяць... Мы на хлопцаў: “Адганіця іх...” Яны пойдуць, сядуць... Мы кала Касцючкавых... <*А матка яе пела?*> Марына харашо пела... Пела песні ўсякія... Якія пяюць людзі, такія і яна... І падводзіла... У яе голас... Яны ўсі галасныя: і Сонька, і Танька, і Насця, і Маруся, і сама Марына... Харашо пела...

* * *

<*У Падкаменне хто, акрамя Танькі Варячкінай, пеў?*>

[Разам з Кужэльнай Праскоўяй Сяргееўнай]

Там сплашныя ўсе, яны сабіраліс каліс і дзеўкі, і бабы... Усі пясённіцы былі... І Марына красіва пела, і Палізоўка Аксіння, Мар’юшка, Хадора, Гарка пела Хувардзіна, Параска – у яе дужа тонкі голас, ай, тонкі, некрасівы, дужа тонкі, як віскучы, Гарпінкінай усі дзеўкі. <*Вы сказалі, толькі дзве сям’і былі непявучыя.*>

Дзеці іхнія не пявучыя... А маткі, я ж іх ня знаю, маткі пелі... Вот Танькі, што ў Ветцы жыве, цёткі пелі... Ета ж такі возраст, як мае маткі... У Марыны была Маруся, Насця, Сонька і Танька... Пелі атлічна ўсі... Старынныя песні... Вуля, што была за Анісаўцом... Матка яе ня пела, а дзеўкі пелі...

* * *

Вулічавы... У іх і ў раду не было пеўцоў... Маруся... Ета страх... Прыдзя, пасядзіць і пойдзя... Вулічавы толькі пелі... Пяюць, і яны пяюць, а скажыш: “Заводзь песню, і...” А ўслед яны цягнуць.

### *“Штоб большэ ўсіх знала...”*

* * *

Мяне дзяды вучылі: “Штоб, – гаворя, – ты большэ ўсіх знала. Во такую во расказый”. Мяне ўжо навучаць. Прыходзім на другі раз, я ўжо гавару. Яны: “Прагавары! Пяць разоў прагавары, штоб і мы навучыліся”. Я гавару: “А во бачылі! Ня буду!” Ета, як падлашчацца, тады раскажу. А еслі чуць ругнуцца на мяне, я гавару: “Во – кукіш!” Ета ўсі дзеўкі так. <*Чаму дзяды ўчылі вас пець, а не другіх?*> Я заводзіла песні. Я ўсі ўмела. Еслі я песню... Я буду за вечар і пяць раз... Пакуль

я не навучуся. Дзеўкамы мы ішчэ былі. І ў нас дзеўкі такія былі, яны паняція ня ўмелі, што такоя... Яны вядуць не ў тэй бок. Я гаварю: "Завядзі во ету песню". Яна гаворя: "Я ня знаю, як яе начынаць". Я начынаю сама пець. Я завожу.

* * *

Дзед Кудлач усім сядзеў, гаварыў, а як песню якую: "Варячка, во ету і ету давай! Ты скоряй..." Схватываю скора. Вот скажаць, я яе схвачу, ўжо і прыду дамоў. Матка: "Во карандаша палучыш! Дурноя дзела ўсё пішыш". Карандашы прастыя былі. Хімічіскія – ета ўжо толька чыстапісанія пісалі. Ё ціперь хімічіскія? А тады хімічіскі карандаш – што! Завостріш яго, у тряпачку заверніш, штоб не зламіўся. Дак вуглем... Прыду... Вугаль такі вазьму і вуглікам пішу песню тую ці на сцяне, ці на варотах, ці на фортцы пішу... "Дзед, я буду пісаць, а ты мне гавары". Ці мелам... У школі прадавалі... Ё чатырёхграністыя, а ё кругленькія... Спішыцца, станя тоўста пісацца, начынаю, дзе ражок вастрэйшы... "Дзед, мы забываім!.." – "Ну, пішы!" На зямлі ж, дак што... А будзя хадзіць, нагой сцірая, а на варотах ён не дастаня. Дак ён ужо якую песню, мне гаворя: "Варячка, песню табе!.. Марюта мая (Марьяй звалі, а ён Марютай) учоря пряла, пела. Вот я табе прынёс". А Алёна са мной уряд жыла, тая пела харашо, і заводзіць яна ўмела, а словы забывая. Песні етыя ўслед яна будзя пець, а ў мяне глотка і памяць. Еслі я ўзлюблю песню, дак я яе буду цэлы дзень хадзіць і пець. Матка: "Ужо адурыла галаву! Адно пяе!.." А баба будзя казаць: "Ніхай пяе. Ета ж яна запомня яе наўсягда. А так яна забудзя. Пей-пей". І я тады пяю. І буду цэлы дзень хадзіць, сама сабе пець, пайду на агарод, буду што-нібудзь гряду палоць і... Пакуль ахоту не зганю ўжо..." Калісь баба Іванюшкава казала: "Ну, ахоту сагнала ты з етай песняй, што не пяеш?" Я гаварю: "Ужо запомніла на ўсю жызь".

* * *

І баба ўчыла, і баба Усцінава хадзіла к нам гуляць, дак казала, і дзед Усцін – муж і жонка.

* * *

Прыходзіма дзеўкі, там, ці я, ці другая, гаворя: "Дзеўкі, новаю песню прынясла! – "Дзе ты ўзяла?" – "А баба пряла, да і сама сабе пела. А мне панаравілась". І пачане ўжо песню тую. Яна трохі пряпяе, да і гаворя: "Забыла". Куплет схваця. "Падабаіцца?" – "Красівая. Давай у бабы выпытай". Яна гаворя: "Буду ў бабы пытаць, яна: "Да засць ты! – Калісь жа – цішай. – Засці ад мяне!" Пад настраеніем дак пряпяе. А так скажа: "Ідзі ты! Не дуры маей сракі". Мы там к адной бабе прышлі, яна гаворя: "Вазьмі-ка ты папытай". Я гаварю: "Баб, як-та тую песню пяюць?" – скажу якую, куплет прагаварю. "Ты ж умееш, во первы куплет". А я гаварю: "Дак другі ня знаю". – "Хто цябе навучыў?" – "Баба наша". – "Вот баба ніхай ідзець і даказываіць". – "А, можа, мая не такая". А тады ўжо падлашчуся што-нібудзь, кажу: "Баба, ну, раскажы мне". Я была, я не хвалюся, но я была цямкая, я схватывала песні. Я гаварю: "Ой, баба, спасіба!" Яна па два разы куплет пряпявала. А хоць Марусі скажу: "Маруся, бяры карандаш". Баба пяе, яна ўжо спісыя. А тады гаварю: "Баба, ішчэ адзін куплет. І ўсё!" Яна пряпяе, тады гаворя: "Давай ужо і да канца! А Маруся запіша". І мы тады пяём. На голас лёгка запомніць. А во Аляксеяўна гаворя: "Я словы ўмею, на голас не завяду". А як жа ты спевы дзелала ў школі дзяцям? Яны, школьныя песні, і на адзін жа маціў ні ўсі. У каждай маціў свой. Я перяпела етых школьных!..

* * *

Цяперяка ня ходзяць глядзець свадзьбы. А тады свадзьбу глядзець зрыцялі хадзілі.

* * *

А калісь была свадзьба ў Зыліхі... Вальку аддавала на падрявучая... Летам на вуліцы сядзелі... Зрыцелі... Калісь жыве, увесь пасёлак ідзець, глядзяць свадзьбу... Як гуляяць, танцуяць... І Куліна Фядосава...

Як дзелаюць свадзьбу абы-якую, дак гаворяць:

*Тылілі, тылілі,*
*На паліцы бліны.*
*Я ні хочу бліна,*
*Дай мне чарку віна.*
*З горя выпіць.*

Пелі такія людзі... Вумныя былі, складалі...

* * *

Знаіш, у песнях... Вот ё дзеўкі такія і бабы... Папяюць... І: "А ну яе к чорту! Хваця". Палавіну спелі... І вот завучацца... І ў канцы красіва...А яны не пяюць... А я скрозь, сколькі жыву... Усё баба наша казала: "Пачала дзела рабіць, іздзелай яго да канца і харашэнька... А не кідай... А то сёдні адно дзелаіш... "А ну, яго к чорту!.." Кінула, пашла... Дак будуць казаць: "Хто-та пашла?" – "А ета Лёкса Гулева пашла". Тая вешна гуляя, а дзела ня дзелая... І песню так... Пачануць... Матка: "Можа, давай кініма?" Баба: "Нада да канца дапець. Дапяём ету... Аддыхнём... Тады ішчэ будзім..."

* * *

Пашка пела:

*Коў-коў ножку,*
*Паеду ў дарожку.*
*Нада каня падкаваць,*
*Штоб там лучшэ станцэваць.*

Яно не дакончяна. На каню станцэваць ці без каня? Я ні пайму. Ня кончяная песня. Ні к тому берягу, ні к тому. Як паняць яе? Нада якісь пачатак і канец.

* * *

Калісь сядзяць на вуліцы... Сядзіма... Ягор падыгрыя, а мы пяёма... Танька Куцая кажа: "Ой, дзеўкі, я сяджу і хочу плакаць, што етыя песні скора ў сраку ўтыкнуць..." Я па-свойму гаварю... Ён ужо прывык ка мне, дак як гаварю, так і добря... Не культурюся... "У сраку ўтыкнуць песні... Ціперь гіркаяць па-свойму... Не разабраць якое... Не пад гармонь жа... І пяёма, і красіва... І на свадзьбах... Калісь Толік (сын Кужэльнай), дак твой сват падышоў і кажа... Я гаварю: "Дзеўкі, давайце-ка етую спяём... І пачалі ету песню... Ён падышоў і кажа: "А шчэ ў вас ё песні?" А я кажу: "Ой, да чарта..." Я па-свойму сказала. А ён кажа: "Ня нада на етыя песні *да чарта* казаць". А Бяляна сядзіць кала мяне да і кажа: "На свадзьбі не глядзяць, хто што сказаў. Абіды німа". А ён нақланіўся і кажа: "Прапейце шчэ якія песні". Мы так ужо пелі... Ён нас хваля, а мы пяём... І красіва, і харашо...

[Кужэльная: Праскоўя Сяргееўна: І дарання, да пяці часоў. А ціперь стануць на танцах... Пакылашацца адзін аднаму...]

* * *

Я яго жалею... Ён кідаецца, як Марка ў пеклі. <*Гэта як?*> Калісь усё казалі... Работая... Дак: "Ты ўжо кідаісся, як Марка ў пеклі". А я гаварю: "Баба, а чаго-та, як Марка ў пеклі?" – "А такі быў, што жонка – лярва была... Работаць не хацела,

а ён сам... І печ вытапя, уранні ўстаня, яна спіць, а ён... І дзіцям панаварывая, і панапякая...” Як наш... Усё сам умея: і пасадзіць... Корням уверьх не пасодзя... Галава твая: што к чаму і як... <*Што за Марка... Чаму, як Марка...*> Быў такі Марка... Усё работаў... І бабская, і мужчынская... Печ вытапя і жонку дагледзя, і дзяцей дагледзя... Дак усё баба кажа: “Як Марка ў пеклі...” На ўсё ён спасобін... Кажаць: “І пець, і танцаваць...” Труцень на свадэьбі прасядзіць, паабедая... І ўсё... А другі і танцуя, і паглядзець на яго... Дак ён ужо, Госпадзі! Чэрці ім уцяшаюцца... Весяліць усю свадзьбу... Я ня буду чужых гаварыць, а сама з сябе прымер бяру... Я мільён песін знала і прыбавак. І пагляджу па хаці, еслі ё пажылыя людзі, я ня пяю песен... Ну, ты знаіш, якія песні биваяць... Я ужо не пяю, і Каця Коршунава... Там ішчэ Анюта была Дзядкова, тая тожа... Скольkі яна ўмела!.. Мы ўжо не пяёма... Анюта еслі паддасць, тады гавоя: “З мяне мала!.. Хочу выпіць... Хто са мной вып’я?” А мужык будзя сядзець: “Анёк! Ты тады ўжо пашла-паехала...” Яна: “Дак вот я хочу, штоб у мяне палучалася пашла і паехала.... Штоб і ты сядзеў, сказаў: “А-а-а, мая ўжо Анюта пашла і паехала...” Ну, усё раўно яна ж атрабатыя тую гарэлку... І тыя ж песні нада спець, і нада ўздумаць... Ня то шта, там, скавыряў, не знаўшы як... Нада ж штоб прыходна было... Ё бабы такія... Я сама сябе вазьму... Я і спяю і такую плахую, і харошаю... І сумясь... Гаворяць: “Перяварыцца, і боршч палучаіцца...”

### *“Ніхай вучацца!..”*

* * *

Песні ўсі харошыя, як правільна пяеш. Калісь бабы будуць сядзець, там, адна заводзіла, Амерыканчыха, на голас, а яны гаворяць: “Варычка, хадзі-ка сюды!” Будзім дзеўкі адзельна сядзець. Мяне падзываюць, я ім точна на голас пяю.

* * *

Амерыканчыха... Вот на рабоці што-нібудзь дзелаіма, мы адзельна дзелаім, дак яна будзя гаварыць: “Хадзіця сюды, дзеўкі. Будіма пець, і вы будзіця”. Тады чагось не гаварылі пра ўсякая, вот толькі адны песні. Як садзяцца аддыхаць і песні пяюць. Амерыканчыха заводзіла. І мы з імі пяем. “Хадзіця вучыціся!” – звала. “Хадзіця, Варя, сюда! Бліжай садзіцесь і будзіма пець песні. І вы! Ніхай пяюць! Ніхай вучацца! Нічога ніхто не гаварыця!” Там баба адна: “Ішчэ будзіш! Ці ета твае дзеці! Ета чужыя!” – “Ніхай чужыя! – Яна харошая была баба. – Ніхай вучацца”. “А то мы, – гаворя, – памрём, і ўсё наша ў магілу пойдзя. І не будуць пець. Мы падохнім, і песні нашы падохнуць. Давайця вучыцісь. І вы будзіця пець”. І мы ўжо пелі. Я панавучывалася. І буду дома на агародзі, штоб я сядзела так, я абізацільна буду кудлычыць песню, пакуль не навучусь”.

* * *

Ета малыя дзеці. Мы пелі ўжо... Малыя такія пелі кароцінькія, а ўжо падраслі, пачалі дзеўцы і хлопцу. <*Малыя, па колькі гадў?*> Ну, гаворяць: “Ужо дзецкія ні пейця, а пейця ўжо, як бальшыя”. Мы і бальшыя зналі... Послі ж нас ішчэ дзеўкі будуць хадзіць большыя, а меньшыя ўпярёд. Маткі гаворяць: “Ідзіця ўпярёд”. Людзі гаворяць: “Ужо пейця бальшыя”. Ужо дзеўкі па дзесяць, па адзінаццаць гадоў, ужо “бальшыя” называяць.

* * *

Мы ішчэ ў школу хадзілі... Ні нанімалі хвацер... Сабірамся: “Куды сёдні пойдам?” –“Ну, давайця!” А тады сталі па вочарядзі... Сёдні ў Цітковых гуляім... Тады

ў дзеда Чыгунка... У разныя гульні... У ціхія... Ня то шта там бегаць... Маткі, бацькі гаворяць: “Вот ў ета мы гулялі...” Дзед гаворя... Будзя падказываць нам...

* * *

“Дзеўкі, чаго вы не танцуіце?” А мы гаворым: “Ніхай етая камса... Таўкуць мак... Атваліцца... Тады мы будзіма... Мы сваё возмім яшчэ...” <*Таўкуць мак... Гэта як?*> А ты не бачыў, як камары мак таўкуць... Увечары кублам сабіраюцца... І кублам, як усё раўно карагод... Кружацца ў адном месці... І бярэш палку, па палцы... І ніводзін ні падая, і зноў ізлепяцца, і зноў ударыш, і зноў у кучу... Рэтувал нейкі дзелаяць. Усё дзед Майка казаў: “Ета камары мак таўкуць.” А хто казаў: “Эта рэтувал камарыны...” <*Рэтувал... А што гэта?*> Гуляяць... Апладаяцца адзін з адным... Кучай... <*Апладаяцца?*> Гаворяць: “Ета яны апладжаяцца... Камары... Дак хто каго...” Гаворяць: “Што вы, камары, мак таўчыцё?” Калісь будзіма... Балалайка... Пецька Іванюшкаў іграя на балалайцы, а мы, плойма такая, сабіраліся. Дзед: “Усё!.. Камары мак затаўклі – дожч будзя”. <*Камары мак затаўклі – дожч будзя (?) Прыхамета?*> Да. І ўсі тады казалі: “Вон камары мак таўкуць, дожч, наверна, будзя. Камса... Малыя, дробныя, дак мы кажым... Сядзіць Купрэй, кажа: “Дзеўкі, не магу на вас глядзець!..” А мы сядзелі, пелі, гаворым: “А чаго?” – “Ну, ненакава глядзець... Ідзіця вы, танцуйця... Я люблю, як вы танцуіця...” – на мяне, на Кацю, на Машу. А мы пяём прыпеўкі, усяк падпяваім... А Каця кажа: “Дзядзька Купрэй, ніхай ета камса патаўчэцца і пойдзя, а мы тада сваё возміма... А ніхай яны таўкуцца, камса...” Ну, і камса, і камаса... Во як на Пашку... Пашка нізкая... Камса іх звалі... Павукі... <*А чаму павукі?*> Павук жа малы... Павук жа не расце бальшы...

*(Працяг будзе).*

---

[1] Лапацін, Г.І. Варвара Грэцкая як з’ява беларускай народнай культуры /Генадзь Лапацін. – Гомель: Барк, 2015. – 248 с.

[2] Лапацін, Г.І. Варвара Аляксандраўна Грэцкая: “Дай нам, Божа, штоб пець, а не плакаць...” // Беларускі фальклор: матэрыялы і даследаванні. Зборнік навуковых прац. Выпуск 1. Беларуская навука, 2014. – С. 125-162.

Лапацін, Г.І. “Песня сама падбярэ голас”, альбо некалькі штрыхоў да партрэта выканаўцы [Тэкст] / Г. І. Лапацін // “Нацыянальнае і агульначалавечае ў літаратурах славянскіх народаў”, Міжнародная навуковая канферэнцыя “Нацыянальнае і агульначалавечае ў літаратурах славянскіх народаў”, 19 – 20 верасня 2007 года. [прысвеч. памяці народнага пісьменніка Беларусі Івана Шамякіна: матэрыялы]: у 2 ч. Ч. 2. / рэдкал.: І.Ф. Штэйнер (адказ. рэд). [і інш.] – Гомель: ГДУ імя Ф. Скарыны, 2007. – С. 66-70.

Лапацін, Г. І. “Песні – гэртам... прыпеўку – адна пяеш...” / Генадзь Лапацін // Аўтэнтычны фальклор: праблемы захавання, вывучэння, успрымання : (памяці антраполага Зінаіды Мажэйкі) : зборнік навуковых прац удзельнікаў IX Міжнароднай навуковай канферэнцыі (Мінск, 24-26 красавіка 2015) / [рэдкалегія: В.Р. Языковіч (адказны рэдактар) і інш.]. — Мінск, 2015. — С. 203-206.

Лапацін, Г.І. “У нас песьні праз мяжу не ідуць...” Аб культуры выканання абрадавых тэкстаў. / Г.І. Лапацін // Палявая фалькларыстыка і этналогія. Даследаванне лакальных культур Беларусі. Уклад. І.Ю. Смірновай. – Мінск: БДУКіМ. – 2008. –С. 143 –149.

Лапацін Генадзь “Я прэдана песьне...” / Генадзь Лапацін // Верасень, 2011, №1. – С. 193-201.

Лапацін, Г.І. “...штоб вышэй у гору...” Канцэпцыя падводу ў фальклорнай традыцыі /Г.І. Лапацін // Аўтэнтычны фальклор: праблемы захавання, вывучэння, успрымання: зборнік навуковых прац удзельнікаў VI Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі (Мінск, 27 – 29 красавіка 2012 г.) / БУДКМ; Рэкал.: Мажэйка М.А. (адк. рэд) [і інш.]. – Мінск: БУДКМ, 2012. – 254 с. – С. 179 – 192.

[3] Лапацін Генадзь. Носьбіт – збіральнік. Антрапалогія збіральніцкай працы / Антропологическое измерение гуманитаристики, Коллективная монография – Минск: БГУ. (У друку).

[4] Ксяндзова Соф’я Кірылаўна, 1914 г.н., з в. Старое Закружжа. Зап. в. 1992-1994 гг. Гл.:

Традиционная культура деревни Старое Закружье Ветковского р-на Гомельской обл.: 2. Старое Закружье, Амельное, Пенное. // Palaeoslavica. Cambridge. 2019. XXV.NO. 2. – Pp. 125-162.

[5] Кужэльная Праскоўя Сяргееўна, 1933 г. н. Зап. Лопатин Г.И. 2007-2009 гг. Гл.: Традиционная культура деревни Старое Закружье Ветковского района. 1. Д. Старое Закружье. Кужельная Прасковья Сергеевна // Palaeoslavica. Cambridge. 2017. XXV.NO. 2. Pp/178-228.

[6] Рыштакова Тацціяна Дзімітраўна, 1927 г.р. из п. Амельное. Зап. в 2011 г. Гл.: Традиционная культура деревни Старое Закружье Ветковского р-на Гомельской обл.: 2. Старое Закружье, Амельное, Пенное. // Palaeoslavica. Cambridge. 2019. XXV.NO. 2. Pp. 125-162.

[7] Раманоўская Марыя Аляксееўна, 1937 г.н., з в. Старое Закружье.. Зап. в 2005 г. Гл.: Традиционная культура деревни Старое Закружье Ветковского р-на Гомельской обл.: 2. Старое Закружье, Амельное, Пенное. // Palaeoslavica. Cambridge. 2019. XXV.NO. 2. – Pp. 125-162.

[8] Кушнерова Елена Борисовна, 1927 г.р., из п. Амельное. Зап. в 2011 г. Гл.: Традиционная культура деревни Старое Закружье Ветковского р-на Гомельской обл.: 2. Старое Закружье, Амельное, Пенное. // Palaeoslavica. Cambridge. 2019. XXV.NO. 2. Pp. 125-162.

[9] Варачкіна Тацьяна Іванаўна, 1936 г.р. из п. Подкаменье. Зап. в 2009, 2011 гг. Гл: Традиционная культура деревни Старое Закружье Ветковского р-на Гомельской обл.: 2. Старое Закружье, Амельное, Пенное. // Palaeoslavica. Cambridge. 2019. XXV.NO. 2. – Pp. 125-162.

[10] Кіргізы – мянушка жыхароў п. Падкаменне. Гл. Г.І.Лапацін//Региональные аспекты современных историко-правовых, филолого-культурологических, психолого-педагогических, естесвенноннонаучных и экономических исследований.Сборник материалов международной научно-практической конференции, посвященной 85-летию Брянского государственного университета имени академика И.Г. Петровского и 20-летию филиала университета в г. Новозыбкове: в 2-х частях. Часть 1. — Брянск, Изд. БГУ, 2015. – С. 75 – 100. – С. 98.

Васіль Аўраменка



...пакуль чытаем – жывем,
пакуль думаем –
спадзяемся...

# Чытаць ці не чытаць?

## *Пра “цяжкую” літаратуру ў нялёгкія часы*

Нядаўна знаёмы прызнаўся, што больш за 10 год не браў у рукі кніг, і спытаў – што можна было б пачытаць змястоўнага і карыснага з беларускай літаратуры? Меліся на ўвазе творы, якія былі б адэкватныя падзеям і праблемам цяперашняга часу ды мелі нейкі пазітыўны, стымулюючы патэнцыял. Я быў задумаўся, бо сам чытач спарадычны і добра калі за год адолею 5-6 кніг. Аднак з таго празаічнага, што патрапіла да мяне за апошнія паўгода, неяк вылучыліся тры творы, якія сталі ў пэўную лінію: “Іншы свет” Густава Герлінг-Грудзіньскага (2006 г., пераклад з польскай Святланы Курс), “Забыты край” Сяргея Лебедзева (“Дзеяслоў” №№ 119-120, пераклад з расейскай Барыса Пятровіча) і “Выжыць у СССР” Міхася Булавацкага (2023 г., электроннае выданне). Яднае іх агульная тэма – “адваротны” бок жыцця краіны Саветаў у 30-40 гады. “Адваротны” – бадай, таму, што доўгі час мы ад яго адварочваліся, лічылі другасным, неактуальным. Спробы ў канцы 80-х і пачатку 90-х праз тэму рэпрэсій дайсці да сутнасці камуністычнай сістэмы ці зразумець прыроду расейскай дзяр-

жаўнасці спыніліся на паўдарозе, патанулі ў эйфарыі дэмакратычных пачынанняў і ліберальных мрояў часоў першай незалежнасці. Ды гісторыя зрабіла амаль немагчымае – крутанула сваё кола і вярнула нам тое “неістотнае”, другаснае, перажытае і забытае, што выйшла на святло і стала занадта відавочным і актуальным – той самай бядой, ад якой схавацца ўжо не атрымаецца нікому.

Усе, хто нарадзіўся і вырас у СССР (а мне давялося пражыць там палову жыцця), у пэўнай ступені нясуць на сабе гэтую адзнаку, пячатку духоўнай камуністычнай “крывізны” – амаль спадчыннае, падсвядомаснае перакананне, што савецкі гвалт над гісторыяй і народам быў нібыта выпадковы, часова-вымушаны, а камуністы насамрэч хацелі людзям толькі дабра – усеагульнай роўнасці і аднолькавасці – “хай па кроплі, хай па каліву, ды ўсім”. Парадокс: большасць нявінных ахвяраў бальшавіцкай улады лічылі, што іхнія каты і выканаўцы людажэрных загадаў маюць на тое законнае маральнае права, бо бароняць “святую справу” рэвалюцыі і пабудовы камунізму. Ілюзія маральнай перавагі носьбітаў і “байцоў” камуністычнай ідэі над простымі людзьмі, здаецца, так і засталася ў свядомасці большасці постсавецкіх грамадзян сваеасаблівым комплексам: маўляў, “падвялі кепскія выканаўцы, а сама ж задумка была харошая!”

У гэтым сэнсе цікавыя сведчанні **Густава Герлінг-Грудзіньскага**, літаратара, грамадзяніна Польшчы, што прайшоў праз гулагаўскія выпрабаванні, захаваўшы чалавечую годнасць і асабісты погляд на падзеі. Незачараваны ні савецкай ідэалогіяй, ні камуністычным месіянствам, ён шчыра і аб’ектыўна спрабаваў разабрацца ў феномене бальшавізму і расейскага менталітэту, наколькі гэта магчыма было іншаземцу ў савецкіх турмах і лагерах часоў сусветнай вайны. Кніга, напісаная праз 18 гадоў пасля “У капцюрох ГПУ” Ф. Аляхновіча, апавядае пра побыт і жыццё вязняў ГУЛАГу вачамі еўрапейца, што падзяліў долю савецкіх нявольнікаў. Амаль дакументальныя сведчанні пра нечалавечыя ўмовы лагернага існавання, цікавыя псіхалагічныя назіранні за вязнямі і катамі (і нават рэдкімі выпадкамі, калі каты станавіліся вязнямі), глыбокія развагі пра сутнасць савецкай сістэмы і расейскіх традыцый – адрозніваюць “Іншы свет” ад кнігі Аляхновіча, бадай, першай у беларускай літаратуры пра камуністычныя рэпрэсіі. Іншы грамадзянін Другой Рэчы Паспалітай – Чэслаў Мілаш, які ў 1939 годзе зрабіў кароткае чыгуначнае падарожжа па Украіне ды Беларусі, пабачыўшы на ўласныя вочы гаротны стан тутэйшых людзей, таксама шчыра паспачуваў іхняй гістарычный бядзе і, бадай, ужо тады прадказаў незайздросны лёс краіны Саветаў.

Блізкая па тэме і кніга **Міхася Булавацкага** “Выжыць у СССР”. Таксама рэальная жыццёвая аснова – сведчані блізкіх і родных аўтара, уласныя ўспаміны і сямейныя архівы ў літаратурнай “абгортцы”, гэткі сучасны нон-фікшн – гісторыя роду Булавацкіх у 20 стагоддзі. Як па мне, прыхільніку па-за-жанравай літаратуры, такі падыход здаецца слушным: дакументальная фактура спараджае давер да аповеду, мемуарны складнік стварае суб’ектыўную аўру і асабістую сімпатыю, а мастацкія прыёмы – дапісванне і дадумванне дыялогаў, думак, эмоцый герояў – ажыўляе твор, робіць яго цікавым, імправізацыйным, чытэльным. На маю думку, сучасная літаратура і мусіць быць такой сінтэтычнай, шматграннай, вольнай у выбары тэм, стылістычных прыёмаў, жанравай непрадказальнасці. Трагічнае і смешнае, энергічнае і элегічнае, дакументальнае і фантасмагарычнае, інтымнае і палітычнае, нават проза з паэзіяй могуць суіснаваць разам, у адным тэксце, гэтак жа, як яно бывае ў звычайным, неадрэжысіраваным жыцці. Але вернемся да “Выжыць у СССР”.

Нягледзячы на назву, кніга Міхася Булавацкага не прэтэндуе на шырокія палітычныя абагульненні, яна ўсё ж – лакальная (гісторыя вёскі Восы-Калёсы), сямейная (галоўныя героі – бацька, маці, блізкія сваякі, браты і сёстры) і аўтабіяграфічна-інтымная (няпросты лёс самога аўтара ў дзіцячыя гады). Падобныя

расповеды пра раскулачванне і “хапун” 30-х, жахі вайны і пасляваенную бяду можна пачуць амаль у кожнай беларускай хаце. Толькі ў большасці гэта засталося ў памяці старэйшага пакалення ці ў вусных аповедах, а Міхась Булавацкі здзейсніў невялікі, “лакальны”, але ж вельмі карысны ўчынак, зафіксаваўшы і давёўшы гісторыю роду да літаратурнага факту, паклаўшы тым цагліну ў мур агульнай нацыянальнай памяці. Гісторыя роду Булавацкіх нібыта і прыватная, непаўторная, і ў той жа час шмат у чым тыповая, “даўно знаёмая”, характэрная для большасці вясковых жыхароў Беларусі, з якіх і склаўся той народ, ад імя якога камуністы дзесяцігоддзямі прамаўлялі свае “пераможныя рэляцыі”, а насамрэч на костках і крыві якога будавалі хлуслівую, ганебную дзяржаву. Сёння, нягледзячы на ўсе енкі пра “непарушнасць і святасць” мінулага, наша сапраўдная, рэальная гісторыя Беларусі 20 стагоддзя яшчэ пішацца, у тым ліку і праз такія сямейныя, фамільныя ды інтымныя хронікі, як кніга Міхася Булавацкага.

Трэці твор, які патрапіў у гэты шэраг – раман, напісаны маладым расейскім пісьменнікам **Сяргеем Лебедзевым** 14 гадоў таму. Ён таксама не пазбаўлены аўтабіяграфічнасці, асабліва манументальна выглядаюць “геалагічныя інвенцыі”, гэткі скразны ідэйны і жывапісна-ілюстрацыйны складнік рамана, які ўзнік з ураженняў пісьменніка ад геалагічных экспедыцый па расейскай Поўначы. Але галоўнае, што надае адметнасці тэксту і стварае... цяжкасці чытання – ягоная мова. Нібыта дэтэктыўная гісторыя – даследаванне галоўным героем таямнічай мінуўшчыны свайго “другога дзеда” – ператвараецца ў доўгае псіхалагічнае, геаграфічнае і, бадай, метафізічнае падарожжа з сучаснасці ў часы барацьбы з “ворагамі народа”, у адзін з найвялікшых лагераў ГУЛАГу, што за паўстагоддзя ператварыўся ў паўночны расейскі горад. Пошук “страчанага часу” выяўляецца адкрыццём цэлага пласту гісторыі, прыхаваных “радовішчаў” безыменных ахвяр недалёкай мінуўшчыны, на якіх фактычна стаіць і пра якія “не хоча ведаць” сучаснасць. Няспешная, густая проза перапоўнена, як паўночная зямля, чалавечымі косткамі – сэнсамі ды алюзіямі, згадкамі і загадкамі, насычаная тонкімі рэфлексіямі і скрупулёзнай дэталізацыяй рэчаіснасці. Гэткае балючае мікраскапіраванне пачуццяў, эмацыйных ды фізіялагічных зрухаў патрабуе і адметнай мовы. Дзеля такіх задач не абыдзешся стандартным слоўнікавым наборам, моўнымі штампамі і клішэ. Тым больш, калі даходзіць да сненняў, галюцынацый ды іншых сюррэалістычных відзежаў галоўнага героя. Аб такіх няісных, цяжкаапісальных, бадай, непадступных для слоўнага ўвасаблення рэчах аўтар спрабуе казаць гэтак жа дэталёва і педантычна, як пра старыя боты ці вывернутыя з магілаў косткі. Але ірацыянальнае, нават загорнутае ў “знаёмую” моўную абалонку не заўсёды становіцца рацыянальным і зразуметым. Так нараджаецца містыка, ці, дакладней, – застаецца тое “нешта”, што заўсёды адсоўваецца ў цень прышласці і маўчання, што не паддаецца дарэшты самаму дасціпнаму розуму і асэнсаванню. А гэты метафізічны складнік ад пачатку прысутнічае ў стылі і мове Сяргея Лебедзева. Гэта якраз тое, што адштурхне адных (большасць) і прывабіць другіх (меншасць) чытачоў, бо далёка не кожны захоча (а часам і зможа) пайсці следам за аўтарам у тыя цьмяныя, моўна-містычныя глыбіні. Аднак вернемся да галоўнага – рацыянальнага і зразумелага сэнсу рамана.

Адкрыццё галоўным героем таямніцы свайго “другога дзеда” (які служыў начальнікам лагера) прыводзіць не толькі да лакальных высноваў ці персанальных наступстваў: наведаўшы шахцёрскі горад (былы лагер), заснаваны дзедам-энкавэдэшнікам, прайшоўшы пакутнымі гулагаўскімі шляхамі Поўначы, зведаўшы сённяшнія рэаліі расейскай правінцыі, аўтару адкрылася апакаліптычная карціна, ісціна, якой так імкнуліся пазбегнуць ягоныя бацькі, сваякі, маскоўскія суседзі, равеснікі і сучаснікі. Тое, што стварыў ягоны дзед і пакаленне “будаўнікоў камунізму”, тая дзяржаўная і чалавечая піраміда, змацаваная страхам, гвалтам, хлуснёй,

рабскай працай, энтузіязмам падманутых і зацкаваных, татальным беззаконннем і карупцыяй, не мае ніякіх перспектыў, а найперш ніякіх маральных правоў на далейшае існаванне. Падманныя, спарахнелыя падмуркі гэтай сістэмы рассыпаюцца ў пыл пры святле праўды, пры першым ветрыку свабоды і адкрытасці да вольнага свету. Не толькі духоўная ці інтэлектуальная вычарпанасць, але і фізічная, матэрыяльная немач і дэградацыя чалавека, умураванага ў гэтую сістэму, стала заканамерным, непазбежным вынікам шляху ў "пекла светлай будучыні"...

Сапраўды, у гэтым сэнсе паляку Герлінгу-Грудзіньскаму і беларусу Міхасю Булавацкаму было лягчэй – бо першы ў час катастрафічнага падзення радзімы меў за плячыма вольную польскую культуру ды надзею на вызваленне, другі ж – адвечную беларускую мару пра "родны кут" і пра новую, нечувана свабодную Краіну пад Белымі Крыламі. А вось перад расейцам, што страціў "адну шостую частку сушы" і статус "выратавальніка свету" ад калектыўнага Захаду, заставацца на пяці дачных сотках ці ў сценах старой хрушчоўкі – перспектыва вусцішная, калі не сказаць "смяротна небяспечная". Сяргей Лебедзеў і ў гэтым застаецца арыгінальным: так, старая постсавецкая Расея для яго распалася і знікла, пакуль толькі ў духоўным і метафарычным сэнсе, а сам ён даўно жыве ў Нямеччыне. Але радзімай яму стала... родная мова, тая, што заўсёды з ім, якую ён не пакідае і на эміграцыі. Руская мова стала яму і прытулкам, і галоўным клопатам ды заняткам, і надзеяй на дараванне ды выратаванне.

Чамусьці я ўзгадаў іншы народ, што страціў калісь, здавалася б, усё, але, захаваўшы сваю мову, праз дзве тысячы гадоў вярнуў – і культуру, і зямлю, і дзяржаву, і пашану ў свеце. Мо і Сяргей Лебедзеў, малады пісьменнік, так прароча заглядвае ў будучыню? Дай Бог яму не памыліцца...

Ну, а калі вярнуцца да пачатку, да нашага сакраментальна-надзённага "чытаць ці не чытаць?", то я параіў бы – чытаць. Нават знаёмства з вышэй згаданымі творамі, якія не аднясеш да лёгкай літаратуры (хутчэй – да цяжкой і балючай), можа мець станоўчы вынік. Для людзей майго веку з, так бы мовіць, савецкім бэкграўндам – пазбавіцца ад старых камуністычных "стрэмак" і настальгічных псеўдаўспамінаў пра "светлае мінулае", а для маладзейшых – даведацца, што былі і горшыя, зусім безнадзейныя часы, калі жыццё было будзённым выжываннем пад (здавалася вечным) маналітам камуністычнага ладу. "Выжылі ў СССР – выжывем і ў СНД! Перажылі камунізм – перажывём і ...", – прыкладна так мне бачацца цяперашнія часы. А таму: пакуль чытаем – жывем, пакуль думаем – спадзяемся.

ЭСЭ

Юрась Зарэчны



...Калі мастак ты чыстым правам,
А не для ўцехі і забаў, –
Дык папусціся зманам славы,
Але душы не занядбай....

# Паэзія цішыні,

## *або Пра што маўчала Яўгенія Пфляўмбаўм*

***Яўгенія Пфляўмбаўм – адна з найбольш унікальных фігур у беларускай літаратуры. Больш за паўстагоддзя яна не друкавала свае творы, але старанна пісала "ў стол", давяраючы паперы ўсё самае патаемнае. І спаліла б свае вершы, каб не перашкодзіў шчаслівы выпадак. Сёлета ў выдавецкай ініцыятыве "Пфляўмбаўм" выйшла кніга "Сонца", дзе ўпершыню паяднана ўсё лепшае, што стварыла паэтка.***

### "Мой лёс узрос не з цёплых рос..."

Яўгенія Пфляўмбаўм нарадзілася ў 1908 годзе ў Мінску. Сваім незвычайным прозвішчам яна абавязана бацьку, які быў запрошаны з Нямеччыны працаваць на беларускай чыгунцы. Пра сямейнае жыццё паэтка будзе ўспамінаць: "*А бацька піў і адзін, і з сябрамі. І хоць дзед біў яго сваёю цяжкай палкай, не супімаўся. І маці не вытрымала, знайшла сабе прытулак і сышла з дому, забраўшы дзяцей – мяне і старэйшага на тры гады брата*".



*“Сонца” Яўгеніі Пфляўмбаўм. Крыніца: інстаграм-старонка выдавецкай ініцыятывы “Пфляўмбаўм”.*

Хто ведае, ці стала б Яўгенія паэткай, калі б не айчым, Уладзімір Сакалоўскі. Дырэктар школы, асветнік і перакладчык падручнікаў на родную мову, ён далучыў дзяўчыну да беларушчыны. Пра ступень уплыву сведчыць хаця б такая дэталь: у адной з пазнейшых анкет яна пазначыць, што з'яўляецца дачкой настаўніка, а не чыгуначніка.

Пасля заканчэння школы Яўгенія паступіла ў Белпедтэхнікум. Слухаючы лекцыі Якуба Коласа і Міхаіла Піятуховіча, яна рана захапілася паэзіяй і ўжо ў 16 гадоў дэбютавала ў друку. У 1926 годзе пабачыў свет першы зборнік з вершамі трох паэтак: Зінаіды Бандарынай, Наталлі Вішнеўскай і Яўгеніі Пфляўмбаўм. У дачыненні да апошняй крытык Мікола Байкоў адзначаў, што яе вершы лірычныя па сваім змесце, прычым перавагу ў іх мае лірызм – замілаванне роднай краінай.

*Я адна на далёкай чужыне,*
*У бязмежжы абшараў стэповых.*
*Я сумую па роднай краіне,*
*Па бяздонні палёў васільковых.*

Апроч лірызму адзначым і яшчэ адну адметнасць: у той час, калі мэйнстрымам было апяванне тэмпаў сацыялістычнага будаўніцтва, Пфляўмбаўм дазваляла сабе выразна мінорныя, нават дэпрэсіўныя інтанацыі. Пра яе боль мы яшчэ ўзгадаем, а пакуль што можна прывесці ў якасці прыкладу адрасаваныя брату радкі:

*Брат любы! Цяжка мне. Балюча*
*Знішчаюць радасць кіпці лёсу,*
*А неба – шэрая ануча –*
*Не шле праменя на пракосы.*

*Шырэй пракос... і постаць смерці*
*Спаліла кветачку душы.*
*Пашто загінула?! Не верце:*
*Не аджыве яна ў цішы.*

*Бо й цішыня ўсё тая ж смерць*
*З істужкай вобразаў імглістых,*
*Там стогну сэрца не паверац,*
*Не дасць адказу пах смалісты.*

Наступныя гады па выхадзе зборніка – перыяд сапраўднага росквіту аўтаркі. Той самы час, калі ўсё больш рыскрываўся паэтычны талент, пакуль яшчэ не абцяжараны ідэалагічным ціскам. Лірычныя, мілагучныя вершы другой паловы 20-х гадоў – пік творчасці Яўгеніі Пфляўмбаўм.

*Я маладая... жыццё наперад!..*
*Мне пырсне радасць вясёлы свет,*
*Кудзеляй шчасця, нібы ў сне тым,*
*Сатчэцца шлях мне – нязрыўны нерат.*

*Я маладая... мяне кахаюць...*
*Мне спеў квітнее на шчырых вуснах.*
*У вачох не знойдзеш журбы спакуснай,*
*Я маладая... мяне кахаюць.*

*Я маладая... кахаю шчыра*
*Бліскучы погляд яго вачэй;*
*І плынню срэбнай мой смех цячэ,*
*І шчасцем светлым пачуцці шырыць.*

Вершы друкаваліся ў перыядычных выданнях, а ў 1927 годзе ў хроніцы часопіса “Маладняк” з’явілася паведамленне, што аўтарка “рыхтуе да друку зборнік лірычных вершаў”. Праз тры гады стала вядома, што кніга пад назвай “Мелодыі” ўжо здаецца ў друк, аднак яна так і не пабачыла свет. Размешчаныя ў газетах і часопісах, вершы Пфляўмбаўм 20-30-х гадоў заставаліся амаль невядомымі для сучаснага чытача ажно да 2023 года, калі выйшла кніга “Сонца”. Аксана Данільчык, яе ўкладальніца, сабрала цэлы россып выдатных вершаў, якія выходзілі ў тыя гады. Аднак што было далей? Вось тут і паўстае першая загадка.

## “Мае радкі не ўбачаць свету...”

У 1980-х Яўгенія Пфляўмбаўм напіша:

*Мае радкі не ўбачаць свету,*
*Не прагучаць на слых спагадны.*
*Не буду звацца я паэткай*
*З сваёю музай непанаднай.*

Яскравым пацвержаннем гэтых слоў выступае і сама храналогія ў кнізе “Сонца”: адразу ж пасля верша “Вясновы старт” (1931) размешчаны творы з кнігі “Сувой жыцця”, якая выйшла... у 1989 годзе. 58 гадоў Яўгенія Пфляўмбаўм маўчала, не надрукаваўшы ніводнага верша. Чым можна патлумачыць такі вялізны перапынак? Перш за ўсё варта спытаць у самой аўтаркі.



*Яўгенія Пфляўмбаўм. Крыніца: nlb.by.*

У 1995 годзе ў часопісе “Крыніца” было надрукавана інтэрв’ю з паэткай, дзе яна адказала так: “*Што тычыць майго маўчання, дык гэта ніякі не прынцып, яно ўяўнае. Мне даволі было выказацца перад сабою, даверыцца алоўку і шматку паперы. Праўда, працуючы ў сібірскай школе і ў маскоўскіх выдавецтвах, цяжка было думаць пра нейкае сталае з дня ў дзень пісанне. Пасля, у Мінску ўжо, часу пабольшала, аднак думалася: чаго табе вытыкацца з вершамі ў людзі, гэта твой клопат, твой боль, які нікому не будзе цікавы. Да таго ж, я пісала тое, што хачу, а наўкол чулася іншае, можа, не зусім адчутае аўтарамі, але абавязковае. А падахвочваннеяў да друкавання ставала...*”

Пра абыякавасць да паэтычнае славы сведчаць і тыя радкі, што яна даверыла пазней аркушу паперы:

*Калі мастак ты чыстым правам,*
*А не для ўцехі і забаў, –*
*Дык папусціся зманам славы,*
*Але душы не занядбай.*

Сцвярджаючы, што выказаны free вершамі боль наўрад ці будзе каму патрэбны, Яўгенія Эргардаўна, відавочна, праявіла сціпласць. Адпаведныя сведчанні Аркадзя Куляшова і Анатоля Вярцінскага будуць прыведзены далей, а пакуль што звернем увагу хаця б на тое, што сама ж паэтка прызнае: “*падахвочванняў да друкавання ставала*”.

А вось наконт таго, што “наўкол чулася іншае”, нават “абавязковае”, – намёк відавочны. У 1929-м згорнута беларусізацыя, праз год сфабрыкавана справа “Саюза вызвалення Беларусі” і ўвогуле абвешчаны курс на барацьбу з “нацдэмамі”. Выбар быў просты: або пісаць “правільныя” вершы, або не пісаць іх увогуле. Рашэнне паэткі паспрабуем праілюстраваць наступнымі радкамі:

*Радок зацяты, як іслам,*
*Твая рэлігія – пакора,*
*Дык хіба я цябе аддам,*
*На здзек іроніі, на сорам.*

*Які ты ёсць, такі жыві,*
*Жыві затоенай істотай,*
*Палай агнём мае крыві,*
*Мае тугі, мае самоты.*

Такім чынам, адной з меркаваных прычын сыходу ў падполле можна лічыць нежаданне аддаваць свой радок “*на здзек іроніі, на сорам*”, “*душы не занядбаць*”. Пісаць рыфмаваныя дрындушкі пра камсамол, заводы і фабрыкі Пфляўмбаўм не хацела. Апроч таго, немагчыма абмінуць увагай і пытанне бяспекі, надзвычай актуальнае для любога творцы міжваеннага перыяду. Менавіта гэты факт узгадаў Анатоль Вярцінскі, які напрыканцы 80-х займаўся вяртаннем паэткі ў літаратуру: “*Адказ вядомы. На лёгкакрылыя перыстыя воблакі, што весела плылі па рамантычна-ўзнёслым небе дваццатых, сталі раптам набягаць злавесна-змрочныя хмары трыццатых гадоў, а вясёлкавы світанак, не паспеўшы разгарэцца ў ясны дзень, стаў змяняцца прыцемкам сталіншчыны*”. Але ж ці былі іншыя прычыны? І чаму перыяд маўчання пачаўся менавіта ў 1931-м?

Важна адзначыць, што гэтая падзея супала са шлюбам: абраннікам Яўгеніі стаў Алесь Каратай, вядомы ў літаратурным свеце пад псеўданімам Максім Лужанін. Наконт яго ўплыву на творчасць жонкі існуе процьма меркаванняў. Напрыклад, Аксана Данільчык адзначыла ў прадмове: “*Падзеі асабістага жыцця, несумненна, паўплывалі на тое, што паэтка замаўчала больш чым на паўстагоддзя*”. Значна больш радыкальна пра ролю Лужаніна ў гэтай гісторыі выказалася Алена Казлова, галоўная рэдактарка выдавецтва “Пфляўмбаўм”: “*Калі жанчына выходзіць замуж, яна знікае. Яна знікае з прафесійнай рэалізацыі, з відавоку, з бачнасці*”. А паэтка Валянціна Аксак адказала на пытанне вершам самой Яўгеніі:

*...Як нескладана быць адданай:*
*Згасіць агні юначых дзён,*
*Пакінуць росныя паляны,*
*Сысці ў палон, душы прыгон.*

*Зрачыся долі, нават волі,*
*Не аглядаючыся, не,*
*Пачаць жыццё былых нявольніц,*
*Калі раскутасць толькі ў сне.*

Безумоўна, любы верш, няхай і вельмі шчыры, не можа выступаць бясспрэчным доказам пэўных жыццёвых абставінаў аўтаркі: яна можа і не супадаць з лірычнай гераіняй (хаця ў выпадку з Пфляўмбаўм складваецца ўражанне, што супада-

юць яны даволі часта). Таму прапаную зрабіць прамежкавыя высновы і адзначыць, што ўсе ўзгаданыя прычыны (нежаданне быць рупарам прапаганды, меркаванні бяспекі, уплыў мужа) у той ці іншай ступені сталі прычынай рашэння паэткі не друкаваць свае творы. Але наконт ролі Максіма Лужаніна варта паразважаць асобна.



*Малады Максім Лужанін. Крыніца: nlb.by.*

## "А ці была ты, урэшце, жонкай?.."

Пасля шлюбу светлае каханне ў творчасці Яўгеніі Пфляўмбаўм саступае месца матывам пакутаў, болю і здрады. Вось, што яна напіша ў 1950-х:

*Пад лісцем чырвоным, пад ветрам*
*Стаялі яны ўдваіх,*
*Юнацтва залётніцкі ветразь*
*На хвалі імчаўся да іх.*

*Яго калывала раздолле, –*
*Да рэк падплывалі лугі,*
*А ім залатая нядоля*
*Кавала ўжо ланцугі.*

Або гэта:

*Любоў, узяўшы за руку,*
*Вяла мяне на шлях пакут.*

Пакуты і праўда былі: у 1933 годзе Максім Лужанін быў асуджаны як "член контррэвалюцыйнай нацдэмаўскай арганізацыі" і сасланы ў лагер у горад Марыінск Кемераўскай вобласці. Прадаўшы бібліятэку, Яўгенія едзе за ім і ўладкоўваецца настаўніцай, выкладаючы адразу ў дзвюх школах. Свае ўражанні яна пазней апіша так:

*Халодны свет. Чужой рукой*
*Я адчыняю браму ў дом свой*
*Марыінск Томскі, – новы дом,*
*І сцюжу гэтага знаёмства*
*Мне цяжка выславіць радком.*

"Віраж уніз галавой" – такі трапны вобраз паэтка падабрала да нечаканага павароту свайго лёсу:

*Нераставала неба ўсцяж,*
*Калі я свой цяжкі віраж*
*Засвойвала ўніз галавой, –*
*Засвоіла, і стаў ён свой.*

Пасля заканчэння тэрміну пакарання, якое фактычна адбылі абодва, яны пераехалі ў Маскву да бацькоў паэткі. У 1939 годзе ў Максіма Лужаніна нарадзілася дачка. Так, у Максіма Лужаніна... У прадмове да кнігі "Сонца" Аксана Данільчык пазначыла, што некаторыя крытыкі ўсё ж лічаць, нібыта дачка была іх агульнай (падставы дзеля такіх меркаванняў застаюцца невядомымі). Аднак афіцыйна дзяцей у іх не было, ды і ў вершах паэткі робіцца такі акцэнт на сямейную здраду, што прайсці міма проста немагчыма:

*А ці была калі жанчынай,*
*Што сэрца некаму тачыла,*
*А ці была ты, урэшце, жонкай*
*З тым неакупленым пярсцёнкам,*
*Што палец дзень пры дні крывавіў*
*І быў прысутным у няславе?*

Ці такія радкі:

*Штоноч бягу я наўздагон*
*Сваёй няславе ў каханні*
*З высокай стромы за адхон,*
*Пакуль ізноў не ўспыхне ранне.*

Прэтэндуе на аўтабіяграфічнасць і верш "Тэатральнае шоу", дзе паэтка ў адпаведным стылі падала сямейную трагедыю:

*З маёй роллю гэтаксама –*
*Найболей пасавала драма,*
*Ды аўтар з'едлівы, зацяты*
*Падсоўваў мне ў партнёры ка́та,*
*Быў здзек і кпіны напаўсцэны,*
*А далей – гераінь замена...*

Ці даравала Яўгенія? У тым інтэрв'ю 1995 года, надрукаваным у "Крыніцы", на пытанне пра тое, ці шчаслівы яна чалавек, адкажа: "*Хутчэй за ўсё – шчаслівы. Таму што многа бачыла. МХАТ у асноўным складзе, найдасканалейшым, Меерхольда, Таірава. Адно знаёмства з Янкам Купалам чаго варта! Прыязджаў і клікаў пайсці куды, павячэраць, пагуляць. Ад гэтай непапраўнай страты дасюль не магу апамятацца. Шмат пісала пра паэта, і, мусіць, не ўсё яшчэ. Праўду кажучы, паэзію ствараюць нешчаслівыя. Ці шмат таго шчасця бачылі на дарозе Шаўчэнка, Пушкін, Купала? Не так багата было яго ў мяне, але ці трэба больш: я шчаслівая, што пісала, маю кніжкі, пакрысе складаю новую...*"

Даволі аб'ёмны адказ, у якім хто толькі не згаданы ў якасці нагоды для "шчасця": Купала, Шаўчэнка, найдасканалейшы склад МХАТа, Меерхольд з Таіравым і нават Пушкін. Ды толькі не ўзгаданы чалавек, з якім паэтка на той момант пражыла 64 гады.

*Недзе на досвітку боль я праспала,*
*Улада прыгадак прагнала тугу,*
*Нібы ізноў я жыццю даравала*
*Тое, аб чым расказаць не магу.*
*...*
*Не, мусіць, не, дараваць не магу я*
*Тое, чым знішчана доля мая.*

## "Гэты сшытак на распал, ён вясну маю праспаў..."

З 1931 года Яўгенія Пфляўмбаўм перастала друкаваць свае вершы, аднак не кінула пісаць. Бо не магла іначай:

*Пішы, каб прадыхнуць, каб дыхаць,*
*Каб заўтра дзень яшчэ заспець,*
*Каб знаць, што гэты боль аціхне,*
*Каб новаму пад сэрцам спець.*

Праўда, абставіны не дужа спрыялі творчасці: пераехаўшы ў Маскву пасля высылкі мужа, паэтка з цяжкасцю ўладкавалася спачатку карэктаркай, а потым рэдактаркай Абароннага дзяржаўнага выдавецтва (і відавочна знаходзілася пад ціскам, улічваючы статус жонкі ворага народа і бацьку-немца). Падчас вайны Яўгенія была байцом супрацьпаветранай абароны Масквы. Там жа, на чужыне, памерла і яе маці: "*Пасля развітання з маці стала зусім невыносна. Расла туга па Беларусі. Мае начальнікі ўрэшце зразумелі, што мяне трэба адпусціць на радзіму. І я паехала ў зруйнаваны вайной Менск. І тут пачаліся вершы. Але я помніла матчын запавет – не выносіць іх на людзі...*"



*Яўгенія Пфляўмбаўм, фота без даты. З фондаў ЦНБ НАН Беларусі*

Ці ведаў Максім Лужанін, што яго жонка працягвала пісаць? Выдатна ведаў, што і адзначыў пазней: "*Што вершы пішуцца кожны дзень, нельга было ўтаіць, жывучы пад адным дахам. Аднак мне яны не паказваліся, а сунуць нос не ў сваё – брыдка*". Аднак нічога брыдкага ён не бачыў у тым, каб ставіць сваё прозвішча пад яе перакладамі: "*Тады яна шмат перакладала. Усе пераклады празаічных і драматургічных твораў ад "Кліма Самгіна" да "Маладой гвардыі", "Вішнёвага саду" і Байрана, хоць і падпісаны маім іменем, але належаць ёй. Мой удзел у гэтай рабоце – чыстка і праўка рукапісу перад апошнім перадрукам на машынцы. Выключэнне: рабіў сам пераклады Гогаля, Радзішчава, Грыбаедава, вершаў Пушкіна, Твардоўскага, часткова Бранеўскага і Сыракомлі. Я ўжо там-сям аднавіў справядлівасць, паздымаў сваё прозвішча з не свае работы*". Такое памкненне выглядае высакародным, аднак цяжка ўявіць, як яно можа быць рэалізавана. Няўжо магчыма зняць сваё прозвішча хаця б з нейкай часткі перакладаў, што былі надрукаваны ў кнігах, часопісах і газетах?

Наталля Вішнеўская, паплечніца Яўгеніі па дэбютным зборніку, лічыла яе "*найбольш здольнаю з усіх дзяўчат*". І адзначала: "*А наогул Жэня дурная з дурных. Даўно магла мець сваё імя. Мне нехта гаварыў, што яна часам пісала за яго* [Лужаніна]". Да і ўвогуле ставілася да яго без асаблівай пашаны: "*Неяк бачыла яго па тэлевізары і ахнула. Які мастадонт! А гонару, а ячаства! Хапіла б на трох з ліхвой*" (з лістоў да Сяргея Грахоўскага ад 13.11.1971 і 13.01.1987).

Справы ў Максіма і праўда ішлі добра: кнігі выходзілі адна за адной, а спадарожнічалі ім узнагароды і пасады. А што Яўгенія? Аднойчы, калі Лужанін з Куляшовым сядзелі ў дачным агародчыку, яна выйшла з дома, трымаючы цэлы ахапак папер і блакнотаў, ды рушыла за агароджу. Далей цытата з успамінаў мужа:

*"– Куды ты?*

*– Да суседскага кастра.*

*– А што ты нясеш?*

*– А якая вам справа?*

*Аркадзь, скеміўшы, пра што тут рэч, ускочыў, заступіў дарогу і адабраў паперы: вершы! Асуджаныя на спаленне.*

*– Ты не маеш права рабіць гэтага, – запярэчыў цвёрда. – Будзем выдаваць кнігу. Я ўжо колькі разоў гаварыў, даволі ўпарціцца."*

Аркадзь Куляшоў і праўда захапіўся ідэяй і нават выказаў жаданне быць рэдактарам. І аўтарка нечакана пагадзілася, бо паважала яго густ і здавён любіла

вершы. Аднак задума не спраўдзілася: у 1978 годе народны паэт памёр, а рукапіс лёг у шуфляду. Далейшыя спробы мужа зрушыць справу, паводле яго ўспамінаў, рашуча адхіляліся Яўгеніяй.

Так цягнулася амаль дзесяць гадоў. Праўда, паэтка стала паказваць вершы, а Лужанін аддаваў іх на перадрук і складваў у тую ж тэчку, што была заведзена яшчэ пры Куляшове. І хто ведае, чым бы скончылася, калі б аднойчы не завітаў у госці Анатоль Вярцінскі – тагачасны галоўны рэдактар газеты "Літаратура і мастацтва" – і не прачытаў вершы.

*"– Добра, і вельмі! – Анатоль Ільіч хітравата пасміхнуўся, – але ж нешта на вас не падобна.*

*Давялося прызнавацца, хто сапраўдны аўтар.*

*– Бяру ўсе!"*

Так успамінаў гэтую сцэну Лужанін. І сапраўды, неўзабаве ў "ЛіМе" з'явілася падборка даўно не чытанай аўтаркі, а ў 1989 годзе выйшла і кніга пад назвай "Сувой жыцця". Пачыналася яна такімі радкамі:

*Зрабі намаганне, мой лёс,*
*Давай перагорнем старонку,*
*Дзе высака ты мяне ўзнёс,*
*Каб кінуць яшчэ ў палонку.*
...
*Дык дзякуй жа сонца таму*
*І тым вечаровым заранкам,*
*Што мне пілавалі турму,*
*Адкуль я ўжо выйшла паўстанкай.*

Наступная кніга, "На захадзе сонца", выйшла ў 1992 годзе. Паэтка працягвала пісаць і разам з мужам рыхтавала новы зборнік "Зімовае сонца", якое так і не ўзышло: 14 студзеня 1996 года Яўгенія Пфляўмбаўм памерла. Максім Лужанін здаў рукапісы ў "Мастацкую літаратуру", аднак кніга так і не пабачыла свет. Сімвалічна, што гістарычную справядлівасць аднавіла менавіта выдавецкая ініцыятыва "Пфляўмбаўм", дзякуючы якой мы цяпер маем творы не толькі з "Зімовага сонца", але і іншых зборнікаў, надрукаваных і не надрукаваных.

І яшчэ адзін момант. У адным з вершаў аўтарка напісала:

*І не чакаючы здаўна*
*Падзякі замаруджанай,*
*Адно баюся, каб мана,*
*Залішне ўгрэўшыся з віна,*
*Зайшла ў мой дом астуджаны.*

Падзяка бывае замаруджанай, але не залішняй. Дзякуй, Яўгенія Эргардаўна, што ўсё ж не спалілі вершы. Насуперак лёсу радок убачыў свет.

## Анкета «Дзеяслова»

*1. Чым бачыцца Вам літаратурная творчасць: нябесным прызваннем, грамадзянскім абавязкам, прафесіяй, хобі, звычкаю? Што падштурхнула Вас да пісьменніцкай дзейнасці. Ці памятаеце свой творчы дэбют? Каго Вы лічыце сваім літаратурным “хросным бацькам”?*

*2. У чым адметнасць Вашай творчай працы? Які час сутак найбольш плённы? Да якіх “тэхнічных прыладаў” Вы найбольш звыклі: аловак, пяро, шарыкавая ручка, кампутар, дыктафон, інш.? Ці выкарыстоўваеце Вы “творчыя стымулятары”: кава, цыгарэты, віно, музыка, інш.? Што для Вас натхненне і ці чакаеце Вы яго, каб пачаць пісаць?*

*3. Якія цяжкасці паўстаюць перад Вамі падчас напісання твора? Якое значэнне Вы надаеце слову, фразе, рытму твора? Ці звяртаецеся падчас пісання да даведачнай літаратуры, слоўнікаў, энцыклапедыяў?*

*4. Што/хто найбольш спрыяе ў рэалізацыі Вашых літаратурных задумаў? Што/хто найбольш перашкаджае Вам у гэтым? Ці ўплывае на Вашую творчасць ацэнка сяброў, рэдактараў, чытачоў? Ці вяртаецеся Вы да напісаных твораў, каб перапісаць іх, перарабіць, удасканаліць?*

*5. Ці задаволеныя Вы сваімі творамі? Што ў Вас не атрымалася ў творчасці? Чым Вы найбольш задаволены? Якія эпізоды сваёй біяграфіі Вы хацелі б перажыць наноў? Наколькі Вашая біяграфія паўплывала на творчасць і адбітая ў творчасці?*

*6. Ці вядзеце Вы дзённікі? Як ставіцеся да правіла: “Ні дня без радка”? Ці знаёмае Вам пачуццё лянoты, ці змагаецеся Вы з ім (і як)? Калі “не пішацца”, што вы робіце, дзе/у чым шукаеце натхненне?*

*7. Ці чытаеце Вы творы сваіх маладзейшых і старэйшых калегаў? Хто з творцаў Вам найбольш блізкі – з беларускіх і сусветных аўтараў? Назавіце творы, якія Вы любіце чытаць і перачытваць? Ці ёсць такія ў сучаснай беларускай літаратуры?*

*8. Чаго, на Вашую думку, не хапае сучаснай беларускай літаратуры і што чакае яе ў будучыні? Што пажадалі б Вы тым, хто робіць першыя крокі ў літаратуры?*

# Усевалад Сцебурака



***1.*** Літаратурная творчасць – гэта занятак, што ў розныя часы і ў розных гістарычных рэаліях істотна змяняецца ў сваіх характарыстыках. Адпаведна, і чалавек, што займаецца ім, зазнае абсалютна розныя ўплывы ды выпрабаванні – ад банальнага непаразумення з соцыумам да абагаўлення пры жыцці, і ад лаўраў пераможцы Дэльфійскіх гульняў да вогнішча. У нашых сённяшніх рэаліях літаратурная творчасць – занятак спецыфічны: займаюцца ёй тут не дзеля грошай і славы дакладна. Найперш гэта покліч сэрца і ўсвядомленае жаданне быць пачутым. Прычым пачутым нават не толькі і не столькі іншымі людзьмі, а самой зямлёй. Ты пішаш, бо недзе ўсярэдзіне чуеш яе голас і – гаворыш з ёй у адказ. Часам гэта – дзіцячае мармытанне, часам – словы, якія робяцца тэкстамі. Адпаведна, для мяне літаратурная творчасць – гэта не хобі, не занятак і тым больш не прафесія – гэта мой сродак камунікацыі з Бацькаўшчынай.

Наконт таго, як пачалося, памятаю: рыфмавалася ў галаве з пачатковай школы, пад канец яе – стала запісвацца. Усё гэта было вартым жалю, але імпэтным. Публікацыі пачаліся ў канцы 1990-х у “НН”. Вершы тыя былі наколькі шчырымі, рамантычнымі і пафаснымі, настолькі і вартымі бязлітаснай рэдактуры (з пункту майго сённяшняга гледзішча).

Тады я сутыкнуўся з прыязнасцю многіх паважаных мной людзей, але, на жаль ці на шчасце, не сустрэў у тым часе ані звышпрынцыповага рэдактара, ані злоснага крытыка. З іншага боку, я не страціў ахвоты да гэтай справы і працягваў.

З хроснымі, аднак, мне пашанцавала. Усе яны, як у той казцы, былі “добрымі”: мае бацькі, сябра і адзін з першых чытачоў ранніх вершаў паэт Анатоль Івашчанка, хросны першай паэтычнай кнігі празаік і рэдактар Барыс Пятровіч, мой любімы паэт Уладзімір Някляеў.

Усім удзячны і за ласку, і за навуку.

***2.*** Адметнасці калі і ёсць, то не гэткія і незвычайныя. Пішу ад пачатку асадкай на паперы. Паперу маю адмысловую – стос старых аркушыкаў жоўтага колеру з адным няроўна рваным краем. Знайшоў іх некалі на адной здымнай кватэры – ляжалі на гаўбцы бог ведае колькі часу і выцвілі на сонцы да колеру сметанковага масла. Яны – мой лепшы матэрыял для вершаў.

Па часе пісання гэта можа быць і раніца, і вечар, адно што мушу мець трошкі цішыні і самоты. Добра пішацца і ля вакна ў кватэры, і ля каміна на лецішчы. Апошняя лакацыя апошнімі гадамі вырвалася з вялікім адрывам у лідары. Агулам з гадамі мяне ўсё больш цягне на радзіму. Заходняя Беларусь, а больш дакладна, Вілейшчына – мая крыніца жыцця, сілаў і натхнення. Карані майго роду заселі там на глыбіню чатырох стагоддзяў, і ў гэтым сэнсе я падобны да дрэва – шаты рухаюцца з ветрам, вочы бачаць далёка, але ногі стаяць у роднай глебе і мацуюцца ёй. Чым даўжэй я тут – тым я мацнейшы.

Стымулятары ў гэтай справе асабліва неяк не працуюць – усё фармулюецца ў стане празрыстай свядомасці і чыстага розуму. Хіба радок які можа прысніцца, калі доўга на сон рыфмаваць нешта. Тады трэ падняцца і занатаваць. Іншая справа, тая атмасфера, якая задае настрой на роздум, – тут спрацоўвае шмат дробязяў – і дождж, і вецер, і агонь у печы, і пах з марозу прынесеных дроваў, і роўнае пасопванне старога сабакі ў фатэлі, і прысмак позняга яблыка, якім закушаны кілішак бакштанкі.

***3.*** Цяжкасці, што паўстаюць, напэўна, стандартныя: калі думаецца, то паспяваць фармуляваць; калі пішацца, то паспяваць занатоўваць; калі перачытваецца і правіцца, то не быць занадта лаяльным з аднаго боку і не быць задужа самазнішчальным – з другога. Карацей, залатая сярэдзіна – тое, што так відавочна і, адначасна, так складана.

Слоўнікі і даведнікі, безумоўна, гляджу, але без жадання загрувасціць тэкст велягурыстай формай. Безумоўна, багацце лексікі – гэта неацэнна, але ў паэзіі не менш важны для мяне празрысты сэнс. Рыфму і рытм шаную. Наогул я далёкі ад эксперыментаў. Сёння, як і напачатку, мне блізкая ў вершаскладанні традыцыя.

***4.*** У цяперашнім часе, дзякуючы лічбавай прасторы літаратары (асабліва паэты) маюць магчымасць амаль імгненна выкладаць свае тэксты для публічнага чытання. Гэта, вядома, спрашчае колішні ланцужок: аўтар-ліст-рэдакцыя-(цэнзура)-публікацыя. Цяпер паміж завяршэннем твора і яго адпраўкай у вялікі свет можа праходзіць секунда... Гэта неверагоднае спрашчэнне, што да сувязі аўтар-чытач. Фактычна, яна наўпраставая. Цяпер, калі многія творцы не маюць магчымасці друкавацца на паперы, гэта, безумоўна, адзіны паратунак. З іншага боку, гэта і пэўная пастка – твор не адляжаўся, не астыў, не зазнаў правак, не дачакаўся парадаў. Дзякуй богу, ніхто не забараняе правіць анлайн...

Чыя ацэнка важная? Канечне, чытацкая, сяброўская. Але і ўласная таксама. Я залежны ад чужога меркавання не болей, чым ад уласнага.

***5.*** Ці задаволены я сваімі творамі? І так, і не. У розны час новыя вершы падаваліся лепшымі за папярэднія, а потым праходзіў час і ацэнкі змяняліся. Маладосць з мітуснёй студэнцкіх гадоў, каханні-растанні, расчараванні і зацятыя ўлюблёнасці – усё гэта спрыяла працэсу пісання. Іншая справа, што многае не перажыло выпрабавання часам, і цяпер мне гэта не хочацца чытаць. Іншая справа, што, як ні банальна гэта гучыць, без усяго таго летуценнага смецця не было б і сённяшняга.

Як гады нельга перакрэсліць ані перажыць нанова, так і з вершамі. Што з імі рабіць аўтару? Іх можна проста ўдзячна забыць і літасціва не перадрукоўваць у новыя зборнікі, пакінуўшы іх гераічным даследчыкам будучага.

У роздумах пра тое, што было не так, лаўлю сябе на пэўнасці, што не было непапраўнай памылкі: я не мяняў сваіх поглядаў на кардынальныя рэчы – краіна, мова, нацыя, вера, каханне, асоба, прырода і г.д. да самых дробязяў. Я быў дастаткова шчыры нават у памылках, як тады, так і цяпер. То бок – хібаў было шмат, але найперш у форме і фармулёўцы, чым у пасыле і змесце.

З гадамі адбыліся змены ў тэматыцы. Карыстаючыся з хрэстаматыйных фармулёвак, інтымная лірыка саступіла месца грамадзянскай. Гэтак сталася не з-за попыту грамадства, а найперш з уласнай перакананасці ў непераборльшанай значнасці тэмы Радзімы і грамадзянскага абавязку, маральнага выбару індывіда і звязаных з гэтым пачуццяў.

Таксама з адносна нядаўна мяне сталі цікавіць пераклады – не ведаю, куды прывядзе гэтая сцежка, але яна, безумоўна, цікавая.

***6.*** Да прынцыпу "ні дня без радка" стаўлюся з гумарам – прымусу ў паэзіі не навучыўся і не ведаю, ці нехта пасапраўднаму можа штодня даваць нешта якаснае месяцамі і гадамі. Ёсць пэўныя плённыя этапы, ёсць перыяды зацішша, але агулам гэта ўсё далёка ад штодзённага пісання.

Што да натхнення, то я не шукаю яго, але бывае, сумую па ім... Спецыяльна не шукаю, але рады ягонаму прыходу.

Дзённікі весці спрабаваў, але баюся, што яшчэ не саспеў да іх. Не магу вызначыцца, дзеля каго яны? Калі для мяне і там будзе нешта звышасабістае, то гэта не цікава і не патрэбна. Марнаваць час на занатоўванне смешных перажыванняў – трэба мець комплекс Бога, а я, хоць і эгаіст, але без перабору. А калі яны для людзей, то што пісаць

у іх – хроніку дзён? Яна ў газетах. Пра людзей вакол? То як жа быць з аб'ектыўнасцю? Карацей, складаныя роздумы апаноўваюць на гэты конт.

Здаецца, дзённікі добра і правільна пісаць з халоднай галавой і ў стане пэўнай адстароненасці ад мітусні, а таксама з вялікай самаіроніяй і непахіснай верай у вечнае. У мяне пакуль некамплект гэтых опцый. Верагодна, дажыву праз некаторы час, але гэта не дакладна.

***7.*** Калегаў чытаю. Але выключна бессістэмна. У адрозненне ад літаратараў з акадэмічнай філалагічнай адукацыяй, што прымаюць літаратуру ўпарадкавана, пластамі эпох, я чытаю тое, што трапляе ў рукі згодна тэорыі выпадковасцяў і супадзенняў. Часам запознена "адкрываю" для сябе перліны, даўно адкрытыя іншымі, часам чытаю поўнае абы-што. Чужыя меркаванні для мяне не вельмі важныя ў гэтай справе.

Кнігі люблю розныя, і пра ўсе казаць не выпадае. А вось што дакладна не хачу чытаць і што лічу смеццем у літаратуры – гэта творы, прасякнутыя злосцю. Як бы таленавіта тэхнічна ні былі складзеныя творы, дзе асноўны пасыл дэструктыўны, – ім наканаваная смерць. Яны не стануць класікай, не папоўняць скарбніцу літаратуры, яны не будуць перачытвацца праз гады новымі пакаленнямі і іх не залічаць на тым свеце. У кожным часе знаходзяцца аўтары, што нястомна самасцвярджаюцца, паліваючы лайном усё навокал, крытыкуючы, пляжачы, зневажаючы. Яны набіраюць ачкі, набіваюць руку, маюць пазнавальнасць, але гэта шлях у нікуды. Такія не паказваюць шлях, не вучаць, нават не спачуваюць, яны бягуць у белым палітоне, не кранаючыся зямлі, і пакідаюць шлейфам смурод сваёй пыхі...

Часам нешта перачытваю, але прозу нячаста. Гартаю паэтаў асобныя вершы – гэта пад настрой.

***8.*** Сёння шмат аматараў паразважаць наконт таго, што няма бестселераў, няма жанраў і г.д. Я скажу проста: сучаснай беларускай літаратуры не хапае дзяржавы. Краіна ёсць – яна жывіць творцаў, а вось дзяржава... Яна павінна даваць школу, друк, перыёдыку, кніжны рынак і, у выніку, масавага чытача. Сёння ў гэтым асноўны дысбаланс і праблема. Калі ўсё стане на свае месцы – знікне брак і недахоп. Літаратура нашая стане такая ж людская і панская, як якая французская ці ангельская.

А тым, хто пачынае пісаць, якія я магу даць парады? Вучыце мову, чытайце па-беларуску, размаўляйце. Не так страшны юнацкі вершык пра каханне, як кепская лексіка ў ім!

# Нашыя аўтары

**Аўраменка Васіль** – публіцыст, паэт, бард, лекар-неўролаг. Аўтар кнігі-эсэ «Нябачнае і ява (фрагменты інтымнай аўтабіяграфіі)», паэтычнага зборніка «Кругі і колы». Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Мазыры. Жыве ў Магілёве.

**Баторын (Хаймовіч) Фелікс** – паэт, празаік, перакладчык. Піша на беларускай і яўрэйскай (ідыш) мовах. Аўтар кніг «Раніца», «Зялёны тралейбус», «Я дрэва пасадзіў», «Яблычны пах цішыні», дакументальнай аповесці «Чорны год» ды інш. Перакладае на беларускую мову вершы нямецкіх, яўрэйскіх, польскіх, рускіх паэтаў. Нарадзіўся ў 1948 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Глобус Адам (Адамчык Уладзімір)** – празаік, паэт, эсэіст, мастак, выдавец. Аўтар кніг паэзіі «Парк», «Скрыжаванне», кніг прозы «Адзінота на стадыёне», «Дамавікамерон», «Толькі не гавары маёй маме», «Post scriptum», «Браслаўская стыгмата», «Сшыткі», «Дом», «сУчаснікі», «Зваротная перспектыва» ды інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Дзяржынску. Жыве ў Мінску.

**Гульцяева Яна** – перакладчыца. Скончыла філалагічны факультэт БДУ, аддзяленне славянскай філалогіі. Працавала выкладчыцай польскай мовы і фрылансперакладчыцай. Адна з пераможцаў конкурсу апавяданняў «10+10: Мінск» (2018), выпускніца Школы маладога пісьменніка (Школы пісьменніцтва W/rights) (2020). Нарадзілася ў 1991 годзе ў Нарачы. З 2021 года жыве ў Францыі.

**Гюлля Мары** – акторка, выкладчыца акторскага майстэрства і красамоўства. Праводзіць тэатральныя варштаты для людзей усіх узроставых груп, але актыўней за ўсё працуе з дзецьмі і падлеткамі. Суаўтарка і выканаўца галоўнай ролі п'есы «Ровар дзеля свабоды» (2010). Нарадзілася ў 1952 годзе ў Мантабане, жыве ў Абэрвільe (Францыя).

**Дранько-Майсюк Леанід** – паэт, празаік, эсэіст, перакладчык. Аўтар кніг «Вандроўнік», «Тут», «Над пляцам», «Акропаль», «Стомленасць Парыжам», «Гаспода», «Цацачная крама», «Анёлак і я», «Кніга для спадарыні Эл», «...Натуральны, як лінія небасхілу», «...Усе бачылі нястачу віна...», «Кветкавы край Беларусі (разам з Анатолем Клешчуком), «Скарб» ды інш. Лаўрэат прэміі «Залаты Апостраф» (2005). Нарадзіўся ў 1957 годзе ў Давыд-Гарадку. Жыве ў Мінску.

**Дуброўскі-Сарочанкаў Алесь** – паэт, філолаг, тэолаг. Аўтар кніг вершаў «Паміж небам і багнаю», «Эстэтыка маўчання», «На тонкай нітачцы», «Літургія часу», манаграфіі «Паэтыка Рыгора Барадуліна: рытмічная арганізацыя верша» ды інш. Нарадзіўся ў 1976 годзе ў Наваградку. Жыве ў Мінску.

**Зарэчны Юрась** – аўтар публікацый па гісторыі беларускай літаратуры, кніжных рэцэнзій. Нарадзіўся ў 1986 годзе ў Гомелі. Жыве ў Мінску.

**Зізюк Міхась** – празаік. Аўтар кніг «Пропавшая свадьба», «Зелянее рунь», «Храм его души», «Оракулы междуречья», «Планктон» ды інш. Нарадзіўся ў 1967 годзе ў вёсцы Лучыцы на Петрыкаўшчыне. Жыве ў Наваградку.

**Казько Віктар** – празаік, публіцыст, кінасцэнарыст. Аўтар кніг прозы «Добры дзень і бывай», «Суд у Слабадзе», «Высакосны год», «Цвіце на Палессі груша», «Выратуй і памілуй нас, Чорны бусел», «Неруш», «Дзікае паляванне ліхалецця», «Час збіраць збіраць косці» ды інш. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1982), прэміі «Залаты Апостраф» (2013), прэміі імя Ежы Гедройца (2014). Нарадзіўся ў 1940 годзе ў Калінкавічах на Гомельшчыне. Жыве ў Мінску.

**Лапацін Генадзь** – паэт, этнограф, фалькларыст. Аўтар кніг паэзіі «Лепить из снега», «Без чисел и дат», «Луны преобладанье», «Увидеть дерево», «Около облака», «Поделиться небом». Аўтар шматлікіх публікацый па этнаграфіі, фальклору, дыялектнай фразеалогіі. Выдаў кнігі «"Ікона звалась Свячой..." Абрад "Свяча" ў прасторы традыцыйнай культуры Гомельшчыны», «Варвара Грэцкая як з'ява беларускай народнай культуры», «К каждаму разгавору прыказка ё...» Нарадзіўся ў 1955 годзе ў Гомелі, дзе і жыве.

**Снарская Іна** – паэтка, празаік. Аўтарка кніг «Пацеркі», «Пачакай, мая птушка...», «Лясная панна», «Вогнепаклонніца», «Зачараваны скарб» ды інш. Нарадзілася ў 1965 годзе ў Полацку. Жыве ў Палтаве (Украіна).

**Сулье Франсуа-Анры** – драматург, актор, сцэнарыст, рэжысёр-пастаноўшчык. Заснавальнік лялечнага тэатра *Le Théâtrophone* (Мантабан). Лаўрэат прэміі за першы раман Міжнароднага фестываля дэтэктыўнага кіно ў Боне (Францыя, 2016), аўтар шматлікіх п'ес і дзесяці раманаў (выдавецтва 10/18). Творы перакладаліся на гішпанскую, кітайскую і чэшскую мовы. Нарадзіўся ў 1953 годзе ў Мантабане (Францыя), дзе і жыве.

**Сцебурака Усевалад** – паэт. Аўтар кніг «Крушня», «Бег па самаадчуванні», «Сны дарог», «Сцебуракаў лёс» (у суаўтарстве з Анатолем Сцебуракам). Лаўрэат прэміі «Залаты Апостраф» (2004). Нарадзіўся ў 1981 годзе ў Жлобіне. Жыве ў Мінску.

**Сыс Сяржук** – паэт, журналіст. Аўтар кніг вершаў «Стрэмка», «Павук». Лаўрэат прэміі «Залаты Апостраф» (2008). Нарадзіўся ў 1962 годзе ў вёсцы Заспа на Гомельшчыне. Жыве ў Вільні.

**Федарэнка Андрэй** – празаік, драматург. Аўтар кніг прозы «Гісторыя хваробы», «Сінія кветкі», «Шчарбаты талер», «Афганская шкатулка», «Нічые», «Мяжа», «Ланцуг», «Ціша», «Сузіральнік», «Жэтон на метро» ды інш. Лаўрэат літаратурных прэмій імя Івана Мележа (1995), «Залаты Апостраф» (2017). Нарадзіўся ў 1964 годзе ў вёсцы Бярозаўка на Мазыршчыне. Жыве ў Мінску.

**Чыгрын Сяргей** – паэт, перакладчык, журналіст, краязнаўца. Аўтар кніг паэзіі «Шчырая Шчара», «Горад без цябе», «Камень Міндоўга» ды інш., зборнікаў публіцыстыкі «Пакліканыя на родны парог», «Беларуская Беласточчына», «Тэатр у Слоніме». Аўтар шматлікіх артыкулаў з даследаваннямі жыццёвага і творчага шляху Я. Стаброўскага, Т. Лебяды, С. Хмары, Я. Пятроўскага, Г. Леўчыка ды інш. дзеячаў беларускай літаратуры, гісторыі і культуры. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў вёсцы Хадзявічы на Слонімшчыне. Жыве ў Слоніме.

**Шаламіцкая Алена** – паэтка. Тэксты друкаваліся ў калектыўных зборніках, рэспубліканскім друку. Лаўрэатка літаратурнага конкурсу «Першацвет». Займаецца перакладамі з замежных моваў, піша дзіцячыя казкі. У гэтым годзе выйшаў з друку першы альбом паэзіі Алены – «Скандынаўская лірыка» (на беларускай і рускай мовах, з уласнымі ілюстрацыямі). Нарадзілася ў 1988 годзе ў вёсцы Пінкавічы на Піншчыне. Жыве ў Гародні.

# Contents

***PROSE***

**Leanid Drańko-Majsiuk.** Khata and House. *Prose from the book that may be.*
**Viktar Kaźko.** A Babka with a Secret. *From the cycle "Leńkas, Vaśkas, Valodźkas".*
**Andrei Fiedarenka.** A Screenwriter. *A novel. (Ending).*
**Mikhaś Ziziuk.** Schorsy Paths of Adam Mickievič.
**Fielix Batoryn.** Grandma Khaiča. *A non-fictional tale.*

***POETRY***

**Ina Snarskaja.** Spring Will Come! *Poems.*
**Siaržuk Sys.** An Illusion of Involvement. *Poems.*
**Aleś Dubroŭski-Saročankaŭ.** On Foot. *Poems.*
**Siarhiej Čyhryn.** I Will Pray for You. *Poems.*

***DEBUT***

**Alena Šalamickaja.** In the Eternal, Own Way... *Poems.*

***TRANSLATIONS***

**François-Henri Soulié, Marie Gulla.** A Bicycle for the Freedom.
*A play. Translated by Yana Hulciajeva.*

***MEMORY***

**Siarhiej Šapran.** "To the Light of a Distant Star..." *Remembering Hienadź Buraŭkin.*

***ART***

**Adam Hłobus.** Dad and Artists. *Words about writer Viačasłaŭ Adamčyk.*

***SOURCES***

**Hienadź Łapacin.** Varvara Hreckaja: "Read My Songs... You'll Get Smarter..."

***ESSAYS***

**Vasil Aŭramenka.** To Read or Not to Read? *About "difficult" literature in the tough times.*
**Juraś Zarečny.** The Poetry of Silence, or *What Was Jaŭhienija Pflaŭmbaŭm Silent About.*

***INTERVIEW***

***Questionnaire by "Dziejasłou".***
**Usievaład Scieburaka.**

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**



У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Анатоля Клешчука, Уладзіміра Крука, Джона Кунстадтэра, Глеба Лабадзенкі,
Сяргея Шапрана, з інтэрнэт-крыніцаў і архіва рэдакцыі.